УДК 821.161.3-3
ББК 64(4Беи)
А65

**Андзілеўка, Л.**

А65 Паляванне на музу : кніга прозы / Людміла Андзілеўка. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 168 с.

ISBN 978-985-7119-84-4.

У сваёй новай кнізе Людміла Андзілеўка прапануе чытачу задумацца пра духоўны свет чалавека, яго развіццё ў варунках сучаснага соцыуму, шукае шляхі самаўсведамлення. Проза Людмілы Андзілеўкі сведчыць аб тым, што не заўсёды будзе справядлівым падзяляць літаратуру на мужчынскую і жаночую: аўтар адрозніваецца схільнасцю да глыбокіх разваг, аналізу і сінтэзу стасункаў між людзьмі, у самых простых паўсядзённых абставінах, напамінае не забывацца аб высокай каштоўнасці такой звычайнай з'явы, як ЧАЛАВЕЧАЕ ЖЫЦЦЁ. Аўтар прыцягвае ўвагу чытача да самых высокіх вытокаў духоўнасці, любові і дабрыні — да ВЕРЫ.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-84-4**

> У меня нет ощущения фатальности зла даже в самых страшных ситуациях… Сколько ни существует способов извращения истины — никто из нас не смеет преодолеть того кроткого пожизненного собеседника, который есть в каждом из нас: самого себя.
>
> *Альфред Шнитке, композитор*



# ПАД МОСТАМ
## *(Запіскі адміністратара гасцявога дома)*

*

Мужчына спыніў мікрааўтобус на крыжаванцы ля самых ног каржакаватага хлопца ў форменнай целагрэйцы ляснічага.

— Гэта ты? — запытаўся Мужчына, высунуўшы галаву ў прачыненую фортку аўтамабіля.

— Я, — разгублена згадзіўся хлопец.

— Во — трымай. — Мужчына дастаў невялікі скрутачак з нагруднай кішэні, падаў хлопцу.

Паехалі далей.

— А што вы гэта зараз зрабілі? — пацікавілася Жанчына.

— Доўг Сашу-камазаўцу трэба было перадаць — дамоў на Брэстчыну збіраецца. Ён казаў, на скрыжаванне хлопца адправіць з леснікоў… на матацыкле… — Мужчына раптам рэзка падхапіўся, заскрыгаталі тармазы, аўтобус крутануўся «на пяце», дагнаў пешага хлопца. Той гэтак жа моўчкі і здзіўлена вярнуў скрутак, яшчэ і не разгорнуты для разгляду. Якраз у той момант пад'ехаў матацыкліст у форме ляснічага.

— Паспеў, халера: думаў, спазнюся. Гэта ж у вас Сашка-камазавец прасіў грошы забраць?

*

Сам сабой лямантаваў тэлевізар. На экране пад пяцьдзясят шэсць гукавых рысачак мільгацелі кадры жыцця планеты. Жанчына дачакалася мернага пасопвання на суседнім ложку, на дыбачках падышла пераключыць канал, збавіла гук.

— Га? Што? Што тут робіцца?

— Усё нармальна, — яна прылегла на суседнім ложку.

У пячурцы патрэсквалі дровы, цягнула лёгкім прыемным дымком. Мужчына заварочаўся. Устаў. Босы падышоў да чалесніка, адкінуў металічныя дзверцы, качарожкай паварушыў паленцы. З іх ва ўсе бакі пырснулі іскры, занялося полымя — пакой асвяціла да кутоў, адбіўшы на супрацьлеглай сцяне цень невысокай быкаватай постаці. Мужчына рухаўся з жалезнымі прыладамі акуратна: амаль не чутна паставіў на месца качаргу, ціхенька зашчаміў клямку дзверцаў.

— Вы ведаеце, чыя гэта музыка? — запытаў ён глухім хрыпатым голасам у Жанчыны, новы канал прынёс у пакойчык прывітанне з далёкай старажытнай Венецыі.

— Альбіноні, — адгукнулася яна ў дрымоце. — Пэўны доказ існавання Бога.

Цэбраватага выгляду сонны твар Мужчыны з выразным недаверам чакаў тлумачэння.

— Калі чалавек мог напісаць такую музыку, — на што здольны Той, хто стварыў чалавека?

Ноч была неспакойнай, мужчына кідаўся ў ложку, цяжка дыхаў, сціхаў надоўга без дыхання, падхопліваўся, выходзіў на вуліцу, як заўсёды, у гумовых шлэпках-сланцах на босую нагу па снезе. Зноў хутаўся ў коўдру, моцна храпеў.

— Вы бачыце? Вось ён. Бачыце?

— Хто? — не зразумела разбуджаная крыкам Жанчына. — Нікога няма, трызніцца ўсё.

— Ну як жа вы не бачыце?! Вось — стары ў белым, з барадой. Во, во, праз акно вылецеў.

— Нельга так многа піць. Сэрца ноччу становіцца ў вас, дыханне прападае.

— А-а, абы-што вы кажаце. Як вы маглі не бачыць яго? Вунь з таго кута, з-за печы выйшаў, наблізіўся да мяне. — «Не тое ты ўсё робіш», — строга так сказаў і ў акно выплыў.

— Ну, вядома ж, не тое. Столькі дзірак у сценах напраразалі. Вокны пазакладалі, не дамок — аджымушкайскія катакомбы. Гэта дух старога гаспадара дома, пакрыўдзілі вы яго. За дом свой перажывае. Вы малітву ведаеце якую, а то пачытаю?

— Мяне мама вучыла заўсёды такую чытаць, — і ён пачаў мовіць прыгожыя, невядомыя Жанчыне да гэтай пары словы малітвы Багародзіцы. — А-а-а, не баюся я НІКОГА, — заўпарціўся на паўслове Мужчына, успомніўшы сваю задзірыстую прымаўку. — Ні таго, ні другога. Ай-яй-яй. І як вы маглі не бачыць яго?

*

Раніцай прыехаў Пасол. (У Мужчыны звычка была называць людзей па прыналежнасці да пасады, бізнесу, месца: Пасол, Алімпіец, Нафтаперагон, Генерал, Беліта Вітэкс, Гомельабоі, Інтэрпал, Энцыклапедыя, Суседка ПВХ.)

Абстукаў чаравікі на ганку, пакінуўшы некалькі невялікіх камячкоў снегу ля парога. Змахнуў з кажуха белыя ахлопкі сняжынак. Здзіўлена ўтаропіўся ў сцяну.

— У вас зноў перамены. Які гэта раз дзверы з акном месцамі мяняюцца?

— Чацвёрты на маім вяку, — у зададзеным тоне адказала Жанчына.

— За паўгода чацвёрты раз! А да вас яшчэ колькі. Двор нячышчаны, машыну паставіць няма куды. Работнікі спяць. Гаспадар спіць таксама? Ужо нажлукціўся ад раніцы?

— Сухое заставалася з вечара — дапіў а сёмай гадзіне.

— Пакуль дабраўся да вашых Канюкоў, ледзь не павяз у гурбах. Намяло за ноч! Але, відаць, адліга наступае.

— Зараз леснікі пачысцяць. Бульдозер кожны дзень ходзіць.

Пасол няспешна выбавіўся з верхняй вопраткі, пачапіў яе на прасушку. Гэтак жа без мітусні перакінуў праз галаву доўгі цёплы касматы шалік густоўнай клятчастай афарбоўкі, параўняў у далонях берагі, паслаў ля печы на паліцу, зверху паклаў дарагую футравую шапку, побач бліскучыя скураныя пальчаткі. Не быў ён свістуном, не быў і франтам. Любіў добра зробленыя рэчы, дыхтоўную вопратку, ведаў ім кошт і адпаведна шанаваў. Угадвалася культурная закваска харошага вясковага выхавання. Прыгожы, высокі, статны, светлавалосы мужчына, заўсёды ў белай кашулі пад гальштук. Уважліва агледзеў сябе ў люстэрку, прычасаў валасы, прыгладзіў вусы, правёўшы непрыкметна па іх доўгімі моцнымі пальцамі. Распраміў плечы, высока ўзняў галаву, павольнай хадой пругкай нагі прайшоўся туды-сюды, аглядаючы пакой. Адчувалася звычка былых дыпламацкіх гадоў. Не забывалася выпраўка.

— Паглухлі вы ўсе тут, ці што? Тэлевізар трашчыць на ўсю моц. Аж сківіцы ломіць. Ніхто ў яго не дзівіцца — навошта паліць?

— Снатворнае.

Пасол выцягнуў з разеткі шнур. Вушы напяла цішынёй. Мужчына на ложку адразу прачнуўся.

— А-а, Пятровіч. Прыехаў?

— Уставай, свіння рабая! Ну што-о гэта тако-о-ое! Дамовіліся ж!

Толькі тут дазваляў сабе Пятровіч ужываць словы з далёкага юравіцкага дзяцінства, назаўсёды забароненыя ў службовым асяроддзі, ды і дома…

Ажаніўся студэнтам, язык не павернецца сказаць — рана. Своечасова! Разумна, разважліва, дальнавідна, граматна. Прозвішча цесця занадта вядомае ў элітных колах, каб яго называць. Кар'ера маладога выпускніка дзяржаўнага ўніверсітэта (штосьці там звязанае з літаратурай, філалогіяй, журналістыкай) узбрыкнула маладой жаробкай. Канечне ж, Маскоўская партшкола, аспірантура. Толькі паспелі адзначыць трыццаць, а прывабная знешнасць светлавокага самавітага беларусіка стала з'яўляцца ў асяроддзі самых саноўных асоб. Праз гады чакала высокая пасада ў Савеце Міністраў, шэсць рокаў Паслом Надзвычайным і Упаўнаважаным у рэспубліцы брацкага настрою. Завязваліся цесныя сяброўскія зносіны, жыццё акрэслівала пэўны належны контур, намацвала грунтоўны падмурак. Натура і характар, не толькі знешнасць, сталі набываць яснае ўсведамленне самазначнасці… Як раптам усё пад адхон. Знулявалі вынікі складанейшых ходаў дыпламацкага майстэрства, абвясцілі нікчэмнымі ўдалыя намаганні хоць як-небудзь надаць прыстойны «выраз твару» знешняй палітычнай стратэгіі пры нялюдскіх умовах і ганебным становішчы, прымусам вырвалі з напрацаванага задзелу, загадам вярнулі на радзіму. Прытым у дарозе Пасол быў падвергнуты драпежніцкаму фізічнаму нападу, цудам уратаваўся: «…пал жертвой политики НАТО…» — бессаромна тлумачылі даверліваму чытачу праўдзівыя дзяржаўныя газеты, рэдактарам якіх у свой час пабываў і сам Пятровіч. Хто ўмеў чытаць між радкоў, толькі цмыкаў і паціскаў плячамі ў здагадцы: «козёл отпущения» — самая неабходная роля ў спектаклях палітычных гульняў. Напрыканцы пятага дзясятка жыцця чалавек выпаў з абоймы, апынуўся перад зруйнаванай кар'ерай у маўклівым коле халоднай вайны прадажных паплечнікаў.

— Паспіць з паўгадзіны — паедзем. Не хвалюйцеся.

— Х-м-м. Проста жах! Ты чуеш ці не? Уставай. Паехалі.

— Дайце хвілінку спачыць. Мы да дзвюх ночы рабілі, — пакутніцкім тонам вывеў Мужчына.

— Чым яны тут займаліся? — запытаўся Пасол у Жанчыны, скептычна гледзячы на «отчёт о проделанной работе» — скрыню парожніх бутэлек з-пад віна.

— Басейн замыслілі. Кладка сцен у нас «адбывалася» ноччу.

— Што? На вуліцы? У такую непагадзь, марозам!

— А якая нам розніца? Усё роўна заўтра ламаць, — з-за фанернай перабойкі адазваўся шасцідзесяцігадовы работнік Міша, выглянуў. — Пра-

бачце, Пятровіч. — Ніколі не дазваляў ён сабе ўстаць пазней за Гаспадара ці ляжаць пры гасцях, здарылася штосьці: прыхапіла, надзьмула ветрам, скруціла спіну. Вохкаў і крактаў усю ноч.

— Ты пагавары, пагавары яшчэ… — грозным тонам, выкрываючы здраду, цыкнуў на яго Мужчына з ложка.

— Маўчу, маўчу як рыба.

Пасол памыў рукі, прысеў да стала, на ім стаяў немудрагелісты снядананак: сподак з тварагом, сподак з мёдам, кава, печыва. Жанчына памятала смешную звычку Пятровіча, захаваную з дзяцінства — есці ўпрыкуску яблыкі з пячэннем: паклала на стол некалькі яблыкаў.

— Па вашым пытанні была гутарка… — голас Пятровіча перамяніўся да непазнавальнага: пастаўлены, дзяржаўны, мнагазначны, адначасова з ноткай цікаўнасці і чакання рэакцыі; спыніў позірк на Жанчыне. Падняў палец над галавой, пахітаў ім, быццам вялася гутарка не ў кабінетах і зусім не зямнымі істотамі, а значна вышэй. — Трэба тэрмінова скласці паперу. Пад Новы год чакайце найлепшага выніку.

Жанчына маўчала. З другога пакойчыка, дзе на ложку ляжаў Мужчына, пачуўся сонны голас.

— Мы паві-інны ім дапамагчы-ы, Пятро-овіч.

— Дык колькі вам казаць — пішыце ліст! Пакуль яшчэ трымаюцца такія-сякія сяброўскія сувязі — дапамагу. Самі ведаеце, які час. Не сёння — заўтра не застанецца ніводнага з былых. Няхай падпішуцца ўсе выкладчыкі, колькі там кватэр: тры, чатыры? Апішыце падрабязна абставіны, вашы прапановы. Я буду за вас пісанінай займацца?!

Жанчына безуважна слухала, і гэта не падабалася Паслу, ён хацеў бачыць зацікаўленасць, актыўнасць, удзячнасць, нарэшце. Яна ж сядзела, як скала, вытрымліваючы ракурс, не верыла, што яе жыццёва вострую праблему вырашаць вось тут. Жанчына не любіла абходных шляхоў, была нягнуткай у дыпламатыі. Даступныя ёй хады выкарыстала, марна.

Тры сям'і выкладчыкаў нечакана засталіся без кватэр. Службовыя памяшканні, дзе і сама пражыла трынаццаць гадоў, адпрацаваўшы пры гэтай установе трыццаць з ліхвой, згодна з уладай спушчаным цыркулярам запатрабавалі пакінуць альбо выкупіць за такія грошы, якіх настаўнікі ніколі не бачылі. Падобная кватэра ў сталіцы ацэньвалася адпаведнай камісіяй у адпаведнай сітуацыі ўдвая танней. Правінцыйны Савет назначыў кошт за дрэннай якасці жыллё з дзіравым дахам, пашчапанымі сплеснявелымі сценамі і разбуранай каналізацыяй па максімальным кошце. Выкладчыкі пісалі пісьмо ў раённы Савет, прасілі назначыць рэальны кошт за жытло — адмовілі; у абласны — вярнулі назад таму ж кіраўніцтву, пад началам якога настаўнікі працавалі. Заставалася па цыркуляру некалькі дзён, потым магчымасці страчвалі сілу. А сапсаваныя адносіны з начальствам якраз пачыналі набіраць моц. Без запрашэння па кватэрах

выкладчыкаў сталі шастаць аматары-актывісты, абранцы розных камісій: прыяцелькі загадчыцы аддзела культуры, наВУШныя супрацоўніцы; з'явіліся вымяраць квадраты, заадно падглядзець абставіны. Адкрыта вывучалі настрой, інтэр'ер, мэблю, парадак жытла. Засталіся незадаволенымі: як можна ў наш час жыць так ніяка: «…ні еўрарамонту, ні абстаноўкі як паложана. Піяніна, ноты, кніжкі ды карціны абы-як звалены ў кутку…»

— Дзе вы дзенецеся? Будзеце выплочваць колькі назначана. Ёсць за нас разумнейшыя — ім рашаць праблемы, не нам спрачацца з законам, — здзекліва супакойвалі калегі, для прыліку размотваючы пазычаную ў «заўхоза» рулетку. Раніла жвава-бадзёрая зацікаўленасць. Лягчэй было зразумець раўнадушша, чым жаданне — няхай вам будзе яшчэ горш! Гэтыя ж калегі потым сустракалі і лісліва захапляліся: «Якія ж вы малайцы! Дабіліся праўды. Мы за вас рады!»

У расчыненыя дзверы з вуліцы кінуўся холад са снегавым пылам. Бомж Якаўлевіч прынёс ахапку дроў, згрузіў ля печы. Звычайна клапатлівасць не была характэрнай рысай гэтага чалавека. Ён больш за дзесяць гадоў жыў пры двары ў Мужчыны. Ні характар Якаўлевіча, ні абставіны жыцця не сфарміравалі ў ім адказнасці за бягучы дзень — што бог пашле. Зараз паслалі хлопцы будаўнічай брыгады сабранай з бадзяк, гаротных, хворых на гарэлку людзей, якія страцілі дакументы, жытло альбо цікаўнасць да ўпарадкаванага жыцця, яны начавалі ў другім дамку, праз дарогу: выправілі ў разведку, ці не знойдзе чым пахмяліцца. Якаўлевіч стаяў сярод пакоя, усміхаўся, дэманструючы свой адзін на ўвесь рот зуб.

— Моўша, я гляджу, ты не кепска прыгрэўся ля печы. Не тое што мы ў тым доме, работнікі, мерзнем. На гадзінніку дванаццаць за малым, а ты яшчэ носа на вуліцу не ткнуў, — з уедлівай падкавыкай жартаваў Якаўлевіч.

— Закрый хлябала… Хтосьці перашкаджаў вам лепш нацепліць печ? — з зацятай злосцю праз зубы, але ледзь-ледзь чутна працадзіў Міша, каб не прыцягнуць увагі Пятровіча і не нарвацца на горшае ад Гаспадара.

Мужчына пачуў абодвух, ён ужо падымаўся з ложка, шоргаючы нагамі па падлозе, шукаў гумовыя шлэпкі, зашпільваў кашулю, у якой спаў, зыркнуў пукатымі, амаль белымі вачамі ў кут.

— Устаю, устаю, Мікалаевіч. Штосьці спіна ные і сэрца цісне… — жаласліва апраўдаўся Міша.

— Бокам учарашняя бутэлька вылазіць.

— Ну што вы як малы, Мікалаевіч! Быццам самі не ведаеце — не я гэта. Навошта мне красці? Вы падзялілі па «бомбіне», мне хапіла. Ды і купляеце, як папрашу.

Позірк Мужчыны быў смяротна ледзяным. Калі і не Міша ўзяў тую бутэльку, то менавіта з яго недагляду вечарам было ўкрадзена віно. Дома ў Мінску і тут, і па ўсіх іншых сядзібах і дамах, што належаць Гаспадару,

у якія паўсюль за ім ездзіў аддана прыроднены Міша, ён і адказваў за ўсё пра ўсё на свеце. Бутэлькі, якія заставаліся пасля раздачы «нормы», стаялі звычайна ў скрыні ля ложка, пад наглядам Гаспадара. Як толькі той засынаў, у брыгады пачыналася другое жыццё, і Міша згодзен быў падставіць сябе пад пагрозу, абы вольніца біла фантанам, пажадана з віна. Апраўдацца потым цішком перад Гаспадаром: маўляў, украў той, ці той, хто на бягучы момант не ў фаворы, Моўша заўсёды здолее, а за арганізацыю гулянкі атрымае ад брыгады рэспект. Нібы мышы, з усіх кутоў пракрадаліся ахвотнікі па дабаўку, хтосьці здагадваўся акрамя чарговай на агульны стол, цопнуць і прыхаваць для сябе індывідуальную. Было, у спешцы выпускалі з рук слізкую бутэльку, тая бразгалася аб цэментаваную падлогу, шкляныя аскалёпкі з пырскамі ва ўсе бакі разляталіся па пакоі, імгненна распаўсюджваючы ад гарачай падлогі моцны пах таннага віна мясцовага вырабу.

— Што тут робіцца? — незадаволена мармытаў Мужчына і паварочваўся на другі бок.

Бойка, трашчаць сківіцы, ламаецца мэбля…

— Што тут за гвалт? — глыбей укручваўся ў коўдру Гаспадар. — Дайце мне спачыць.

Толькі раніцай, як былы следчы, заўважаў прыкметы ўчарашняй вольніцы сваіх апекаванцаў.

— А што, пенсіённы ліміт вычарпалі? — пацікавіўся Пасол.

Кожны месяц Моўшу вазілі на пошту па сацыяльную пенсію. Яе расстараўся Гаспадар. Як карэннага мінчаніна, Міхаіла Пятровіча Зінгера мусілі-такі ў рэшце рэшт прапісаць да сацыяльнага гуртжытла, што па вуліцы Каліноўскага, але з умовай не прэтэндаваць на пражыванне ў інтэрнаце. На грошы з пенсіі Мужчына купляў Моўшу скрыню віна, кожны раз дамаўляючыся: на два тыдні ён павінен расцягнуць запас. Пра дамову хутка забывалі. Добра, як дні на тры-чатыры хапала. Калі ў гаспадарцы не заставалася ні капейкі, Мішава пенсія магла пайсці на закупку прадукту для брыгады. І без таго высокапастаўлены Моўша ў такія дні адчуваў сябе асабліва прыбліжанай асобай, тады ад яго найгорш даставалася крайнім.

*

Ля Лагойскай крынічкі, яна выбівалася з-пад пагорка, на якім прыгожа ўзвышалася царква, як штодня, было людна, але чарга да купелі стаяла надзіў не вялікая. Некалькі чалавек напаўнялі бутлі вадой, чацвёра чакалі да купелі. Жанчына з Мужчынам зайшлі разам. Бярвенчаты зруб знутры здаваўся чорным і сырым, ні цяпла, ні прасторы не абяцаў, але дазваляў схавацца ад чужых вачэй. Маленькі праход з абразамі па сценах, лава

пад вопратку, прыступкі з парэнчамі, каб не слізгануць дачасна ў ваду. Над цёмнай халоднай купеллю падымалася лёгкая пара. Сцюдзёная вада апякала цела, напаўняла сілай і радасцю. За гэты час Пасол набраў з крыніцы бутлі да краёў, занёс у багажнік, пачакаў, пакуль выйдуць з будынка Мужчына з Жанчынай, зайшоў і сам акунуцца. Вярталіся ўсе разам у адной машыне зноў да Канюкоў, каб раніцай выправіцца ў Мінск паасобку: спачатку Пасол — спяшаўся на работу, выехалі з Жанчынай на досвітку. Поўднем — Мужчына, у яго яшчэ заставаліся якіясь справы ў Бягомлі… А пакуль што чакала добра нацепленая Мішам лазня.

Траса была чыстай, як умеркне, пачнуць вяртацца гараджане з лецішч, ад вясковай радні, пацячэ неперарыўны паток аўтамашын, выцягнецца ланцуг з жоўтых, белых, блакітных, зеленаватых аганькоў фар. А пакуль што дзённае святло і чыстая дарога дазвалялі любавацца заснежанымі палямі, высокім ельнікам, ніцымі прыдарожнымі бярозамі. Псавала краявід адно: то там, то тут — перакапаная траса, узрытыя пагоркі, вывернутыя дрэвы і горы камення ўзнятай брукаванкі.

— Хутка трасу звядуць — малайцы дарожнікі, і зімой працы не спыняюць!

— Усяго нічога засталося.

— Во дзе мільярды топяцца. Хто праверыць, колькі чаго, куды і як?

— Адзін толькі Саша са сваім КамАЗам чаго каштуе!

— Акругу паціху акучвае, тралюе з раніцы да змяркання: туды — шчэбень, туды — грунт…

— …таму — паліва, таму — лес… Калі работу рабіць чалавеку?

— Не пашанцавала нам учора, прыйшлося па салярку на запраўку ехаць.

— Саша ў Брэст махануў.

— Грошы павёз жонцы. Бачыў, які джып сабе справіў?!

— Няўжо ён адзін збытам займаецца?

— Ну факт — не ўсе. Мала такіх дзялкоў, як ён. Пара яшчэ знойдзецца, але ў кожнага свая кліентура, не перабіваюць бізнес адзін аднаму. Малайцы.

— Вядома ж, дзеляцца з начальствам, іначай хто б дазволіў?

— Вось і цямнець пайшло.

— Сягоння надзіў хутка абярнуліся.

— Якая асалода ў целе ад ледзяной вады.

— Мінулым разам сваю бутлю ў гаражы пакінуў, дык вада пры цяперашнім марозе за тыдзень не замерзла!

— Штосьці ёсць у гэтай крыніцы…

*

Шашлык спырснулі вадой — зашыпеў, заскварчэў, над ім паднялося воблака пару, дыму і попелу. Дало водарам смачна прыгатаванага мяса. Міша на некалькі хвілін адлучыўся ад мангала ў падсобку, выйшаў, неўпрыкмет выціраючы вусны, занюхаў рукавом. На яго голыя плечы ўжо быў накінуты вайсковы кіцель пад маёрскімі пагонамі. Міша выступіў на сярэдзіну пляцоўкі перад тэрасай, дастаў з кішэні рацыю, штосьці ў яе пашаптаў, падняў руку, патрабуючы ад гасцей увагі.

— Зараз мае сябры афганцы пакажуць вышэйшы пілатаж… Па майму заказу, арлы, прашу, як калісьці, асабіста для свайго былога камандзіра, — апошнюю фразу ён праказаў у рацыю.

Госці вухам не павялі ў той бок. Важныя, імпазантныя, халёныя мужчыны паўляжалі ў фатэлях, чакаючы шашлык. З вялікай самаўпэўненасцю вялі ледзь чутную гамонку. Лена перакідваліся паўнамёкамі, паўсловамі: «…прозвучала фраза в верхах… возможны перемены… на рыжего нет надежды… да-да, был правой рукой, теперь — никто, в оппозиции?.. Убирают последних свидетелей “покушения”… какая от него польза?.. Он для связи… СИЛЫ ищут встречи с… — Но Тот же под домашним! Был у него, “лифтёры”, разумеется, сразу всполошились, повыскакивали, стали лифт ремонтировать, раскрыли дипломаты с записывающей аппаратурой…»

Жанчына наструнілася. Яе збіла з панталыку слова «апазіцыя», прымусіла ўважлівей угледзецца ў твары прысутных. Ніякім бокам сягоняшняя кампанія не вязалася з колішняй апазіцыяй, якою доўга яшчэ апраўдваліся, палохаючы электарат больш удалыя палітыкі, якую вінавацілі ва ўсіх крызісах і развале, у палітычна-эканамічных хібах. Аснову той апазіцыі складалі людзі зусім іншага кшталту: сціплыя, з сумленнем, глыбокім болем у вачах за краіну, яе мову, культуру, духоўнасць. Зараз на тэрасе сядзеў зброд парослых у мяса адаробкаў, самазадаволеных, самазалюбаваных, сытых. Усе пры высокіх чынах і пасадах. Яны лічылі сябе здольнымі адным кіўком указальнага пальца ўладарыць праявамі і стыхіямі прыроды, законамі свету і лёсамі чалавецтва, усё адно што перасунуць мэблю на свой густ ва ўласнай кватэры. Запаволены позірк іх сонных вачэй нёс драпежніцкі знак: вось менавіта яны, адчувалася, як толькі генеральную кармушку пасмее хтосьці пасунуць далей ад іх лычоў… гэтыя істоты якраз і забяспечаць сапраўдны пераварот жыцця з ног на галаву, чаго б то ні каштавала. Жанчына ўспомніла словы знаёмага настаўніка з глыбінкі:

— Палітыкай кіруюць некалькі магнатаў. Пад Мінскам выраслі вёсачкі з сучаснымі палацамі, уладальнікі той маёмасці і дыктуюць законы ў краіне, падпарадкоўваючыся яшчэ больш фінансава мацнейшым фігурам іншых дзяржаў. Хто мог у былым Саюзе і асабліва пры яго развале так разбагацець, акрамя бандзюг і бессумленных дзяржаўных высокапастаў-

леных зладзеяў? Каго б яны ні назначылі вясельным генералам пры ўладзе, усякі мусіць з імі ладзіць. Выбары зараз — бессэнсоўнае мерапрыемства. Даўна выпрацаваны такія простыя хады, што можна лёгка забяспечыць хоць сто дваццаць адсоткаў у выніку.

Жанчына здагадалася, пра якога «рыжего» вядуць гаворку, злучыўшы нядаўняе знікненне з экрана адной дзяржаўна прыбліжанай персоны. З гвалтоўнай неабходнасцю паўсюль бачыць і чуць часова непазбежных Асоб звыкаешся: з ранку да вечара радыёкропка носіць па кватэры нячыстую сілу, як ні свянці вуглы. А вось аднаго з прыбліжаных, рысы твару якога нашчэнт пазбаўлены мізэрнага права займаць кіроўчыя пасады, цярпець, здавалася, па-за межамі трывалага. Вось таго Рыжага (дарэчы, зусім не руды, хутчэй светла-русы з бародкай і невыразнымі мышынымі вочкамі, а вось не ёй адной падалося: бесы мяняюць аблічча), выходзіла, адразу падхапілі нейкія інакшыя «моцныя» сілы…

Раптам галовы ўзняліся ў неба — ад лесу нарастаў гул самалётаў. Работнік Міша ў маёрскім кіцелі замахаў рукой.

— Залік, залік, саколікі. Дзякую. На разварот!

Самалёты зрабілі круг і схаваліся за лесам.

Ажывіліся здзіўленыя госці, утаропіліся на нямытага, задрыпанага ваяку.

— Пралёт над шашлычком! — скамандаваў маёр у рацыю.

Невялікі самалёт выкідваў аднаго за адным парашутыстаў, высока над дахам праплыў ланцужок святочна каляровых парашутаў.

— А зараз асабіста прашу — каронны! Пастарайся для былога камандзіра.

Заварожаныя госці не зводзілі вачэй з п’янага маёра, а той зараз не звяртаў на іх ніякай увагі, падаваў каманды ў рацыю. Паветра задрыжэла, на сталах дзынькнулі відэльцы са шклом, невыносны роў матора прымусіў уцягнуць галовы. Магутны арладзюбы звышгукавік цяжка з гулам і свістам праляцеў над самай тэрасай, узмыў пад аблокі, зрабіў пятлю, стаў падаць дзюбай уніз, над дахам махануў уверх і панёсся прэч. Хутка за ім лёгенькі самалёцік пакружыў у паветры, пабалансаваў крыламі ў адказ на прывітанне з зямлі і бокам, так, што ў кабіне стаў бачным пілот, праплыў над сталамі.

— Очуметь! — толькі і вымавіў хтосьці з гасцей.

— Он — КТО?! — кіўнулі на маёра.

Падазвалі Мішу да стала, налілі кілішак, палезлі чаркавацца. Якраз падаспеў шашлык.

— Калі мы падышлі да Пянжу… — распачаў у соты раз маёр свой аповед, як здаўся ў палон узамен на трынаццаць сваіх салдат, як паміраў у яме без вады, як пасыпалі вапнай плечы ў саракаградусную спякоту, як мацеркі выратаваных маладзенькіх салдацікаў цалавалі яму рукі…

Шашлык пайшоў слаўна. Да мангала падцягнуліся шафёры, гэта яны прывезлі сюды гасцей і да пары чакалі ў машынах, хто згуртаваўся — ляскалі ў дурня картамі па планшэце. Не вытрымалі, павылазілі з машын. Такога шоу ніхто з іх ніколі не чуў і не бачыў. Нават генерала павяло паціснуць руку герою, ды своечасова ўгледзеў, якая яна брудная. Худы, маленечкі, жылісты маёр разышоўся не на жарт, цвыркаў слінай, віртуозна круціў між пальцаў цыгарэту: то было пэўным знакам — перабор! Пара прыйшла Мішу адводзіць ад мангала на бакавую, падалей ад гасцей, каб не нарабіў вераду. Хвілін праз пяць ён спаў, лежучы на кінутым проста на цэментаваную падлогу матрацы: рудая вата ласкуццём выпхнулася з прапаленых дзюрак заюзганай пасастай тканіны, казытала твар, маёр не зважаў. Ад носа па барадзе да самай грудзіны размазаўся доўгі зялёны сапыль. Ля ног валялася рацыя без плат, без правадоў, без батарэй — пусты корпус.

Раніцай Жанчына запыталася ў Мужчыны.

— Ён праўда ў палоне быў? Афганец?

— На зоне ён быў. Бомж. Больш як дваццаць гадоў ля мяне.

— А раны?

— Запушчаны псарыяз.

— Як жа ён пілотамі кіраваў?

— Аэрадром побач. Парад адточваюць заўсёды адным кшталтам. Ён толькі фразы падстаўляе ў адпаведным парадку.

— Мама родная… Трынаццаць салдацікаў, мацеркі рукі цалавалі…

— Спрацоўвае безадказна. Гасцям падабаецца. Менш п’юць, менш бузяць.

— Кіцель сапраўдны, пагоны…

— Тут у нас знаёмы маёр з палюбоўніцай парыўся, жонка «накрыла» — яму не да кіцеля было. Мішу згадзіўся.

— А пра каго гутарку вялі: «пад дамашнім арыштам»?

— Сябар мой. Вы яго завочна ведаеце. Былы генеральны. Даўно не звалі ў госці. Трэба лазню нацяпліць. Прымем?

— Дасць згоду — калі ласка. З-пад «дамашняга» ў лазню?

— Да мяне наведваецца. Памятаеце, летам кветкі вам прывозіў? Гэта ж ад яго цешчы з Асіповічаў. Я вазіў туды яго з жонкай — ні сам, ні жонка не кіруюць, і машыны ў іх няма.

Сябрам Мужчына называў толькі аднаго чалавека. Былога аднагрупоўца па юрфаку. У адным пакоі інтэрната жылі. Той узляцеў на ТАКУЮ вышыню! Цяжка ўтрымацца. Няправільна зразумеў загад знайсці вінаватага ў дзяржаўным злачынстве, выкрываць патрабавалася «не тых». Выправіўся арыштоўваць злачынцаў, арыштавалі самога. У імгненне сігануў з вышыні палёту. Прыйшлося ўцякаць.

— Ноччу з’явіўся да мяне ў цывільным развітацца. З’ехаў у Расію. Праз пару дзён знайшлі, прыклалі дула да інтымнага месца: «Вяртайся назад і сядзі як мыш. Ні гуку, інакш…» Назначылі пенсіён, прыставілі штат.

Аднак арышт не перашкодзіў вязню быць у курсе абставін палітычнага жыцця былога Саюза, планаў наменклатурнага руху. Стратэгію ваенных падзей у Грузіі арыштант ведаў літаральна і памінутна храналагічна, быццам асабіста яму рапартавалі «з калёс».

*

У «ліхія дзевяностыя» вушлыя ў эканамічных пертурбацыях, хваткія да багацця, блізкія да ўлады дзялкі пачалі тут, недалёка ад сталіцы, у чыстым полі гандляваць зямлёй. Адхапіў і Мужчына пляц на чатыры мерныя ўчасткі. Ужо і дамок стаяў на адным, невялікі, але цалкам прыгодны пад жытло: два паверхі, камін, лазенка, эркер. Замільгацела, закруцілася палітычнае жыццё, эканамічны стан краіны пусціўся ў дзікі перапляс: туркі, арабы, кіргізы, каўказцы, кітайцы, таджыкі, карэйцы… Такая з’ява характэрна для многіх краін, але ў нас яна дыктуецца зусім не агульнай для іншых краін прычынай: нежаданне карэннага насельніцтва мецць справы з нейкім малацікавым відам дзейнасці. Наша прычына, пры масавым беспрацоўі, у жаданні кіраўніцтва атрымаць «адкат», адмыць грошы, схаваць якіясь беззаконныя справы. Нават старшыня калгаса, не здольны выплаціць у тыя часы мізэрны заробак калгаснікам, чамусьці меў права заключыць «акорд» (часовая дамова на пэўны від работы з канкрэтнымі ўмовамі) пад вялікія грошы з прыезджымі малдаванамі, украінцамі… Няўжо свае не здольны пабудаваць кароўнік ці майстэрню? Здольны, толькі хто ж ім запрапануе — патрэбен надзейны варыянт, каб маўчалі, каб шыта-крыта, каб пяцьдзясят, а то і болей адсоткаў дамоўленай сумы вярнулася назад у кішэню начальства.

Дом разбурылі, зляпілі каркас і — далі лататы, з’ехалі шукаць лепшага жыцця. Новаўзведзены гібрыд напамінаў матывы ўсходнеазіяцкага каларыту з цыганскім ухілам. З гадамі архітэктурны шэдэўр дабудавалі свае хлопцы, ён аброс прылёпкамі мясцовага гатунку. Час не чакаў: што адвалілася, што самі разламалі, у такім стане і замарозілі будоўлю на вякі. Ні вокан, ні дзвярэй, ні надзейнага даху — пуня. А жыць дзесьці трэба.

У былой канюшні, дзе калісьці час ад часу рохкалі і свінні, адчысцілі, падправілі пад жытло пару пакойчыкаў, туды і перабраліся, зладзілі штосьці падобнае на лазню. Пачалі прасіцца знаёмыя, калегі юрысты з палюбоўніцамі, афіцэры і прапары недалёкай адсюль воінскай часці. Гэтыя ўсе на халяву. Пачулі чужыя, сталі штосьці пакідаць з капеек. Так сам сабою наладзіўся «бізнес». Хутка ўвайшлі ў моду карпаратывы,

фуршэты, паці (звычайныя папойкі, па нашаму). Студэнты разбагацелі, адзначаць узяліся кожнае свята, экзамены. Зноў жа, з ростам заможнасці мужчын палюбоўніц у іх завялося ў геаметрычнай прапорцыі, дадому не прывядзеш. Былая канюшня зрабілася лобным месцам. Насупраць яе, сцяна ў сцяну з усходнеазіяцкім гібрыдам, неўзабаве вырасла «кітайская сцяна», гмах, якому назначаліся вялікія перспектывы: двухпавярховы комплекс лазен з нумарамі: руская, турэцкая, фінская… аднолькава: усе пературваліся ў руіны, недабудаваныя паржавелі ў арматурах, развалілася кладка прасторных басейнаў, разбіліся аўтарскія вітражы, удала вывезеныя пры зносе тымі ж туркамі вядомай сталічнай гасцініцы. Далей, замыкаючы кола двара, узнік будынак, задуманы як дом брата (разам з Гаспадаром жыў да нядаўняга часу старэйшы хворы брат, зараз нябожчык). Дом перманентна мяняў віртуальна-заглаўных гаспадароў у залежнасці ад надзённай патрэбы. З'явіцца ў будаўнічай брыгадзе Ігар — вунь твой дом будзе, прыйдзе Юра — пад час шумнага азнаямленчага застолля прэзентуецца тая самая каробка, наскрозь прасвечаная яркім вясновым сонцам ці чыстым снегавым водблескам: твой, Юра, дом будзе.

Будынкі здалёк палохалі воранавымі крыламі абарванага ветрам рубероіду (ён выбіваўся з усіх вантробаў: з-пад шыферу на даху, між перакрыццем паверхаў, дзе паадвальвалася тынкоўка, у размытых дажджамі дзірках фундамента) розным памерам аканіц пры адной сцяне, эклектыкай стыляў і дысгармоніяй будматэрыялаў, зеўрала пустымі аконнымі праёмамі, сплеснявелымі ад непагадзі сценамі, даўна цёк дах, развалiўся некалі прыгодны комін. Увесь пляц з шырока разгорнутай будоўляй выклікаў бурнае здзіўленне кожнага, хто выпадкам праязджаў альбо праходзіў паўз яго даволі прыстойнай, ва ўсякім разе абсалютна адпаведнай агульнаму ўзроўню багатага прыгарадка, агароджы. Навакольныя пабудовы пачалі ўзнікаць значна пазней і хутка ганарова паўскідвалі чырвоныя дахі з чарапіцы, а дзе і медныя над прыгожымі, нябачнымі да «перастроечнага» перыяду палацамі… Рэдка ў якім хтосьці жыў пастаянна, часцей наведваліся выхаднымі, прыслуга даглядала двары. Таму «векавая будоўля» спачатку смяшыла суседзяў, потым стала тэмай анекдотаў, зараз пачынала раздражняць.

За гэтым жывапісным ансамблем, удала празваным якімсьці заўсягдатаем альбо кім са сваіх «базай», на заднім двары, дзе пуставалі яшчэ два ўчасткі, вырылі басейн пад адкрытым небам, забетанавалі — цэменту пайшло! Стоку не прадугледзелі, вада загнілася, назбіралася каламуці, бруду. Вясной у гэтай сажалцы жабы гадуюць патомства, пакуль пражэры-гусі не перакінуць тоўстых апалонікаў у свае воллі, а потым і самі, забетанаваныя знутры рассыпаным у вадзе цэментам, вапнай, клеем, адкінуць ласты. Там палюбілі купацца сабакі спякотай, качкі з індыкамі, да пары, як тыя самыя ці ўжо іншыя сабакі індыкоў ці качак не патрушчаць. У куточку,

ля агароджы, спрытным церамком прыцёрся, бы лялечны, хляўчук. З усіх пабудоў ён адзін выглядаў прыстойна і цалкам адпавядаў стандарту і густу. У ім дровы складалі для лазні. Побач, не кожным годам, нарэдчас пад настрой раскопвалі сярод хламу гародчык пад грады, яшчэ радзей з яго збіралі які-ніякі ўраджай, папярэдне пусціўшы значныя сродкі на закупку селекцыйнага насення, сельскагаспадарчых прыладаў, мінеральных удабрэнняў і сучаснай плёнкі для пакрыцця расады ад сонечных промняў і замаразкаў. Часцей за ўсё аб градах забываліся адразу пасля пасеву, бо ўскопваў адзін, сеяў другі, палоць не хацелася нікому: мяняўся састаў брыгады, жанчыны рэдка затрымліваліся надоўга. За лета гародчык паступова зарастаў бур'янам да непазнавальнага сярод астатняй прасторы базы. Затое вясной, пакуль лапік апрацаванай зямлі яшчэ розніўся ад наваколля, сабакам здавалася цікавей дратаваць свежаўскапаную глебу, а курам, шукаючы чарвяка, лягчэй рыць акопы і знаходзіць у дадатак на дэсерт закапанае насенне.

Акрамя хлеўчука дровы валяліся паўсюль: ва ўсходнеазіяцкім, у братавым, у руска-турэцка-фінскім комплексе, у перабудаванай канюшні і проста па двары. Не адны дровы. Увесь пляц і пабудовы былі загрувашчаны прывезенымі са сметніц, а таксама і зусім новымі з магазінаў, бытавымі электрычнымі прыборамі: плітамі, пральнымі машынамі, мікрахвалёўкамі, вялізнымі прэс-прасамі, лядоўнямі. У кожным будане стаяла па халадзільніку, а то і па два, часта не ўлучаных да сілкавання, але напхнутых прадуктам. Моўша вёў гаспадарку на свой лад, ежу хаваў у запас і забываўся пра яе. Адчыніць лядоўню — справа небяспечная, зляжалы месяцамі, гнілы прадукт водар распаўсюджваў па ўсім двары: трохлітровікі збрызлага малака, выбухованебяспечныя яйкі ў цэлафанавых пакетах, мяса, рыба, паточаныя лічынкамі… Між пералічаным багаццем у двары — запчасткі ад розных марак і веку аўтамашын, самі аўтамашыны, рэшткі мэблі з каштоўных гасціных гарнітураў, дубовыя сталы з былых рэстаранаў, а таксама мэбля, якую прывозілі знаёмыя патрымаць на складовішчы пад час рамонту ў сваім доме ці офісе. Да пары нікому не вядомай праходзіў выпрабаванне на непагадзь скуплены нарачна і выпадкам скарб: старыя гармонікі, скрыпкі, радыёпрыёмнікі, самавары, медныя тазы, верацёны, пранікі, качалкі. Тут жа стаяла новапрыдбанае абсталяванне да санвузлоў і лазенак: ванны, унітазы, душкабіны. Першым часам ва ўпакоўках, потым — разабранае па дэталях, раскрадзенае, разнесенае па сядзібах за паўлітры, ржавела сваімі рэшткамі на ўсёй тэрыторыі «базы». Гаспадар не любіў купляць па адным экзэмпляры. У яго мелася патрэба купіць чатыры, пяць камплектаў, прывезці, выгрузіць і забыцца назаўсёды. Як прыйдзе час усталёўваць — купіцца новае. Так вазілі з Гомлі чыгунныя печы з пеўнікамі — спадабаліся ўсім. Прывезлі чатыры. Адзін у Канюках пад камін замастачылі. На другім у Краснагорскім двары на Браслаўшчыне ля возера

варылі ежу — за мангал сышоў, а два астатнія разрабавалі. У колькасці чатырох з'явіліся і ванны-басейнчыкі. З гэтых не засталося ніводнага ў поўнай камплектацыі. Альбо на рынку падсунулі некамплект, ды хутчэй тут, на месцы згубілі, парасцягвалі. За рагамі пабудоў прыткнуліся штабелі вокан і дзвярэй ПВХ; купленыя не па разліку праёмаў, у запас, як выбракаваныя фірмай суседкі — жылі памеж, бізнес якой і быў разлічаны менавіта вось на такіх дзіва-гаспадароў. Прапанаваныя фірмай вокны не вытрымлівалі нават сезона: разгерметызаваныя, лопаліся, касабочыліся, прапускалі вільгаць і холад. Заказы вярталі. У асобе суседа фірменная дама набыла выгаднага кліента, уступаючы тавар ніжэй назначанага кошту ў крэдыт, яна збывала абсалютны брак. Модныя вокны і дзверы, канчаткова зніштожаныя, патрушчаныя пад адкрытым небам, гадамі чакалі, калі ж пад іх памеры ўзвядуць адпаведныя будынкі. Усё вышэй пералічанае патанала ў моры пустых бутэлек. Нібы матэрыялізаваны час і гісторыя чалавечага лёсу з яго ўзлётамі, падзеннямі, захапленнямі ці дэпрэсіямі ў выглядзе шыкоўных пляшак з-пад віскі, шампанскага, каньяку альбо рублёвага чарліка… Шклатара запаўняла вольныя плямы прасторы: бутэлькі ўроссып ці фасаваныя: у скрынях, цэбрыках, вёдрах, тазах, ваннах, у пральных машынах, сумках, поліэтыленавых пакетах, падрыхтаваныя пад здачу, ды пакінутыя на чорны дзень. Не даходзілі рукі. Рабочыя кляліся Гаспадару аднесці посуд у пункт прыёму. Коля Граф не раз браўся мыць бутэлькі ў басейне. Абцярушаныя этыкеткі доўга плавалі па вадзе стаўка разам з качыным пер'ем і памётам. Давесці справу да канца не ўдалося ні разу. Грошы на «папраўку» куды хутчэй і лягчэй здабыць, употай прадаўшы набор свердзелаў, лобзік альбо мех цэменту хлопцам з суседняй будоўлі.

Завяршаўся агульны від базы культурна-эстэтычнымі штрыхамі. На паліцах, у шуфлядах і так, паверх куч хламу, ляжалі жывапісныя карціны, добра выштукаваныя прылады для навуковай працы: мікраскопы, падзорныя трубы, бязмены, аптэчныя вагі, каштоўнейшыя старажытныя кнігі і рэдкія рукапісныя манастырскай работы абразы. Сярод іх абразы Багародзіцы Іверскай, Дзяржаўнай, «Траяручыцы», адзігітрыі Смаленскай, «Усецарыцы», «Взыскание погибших», «Умиление сердец»…

Мужчына расказваў, як яму з вайскоўцамі на бэтээрах прыходзілася ездзіць па зоне (Чарнобыльскай). Напэўна, кнігі і абразы не цікавілі вышэйшы афіцэрскі састаў, а ў Мужчыны яўна праблісквала цяга да духоўнага…

Ад самых варот базы гасцей чакала сустрэча з светам Франца Кафкі, бы з яго сноў узнікала перад вачамі лесвіца ў нікуды. Яе вяршыня ўпіралася ў глухую сцяну. Праз стыхійнасць і анархію будоўлі, праз няспынна фантаніруючы паток ідэй, якія набягалі адна на адну, грувасціліся ў галаве і распаўзаліся, забытыя, не маючы магчымасці быць рэалізаванымі: паўставалі вольныя ад «надстроек» падмуркі, незапланаваныя выступы, непатрэбныя

закуты і нішы. Што з імі рабіць, ніхто не ведаў. Яны перашкаджалі хадзе, узнікалі перад носам у самы нечаканы момант, заманьвалі ў невядомыя прасторы. Так, памылкова нырнуўшы ў суседнія дзверы на першым паверсе ля змежаванай з імі ўборнай, вынырваў, паблукаўшы, на балконе трэцяга паверха. Такія архітэктурныя выкрунтасы былі характэрнай асаблівасцю тутэйшых забудоў не ад эстэтычных вышукаў, ад непераадольнага жадання сёння разбурыць тое, што ўдалося пабудаваць учора.

Счакаўшы гады недалёка ад хлеўчука, роўна за «сабачым басейнам» паставілі сапраўдную вясковую лазню, з бярвёнаў, з сучаснымі наваротамі і прыбамбасамі, вельмі не таннымі па кошту, і гэтай задуме не дадзена было збыцца, будоўля хутка спыніла рух.

—Убери жида со двора. Никогда не встанешь с колен! — папярэджваў Мікалаевіча Бражкін, кампаньён па нерухомай маёмасці, удалы бізнесовец, адзін з уладальнікаў найкруцейшага сталічнага казіно.

Была ў Мужчыны балючая кропка — афіцыйна не аформленая кватэра ў самым цэнтры сталіцы, роўненька на праспекце, на плошчы Перамогі. У ліхія гады ўдалося ўлавіць за сходны кошт, ды грошай не хапала. Прыйшлося браць у кампаньёны маладога хлопца. Той даў пазыку, і сплацілі наяўнымі абедзве долі. Кватэра ў выніку аказалася аформленай на Бражкіна, застаецца і па гэты дзень. Часу мінула дваццаць гадоў, кватэра не прыносіла ні капейкі даходу. Здавалі яе ў арэнду мастакам-дызайнерам, рэдактарам глянцавага часопіса для багацеяў. Адны расходы. Багацеі, бізнесоўцы і модныя мастакі спраўлялі фуршэты, банкеты, карпаратывы, каб прыдбаць выгляд эліты, запрашалі кідкіх да лёгкай славы артыстаў і палітыкаў. Сплачваць адсоткі за арэнду — грошай не мелі: часопіс нікому не спатрэбіўся, дызайнеры не вытрымалі канкурэнцыі, лоўкія багацеі знайшлі лепшыя крыніцы здабытку. Патрабаваўся рамонт і пераабсталяванне кватэры пад законна аформленае офіснае памяшканне. Гэтым шчыльна займаўся Бражкін, ён за мінулы час ператварыўся ў сапраўднага магната. Ад свайго кампаньёна Бражкін зараз мог дачакацца толькі невялікай дапамогі ў выглядзе падай-прынясі, тое-сёе падвязі альбо прышлі сваю брыгаду бадзяк на падсобныя работы, уборку. Сапраўдным рамонтам у Бражкіна займаліся майстры-спецыялісты. Мікалаевіч ведаў сваё эканамічнае становішча і думаць баяўся, што чакае яго на тэму «кватэра з плошчы Перамогі». Знаёмыя пасміхаліся.

— Нягледзячы на твае юрыдычныя сувязі, прававацца з Бражкіным ніяк не выходзіць. Няўжо ты яшчэ марыш штосьці паймець з яе — дваццаць гадоў як на чужое імя аформлена, якое дачыненне ты маеш да той маёмасці сягоння?

— Чэснае слова Бражкіна, — спакойна адказваў Мужчына.

Слова Бражкіна аказалася чэсным як нельга больш. У восень дзве тысячы сёмага года ён паставіў пытанне рабром. Ты мне сплачваеш палову

альбо я табе, за выключэннем расходаў на рэканструкцыю. Вельмі шкада было страчваць кватэру ў самым цэнтры Мінска, ды інакшага выхаду не было.

Слёзы прасіліся з вачэй Мужчыны, але сплаціць прапанаваныя грошы кампаньёну не выпадала, згадзіўся на сваю палову і атрымаў на рукі сто трыццаць чатыры тысячы у. е. Проста з кішэні ў кішэню, без папер, векселяў, пячатак і штампаў. Доўга Мужчына падымаў чарку за сумленнага і прыстойнага бізнесоўца Бражкіна, з удзячнасцю прамаўляў — я заўсёды верыў яму. Дык вось Бражкін папярэджваў: «Убери жида со двора: никогда не поднимешься с колен».

Жыд даўна прырос не толькі да двара, прарос у душу самога Гаспадара…

*

У тыя «ліхія» думалася, вось-вось ухопіш за хвост птушку шчасця. Яе абяцалі ўсякія таварыствы, кампаніі, модныя салоны. Раздавалі мільёны візітовак, лялечных дакументаў. «Золатам ціснёныя» корачкі кардонавых пасведчанняў і зараз ляжаць у партфеліках і шуфлядах. Легкаверны, прагны да відавочных праяў значнасці Мужчына паўчастваваў у пірамідах і зборышчах, дзе хутка павінны былі пачаць раздачу дармавых брыкетаў золата, запісаць у шляхту, наблізіць да ўлады. Толькі аплаці сягоння які-небудзь пышны банкет ці дай грошы на «грандыёзны праект». У адзін з такіх дзён, салодкі і спрыяльны адчуванню самазначнасці, з тварам, апранутым у міну барына, Мужчына і паманіў пальцам мільгануўшага ў двары свайго элітнага дома (мяжуе з рэзідэнцыяй прэзідэнта. Не тая кватэра, што на дваіх з Бражкіным, свая, уласная) дохленькага заблёдыша. Той бомж падасланы быў цёмнымі сіламі свету. Меў ад прыроды нюх на людзей, псіхааналізам крута валодаў: «Слушаюсь, Господин». І пацэліў «в яблочко». Папаў не проста «в уголок сердца» (папярэджваў Іван Крылоў) — у рай трапіў! Паміраў з голаду й холаду Міша са сваёй чарговай выпадковай жонкай, карэянкай, грэючы змучаныя хворыя косткі на вечках каналізацыйных люкаў, адваёўваў парожнія бутэлькі ў лютай барацьбе за смеццевы кантэйнер у такіх жа бяздомных бадзяг, зараз віскі закусвае асятровымі. Хоць, бывае, і сам Гаспадар п’е віно фірмы «Крышталь», закусваючы аб’едкамі сваіх гасцей-кліентаў. Кім стаў для Мужчыны бомж Міша? Служкай: вось чыстая кашуля, новыя шкарпэткі; лёкаем — Міша, пашаруй спіну, пяткі пашкрэбай; поварам: крышонка заскваранaя, рыбка смажаная, салата-асарці дробна нашаткаваная не мытымі рукамі цюпкай у смятане — за мілую душу, цеста — ні-ні, не любіла яго рук цеста, не давалася, любімыя гаспадаром тоненькія блінцы

не адважваўся разводзіць; швейцарам, дзеншчыком, мажардомам: Пасол прыехаў, Амерыка на провадзе; ахоўнікам: куды прэш, казёл, Мікалаевіч спіць! Суцяшыцелем — вы вельмі стаміліся, вам трэба сябе шкадаваць; лісліўцам — усё вы для людзей, усё для людзей і нічога для сябе. Вы святы чалавек, Мікалаевіч! Спакусіцелем — выпіце чарачку і адпачніце, будзе парадак; зводнікам — нумарок, калі ласка, запішыце, Наталі, вы і ўявіць не здольны, якія людзі ў машыне сядзяць, якія людзі! Парламенцёрам, дыпламатам, хлопчыкам для біцця, спавядальнікам, сябрам. Стратэгам усяго каламутнага жыцця Мужчыны.

Былы жыхар Залатой Горкі, народжаны Моўшам Зінгерам, выхадзец з заможнай культурнай габрэйскай сям'і, рэштка якой, пакуль Міша абжываў бяскрайнія прасторы поўначы, выехала на ПМЖ у Ізраіль, стаў сапраўдным гаспадаром… не «базы» і не векавой будоўлі на ўскрайку Мінска — думак, памкненняў, жаданняў, учынкаў, планаў, жыцця свайго Гаспадара, начыста пазбаўленага здольнасці выказваць думкі, перабіраць іх — ён цураўся сваіх, наўперад аддаючы перавагу чужым. Двойчы два — чатыры? Разгублена пытаўся Мужчына ў таго, хто сёння паспеў захапіць месца праваруч, хоць сам лепш за ўсіх іншых ведаў: двойчы два — не заўсёды чатыры. Характар меў такі — сумняваўся ва ўсім. Паводзінамі і знешнім выглядам падобны на быка ў дзіўнай сумесі з каала, Мужчына душой спалучаў бездапаможнае дзіця з ліхадзеем: у ім перапляталіся невядома якім чынам галубіная сутнасць Абломава і беснаватыя выкрунтасы ўсіх адразу герояў Гогаля і Дастаеўскага. «Как деспот окружает себя горбунами и карлами…»*, ён адгарадзіўся ад свету падабранымі дзе прыйшлося бяздомнымі бедалагамі. За ўсё на свеце найдаражэй яму было весці стасункі з гэтымі людзьмі. Сярод звычайных, памяркоўных, размераных, уладкаваных у жыцці людзей ён адчуваў сябе ніякавата, губляўся. У адрозненне ад сваіх апекаванцаў Мужчына не меў ніякага рамесніцкага спрыту, ні кроплі творчых задаткаў; іншых, як даўно забытая юрыспрудэнцыя, прафесійных навыкаў. Затое, як ген выжывання, меў спрыт ашуканца, патроены на геніяльную здольнасць Мішы дагадзіць і патрафіць кожнаму жаданню Гаспадара. Ашуканства Мужчыны несла чыста спартыўны імпэт і не праяўлялася адносна людзей высокапастаўленых, наменклатурных. Карысцю ад складаных афер, на якія прыйшлося выдаткаваць жыццё, было ў выніку некалькі кватэр у цэнтры Мінска, дзве сядзібы ў Браславе, тры ў Докшыцкім раёне, дзве на Глыбоччыне, і яшчэ некалькі знаходзілася ў не даведзеным да прыватнага стане «распрацоўкі»… ды качавое, амаль беспрытульнае, існаванне ў адзіноце разам са сваімі бадзякамі, па сутнасці, добраахвотнае бамжаванне. Бо першая кватэра, атрыманая за дзяржаўную службу ў правах следчага, засталася першай жонцы з шасцігадовым на

* В. Набоков «Весна в Фиальте».

той момант сынам і зараз, як службовае жыллё, таксама падпадала пад закон аб пераводзе ў іншы статус афармлення. Другія кватэры шляхам шматразовага абмену і куплі-продажу ператварыліся ў шыкоўную трохпакаёўку ў раёне Нямігі, якая перайшла другой жонцы з шасцігадовым на той момант сынам, але нікому не стала жытлом, жонка з сынам самі здымалі прыватны дом на адным з завулкаў Арлоўскай, а добрую кватэру здавалі за вялікія грошы кватарантам, на тое і жылі. Дарагой кватэры, што ля рэзідэнцыі, таксама не пашанцавала стаць сямейным гняздом. Гады тры яе арандавала нямецкае пасольства, рэгулярна выплочваючы добрыя адсоткі, потым, як у пасольскіх скончыўся тэрмін, новых жыхароў кватэра не займела, наступных прэтэндэнтаў падобны ўзровень жытла перастаў задавальняць: зрабіць адпаведны рамонт, абставіць сучаснай мэбляй пад густ пасольскіх — грошай не хапала, у беларусаў жа не было грошай здымаць жыллё падобнай катэгорыі. Пуставала кватэра які год.

— Жыць самім занадта шыкоўна, — тлумачыў стратнае ўтрыманне нерухомасці Гаспадар.

— Няхай сын жыве. Пусціце на Захарава, — раіла Жанчына, калі падрослы студэнт, малодшы сын Мужчыны пачаў шукаць асобнае ад маці жытло.

— Маладзёж там хутка штосьці сапсуе, — як мог, хаваў незадаволенасць умяшаннем чужаніцы ў асабістыя варункі свайго жыцця Мужчына, але ключы сыну даў. (Праз хуткі час апасенне спраўдзілася, паркет заліло гарачай вадой — краны пакінулі адкрытымі.)

Супала так, што канчатковая адзінота прыйшла ў жыццё Мужчыны разам з Мішам… Мішу хутка ўдалося замяніць яму ўсё і ўсіх: сяброў, калег, радню і суседзяў. Міша на ўсе пытанні спяшаўся даць самы патрэбны адказ. Культурна, ветліва, спадцішка, так, каб Гаспадар мог прыняць іх за свае думкі. Усе паразы і няўдачы, а таксама непрыстойныя ўчынкі заліваў Мужчына рупна, каб нават апамятацца не паспеў, паднесенай Мішам чаркай.

Падобна да гісторыі з напісаннем вядомай карціны Леанарда да Вінчы, дзе мастак пасля доўгіх разваг і пошукаў мусіў напісаць партрэт Іуды з таго ж самага чалавека, з якога пісаў Хрыста, убачыўшы аднойчы натуршчыка нецвярозым, ляжачым у канаве. Ні ў якім разе не раўнуючы дыяпазоны АСОБ, толькі сам механізм пераўвасаблення. Міша, прайдзісвет і п’яніца, згорблены, брудны валацуга з слюнявым бяззубым ротам і позіркам ваўчыных зырлаў спадлабення, пасля двухтыднёвай цвярозасці пераўтвараўся ў прыемнага інтэлігентнага мужчыну з анатамічна правільным складам цела, хоць і занадта хударлявага, але моцнага, жылістага; з класічна прыгожымі рысамі твару, прамым пародзістым носам, блакітам глыбокіх вачэй і адбітку нямеранай хітраразвагі ў іх, тут да ўсяго іншага чытаўся моцны характар, мелася харызма!

— Ты ў гэтым двары пратрымаешся столькі часу, колькі пажадаю я, — кідаў мімаходзь фразу Моўша камусьцi новаму, хто на сягоняшні дзень заняў увагу гаспадара: будзь то падабраная на трасе для мыцця палоў і весялосці хлопцаў Простадзеўка, будзь тое новы работнік у брыгаду, новы бадзяка, якога, пашкадаваўшы, прывезлі маразы перазімаваць, ці бедалага, чый дом гэтым момантам знаходзіўся ў «распрацоўцы». Апошніх Міша асабліва не цярпеў: яны звычайна не білі пальцам аб палец. Ляжалі паплёўваючы ў столь, глядзелі ў экран тэлевізара, Міша на падносе дастаўляў у камору на другі паверх ім жа прыгатаваную ежу. Тут мала хто біў пальцам аб палец — пад настрой аўраламі калі толькі. Як бы ні прыкіпаў душой Мужчына да якогась новага апекаванца, як бы ні захапляўся яго здольнасцямі і спрытам, калі той не здолее ўраўнаважыць адносіны з Моўшам — доўга не затрымліваўся пры двары. Абылганы, зняважаны, падцікаваны і здадзены на суд брыгады і маўклівае падазрэнне Гаспадара, мусіў шукаць сабе новае прыстанішча.

Міша хутка заўважыў: своечасова налітая Гаспадару чарка забяспечвае яму, Мішу, неабмежаваную свабоду і панаванне, безраздзельнае верхаводства. Хоць Мужчына рэдка быў па-сапраўднаму п'яным — цвярозым не быў амаль ні дня. Жадаючы хоць крыху пазбавіцца асаблівасці сваёй натуры — вечнага кантралёра ў мазгах, — ён заліваў вочы: цвярозасць яшчэ і тым была цяжкім выпрабаваннем, што прымусіла б задумацца аб жыцці, нервавацца. А гэткага стану Мужчына цураўся. На ім быццам ляжала пячатка порчы, сурокаў. Дзве сям'і, па сыну ў кожнай, пачаргова пакінуты. Нічагуткі з задуманага і распачатага не даведзена да канца, большасцю — разбураецца. Маючы ў руках паўнаводныя рэкі грашовых сродкаў, тым не менш заўсёды ў запазыках і падачках, пра якія не дужа памятае. Мужчына спускае грошы на нішто, літаральна пускае па ветру, закопвае ў зямлю ў выглядзе смецця, ува што ператвараюцца ўсе яго пакупкі і намаганні.

Добра апранутыя па камісіёнках на ўсе поры года, яго бадзякі іншы раз выглядалі не горш за Гаспадара. Мужчына, непатрабавальны да свайго адбітку ў люстэрку, меў на ўсе выпадкі жыцця адны джынсы, прывезеныя з Амерыкі старэйшым сынам у падарунак, і чыстую кашулю, па прафзвычцы блакітнага колеру: і на сустрэчу з выпускнікамі-кадэтамі, і на зборку былых юрфакаўцаў у рэстаране, і насіць мяхі з вапнай, і цэмент мяшаць у тых жа самых штанах. А х… з імі!

*

Вясковы, сціплы ад прыроды, далікатны хлопчык, змалку аддадзены ў кадэцкі корпус на гады, Мужчына звыкся жыць па статуту, распарадку,

загаду. Потым былы следчы аддзела пры савецкіх органах унутраных спраў, выключна залежны ад інструкцый, цыркуляраў, ён тым больш перападначаліў сваё сумленне пад эгіду кругавой парукі і ранжыру. Мужчына страціў здольнасць і жаданне разважаць.

Можна толькі здагадвацца, як жанчыне з глыбіннай вёскі, маці Мікалаевіча, у шэсцьдзясят восьмым годзе ўдалося прыстроіць сына, сарамлівага сямікласніка, не здолеўшага стаадсоткава прайсці адбор па фізічных даных, су償раўскім курсантам, куды і сапраўдных вайскоўцаў дзеці-сіроты не мелі вольнага доступу. Мяркуючы па выпадкова знойдзеным у старых паперах сшытку з вершамі, дзе ў знак нараджэння свайго першага ўнучка яна зарыфмавала дзяржаўнага кшталту гімн на з'яўленне новага чалавека ў грамадстве, ні радком, ні словам не разбаўлены асабістым жаночым пачуццем, міласцю ці пяшчотай да немаўляткі, — сацыялістычны дух на малекулярным узроўні пранікся ў аўтарку. Ільга прадбачыць, што пад такую загартоўку характару жанчыны маглі знайсціся ў савецкіх органаў асобныя абавязкі, узнагародай за якія і стаў допуск сына ў вучэльню. Яшчэ там мелася радня пад высокімі вайсковымі пагонамі. Але ўсё магло быць зусім іначай і не так змрочна…

Паслухмяны, старанны курсанцік не перабег за гады навучання сцежкі нікому і атрымаў за сваю дабрыню і шчырасць рэдкую магчымасць — быць залічаным па заканчэнні навучальнай установы ў славутае Разанскае дэсантна-ваеннае вучылішча… Няўдалы палёт з парашутам, псарыяз на падставе нервовай траўмы, адкупны дазвол выбраць любую навучальную ўстанову на тэрыторыі Саюза. Канечне, МГИМО…

Масква сустрэла смелымі надзеямі на шчаслівы лёс, іншаземнай моладдзю, раздоллем. Мастак кручаны падкаціў. Не жадаем шалёныя баксы зашыбаць? Хто не жадае? Маем старадаўнія абразы, патрэбна толькі арганізаваць сустрэчу. І пры першай жа аперацыі, яшчэ нават і не студэнта, толькі абітурыентам залічанага ў элітную ўстанову, пад белыя рукі выводзяць прыстойна без гвалту людзі ў цывільным з рэстарана пры атэлі «Інтурыст». Вы куды мяне? Куды трэба, даражэнькі. Хуценька зграбай дакументы і, пакуль не позна, афармляйся ў родны БДУ, заўтра будзе позна.

Прыйшлося стаць юрыстам. І тут, у роднай установе, праявілася вясковая ўгодлівасць, безадмоўнасць. Сагрупнікаў «вялікія» бацькі прасілі надзейнага хлопца паслужыць аховай сваім распушчаным сынкам. Знаёмствы дапамаглі потым атрымаць месца пры адным з аддзелаў сталічнага МУС следчым. Заўсёды цярплівы, непатрабавальны, ён стаў неабходным для многіх калег, як запасны аэрадром у жыццёвых калізіях: канфлікт з жонкай, з начальствам, з законам — ёсць магчымасць перасядзець у сябра на базе, паплакаць у плячо, паскардзіцца ў вольныя вушы. Многія з іх потым прасунуліся на высокія пасады, што яшчэ больш пашырыла папулярнасць базы, дзе вяліся знаёмствы, дамовы і пагадненні.

*

Заставалася пара кіламетраў, Мужчына націснуў на газ, гадзіннік на панэлі паказваў без чвэрці восем вечара — прыдарожную краму зачынялі…

— Зараз узляцім у паветра. Магазін усё адно закрылі. Навошта спяшацца? — папярэдзіла Жанчына.

— Не забывайце — за рулём ас! А магазін нам адчыняць нават ноччу, — незадаволена прабурчаў дзесьці з глыбіні салона, седзячы на запасным коле, п'яны «маёр» Міша. Яго раздражняла, што месца побач з Гаспадаром, якое больш за дваццаць гадоў лічыў сваім, раптам і нечакана заняла вось гэта прыблуда. Ён не мог дараваць сабе, і ўспомніць не мог, дзе і калі прапусціў іх сустрэчу, знаёмства, прытым, што кожную хвіліну суправаджаў Гаспадара па жыцці. Зводзіў і разводзіў яго з рознага роду асобамі, раўніва сачыў, каб тыя не затрымаліся надоўга ля Мужчыны, не сталі для яго чымсьці больш важным, чым кароткая інтымная сувязь. З аднаго кшталту жанчынамі: самастойнымі, высокапастаўленымі, моднымі, сучаснымі, нярэдка наменклатурнымі, хірургічна дагледжанымі, эканамічна незалежнымі — круціліся тут як пчолы над лугам, такіх Міша не баяўся. Сам Мужчына пазбягаў заводзіць з імі сур'ёзныя адносіны, не жадаючы трапіць пад залежнасць ці як інакш страціць свабоду. З другога тыпу жанчынамі Міша лёгка разбіраўся ў адзін момант, пад свой настрой і густ дазваляючы ноч, тыдзень, месяц ці год пагасцяваць ля Гаспадара. А той і не пярэчыў.

— Не купім цэменту — застанёмся на бабах, — патлумачыў Мужчына.

— А купім — без скарынкі хлеба…

— Я маю такую ўпэўненасць, што на вечар здымуць дом, ці хаця б у лазню папросяцца, — і ў яго зазваніў тэлефон. Мужчына прыняў важную позу, глянуў тэатральна фанабэрыста на Жанчыну, якая сядзела побач на пярэднім сядзенні, вытрымаў без адказу гудкоў шэсць і нарэшце націснуў кнопку.

— Алё… Не, гасцявы дом мы не здаём. У нас немцы адпачываюць другі тыдзень. Ніводнага месца не засталося, — і зноў, пераможцам зірнуўшы на Жанчыну, эфектна паклаў мабільнік на панэль аўтамабіля.

Жанчына аж падскочыла ад нечаканасці і абурэння.

— Ці вы з глузду з'ехалі?! Навошта людзям адмовілі? Няма ні капейкі!

— Вы нічога не разумееце ў бізнесе. Я ведаю як трэба з кліентамі весці перамовы. Праз паўгадзіны будуць як шаўковыя. — Сам сабе пасміхаючыся прамовіў вадзіцель спакойным тонам, паддаў газу.

— Навошта ім набівацца да нас? Яны і нумара вашага тэлефона не запомнілі — набіраюць з інтэрнэту па спісе наўгад і адразу адкідваюць не клёвыя нумары. Зазірніце на сайт! Там дзясяткі такіх і куды лепшых

дамкоў. Расхопяць кліентаў у момант. Вось не валодаеце камп'ютарам, дык нічога не разумееце. Зараз без інтэрнэту не абысціся.

— Я гасцявым бізнесам больш за дзесяць гадоў займаюся.

— Вот іменна, без вялікіх спецыялістаў да гэтай пары абыходзіліся, — яхідна адгукнуўся Міша голасам, чутным толькі той, каму адрасаваўся здзек.

— Тое бачу — бізнес квітнее. Сабак пакарміць няма чым, пра саміх не разважаю, — не звяртаючы ўвагі на п'яныя рэплікі з салона, размаўляла з вадзіцелем Жанчына.

— Сабакі — мае клопаты, — прашаптаў «маёр» Міша сабе пад нос, папярэдне высмаркаўшы яго ў рукаво.

— Што ты там мармычаш?! — тукнуў на яго Мужчына. — Намурзаўся — сядзі хвост падцяўшы, не тое пойдзеш пешы!

— Я і так маўчу. Вас шкада, Мікалаевіч, — шэптам працягваў даводзіць сваё Міша, ён усю дарогу штосьці мармытаў, злосна хмыкаў. Мужчына прывык не прыслухоўвацца да пустой балбатні сваіх падапечных, яшчэ меў патаемную цікаўнасць, як выкруціцца іншы фанабэра, разумны ды адукаваны, у гутарцы з яго дахадзяжнымі бадзякамі.

Цэменту купілі на ўсе астатнія грошы — шэсць мяхоў. Краму і праўда адчынілі па стуку ў акно. Ужо на трасе, з лёгкасцю абганяючы папутныя машыны, Мужчына набраў нумар апошняга ўваходнага і прапанаваў няўдаламу кліенту ўдакладніць у дырэктара фірмы — магчыма, з'ехалі італьянцы і дом можна замовіць на выхадныя, бо сам ён (аказваецца) за мяжой — не надта ведае становішча. Прадыктаваў нумар тэлефона Жанчыны.

— Вы ім пра немцаў толькі што распавядалі, а зараз намаляваліся італьянцы?

— Адкажыце на званок, — абыякава, не звяртаючы ўвагі на прыдзіркі, кіўнуў галавой Мужчына на дамскую сумачку, з яе і сапраўды пачулася мелодыя.

— І як толькі вы церпіце, Мікалаевіч? Вам гэта патрэбна? — ціхенька вёў Міша, падпіхваючы пад худы зад скрутак трапеўя і поліэтыленавай плёнкі — надта муляла шына ад кола.

— І колькі вас прасіць — не называйце мяне дырэктарам фірмы! Фірма с…ная, бардэль пры шашы. — Жанчына націснула кнопку, выбачаючыся, адказала ў тэлефон, што гаспадар за мяжой, не ведае раскладу — можна зараз жа дамовіцца і прыехаць у любы час адпачыць. Спыніліся на ўзаемна задавальняючых умовах.

Мужчына не ўцярпеў, выхапіў з яе рук слухаўку, стаў тлумачыць, як лепш даехаць да месца. Жанчына толькі роспачна пахітала галавой, усміхнулася.

— Вы ж за мяжой! За мяжой рэальнасці… І навошта вы іх збіваеце з панталыку? Ну пры чым тут Kinderdorf?! Не распавядайце людзям пра павароты, куды не трэба скіроўваць.

Мужчына не слухаў ніякіх заўваг, ён глыбока захапіўся размовай, гарантаваў гасцям добры адпачынак, паабяцаў зараз жа звязацца з адміністратарам, каб сустрэла іх як трэба. Націснуў на чырвоную кнопку і стаў бадзёра набіраць нумар Жанчыны на яе ж тэлефоне.

— Алё, — пакратала яна актывіста за плячо. — Вы не забыліся — я тут, побач з вамі еду — як я іх сустрэну? І вярніце мой тэлефон… Што гэта пасада мая мяняецца? На пачатку размовы дырэктарам фірмы абазвалі, зараз панізілі да адміністратара.

Тэлефон і сапраўды тарабаніў усю дарогу: госці заблукалі, з’ехалі ў другі бок Мінска, не маглі знайсці адрас. Нарэшце Жанчына патлумачыла — ад «Аквабела» па шашы направа.

*

Самі дабраліся да базы пад ноч, у гасцявым дамку гуло поўным ходам, па двары снаўдала напаўраспранутая моладзь, выбягалі з парылкі акунуцца ў басейнчыку. Начаваць зноў не было дзе. Мужчына дачакаўся, пакуль ад гасцей Жанчына прынесла аванс, паехаў у начны супермаркет купіць рабочым прадуктаў на вячэру.

Адзін з пакойчыкаў у недабудаваным доме некалі ўзяліся і вызвалілі з-пад складовішча, туды пераносілі кожным разам спажыткі, калі замаўляўся дамок. Абжылі месца, упадабалі, сталі карыстацца ім пастаянна, бо дамок апошнім часам кліенты здымалі амаль кожны дзень. Для цеплыні ў вялікія маразы ад калідора адгарадзілі дадатковым каркасам з дошак, абшылі поліэтыленавай плёнкай. Так атрымаўся тамбур, у ім паставілі электрычную плітку гатаваць ежу, збілі паліцы з дошак пад посуд. Ды хутка на іх акрамя посуду работнікі, нягледзячы на забарону, накідалі цвікоў, малаткоў, гаек. Зноў аднавіўся хаос, як адзіна магчымы лад існавання ў гэтым паселішчы пад агульнай назвай база. У самім пакойчыку меўся водаправодны кранік. Нетры шэрага неабдымнага будынка, сярод скрынь з электралобзікамі, дрэлямі і піламі за занавескай хавалі халодную ўборную. Карыстацца туалетам не выпадала круглы год. Большай часткай зімовай марознай пары каналізацыя прамярзала. Рабочыя, іх камора месцілася на другім паверсе, ленаваліся спускацца ўніз шукаць адасобленага прытулку — звешвалі «хобат» з балкона і дулі ў прастору пад вокны і сцены. Прачнуўшыся, прыходзілася іншы раз гадаць: ці то лагоднае надвор’е змянілі дажджы, ці то чарговы паход брыгады да ветру.

Гаспадар і Міша вярнуліся з пакупкамі, пра сабак таксама не забыліся, два пакункі з курынымі шкілецікамі і лупякамі свіной скуры ахвяравалі пад іх рацыён. П'яныя рабочыя ўзяліся разгружаць бусік, насілі хто што: цэглу, ізовер, пакеты з харчам, мяхі з цэментам скінулі тут жа ў двары, ля ганка. Самай лёгкай падалася скрыня з бутэлькамі крышталеўскага гатунку, кожны хацеў паднесці яе. Пакуль неслі заднімі дзвярамі і неасветленым калідорам, дзве бутэлькі прапалі. Узняўся прывычны вэрхал, крык, разборкі. Вінаватага не знайшлі: хутчэй, была змова. Сціхлі, перакусілі, перакурылі. Тэлевізар з верхняй каморы, дзе звычайна адпачывала брыгада рабочых, звезлі ў майстэрню рамантаваць. Жанчына ўспомніла пра яго з вялікім шкадаваннем, калі рабочыя, пяцёра нецвярозых, нямытых мужчын, папрасіліся сесці ў гэтай адзінай, больш-менш прыгоднай пад жытло камнатушцы — трансліравалі чэмпіянат па хакею. Трэці дзень на калёсах, кароткі сон пад лямант і гаману, шумныя застоллі за поўнач, усе «да кучы» разам, праз хліпенькія перагародкі. Той храпе, той сапе, гэты трызніць, ва ўсіх адбываецца стрававальны працэс. У браслаўскім доме на тры камнатушкі тры тэлевізары, і кожны на ўсю моц працуе пад дружны храп тэлегледачоў. Жанчына прылаўчылася націскаць кнопку ў электрашчыце, перакрываць электраэнергію. Небяспечны ход, нельга пралічыцца: магчыма, не ўсе паснулі — будзе лаянка да ранку, як хоць адзін глядач адкрые вока ў пусты экран.

Гук у тэлевізары, як заўсёды, накруцілі да адказу, кожны стараўся выказаць сваё ўражанне, перакрычаць і каментатара, і суседа. У пакоі стаяў цяжкі млосны пах перагару, цыбулі, селядцоў, брудных ног і шкарпэтак. На шырокім драўляным ложку, нядаўна прынесеным сюды Мішам і суседам майстрам-чырванадрэўшчыкам, палеглі адпачываць, калі так сказаць дарэчы, Мужчына з Жанчынай. У іх нагах паселі тэлегледачы, не хапала табурэцікаў. Малая стрэлка насценнага гадзінніка пераадольвала лічбу два. Скончыўся першы тайм. Балельшчыкі выйшлі да стаўка «падыхаць» цыгарэтным дымам. Жанчына паднялася з ложку прыбраць са стала недаедзеныя стравы, выключыла тэлевізар, закрыла на ключ дзверы.

— Навошта вы так зрабілі? Пакрыўдзяцца.

— Лічыце, што я ўжо пакрыўдзілася.

— А-а, рабіце вы, што хочаце!

У дзверы забарабанілі, як толькі пагасла святло ў акне, пачуўся злосны мат, заенчыў дзявоцкім голасам малады хлопец з Браслаўшчыны Толік, прасіў спыніць анархію. Мужчына ў адказ толькі грамчэй захроп. Данесліся крокі і тупат ног па кволай драўлянай лесвіцы — падымаліся злосныя ў сваю камору. Доўга не маглі супакоіцца, Юра наўмысна грукаў нагамі ў падлогу, якая з'ўлялася адначасова столлю ў пакоі з недасягальным тэлевізарам, пасылалі чутныя толькі Жанчыне абразы і пагрозы, выходзілі ва ўнутраны дворык, праігнараваўшы строгую забарону Гаспадара пад

час прысутнасці кліентаў носу не высоркваць у цэнтральныя вароты; цікавалі за гасцямі, каб сцёбнуць пакінутую без нагляду ў шашлычнай бутэльку. Сягонняшняя група абяцала шмат: гарэлка ў скрынях стаяла на вуліцы, поўны паднос шашлыкоў, амаль не крануты, калеў на расчыненай верандзе. Піва лілося ракой. Цэлыя пачкі цыгарэт, горкай высыпаныя на шырокі падаконнік ля купелі, самі сазвадзілі заядлых курцоў прыгожымі этыкеткамі — як не пазарыцца, тым больш, што Гаспадар даўно спаў, а заезджая моладзь рагатала ўнутры будынка.

Пад раніцу ўліў дождж, Жанчына выйшла пазачыняць расхаляпленыя наўсцяж дзверы гасцявога дамка. Раскіданыя па двары сеткай правады левага электрасілкавання іскрылі феерверкам ад моцнай вільгаці. Жудаснымі дэцыбеламі на ўсю акругу дзяўбла-дудугала музычная апаратура. Жанчына паўглядалася ў вокны суседскіх дамоў: сёння абышлося без праблем, суседзі спалі. Спалі госці. Яна намацала гукавы тумблер на пульце, пацішыла гук. Адзін хлопчык змагаўся з ірвотай ля мангала.

— Не хадзі па двары — слізка, макраядзь, іскрыць — небяспечна! — папярэдзіла Жанчына, не гледзячы ў яго бок. — Даць чорных таблетак?

— У мяне ёсць, — пакутліва выдавіў з сябе словы ў адказ хлопец.

— Не піце вы так многа, дзеці вы горкія.

Ля ганка ляжала шэсць валуноў — у глыбокай лужыне мяхі цэменту пад праліўным дажджом закамянелі. «А, х… з імі…» — раніцай махне рукой Гаспадар…

Жанчына спынілася на ганку, не хацелася вяртацца ў няўтульны пакой. У глыбокай, мокрай начы пасля збаўлення ад невыноснага грукату апаратуры толькі што зарадзілася нейкая жывая лагодная цішыня, ды яшчэ замільгацелі між гнанымі шалёным ветрам хмарамі зоркі, зазіхацелі пасля таго, як у двары адключылася ілюмінацыя. Ахінула штосьці далёкае, сумнае, незваротнае, але светлае.

З малых гадоў здзекам здаваліся вечарынкі, застоллі, п’янкі-гулянкі. А раптам прыпомніліся яны: вясковыя шумныя, смешныя, з візгатам і крыкам захмялелых баб, запэцканых у сажу і бурак для «тэатральных прадстаўленняў» на лавах перад гасцямі, з салёнымі прыпеўкамі, чырвоным ад шчырасці і старання гарманістам у ражку стала (музыканцікі, пасуньцеся — дайце людзям сесці) з таўкачом і бляшаным вечкам у руках замест ударных інструментаў, з перастукам у такт полькі алавяных лыжак аб калена, з вогненным запалам у танцы, абдымкамі і пацалункамі ў закутах, таемным пагладжваннем калена пад сталом, пацісннутай употай рукі — улоўленымі вострым вокам пільнага, цікаўнага гледача — малымі рабятамі на запечках, пад наглядам старых бабуль. Як яна, малая дзяўчынка, цуралася ўсяго таго бачанага ў дзяцінстве, як дзічылася незразумелых і страшных, хмяльных людзей. Каб сёння праз паўвека, у чужым раскіданым двары, дзе штодня шукаюць і не могуць знайсці

ніякага душэўнага паратунку непрыкаяныя бамжы, міністры, бадзякі, генералы, разбэшчаная абкураная моладзь, распусныя дзеўкі і старыя блудні; ніадкуль улавіць думку, што нічога не было ў жыцці больш роднага, блізкага, чыстага і сапраўднага, як тыя вясковыя сваякі; простыя, бясхітрасныя людзі, усвядоміўшыя праз бацькоў сваё месца ў жыцці, задаволеныя, удзячныя якому ні ёсць лёсу, бо ён не дадзены кімсьці збоку ці зверху, а генетычна напрацаваны родам, і палепшыць яго можна толькі прыняўшы. Намяшана ў ёй колькі, адчувала Жанчына: нязгоды, пратэсту, гордасці, самаўзвышэнння. Вось яна рашае іншым не па сіле задачы, вось выдаецца яскравым дарам спяваць, потым азначаюцца іншыя таленты: на ўсе рукі майстра, любая справа па плячу, у навуках — галава, па жыцці — філосаф, гадавалыя праблемы грамадскага ўзроўню здольна зрушыць з месца… Вось яна ўжо намацала сувязь між МАТЭРЫЯЙ і ЧАСАМ. Зусім крыху — і адкрыюцца таямніцы СВЕТАЎТВАРЭННЯ і ПАЧАТКУ. Не, казала жыццё — ты не пройдзеш! Страціла неабходную для шляху чысціню і цнатлівасць. Бяда вядомая — мець пакручасты розум. Заўсёды існавала жаночая трагедыя між пашыранымі светапоглядамі і побытам, патрэбай жыць зараз і тут — народжаны дзеці, за якіх нясеш адказ. Здольныя любіць увесь свет, не дадаюць цяпла блізкім, родным… Хто існуе побач, церпяць вялікую радыеактыўную небяспеку. «Жанчына нараджаецца, каб любіць і маліцца»*. Мудрагелістасць разваг ні аднаго не давяла да шчасця. Па той бок дабра і зла Ніцшэ правёў дзесяць апошніх гадоў жыцця ў псіхіятрычнай бальніцы (Што мы ведаем?! Магчыма, ён проста пакінуў цела за непатрэбай і паляцеў па сваіх справах далей?) І ўсё ж небяспечна трымаць абывацелю ў сямейнай бібліятэчцы яго філасофскія творы — кепска ўплывае на псіхічны стан душы, як і розныя эзатэрычныя вышукі. Бацылы сумневу пранікаюць у кроў, распаўсюджваюцца па целе, застраюць ва ўсім арганізме, няздольным вывергнуць вонкі чужародныя рвотныя масы. Пачынаюць распаўсюджвацца, пранікаць у сны, падбірацца да жытла нізкачастотныя тварыны. Карані ўласнага роду здольны наталіць сілай, умацаваць імунітэт супраць душэўных хвароб.

*

Дама не першай маладосці, але бадзёрая, энергічная, рэзкая, з ганарлівым хвастом валасоў пад моднай маладзёжнай кепі выпырхнула з крутога джыпа. Прабеглася па пакойчыках гасцявога дамка, відаць, бывала не раз,

* Словы Алы Андрэевай, жонкі Данііла Леанідавіча Андрэева, паэта, пісьменніка, мысляра.

падазвала Жанчыну, адкрыта і прадузята агледзеўшы яе, падала святочную паштоўку, аблепленую пячаткамі ярка нафарбаваных вуснаў.

— Передайте хозяину.

Жанчына заглянула ў запрашэнне пасля ад’езду госці: «Николя! Приглашаю тебя на открытие сезона. Жду с нетерпением! Натали!»

Не падалося — сапраўды яна. Подпіс стаяў найвядомейшай асобы, папулярызаванай сучасным тэлебачаннем.

Жанчына кінула паштоўку на падаконнік. Брыгада вярнулася позна. Мужчына з самадавольнай мінай уручыў Жанчыне значную доларавую купюру. На ходу глынуў ад смагі сухога, не здымаючы верхняй вопраткі сеў на ложак, засяродзіўся на прывезеных з сабой паперах.

— Адкуль такія грошы? Ад’язджалі без рубля.

— Паштоўкі мне ніякай не перадавалі? — хітры позірк праігнараваў пытанне.

Жанчына падала паштоўку.

— Вы ўжо спазніліся.

— Яна тэлефанавала мне і ў дадатак яшчэ эсэмэскай прадубліравала. Вы пазналі? Тая самая славутая Аэробіка! — ён глянуў на запрашэнне і адклаў у бок. — А як вытанчана на французскі манер падпісала…

— Магчыма, на вашым хутары нараджаюцца французамі, я і беларускай пачуваю сябе самадастаткова, — успыхнула Жанчына.

— Не раўнуйце! Нікуды я не збіраюся. Пайшлі яны са сваімі сезонамі — малюскам каньяк заядаць. Каньяк мяса патрабуе.

Завітаў сусед пад імем Прафесар Вуха-горла-нос. Ён сумаваў адзін дома, імкнуўся ў грамаду. Выдатны катэдж Прафесара слугаваў сям’і за дачу. У горадзе была кватэра, жонка жыла там. Прафесар некалькі гадоў таму перацярпеў цяжкі інсульт, мусіў пакінуць клініку. Зараз большым часам вартаваў сваю дачу. Ён паставіў бутэльку сухога на маленькі столік, якім, па праўдзе, слугаваў табурэт накрыты квадратнай дошкай ад мэблевага гарнітура. Міша дапамог яму ўсесціся ў спецыяльна прынесены найбольш трывалы фатэль.

— Вы ведаеце, — працягваў жартаваць на папярэднюю тэму Мужчына, — у маім мабільным завёўся злосны хакер! Павыдаляў тэлефонныя нумары такіх ладных кабет.

— Малайчына! Так з ім і трэба! — засмяяўся, пляскаючы ў далоні, здагадлівы Прафесар, Жанчыне адрасаваўшы пахвалу. — Тут у іх даўно трэба наводзіць рэвалюцыйны парадак.

Жанчына таксама засмяялася.

— Гэта ўсё добра, але вось як мне зараз дазваніцца да чалавека? — азадачана ціскаў кнопкі тэлефона Мужчына, праз акуляры ўглядаючыся ў сцёртыя знакі на панэлі старога мабільніка, — Заўтра ранкам выязджаем з Мішам у Гомель па сур’ёзных справах, а нумара няма… Няўжо вы ду-

малі, што тут палюбоўніцы? — звярнуўся ён да Жанчыны. — Тут сябры і дзелавыя людзі. Вось, гляньце сюды, тыя, каго шукалі, у другім раздзеле: во яны, тут і засталіся. — Ён націснуў нейкую кнопку, высвецілася пара нумароў, паказаў Жанчыне. — Вось дзе трэба было сціраць. Сапсавалі заўтрашні важны візіт.

Міша, задаволены прыходам суседа (госці заўсёды яму на руку — адводзяць лішнюю ўвагу), цішком прынятай нормай, яшчэ — цэлай неадкаркаванай бутэлькай заначкі, якую пакуль што памятаў, дзе схаваў, і добрым настроем Гаспадара, мітусліва круціўся ля абодвух: падносіў закуску, падразаў тоненька кілбаскі, наліваў у таз вады для ног. Мужчына пакутаваў ад боляў у нагах, частая язда найбольш спрыяла хваробе. Напэўна, праслухаў Міша, ці з моцнай нецвярозасці ўпусціў бягучы інцыдэнт, магчыма, зараз не хацеў псаваць настрой: ён быў чалавекам тонкага выхавання, пры Прафесары ніколі не стаў бы заводзіць непатрэбныя размовы: Міша пакручваў вуснамі і слініў ад нервовасці палец, намотваючы на вус выгадную для сябе інфармацыю. Хто-хто, а ён здолее выкарыстаць такі нязграбны ўчынак Жанчыны сабе на карысць у самы няўдалы для яе момант.

— Па якой сістэме едзем, Мікалаевіч?

Мужчына хмыкнуў, затрымаў цяжкі позірк на п’яным твары Мішы, пахітаў галавой.

— Па сістэме ніпель! Ты, я гляджу, ужо намурзаўся! Каб заўтра ў чатыры раніцы пабудзіў мяне і сам быў гатовы! Схадзі памыйся — смярдзіш.

— Якія праблемы, Мікалаевіч? Хоць у два прачнуся. Вы мяне ведаеце. Па якіх пытаннях у Гомель едзем, хачу дазнацца?

— Ты, Міша, едзеш па пытаннях напампоўкі кола, як раптам спусціць…

Мужчына, седзячы на ложку ў верхняй вопратцы (нядаўна купленай у камісіёнцы і дужа ўпадабанай спрытненькай скураной курткі), між рэплікамі і глыткамі лёгкага віна пачаў вывучаць судовую справу, па якой збіраліся ранкам выпраўляцца ў далёкую дарогу. Малады паспяховы Адвакат звярнуўся па дапамогу. Ён меў сваю прыватную кантору, ды пакуль што не займеў патрэбных знаёмстваў.

Калі засталіся адзін на адзін, Жанчына запыталася.

— Вы так даўна пакінулі кар’еру следчага, адышлі ад спраў, няўжо ніхто, акрамя вас, не здольны даць Адвакату лепшай кансультацыі? Гэта ён вам даў такія грошы?!

— Могуць… даць кансультацыю… і значна больш прафесійную, чым я. Юрыспрудэнцыя — справа складаная, не закансерваваная, законы мяняюцца згодна з часам — мне зараз не пад сілу іх ведаць.

— Дык што ж тады прычынай?

— Каму яшчэ дадуць азнаёміцца з судовай справай пад час незавершанага працэсу? — ён патрос у паветры папкай, якую чытаў на працягу

вечара. — І ніхто іншы не пераступіць парогі ТЫХ кабінетаў, у якія заўтра мушу ўвайсці я. Будзьце ўпэўнены: дзверы адчыняць перада мной.

Ён падаў таўшчэзны стос падшытых папер.

— Цікава? Паглядзіце.

*

— А калі Мікалаевіч вернецца? — Якаўлевіч завёў сваю вечную песню, ён ні хвіліны не мог заставацца на базе адзін, памінутна падыходзіў дапытвацца, дзе дзеўся Гаспадар. — Патэлефануйце яму, скажыце, каб хутчэй вяртаўся.

— Зараз кіне ўсе справы і з Гомеля паедзе вас ратаваць. Што вам патрэбна ад яго? Ежы хапае, навошта турбаваць чалавека?

— Можа, прывязе віна, — засмяяўся Якаўлевіч.

— Прывязе, як справіцца. — Жанчына ведала, што Якаўлевіч да самага вечара не дасць спакою. І вось пашанцавала, яна выпадкам знайшла Моўшаву схованку, некранутую бутэльку «Вермута». Міша яўна забыўся пра заначку, тое не ў першы раз. А калі і памятаў як былы факт, не здолеў бы ўспомніць, куды захінуў запас. Яна ляжала за велізарнай, метраў з пяць у квадратуры, карцінай: шэдэўру ніяк не маглі знайсці месца, і ён пыліўся на летняй верандзе, мёрз зімамі, адтайваў адлігай, перасыхаў спякотай, ветраў на вясновым сіверы і сырэў восеньскімі дажджамі. Жанчына зларадна выцягнула бутэльку і падазвала Сямёна. Шчаслівы Якаўлевіч засвяціўся адназубай усмешкай, абцёр аб кашулю ўзяты з падаконніка замусолены «службовік», наліў віна, падаў Жанчыне — пасмакуйце…

— Не, Якаўлевіч, не буду.

Ён і сам ведаў, прапанаваў ад удзячнасці і павагі. Выпіў, змахнуў з вуснаў кроплю, адразу паружавеў.

— Зевануў Моўша моманту, — задаволена канстатаваў факт Якаўлевіч.

— Нічога, ён сябе не пакрыўдзіць. І так што сыр у масле.

На ганак гасцявога дома выйшла пара, яны ранкам замовілі лазню, зараз боўтнулі, распараныя, у купель. Маладзіца — поўнагабарытная, маштабная асоба, кавалер невялічкі, хліпенькі. Якаўлевіч праз шыбіну веранды назіраў за каханцамі, бяссільны адарваць вачэй ад прыгажосці…

— О гэт-та жанчына! Цар-баба! І як ён, гэткі паўшабэлак, ёй рады дае… Мусіць, багаты, бо саўсім не прыгожы.

Госці пашлэпалі на тэрасу, смешна раскідваючы ногі — заліпалі на кафляную падлогу мокрыя гумовыя сланцы.

Якаўлевіч перавёў позірк на жывапіснае палатно.

— Моўша казаў, гэта карціна каштуе пяць тысяч долараў.

То была дрэнная копія работы Васняцова «Дети, убегающие от грозы». Сама сабой нічога не вартая, як толькі сабекошт вялізнага палатна, падрамніка і рамы. Але Мужчына хваліўся, што карціна мае гістарычную каштоўнасць, бо вывезена з кабінета Цанавы. Магчыма, беларускі «берыец» падсілкоўваў прафесійнае натхненне, штодзённа гледзячы на няшчасных малюкоў. Але верылася з цяжкасцю, на сценах кабінетаў такіх устаноў віселі партрэты партыйных правадыроў, калі толькі… у адпачывальні.

*

Жанчына чытала судовую справу, па якой вёўся працэс. Міліцыянер папаў пад следства за інтымныя зносіны з непаўналетняй. Бацькі дзяўчыны падалі заяву. Іх дачка спрабавала пазбавіцца жыцця пасля таго, як кавалер адмовіўся ад яе. Міліцыянер меў сям'ю, дзіця, зразумела, баяўся выкрыцця. Ён апраўдваўся тым, што не ведаў пра непаўналетні ўзрост дзяўчыны, хоць жылі палюбоўнікі ў невялікім пасёлку, дзе чалавек чалавека бачыць амаль кожны дзень і ведае ўсю паднаготную. А служака ў пагонах абавязаны знаць многае, і ўзрост школьніцы тым больш. Апраўдаўся тым, што яна спакушала яго, маўляў, дзяўчына псіхічна нездаровая. Доктар, вядома ж, пасля спробы пацыенткі ўчыніць самагубства, выдаў следчаму патрэбнае заключэнне. Быццам бездапаможнасць ахвяры здымае адказнасць за злачынства.

Па паперах выходзіла: сам факт злачынства ў судовым працэсе не мае значнай вагі. Галоўнае аформіць яго літара ў літару, звесці граматна па параграфах перапіску пракурора з адвакатам. Выглядала перапіска як спаборніцтва ў прафесійнай спрэчцы. Чалавечы лёс тут меў сугуба прыкладны, адносны матыў.

Пасля вяртання Мужчына паведаміць Адвакату ў кароткай тэлефоннай размове:

— Упакоўваем. Згодна з думкай «асноўнага» (Мужчына не мог пры размове па тэлефоне адкрыта называць пасады), рашылі кліента «закрываць».

Слэнг «упакаваць» між юрыстамі азначае весці справу пад прыгавор аб увязненні падсуднага. Таксама як і тэрмін «закрыць» азначаў увязненне. І гэта, аказваецца, залежала не ад пракурора, адваката ці суддзі, тым больш не ад справядлівасці… Дазнацца думкі галоўнага абласнога чыноўніка і было даверанай задачай Мужчыны. Ад гэтай думкі залежала, у які бок весці справы Адвакату.

*

З калідорчыка данеслася тупаніна. На ўсю базу сягоння яна заставалася адна, Якаўлевіч не лічыцца. Жанчына выглянула ў тамбур. Убачыла госця. Пасол штосьці шукаў, праходжваўся па недабудаваных залах.

— Прыглядаю столік ці тумбачку сабе ў гараж… Мікалаевіч?.. — запытаўся ён толькі дзеля завязкі размовы. Бо сувязь з сябрам трымаў сам і шчыльна, тэлефануючы па некалькі разоў на дзень. Заязджаў амаль штодня пагаманіць, папарыцца ў лазні, зладзіць сустрэчу з патрэбнымі людзьмі, адзначыць дзень нараджэння з калегамі; але рэдка даставаўся без званка, не даведаўшыся, хто на базе, калі толькі памыць машыну, альбо як зараз, пашукаць сярод звалкі штосьці патрэбнае, паразмаўляць з Жанчынай.

— Па справах у Гомель паехалі з Мішам… і за печкамі.

— Колькі ім тых печак яшчэ патрэбна?! Паўсюль лазні пераабсталяваныя, ці не? Куды новыя печы пойдуць?

— У запас, — усміхнулася жанчына. Тэма непатрэбных пакупак забаўляла ўсіх, каму была вядома хвароба гаспадара набываць што папала. З'яўлялася цвіком штодзённых анекдотаў. — Ржавець будуць у двары.

— Міша знойдзе ім новых гаспадароў, — засмяяўся Пасол. — З'ездзіў ТУДЫ, у Пушчу, — без падрыхтоўкі, сур'ёзна, крыху счакаўшы, паспакайнелым тонам працягваў ён размову на тэму, адкрытую толькі між імі. Ніхто ніколі не ўдзельнічаў у падобных развагах. Асабліва цураўся б Гаспадар базы, ды пры ім такія гаворкі нават і не заводзілі. — Прывёз вам што абяцаў, — ён паставіў бутэльку з вадой на стол. — Трэба сорак дзён раніцай і вечарам абмывацца. А ў тую, што ад вас вёз, самому прыйшлося дабаўляць па дарозе з ручая. Мала вы набралі вады.

— Дык выходзіць, ён не мае жыццё разглядаў, а ваша! Тым больш, трэба было набраць з трох вадаёмаў — вы з чацвёртага дамяшалі сваёй рукой. Дарэмна так зрабілі. — Жанчына прыхавала расчараванне, страціла цікаўнасць. Ёй не падабаўся дыпламатычны манер дыялогу: толькі намёкам і вакол. Дабівацца, дапытвацца падрабязнасцяў адпала ахвота. Усё адно пададзеная на разгляд вада аказалася сапсаванай.

Пятровіч даўно настойліва прапанаваў звярнуцца па параду да свайго знаёмага. Запэўніваў, што раіўся з ім не раз. Сам узяўся з'ездзіць у Пушчу…

— Слухаць упартыя пратэсты навукоўцаў, што з'явы такой не існуе, — Пятровіч прысеў ля стала, закінуў нагу на нагу, што значыла — пагаварыць прыехаў, не на хвілінку забегся, — вы ведаеце, непрыемна. Колькі ж можна хаваць галовы ў пясок, бы страусы.

— Таксама непрыемна бачыць шарлатанаў, ілжэпрарокаў.

— О не! Той, з чыіх рук вада, паверце, не пустабрэх. Чалавек ад прыроды… Ды й навука не раз выступіла ў ролі шарлатана. Не з таго боку вядзе пачатак даследавання, адмаўляе сам факт наяўнага і відавочнага. Перадусім трэба было б заўважыць сам АРГАНІЗМ, СІСТЭМУ, СУСВЕТ, не пачынаць з пошукаў блох. Чулі навіну? Збіраюцца пры дапамозе складанейшага агрэгата з плазменным люстрам улоўліваць душы ад адных пакойнікаў, каб падсяляць у другіх! Проста жах ахапіў, як глядзеў перадачу! Ні кроплі не жадаюць уведаць з прыроды душы, больш таго, наогул адмаўляюць факт яе існавання, а вось выкрадаць і гвалтоўна перасяліць ужо рыхтуюцца. Навука валодае мізэрнай часткай супярэчлівых ведаў аб «кавалках матэрыі» — аб тым, што можна пакратаць рукой, прычым новае адкрыццё нярэдка перакрэслівае раней здабытыя. Не заўважаць відавочнага — гэта не навуковы прынцып. Як толькі штосьці тычыцца з'яў па-за прынятым курсам навукі — аб'яўляецца цемрашальствам. Вельмі шкада, што навука ігнаруе магутны пласт метафізікі, надзвычайных чалавечых магчымасцяў, што толькі і адолела б паварот развіцця грамадства з тэхнагеннага напрамку ў русла духоўнае.

— Біблія перасцерагае ад чараўнікоў.

— Аднак ні адзін біблейскі цар не прамінуў параіцца з прарокам. Як і сучасныя царкі, толькі апошнія ўтойваюцца. «Усё ў свеце Бог і ўсё ў свеце ад Бога і няма нічога акрамя Бога», — там жа.

— Дзе прарок, дзе чараўнік — задача. Адзін пра Бога ды пра Бога і малітвамі спрэс перасыпае, зірнеш у вочы — душа ледзянее. Другі атэістам назавецца, а справы Боскія чыніць… А вам што сказаў? Па вашых праблемах.

— Валасы дыбам усталі. Па яго патрабаванню вазіў старую вопратку. Бачылі б вы, якія ржавыя страшныя іголкі панаходзіў, павыцягваў са штанін! Сам іх намацваў… Я сам! Каб раней сказалі — не паверыў бы.

— Адкуль яны ўзяліся?

— ?! — Пятровіч пацінуў плячмі, здзіўлена і нялоўка ўсміхнуўся, так і не паверыўшы да канца відавочнаму. — Нават імёны назваў. — Пасол падняў палец у знак завостранасці моманту ўвагі. — Як? Адкуль яму, жывучы на балотах, вядомы імёны людзей са сталіцы, з якімі стасуюся? Вось містыка!

Пасол павольна хадзіў па пакойчыку, дастаў штосьці накшталт плаката, разгладзіў на стале, прышпіліў да сцяны. З мнагазначнай усмешкай указаў далонню на рэпрадукцыю.

— Мастацтва! Дзве лодачкі. Больш нічога. І ўся тут вам філасофія.

— Гэта вашага Алеся.

— Падабаецца?

— Жывое. Ёсць і прастора, і святло, і сум.

Яна напраўду ўпадабала просты сюжэт у насычаным цёмнага тону блакітным колеры. Яшчэ ведала, як ставіцца Пятровіч да творчых памкненняў сына. (Свае жывапісныя работы Жанчына ніколі не паказвала яму, ні ў рэпрадукцыях, ні жыўцом, хоць бывалі праездам утраіх не раз, гасцявалі і начавалі ў яе кватэры, той, што дзякуючы Паслу ўсё ж змагла выкупіць па новаму, куды больш сходнаму кошту, у невялікім пасёлку Віцебскай вобласці, дзе пакінула свой творчы скарб. Ведала, яе карціны не спадабаюцца чалавеку, здольнаму ўспрымаць жыццё толькі ў акадэмічным стылі выразнасці. Мала таго, нягледзячы на элітарнасць адукацыі і сацыяльнага становішча, ён не пазбавіўся ўкаранелай сярод мужчын думкі, што ўсё ў жыцці дзеля мужчын, мужчынамі і пра мужчын. Марна было спадзявацца на яго ўвагу да творчасці жанчыны.)

Дзесяцігадовае чаканне бацькоўства ўзнагародзіла нарэшце сям'ю сынам. Алесь рос удзячным выдатнаму выхаванню, не прыносіў расчаравання. Першы год, як стаў студэнтам акадэміі мастацтваў. Хлопец і сапраўды меў здольнасці да абранай прафесіі. Пятровіч раней прыносіў удалыя малюнкі, фотаздымкі сына. Кранальны жоўты кляновы лісток у абрамленні марозных карункаў, паланаваны празрыстым ледзяным шклом лужыны, аздобіў вокладку глянцавага календара з рэпрадукцыямі мастакоў-студэнтаў. Альбом той дапамог навучальнай установе выдаць Пасол.

Мінулай зімой Пятровіч ладзіў тут сустрэчу з выкладчыкамі акадэміі мастацтваў, сціплымі старэнькімі прафесарамі… Не абышлося без канфузу. Гаспадар базы, разам нецярплівы і нясмелы, чакаючы іх ад'езду, падаслаў апоўначы Жанчыну паведаміць жартоўна: «Таксі на Дуброўку пададзена». Міша ніколі на такое б не пайшоў, бярог Гаспадара ад неэтычных учынкаў, ды на той момант быў сасланы ў Канюкі. Яна ж, не маючы ў генах арыстакратычнай закваскі, проста пашкадавала Мужчыну. Ведала, як скрабло яго ад пацеранага прыбытку за пустапарожні вечар, не абыякі, суботні. Выхадныя дні кармілі брыгаду тыдзень, давалі магчымасць купіць будматэрыялы. Яшчэ перажываў Мужчына за суседа, запрошанага і аплочанага ім жа для дастаўкі прафесараў у горад. Сусед у свае пяцьдзясят пяць узяў маладуху і зараз, замест таго каб удзяляць жонцы належную ўвагу, мусіў паўночы чакаць у машыне ля чужых варот.

Пятровіч выйшаў у калідор, сцепануў плячом, абражаны за сваіх гасцей, ледзь чутна вымавіў: «Ты, дзядзька, жартуеш, напэўна, ці ўжо зусім з глузду з'ехаў?!» Ды госці аказаліся людзьмі культурнымі і здагадлівымі.

— Вось мастацтва, — паўтарыў Пятровіч, углядаючыся ў лодачкі. — А то чорны квадрат…. Чорны квадрат! Магчыма, вы мне патлумачыце, што ён азначае, той чорны квадрат?! Я не разумею.

— Малевіч заслужыў сваю кроплю ў акіяне мастацтва толькі тым ужо, колькі самых супярэчлівых разваг выклікаў яго квадрат, адна з іх — адлюстраванне эпохі. Малевіч знайшоў сімвал, знак, яе сцяг. Ён падсвядома

павёў сябе так, як павёўся народ таго часу — замест абразоў выбраў Чорны квадрат. Ніштo. Проста і коратка паказаў, чаму пакланяліся людзі пострэвалюцыйнай эпохі. А можна ўбачыць у Чорным квадраце сімвал нязведанага. Максімальна прастору сусвету, здаецца восемдзесят пяць адсоткаў, займае чорная матэрыя, якую ўмоўна называюць вакуумам, і пра яе мы не ведаем нічога… У кожнага майстра рана ці позна знойдзецца свой Чорны квадрат. Цікаўнасць, жаданне адкрыць няведамае творцу ўласціва. Тут адно толькі мае значэнне: ці здагадваецца сам аўтар, у якую прастору адчыніў дзверы, ці ведае зваротны шлях з лабірынту, у які заманьвае паклоннікаў, ці разумее, што знайшоў, які надае кошт і месца знойдзенаму. Ці хопіць у аўтара сілы самому не стаць ахвярай чорнага квадрата. Так навукоўцы ствараюць атамныя бомбы, біялагічную зброю, тыя ж самыя чорныя квадраты. Мой любімы пісьменнік Набокаў не абышоўся без чорнага квадрата. У «Лаліце» ён жангліруе нашымі думкамі і пачуццямі. Літаральна бярэ ў няволю, сее ў душы насенне пажады. Але, як сапраўдны мастак, як геній слова, выводзіць чытача на святло. Адной фразай здолен арганізаваць люстэрка, у якім сумленны чалавек, раптам пабачыўшы сваю звярыную сутнасць, апамятаецца, пачынае саромецца таямніц сваёй душы. Так ён паказвае кожнаму з нас, хто мы ёсць. І мы, не толькі яго герой, здольны смакаваць забаронены плод. Фразы заўважаюць адзінкі — чытаюць многія, не маючы патрэбы ў выратавальных сцежках, па якіх вядзе Набокаў чытача. Тым чорны квадрат і ўяўляе небяспеку. (Які пафас! Як з браневіка. Салдафонка! Як адкараскацца ад краснабайства? Нібы крытык савецкага рэалізму ў літаратуры, баючыся сказаць — чытаў з захапленнем, хавае ўкосную прыналежнасць да граху, вышуквае філасофскую мудрагелістасць.) Спыніла сябе Жанчына. (Проста ў людзей, што жывуць вышэй паверхам: у чыстасардэчнага Якаўлевіча ці Графа, магчыма і ў грубага, не пакручастага розумам Юры нават не з’явіцца падобнай думкі — спакусіць дзіця, разважаць яны не стануць чаму — нельга, і ўсё! Злачынца іх асяроддзя таксама не стане апраўдваць свой учынак тонкасцямі псіхалогіі.)

— Я люблю Набокава, давяраю яму ва ўсіх праявах, нават калі ён вядзе мяне праз чорны квадрат. Малевіча не люблю ні ў якіх праявах, хоць паважаю яго мастацтва ад галавы. Урэшце, трэба вучыцца пераадольваць самому чорныя квадраты. Вось чаму біблейскі яблык з «древа познания» быў забаронены. Калі ты штосьці выхапіў з няведамага, «познал доселе непознаное» — тым раўняеш сябе з Богам, дык і адказ нясі як Бог… Напэўна, лепш бы Набокаў не пісаў Лаліту, мне здаецца, так адчыняюць шырокія вароты граху.

Пасол пільна адсочваў выраз твару Жанчыны — раптам блісне які падвох — і паблажліва дазваляў сабе слухаць нібы ў задуменні, аддалена. Усё ж ніяк не забывалася звычка адчуваць сябе высокапастаўленай і

мнагазначнай асобай. Таму ніколі яна і не расказвала яму пра свой чорны квадрат, які не забавіўся, намаляваўся ў розных карцінах перш, чым Жанчына пачала задумвацца, чые інтарэсы выяўляе сваёй творчасцю. Такое пытанне абавязкова ўзнікне, калі карыстацца талентам стыхійна. І хоць у кожнай яе рабоце станоўчая думка вяршыла сэнс, выяўленне цемры ўпадабалася «прататыпамі», яны папёрлі з усіх бакоў засведчыць сваю прысутнасць, паспяшаліся адгукнуцца ў рэальных з'явах. Як зараз модна гаварыць у асяроддзі экстрасенсаў: партал адкрыўся. Творчасць аказалася прарочай, вобразы ўлезлі ў сны і падсвядомасць, распаўсюдзіўшы містыку на доўгія гады яе жыцця.

— А вы не задумваліся над загадкай булгакаўскага рамана? Хто такі Майстар? Каго мае на ўвазе аўтар? — запытаўся Пятровіч.

— Там загадкі не прадугледжваецца ў назве. Сам пісьменнік і ёсць.

Пятровіч пахітаў галавой, хітра ўглядаючыся ў вочы Жанчыны.

— Вось менавіта падобныя людзі, з кім я ўчора меў сустрэчу, — ён кіўнуў на бутэльку з вадой, — называюць сябе Майстрамі. — Пасол зноў падняў палец угору і пахітаў ім. Пальцы ў яго адпавядалі ўсяму абліччу і постаці — крэпкія, даўжэзныя. Звычка падымаць угору палец альбо круціць ім колы перад сабою пад час размовы, надаючы сказанаму рух і значнасць, былі характэрнай асаблівасцю гэтага чалавека. Мужчына з Жанчынай часта па-добраму жартавалі з улюбёных звычак і слоў Пятровіча.

— Булгакаў не мог гэтага не ведаць — работа Майстра — не пра літаратуру: пра майстэрства магаў, іх веды і здольнасці. Канечне, яны розныя! Адны ад… — Пасол ткнуў пальцам уверх, — другія… — палец выразна і дакладна змяніў кірунак. — Булгакаў намякаў на Маргарыту і таго, з кім заключыла змову.

Жанчына слухала без даверу, не жадала згаджацца. Ёй ад гонару нярэдка здавалася, што ведае лепш за іншых. Нават тварам не імкнулася прыхаваць не надта пачцівай упэўненасці. Тым больш, ведаючы з дзённікаў жонкі пісьменніка пра тэлефонную размову Сталіна з Булгакавым, здагадвалася, адкуль мог з'явіцца Майстар…

— Падтрымаўшы вашу думку, аспрэчу ёй жа. Хто, як не пісьменнік, ёсць празорца, мысліцец, уладальнік ведаў, той жа маг? Хто, як не пісьменнік, валодае майстэрствам перанесціся ў далёкае мінулае ці будучыню, распавесці чытачу падзеі сягонняшняга дня, таямніцы чалавечай душы? Талентам адным не агораеш. Тут патрэбна яшчэ дзевяноста дзевяць адсоткаў поту, вось якраз таго самага вялікага прафесіяналізму, рамяства, майстэрства. Ці змог бы Булгакаў расказаць пра Іешуа і Пілата так, быццам сам у той час разам з імі вёў гутарку, не будзь ён Майстрам, нават медыумам? Навошта яму намякаць, няма сакрэту ў рамане, з кім змовілася Маргарыта, як няма сакрэту ў тым, хто надыктаваў раман аўтару — чорны анёл, праваднік па містычных вандроўках Булгакава пад уплывам ма-

рыхуаны, цяжкай залежнасці, дазволенай самаму сабе роўна на той час, пакуль атрымліваў евангелле ад Сатаны… Гатовы на суіцыд, адракаўся ад УСІХ СІЛ, ад рамана, патрабаваў спаліць, рэвальвер прасіў, а за тры дні да смерці ўсё ж прыйшоў да міру ў душы, словы яго бацькі, навукоўца-святара, з дзяцінства: «Маліся, сынок, Бог выратуе цябе», — спраўдзілі. Булгакаў перахрысціў сябе, жонку, раман: «Пусть знают…» — аддаў на суд чытачу. Паказвалі чорныя сілы, але пісьменнік убачыў і апісаў тое, што жадала бачыць боская душа. Як бы ні вышуквалі ў рамане сучасныя крытыкі захаванай фігі — так зразумець сэнс хрысціянства, як Булгакаў, ніхто з іншых пісьменнікаў, якія адкрыта разважалі на гэту тэму, не здолеў. Не-не! Яшчэ Дастаеўскі, абсалютны хрысціянін, які ўсё жыццё змагаўся з бесамі, у сабе перш-наперш. А вось Талстой змагаўся аднолькава і з дэманамі, і з Богам, бо сам тытан…

— Якую цудоўную музыку напісаў да фільма Карнялюк! — змяніў кірунак гаворкі Пасол. Не любіў разваг, у якіх не адчуваў упэўненасці.

— Музыка харошая, але ў самых яе выразных момантах Карнялюк больш выяўляецца як выдатны прафесіянал, здольны стылізаваць пад класікаў старажытных часоў. Усе хады гармоніі, мелодыка пазнавальныя, шмат чутыя, са спадчыны таго ж Баха, Вівальдзі, Карла Орфа, але не цураюся — прыемна слухаць. Нават у стылізацыі адчуваецца шчырасць, высокі густ, талент… Усё ж ён значна вышэй за прафесіянала, бо адчуў: лейтматыў Воланда такі моцны, прыцягальны, магутны энергетычна, для яго спатрэбілася шмат музычных сродкаў. Зло заўсёды маніць, гіпнатызуе, спакушае. Зло ва ўсім і паўсюль, нават у самым высокім з дабрадзейнага. Толькі Збавіцель адзін не мае патрэбы ў прыкрасах і падсалоджванні: лейтматыў Іешуа — найпрасцейшая формула, пара гукаў, чыстых, тонкіх: прасыпаныя кроплі празрыстай нябеснай вільгаці на сухую пясчаную пустынь, як зараджэнне жыцця, як прысутнасць, як першае ўсведамленне ў сабе голасу сумлення. «Входите узкими воротами…» Сусвет трымаецца не на гімнах і маршах — вось такім лагодным чуткім рэхам сілкуецца свет. — Жанчына асеклася, яе зноў занесла з паўабарота, голас гучнеў, спіна выпрамлялася, вочы не заўважалі субяседніка — Пятровіч вытрымліваў позу, ён не ведаў добра музыкі, не прывык давяраць чужой думцы, маўчаў. Зноў змяніў тэму, прамовіў:

— Чамусьці мяне не пакідае добры настрой, веру — усё наладзіцца. Сон такі дзіўны сніў: Пуцін мне кажа — будзем разам працаваць, — памаўчаў, раптам звярнуўся да Жанчыны: — Давайце, пашукаю і вам харошае месца. На радыё ці тэлебачанні, там ёсць сябры. Не трэба тут заседжвацца. Наладжу сустрэчу.

— Не адчуваю пакуль такой магчымасці. Дэпрэсія ўсе сілы звяла.

— Ну вось праз сорак дзён пабачым, — Пятровіч кіўнуў на бутэльку з вадой.

Жанчына з цяжкасцю стрымала расчараванне. Сапсаваў Пятровіч свае намаганні дарэшты: якім бы моцным дарам ні валодаў яго знаёмец, прапанаваць ён мог толькі запасны прынцып формы. Сэнс усяму надаецца Богам, а значыць, толькі сам чалавек можа змяніць сваё жыццё.

Пятровіч піў каву, нетаропка еў наліснікі. Сягоння Жанчына начыніла іх сушанымі грыбамі, яйкамі, смажанай морквай і цыбуляй. Пасол заўсёды з ахвотай частаваўся ўсім, што стаяла на стале.

Ён прыязджаў пагаманіць з Жанчынай, калі дазнаваўся, што на базе яна засталася адна, але з-за празмернага гонару абаіх дыялог больш нагадваў маналогі. Маючы вялікую патрэбу ў роздуме і разуменні, ніхто з іх нікога не чуў і не слухаў. Праз паўвека пазёрства ПОМПА і роблены ТВАР перасталі адбівацца ў люстэрку задавальняючым вобразам самазначнасці, адтуль, іншы раз палохаючы, паглядала непазнавальная істота, вартая шкадавання. Праз гутарку хацелася намацаць, адшукаць штосьці трывалае, як доказ ці апраўданне свайго жыцця. Ён быў. Сэнс існавання. Абавязкова быў. Толькі трэба злавіць, ухапіцца, вярнуць яго, але менавіта ў гутарках, у чужых (падобна сваім) патушаных вачах назапашвалася яшчэ больш самоты, пустаты, расчаравання.

*

Чацвёрты мерны ўчастак мінскай сядзібы даўна быў прададзены. Яшчэ пад час ужывання «вавёрачак і зайцоў». Але ні сам гаспадарскі ўчастак з пабудовамі, ні прададзеная чвэрць і па сёння не мелі належнага папяровага афармлення. Грошы за продаж участка атрыманы толькі напалову. Пакупнік Літовец хаваўся ад органаў, яго маёмасць знаходзілася пад арыштам. Ішлі гады, паўпрададзены ўчастак зарастаў хмызняком. Нарэшце Літовец аб’явіўся. Апрануты, на першы погляд, вельмі проста, прыгледзеўшыся — увага пярэчыла: зусім не проста. Кожная дэталь вопраткі несла дасканаласць крою, пашыву, густу, якасці, адпаведнасці месцу, часу і характару. Гэта былі рэчы вышэйшага кравецкага майстэрства. Зусім малады хлопец здаваўся для свайго веку занадта заклапочаным, стомленым. Візіт прынёс немалыя грошы. Мужчына амаль і не спадзяваўся паймець ад зарослага бур’янам пляца яшчэ які прыбытак. Перажываў, што Літоўца пасадзяць, што дамова вялася пры старым фінансавым становішчы ў дзяржаве, напавер. Багацей не разменьваўся на дробязі, адлічыў палову цяперашняга найсапраўднага кошту падобных участкаў і даплаціў да раней атрыманай, сказаў: зямля ім перапрададзена. Справы цяпер будзе весці новы чалавек і ад заўтрашняга дня той пачне будаваць дом. Наступным днём прыехаў Новы Літовец, пазнаёміў з прарабам, які будзе займацца будаўнічым працэсам, паабяцаў разлічыцца разам за ўсе

расходы: належала забяспечыць будаўнікоў электраэнергіяй (левай, за якую напоўніцу разлічыцца народ), вадой, пасля афіцыйна аформіць новы дом на сваё імя і толькі потым перапрадаць участак і дом яму.

На вачах гаспадарскай брыгады пачаў разгортвацца працэс. У першы дзень нагналі магутнай тэхнікі, навезлі адмысловага будматэрыялу, агрэгатаў, прылад працы. Хлопцы з зайздрасцю назіралі праз акно, як разумна і шпарка можна весці будоўлю. Ім даводзілася больш разбураць зробленае ўчора, ламаць, перарабліваць па капрызах Гаспадара. Заўсёды чагосьці не хапала, мусілі надшываць, надточваць. Ні спрыту, ні навукі брыгада па большасці сваёй не мела, працавалі як маглі.

— Чаму б вам не наняць майстроў?

— А дзе я грошы вазьму?

— Вашы абходзяцца ўдвая даражэй.

Мужчына не слухаў нікога, ён прывык жыць ва ўмовах хаосу. Каб наняць майстроў, перш за ўсё трэба мець нейкі план, ведаць, чаго жадаеш. А з гэтым у Мужчыны і была самая галоўная праблема. Сёння яму бачылася так, заўтра жадаў іншага, потым зусім нічога не хацеў, праз тыдзень з яго перла энергія творчасці, яе ў сваю чаргу змяняў тайфун разбурэння.

Будаўнікі новага дома запрасіліся пажыць на базе, хоць тут не было ніякіх умоў. Да лазні, як і да туалета, падступіцца выпадала рэдка, бо дамок здавалі тры чатыры дні ў тыдзень. Спаць рабочыя згаджаліся на падлозе недабудаванага каркаса турэцкага комплексу. Выручыў знаёмы Прапар, нанёс спісаных салдацкіх металёвых ложкаў, матрацаў.

— Навошта вам гэты кагал у двары? Сваіх не хапае?

— Яны, магчыма, штосьці заплацяць, — няўпэўнена разважаў Мужчына.

— Заплацяць пяцьдзясят — пазносяць на пяцьсот. У доме электрапрыборы без нагляду валяюцца — вынось што душа пажадае.

— Усё адно яны тут хадзіць будуць кожны дзень: электрыку падключаць, ваду браць, захочуць вынесці — знясуць і так. Трэба выручаць суседа.

Спачатку кватаранты вылавілі і з'елі паўметровых карпаў — плёскаліся з вясны ў сажалцы. Іх Мужчына купіў пад пачатак новага сезону ў супермаркеце для весялосці гасцей. Потым спалілі электрычныя правады — яны не вытрымалі напругі, ледзь не ўчынілі пажар. Пакралі электратэхніку. Звезлі Тамару, маладую жанчыну, былую жонку памерлага брата Гаспадара, якую напярэдадні Мужчына запрасіў у прыбіральшчыцы. Сама Тамара на той момант яшчэ не паспела і рук абмакнуць у ваду, каб памыць падлогу, а грошы пад аванс выпрасіла, вось з імі і з'ехала, заадно прыхапіла і гаспадарскія грошы, якія праз яе перадалі кліенты.

Хутка новы дом паўстаў як карцінка, выбудаваны «на канцік» за тры летнія месяцы па ўсіх законах будоўлі. З крытым басейнам, альтанкай, шашлычнай, гаражом. Толькі на агароджу, яна дубліравала суседнія па

перыметру, фундамент заглыблялі ў грунт на метр. Сусед не падвёў. Хтосьці давераны з'явіўся перааформіць дакументы і даставіў Гаспадару базы неблагую грашовую ўзнагароду за турботы.

*

У двары спыніўся аўтамабіль з дыпламацкімі нумарамі.

— Яшчэ не паспеў замяніць, — шапнуў Міша Жанчыне, пакуль высокі прыгожы габрэй перадпенсійнага веку вылазіў з салона. — Беспрацоўным зараз ходзіць Георгіч, шукае харошую работу. Магчыма, па гэтай справе і з'явіўся да нас? Амаль год не бачыліся, праз плот жывучы, — штосьці сур'ёзнае прывяло…

Зорыч стаяў сярод двара, пацягваўся, выпрастаў загарэлыя рукі: спартыўны, выструнены, ні кроплі лішняй вагі, за ім з машыны коткай выслізнула маладая жанчына — Хрысціна. Яна без задавальнення падмеціла канкурэнтназдольны выгляд незнаёмкі, затое з радасцю прыкінула гады: Жанчына ледзь не ўдвая будзе старэйшая за яе. Хрысціна як медык беспамылкова разбіралася ў асаблівасцях узроставых катэгорый. І не раз заўважала: вось ступае выдатна дагледжаная, пелегаваная, бадзёрая, жвавая, молада пададзеная асоба, а ўсё ж ёй пяцьдзясят. А вось бяжыць дурніца пуставатая, абы-як апранутая, нячэсаная, непрадбачліва зморшчылася пад промнямі сонца… ёй няма і трыццаці. І нікуды ад веку не дзецца.

— Гэта не домработніца, — улавіўшы цікаўны позірк Зорыча на новую пры двары Жанчыну, на вуха яму патлумачыў Міша.

— Што я, сляпы, сам не бачу?.. Нарэшце ваш дом набыў душу, — апошнюю фразу Зорыч вымавіў голасна, падкрэсліў наўмысна, не без падсвядомага жадання закінуць вудзіла — раптам клюне. Хрысціна прытоіла раздражненне.

У першай сям'і Зорыча засталіся дзве дачкі на выданні. Ім і былой жонцы ён пакінуў кватэру. З новай жонкай Зорыч збіраўся жыць у загарадным катэджы. Часы вялікай Халявы скончыліся, катэдж застыў у нулявым перыядзе. Жыве зараз былы дыпламат з дваццацісямігадовай Хрысцінай у хлеўчуку, які некалі спехам зляпілі пад схрон будматэрыялаў. Дык вось павінен быў Зорыч прыняць сватоў, дазнаўся пра навіну ў дарозе. Вярталіся з вандроўкі ў Харватыю, яшчэ не выгрузілі чамаданы, мусілі стомленыя скіраваць да суседа (не даехаўшы да свайго ўчастка, ён знаходзіўся ў канцы завулка) дамовіцца арганізаваць сустрэчу сватоў у гасцявым дамку — у гарадской кватэры месца не хапала. Мужчына паслухмяна ківаў галавой, падлічваючы нечаканыя траты: трэба вызваляць выхадны, вяртаць кліенту атрыманы і даўно спушчаны аванс, выплаціць няўстойку. Потым думаць,

на якія сродкі пратрымаць брыгаду да наступных выхадных. Па яго твары не прабегла ні хмурынкі.

Ён расказваў з глыбокім жалем у вачах, як у дзяцінстве шкадаваў бацьку, той, працуючы ў міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі шафёрам, бывала, мусіў начальству па розных патрэбах: вяселле, народзіны, юбілей… лавіць рыбу. Як стомлены, не чуючы пад сабой ног, валіўся на дол выпрастаць спіну, цёр збалелыя, сцёртыя да крыві вузлаватай рыбацкай сеткай рукі. Магчыма, тады і ўелася ў хлопчыка звычка: бездакорная, безадмоўная цяга дагадзіць, прырупіцца выканаць любы загад вышэйшага па рангу.

*

Нейкім днём з самай раніцы штосьці ўзрушыла Жанчыну, быццам брала ў палон чужая воля. Дзесьці гадзіны за дзве да цягніка яна падхапілася, пазбірала неабходныя рэчы і заспяшалася на вакзал. Не было патрэбы так раптоўна выпраўляцца дадому. Кватэра пуставала. З мужам канчаткова развіталіся больш як дзесяць гадоў назад. Дарослыя дзеці жылі ў Мінску. Там, у пасёлку засталіся толькі пакаёвыя расліны, іх палівала каляжанка… А вось штосьці падарвала, панесла.

У дарозе яна забылася на трывогі, любавалася жывапіснымі краявідамі за брудным шклом аконнай рамы ад студэнцкіх часоў знаёмага маршруту. На лаве праз праход тварам да яе сядзела жанчына глыбока сталага ўзросту, але занадта дзявочага выгляду, і зусім не па прычыне лёгкага целаскладу і рассыпчастых бялявых валасоў: яна гуляла з тэлефонам у нейкую дзіцячую гульню, лавіла яйкі ў кошык з-пад курак-нясушак, голасна рагатала, падскоквала і ўскрыквала ад кожнага загнанага ў кошык яйка, прытым гук у тэлефоне раз за разам выдаваў рэзкі пераможны сігнал з музычнай узнагародай. Гэта сюррэалістычнае відовішча чамусьці трывожыла і палохала. Перапоўненая з выхадных электрычка спынялася пры кожным слупе. Наўсцяж расчыненыя дзверы пускалі па вагоне хвалю свяжэйшага паветра, у імгненне насычанага смуродам тамбура. Пасажыраў абдавала ліпкім пахам сумесі мачы, ванітаў і тытунёвага дыму. Моладзь сядзела пагалоўна ўтаропіўшыся ў экраны нэтбукаў і смартфонаў, сталейшыя боўталі галовамі ў дрымоце. На адным з прыпынкаў чацвёра хісткіх мужчын з цяжкасцю ўскараскаліся па высокіх прыступках вагона:

— Ацец кампазітара! — аб’явіў адзін з іх, як толькі ўторкнуўся з тамбура ў салон. Той, што ўвайшоў другім, гопнуўся на свабодную лаву і хутка гучна захроп, трэці заблытаўся ў лямках чужога заплечніка, там і застаўся на падлозе. Чацвёрты ашчадна падхапіў пад руку «атца кампазітара».

— Ацец кампазітара! — праз ікаўку паўтарыў той з вялікім здзіўленнем сам сабою. Прытым ён адштурхоўваўся ад пачатковай «А» і на «цец» рабіў кідок аж на вялікую септыму, а ўжо «кампазітара» адвольна пускаў уніз на глісанда.

— Абсядзься ўжо… — запатрабаваў сябрук ад яго, а потым звярнуўся да ўсіх пасажыраў адразу. — Вы не думайце, ён праўду кажа…

Адшукаў вольнае месца, пасадзіў свайго падапечнага, а сам узяўся прапанаваць з далані зліпшыся камок «эм-энд-эмс», настойліва і пяшчотна ўгаворваючы тых пасажыраў, якія адмаўляліся. Пакінуты на нядоўгі час ацец кампазітара, як вялікі мыслівец абхапіў лоб даланёй левай рукі, апёрся локцем аб шыбіну:

— Ацец кампазітара, — задумліва выводзіў ён, вагон падскокваў на стыках, шыбіна па-здрадніцку спіхвала руку — локаць коўзаўся, ацец кампазітара дзюбаў ілбом у акно.

Той, што раздаваў цукеркі, добразычліва тлумачыў.

— Праўда-праўда, ацец… Вы прабачце нас — крыху папарыліся ў лазні, на сядзібе, тут недалёка адпачывалі, — тыцнуў ён адтапыраным вялікім пальцам свабоднай ад эмэндэмса рукі за спіну з-пад вуха, удакладняючы напрамак. Словамі адрасаваўся ён да салона агулам і адначасова да кожнага асабіста.

— Ацец кампазітара!

— Сядзі ты ўжо, сын ты турэцкаподданага… Праўда, ён ацец кампазітара, чулі, «Лепрыконсы» такія пяюць? Тоўсценькі, лупаценькі, глаўны, ціпа, там такі… яго сын, — чалавек зноў скарыстаў адтапыраны палец вольнай рукі, на гэты раз торкнуўшы ў напрамку прыяцеля. — Во нада сыну кватэру купляць — перажывае…

— Ацец кампазітара…

На гэтым жа вясёлым паўстанку у вагон зайшоў прыемнага выгляду мужчына, ён доўга выглядаў месца і нарэшце вызначыўся, сеў насупраць Жанчыны, здавалася, вось-вось завядзе з ёй гаворку, але яўна збянтэжыўся далёкага адчужанага позірку, ніяк не мог рашыцца загаварыць. Жанчына ж імгненна рассакрэціла ўсе яго задумы. То быў відавочна бясхітрасны адзінокі чалавек, заклапочаны пошукам пары. Чакала, калі ж загаворыць, ды чаканне зашмат перавысіла патрэбны для моманту тэрмін.

— Можна запытацца, куды вы едзеце? — нарэшце асмялеў.

— Дамоў, — усміхнулася Жанчына

— Адкуль?

— Вельмі доўга і складана распавядаць…

Сапраўды, адкуль яна едзе? Здаецца, зараз там, у Мінску, на нейкі час арганізаваўся ДОМ, але не растлумачыць чужому чалавеку, як дарослая самастойная жанчына ў паўвекавым узросце апынулася ў чужым доме. Пакінула музычную педагогіку, якой вучылася пятнаццаць гадоў і аддала

большую частку свайго жыцця, пакінула ўсіх знаёмых, былых калег… і жыве сярод бадзяк і беспрытульных на правах няведама каго.

Затое яго прарвала… Чалавек за дзесяць хвілін распавёў пра сваё жыццё ўсё патрэбнае і не зусім. Едзе да радні, і тое — лёс! Бо ніколі не ездзіў цягнікам: аўтамабіль учора зламаўся. Мінула некалькі гадоў, як памерла жонка, застаўся з дачкой. У спешнай аднабаковай размове лёгка ўлоўліваліся і галоўныя рысы яго характару, і захапленні, і жаданні, і патрэбы. Не маё, — расчаравана адзначыла Жанчына. Спачатку перад ёй сядзеў загадкавы, прыгожы, акуратны чалавек, магчыма, добра адукаваны, не дурань — факт, з харошымі намерамі. Калі загаварыў — уражанне змянілася ў сутнасці. Нібы пракурор, запісаў усе даныя пачынаючы ад тэлефонных нумароў, адрасоў, дзявочае прозвішча, паведаміў, што ўсё жыццё марыў менавіта аб ТАКОЙ. Шматслоўе, неразборлівасць тэм таропкай гаворкі, адсутнасць адчування субяседніка, упамінанне пры жанчыне імён сваіх сяброўак, шыракаваты рот не прадказвалі ні тонкай натуры, ні інтэлігентнасці, выдалі схільнасць да пляткарства, адрэзалі магчымасць зацікавіцца ім як асобай процілеглага полу. Жанчына наўмысна прыхавала ранейшую цеплату і прыхільнасць позірку, каб дарэмна не сазвадзіць чалавека і не даваць марнай надзеі. Спадарожнік не рупіўся на тое звяртаць увагі. Ён зайшоў у планах так далёка, што без сораму запытаўся аб наяўнасці ў яе прыватнага жытла, ашаламіў рашучасцю прадаць сваю трохпакаёвую кватэру ў Слуцку і Ў СКЛАДЧЫНУ купіць аднапакаёўку ў Мінску, дзе яны і паселяцца разам. Жанчына засумавала, ёй вельмі шкада было пакрыўдзіць чалавека, але хацелася запытацца, ці не перавернецца ў магіле яго жонка ад такіх учынкаў і дзе ён збіраецца пасяліць дачушку-студэнтку, чыімі законнымі квадратамі збіраецца гандляваць. І чаму ён зусім не цікавіцца, ці марыла Жанчына пра яго? Знешне ўсё ў ім адпавядала яе густу, акрамя вось гэтых маленькіх няўвязачак. Чалавек кінуўся выходзіць з ёй на станцыі, з чыстым сумленнем забыўшыся на радню, да якой ехаў такі свет: Жанчына забараніла. Спадарожнік беспардонна палез цалавацца пры развітанні.

— Што мы, малыя? — здзівіўся яе негатоўнасці да такога павароту. — Чаго нам баяцца? Чаго маляваццa і вычэкваць? Нашы гады ўжо падлічаны.

— Як мінімум, майго жадання.

Чалавек аказаўся цярплівым, не пакрыўдзіўся…

За доўгі час адсутнасці гаспадыні ўсе рэчы, мэблю, падлогу ў доме зацерушыла тоўстым ліпкім пылам, пакуль адчысціла збальшыны, лягла пад раніцу, і тут жа, здалося, пабачыла сон, галасы: «Ты сягоння еў?» — «Не. А ты?» — «І я не. Галодны». Адкрыла вочы, гадзіннік перакінуў стрэлкі за поўдзень, падышла да акна, аказалася, што не ў сне, а проста побач за шклом размаўлялі маленькія, гадоў сямі-васьмі, хлопчыкі. Адзін

быў з суседняга дома, другі, таварыш яго, жыў далей, за стадыёнам. Яны абдзіралі яшчэ зялёныя дулі з чужога дрэва і планавалі.

— Давай здадзім бутэлькі і пойдзем чаго купім паесці.

— Не! Лепш айда ў «Major» (ігравыя аўтаматы).

— У мяне поўна бутэлек дома, але баюся мамкі — яна спіць.

— Тады пайшлі ў мяне набяром, мая не начавала дома.

На зваротным шляху спантаннай вандроўкі Жанчыну зноў чакала дзіўная сустрэча. На гэты раз з былым, з маладосцю. Ужо на самым пад'ездзе да базы ў сто трынаццатым маршрутным яна адчула якуюсь знаёмую хвалю, штосьці магніціла злева. Але патрэба выходзіць з аўтобуса выбавіла ад увагі. Памеж у кагосьці зазваніў тэлефон, яна механічна азірнулася і сустрэла вочы ў вочы… ЯГО. Зусім не ўсхвалявалася — быццам учора развіталіся. Прайшло, значыць. Ён паспеў хуценька саскочыць разам з ёй на прыпынку. Ад першых слоў пачаў скардзіцца на жонку, дзяцей, іх няўвагу і няўдзячнасць. Хоць жыве даўно з новай сям'ёй, і ў гэтай усё дрэнь. Аказваецца, успамінаў і ўсё жыццё кахаў толькі ЯЕ… (Кахаў, а ні словам не запытаўся, чым яна жыла гэтыя дваццаць пяць гадоў.) Вось лёс! Ён ніколі не ездзіў агульным транспартам — зламаўся ўчора аўтамабіль. Я ж мог сесці раней ці пазней, аўтобусы ходзяць літаральна праз тры хвіліны. Я мог ехаць у канцы другой паловы салона, перахопленага пасярэдзіне чорным гумовым гармонікам. Я лёгка мог цябе не заўважыць: пасажыраў біткам. Нарэшце, каб не тэлефонны званок, дарэчы зусім выпадковы, памыліліся… Гэта лёс! Мы сустрэліся, каб больш ніколі не развітвацца!

— Табе скінуць кілі тры, крышачку пахудаць і заняцца спортам, каб падцягнуцца ў паставе, дык фігурка зусім як у семнастоўкі — во! — падняў ён уверх адтапыраны палец. — Ногі ў цябе вельмі прыгожыя да кален… Слухай, ты па-ранейшаму такая ж рэзкая! Усе жанчыны мяккія характарам, уступлівыя, лагодныя. Ты зусім непадатлівая, уладная ты, трэба мяняць звычкі — з мужчынамі нельга так. З мужчынамі жанчына павінна быць памяркоўнай, пакорнай, ласкавай… У мяне столькі фотаздымкаў, я, ты павінна памятаць, заўсёды сур'ёзна захапляўся фатаграфіяй. Заўтра сустрэнемся, пакажу — клас! Паслухай, дарэмна ты цікавішся філасофіяй, ці ўжо кінула? Гэта не для жанчыны. Майго інтэлекту хопіць на дваіх. У нядзелю буду іграць на гарадскім свяце на плошчы, абавязкова прыходзь паслухаць — інакш пакрыўджуся. Я новы інструмент асвоіў, саксафон, ты павінна памятаць, я не іграў раней на саксафоне…

Шэры пляскаты твар, невялікія шэрыя вочы, знарочыста ў падгледжаную дзесьці ўсмешку складзеныя вусны, як у маладосці жаночай заколкай прышпіленая прадка даўжэйшых на макаўцы валасоў. Усё гэта калісьці падабалася?! І амаль жа не змяніўся, хацелася найхутчэй адкараскацца ад яго скарг, енкаў і самалюбавання.

Што адбываецца з людзьмі, калі яны кахаюць? Гэты НАБОР некалі мог палымяніць душу? Асветлены незямным агнём кахання, надзеі, абяцаннем шчасця, змушаў кленчыць у неба: «Дай таго, каго люблю!» Жанчына спыніла бясконцы паток слоў. На яе жаноцкую сутнасць пачала па-драпежніцку пасягаць клікуша: хацелася выць, крычаць, змагацца, галасіць, бараніцца, даказваць, абражаць…

Наколькі жыццё разумнейшае за нас. Прайшоў час — і паказала, якімі мізэрнымі былі жаданні і якую памылку ўтварыла б яна, калі б неба «атаварыла» тую адчайную просьбу. А магчыма, не так? Закаханым Бог даваў СЭНС, якому яны не здолелі знайсці форму. Тым далёкім летам узамен ЯГО Жанчына атрымала… жаданне маляваць.

Што гэта было з ёй, што за вандроўка, што за сустрэчы?! Яна прывычнымі рухамі ў поцемках торкнула ключ у адтуліну, дзверы пакойчыка адчыніліся, на вочы трапіла пустая бутэлька з-пад палескай вады, прывезенай Паслом з Пушчы. Сорак дзён прайшло! Дык вось яна, форма! Магія сфармавала шанц выратавання ад дэпрэсіі… (Як у тым анекдоце пра самотную дачушку-хахлушку: «Што, доню, маркотішся, галушачак хочаш? — Ні, мамо! — Можэ, варэнічків дать? — Ні-і! — Да хрэна вона хочэ! — адзываецца злы бацька. Маці зноў за сваё: — Можэ, пампушачак прыгатавать? — Та змоўкніце вы, мамо, нэхай тато гаворэ!» Адна сустрэча з мінулага, як аддадзеная запазыка. Другая, як магчымасць стварыць будучыню. Ведаў бы Пятровіч, што за камедыю выштукавала яго вадзіца. І чаго каштуе пустая форма без сэнсу?

Чалавек заўсёды ў пошуках новых і новых форм, шукае тую, якая асэнсуе вечнасць. Сапраўды, на нейкі час дасканаласць формы здольна выкупіць ідэю ў вечнасці. Час — барацьба ідэі з матэрыяй… Самым галоўным формам, якія чалавеку дадзены і ў якіх сам існуе, чалавек не здолен адшукаць сэнс: жыццё, сусвет. Самым загадкавым ідэям ён не ў сілах знайсці адпаведнай формы: Бог, смерць. Чалавек бачыць канец жыцця і ніколі, пры жыцці, форму самой смерці. Няма іншага варыянту суіснавання ідэі з матэрыяй, формы з сэнсам, акрамя барацьбы… Праз доўгі час лёгка пройдзе мастацтва, літаратура, музыка, штосьці з пералічанага здольна заставацца вечна.

*

За акном спыніўся КамАЗ, злосна пчыхаючы, паторгаўся яшчэ крышку, дакаціў да самай гурбы пяску. Загрукатала, пасыпалася каменне, аформілася па-суседску ў такі ж грудок. Вадзіцель, шырачэнны ў плячах, крэпка збіты чырванашчокі каратыш Саша, гукнуў кагосьці не вылазячы з кабіны.

— Спіць? Перадайце, каб дапісаў да тых грошай, што вінен мне, яшчэ столькі ж. А то будзе як тады — непярэліўка… Ям накапалі — машыны не развярнуць! Нахалера ям накапалі, пытаюся?

— Каб заўтра было што закопваць, — незадаволена прабурчэў хтосьці з хлопцаў, будаўнікі і без Сашы клялі сваю долю, не работа — здзек: сёння майструеш — заўтра ламаеш!

— У цябе не запыталіся.

— Мы ж не пытаем, дзе ты бярэш гэтае каменне-бярвенне.

— Лепш да нас не чапіся.

Саня нічога са сказанага не чуў, пыліў сабе ў бадзёрым настроі на сваім аранжавым КамАЗе па добрай лясной дарозе ад Канюкоў да шашы, яго чакалі яшчэ ў дзвюх вёсках.

*

Гэту вясковую дарогу праклалі выпадкам. Хацеў адзін фермер грунтоўна заняцца бізнесам, падвёў пад'езд да фермы, убахаў мільёны — штосьці не заладзілася. Не далі чалавеку разгарнуцца. Дзякаваць яму, дарога засталася. На жаль, хадзіць па ёй ужо амаль нікога не засталося. Вёсачка Канюкі якраз і стаіць на гэтай дарозе адна, схаваўшыся за лесам у кіламетры ад бойкай асфальтаванай шашы, налічвае дзесяць хатак. У трох дажываюць гаспадары, у тры пакуль што былыя наведваюцца з горада на лецішча, а чатыры хаткі з'яўляюцца патэнцыйным таварам для нашага Мужчыны. Дзве паспеў аформіць, за трэцюю мнагавата запрасілі, чацвёртага дамка гаспадыня набівалася з прапановай, ды гора перакруціла ў яе галаве парадак. Сына забілі ў хуткім часе, і памяць жанчыны зрабіла такі дзіўны віраж — паўтарае ў тэлефонную трубку, што даўна куплена яе хатка нейкім юрыстам, тым, што дамы ва ўсёй вёсцы купляе. «Ды не паспеў я выкупіць, давайце сустрэнемся, грошы аддам, аформім». Не слухала далей жанчына, памяць яе не жадала пераходзіць у наступны дзень, спынілася на тым, апошнім, яшчэ з сынам, і жыла год ад году адным днём. Так і застаўся пуставаць і трухлець самы завідны па месцу знаходжання, у пачатку вёскі на лясной прагаліне, крэпка складзены з адборнага бярвення пакінуты дом. Гаспадыня даўна жыла ў Мінску.

Мясціны толькі шчопаццю не прыпісалі да Бярэзінскага заказніка, лес стаяў здаровы, дагледжаны, жывы і прыгожы. Нахабныя дзікі, не зважаючы на людзей, сноўдалі па ўскрайку сасновага бору, перамешанага з векавымі высачэзнымі дубамі, корпаліся рыламі ў лёгкай, багатай жалудамі глебе. Стайкамі танканогія козачкі скублі траву пад высакавольтнай лініяй электраперадач, гордыя ласі няспешна спускаліся сербануць халоднай вады. У нізіне, за другім дамком Гаспадара, сплanaваным пад гасцявы —

стаяў на самым высокім месцы паселішча, апошнім перад лесам, ён замыкаў вясковы ланцужок, — біла крыніца. Першы дом, невялічкі і не надта зайздросны, адведзены пад жытло рабочай брыгады, стаяў у сярэдзіне вёскі, але ніхто не трымаўся намечанага распарадку. Усе, не толькі рабочыя, вяскоўцы, леснікі, паляўнічыя, грыбнікі-ягаднікі, цягнуліся ў гэты абжыты добраўпарадкаваны гасцявы дамок выпіць, пагутарыць, пагрэцца, памыцца ў лазні. Нават калі не было гаспадара, рух у дамку не перапыняўся. Замыкаліся дамы ўмоўна, ключы заўсёды трымаў хтосьці з работнікаў ці які сусед. Ды і калі замыкалі — толькі галоўны ўваход з дарогі: ад лесу і з бакоў дзверы стаялі расчыненымі, хоць перавезена было ў канюкоўскі дом шмат, шмат, шмат дабра.

Першапачаткова дом стагадовага веку ўяўляў сабой звычайны аднапакаёвы зруб. Ну, вядома, з невялічкімі сенцамі, ганкам. Ці ад блізіні лесу, ці ўжо па нейкай удалай майстравітай завядзёнцы, сцены дамоў у гэтай вёсцы выводзілі з рэдкасна здаровага, ледзь не ў паўметра дыяметрам бярвення, такія ж бэлькі пад столлю — крэпкія, звонкія. Пры дамку сад праз дарогу. Па гэтай дарозе, занадта вузкаватай для цягачоў і бульдозераў, усё ж шнуравала штодзённа туды-сюды цяжкая тэхніка лясгаса. Як пераўтвараўся дамок, пакрокава расплануе любы шараговы ўдзельнік будаўнічай брыгады.

Нумар першы: забетанаваць усё, што паддаецца цэменту. Другі крок: пазакладаць вокны, трэці — панапраразаць дзірак у сценах, нарабіць дзвярэй, а паколькі дзвярныя каробкі па неахайнасці работнікаў і нядбайнасці Гаспадара ніколі не супадуць з праёмамі, дзірак рабілася з запасам: магчыма, якіясь супадуць. Усталёўваліся басейны. Колькасць іх залежала ад многіх наяўных… Мог фігураваць спачатку гумовы надзіманік, прыдбаны пад час распродажу ў спартыўным гіпермаркеце. Так ці іначай гэтаму басейну, хоць і купленаму нярэдка за велізарныя грошы, не наканавана прастаяць больш за тыдзень-два: суседскія дзеці альбо свае работнікі прарвуць, не забавяцца. Х… з ім, махне рукой Гаспадар. Капаем сапраўдны! З праточнай вадой, прыступкамі, насосам і марозатрывалай пліткай.

У дадзеным выпадку, пры дамку ў Канюках, басейн узнік роўненька праз дарогу ад хаты! Пад жывапіснымі бярозкамі, пры садзе. Паўз яго шчыльна-шчыльна, упрытык, цягачы тралявалі бярвенне. Агаломшаныя трактарысты з шафёрамі ледзь не скідвалі прычэпамі дамок з падмурку ад здзіўлення і разгубленасці.

Далейшымі нумарамі к дамку прыбудоўвалася процьма прылёпышаў-прыкілкаў «ціпа — эркер» з імі — бяда! Задумаецца адзін, набягае мроя — і ўжо распачаты акружае новы, прытым няўвязка, прыходзіцца падраўняць трэцім. Добра каб на трэцім спыніліся. У працэсе будоўлі і наогул усяго жыцця ў Гаспадара трывалы комплекс недавершанасці. На-

вязліва малюецца перспектыва асваення новай і новай прасторы. І вось пабудова стаіць утрая, у чатыры разы шырэйшая за першапачатковы варыянт. Каб з дамка паглядзець на двор, трэба позіркам пераадолець дзве-тры заслоны вокан — сцены кругаля абрастаюць новымі сценамі, потым яшчэ раз дабудоўваюцца па перыметру. Фігурна-мудрагелісты дах, магчыма, і прастаіць пару зім, шкада, як пацячэ раней. Паўднёва-ўсходнім бокам дамок дэманструе новую лазню. Да лазні патрэбен басейн. Той, што выштукавалі ранейшым нумарам — далёка, не бегаць жа з парылкі круг дома праз дарогу акунуцца навідавоку ўсёй вёскі і леснікоў разам з трактарыстамі. Вось новы і будавалі зімой перад святамі, калі прыязджаў Пасол (тут ён свой, заўсягдаты). Прыйшла вясна, сонца прыгрэла, зімовая кладка пасыпалася — басейн сумным грудком бетону і цагляных кавалкаў напомніў аб кароткачасовасці матэрыі, заадно і чалавечых памкненняў. Такая з’ява найярчэй характарызавала асобу і дзейнасць Гаспадара.

*

Колішні Спадарожнік, які збіраўся прадаваць кватэру ў Слуцку, хутка аб’явіўся.

— Я тут. Выходзь. — паведаміў ён праз тэлефон.

— Дзе тут? — не зразумела Жанчына.

— У Мінску, літаральна на тваёй вуліцы. Захацеў зрабіць сюрпрыз.

Жанчына не любіла такіх сюрпрызаў.

— Доўга ты дабіраўся?

— Адрамантаваў машыну, дык за гадзіну, лічы, і дабраўся.

— Мне шкада, але я знаходжуся зусім не там, дзе стаіш ты. У Браславе я. Чаму не папярэдзіў? Я казала, што ледзь не кожны дзень бываю ў вандроўках па Беларусі, у розных сядзібах…

Спадарожнік праявіў настойлівасць, з’явіўся праз тыдзень, на гэты раз без сюрпрызаў. Яны гулялі па батанічным садзе.

— Ты надта шпарка крочыш, — казаў ён, прытрымліваючы Жанчыну за локаць, — не спяшайся… Чаму ты такая непрыветлівая ў тэлефонных размовах, калі званю па вечарах?

— Званок апоўначы мне здаецца кантралюючым. Ці не збіраешся ты мяне ў чымсьці выкрываць? Я без сакрэту магу табе распавесці ўсё, пра што жадаеш пачуць. А яшчэ мне не цікава слухаць, як ты пералічваеш паўсядзённыя справы: памыў бялізну, развесіў на балконе, зварыў грэчневую кашу, і наогул не цярплю доўгай балбатні. (Ой! З якой радасцю яна слухала б тую ж самую балбатню і паўсядзёнку, каб тэлефанаваў жаданы…) Размовы па мабільнаму небяспечныя. — Хоць апошняй фразай Жанчына рашыла пажартаваць, змякчыць словы.

— Паўгадзіны размаўляць можна, — не ўлавіўшы гумару, па-ментарску напомніў Спадарожнік.

— І ты вырашыў апрыходаваць увесь мой ліміт.

— У цябе непадатлівы характар. Ты ўладная крышачку. Надта дзецьмі заклапочаная, толькі аб іх думаеш, толькі пра іх размаўляеш, трэба пажыць для сябе — колькі нам засталося. Не запавольвай хаду — ніяк не пападзём крок у крок… Ты ведаеш, я плачу па начах ад таго, што сустрэў мару ўсяго свайго жыцця, — задумліва дадаў ён.

— Каб толькі я сустрэла мару свайго жыцця — глядзела б у вочы адкрыўшы рот і не смела перавыхоўваць чалавека на свой капыл. Не крыўдуй, я не хачу замарочваць тваёй галавы. І не ўладная я зусім, проста не дазваляю нікому кіраваць сабой. Я і без таго занадта строгі крытык свайго жыцця, не маю лішняй вакансіі ў працэсе самабізування. Жыла я да цябе пяцьдзясят гадоў і далей пражыву, прабач.

Ён яшчэ доўга тэлефанаваў, спрабаваў штосьці тлумачыць, апраўдваўся залішнім хваляваннем. Так і было. Спадарожнік зусім не кепскі чалавек, то бачна з першага погляду, але побач з ім яна адчувала дыскамфорт і зусім не адчувала пяшчоты ў сваёй душы. Каб ён не прыспешваў, не папракаў, не падазраваў, не лавіў, крышачку пацярпеў. Магчыма, між імі зарадзілася б штосьці кранальнае. Папракала сябе за няздольнасць суіснаваць з мужчынамі. У чарговы раз спраўляла трыумф над жаноцкасцю, хоць ведала: жаноцкасць — першапачатак Боскага.

Некалі ў яе была вялікая шумная сям'я. Муж, трое дзяцей, бацькі, сябры, суседзі, вучні, калегі, любімая работа, у якой была прафесіяналам. Ніколі яна не пашкадавала, што развіталася з мужам, шкадавала, што так склаўся іх лёс, які наканаваны быў стаць шчаслівым, ды не хапіла выхавання абаім, не хапіла сумлення аднаму, не хапіла цярпення другому. Развод — гэта не толькі перамена адраса былых мужа ці жонкі, гэта абсалютная страта максімальнай долі дынамічнага стэрэатыпу наладжанага жыцця. Учора дзверы не зачыняліся ад вясёлых сяброў мужа і дзяцей, якія без дазволу ўламваліся сярод ночы. Мужа няма, і сяброў таксама няма, адзінокай жанчыны асцерагаюцца сяброўкі і суседзі. Дзеці паехалі вучыцца, адзін за адным памерлі бацькі. І вось дзверы не зачыняюцца па дзвюх прычынах. Альбо ніхто іх не адчыняе, альбо іх няма каму адрамантаваць. Жанчына бярэ ў рукі абцугі, цвікі, малаток і перастае быць жанчынай. Большая свабода зусім не гарантуе, а магчыма і наадварот, спрыяе страце шчасця. Свабода і шчасце — не сінонімы. Пакуль у чалавека ёсць што губляць з самага дарагога, ён не можа быць свабодным, затое шчаслівым быць можа толькі пры наяўнасці таго, што баіцца страціць. Адной з прычын яе дэпрэсіі стала адзінота. Вельмі страшна існаваць адной, яшчэ страшней суіснаваць з ЧУЖЫМ. Чужым для цябе чалавекам. Ёсць людзі, якім паўсвету гадзіцца да пары, і такіх большасць, ёсць людзі,

каму толькі — адзін, яшчэ і такія ёсць, у каго даўно знойдзена палова, і яна ў самім чалавеку.

Трэба было доўгія гады адпакутаваць, каб зразумець: адзінота — уласны выбар. Ніхто не караў ёю і не змусіў на яе.

Па маладых гадах чалавечы лёс вядзе род і карма: узнагароджвае бядой, калецтвам альбо ўдачай, шанцам, дапамагае… Чалавеку сярэдняга веку не перашкаджае, не турбуе альбо моцна выпрабоўвае, калі чалавек не здолеў вызначыцца з напрамкам; пачынае пазбаўляцца, калі той не даказаў свету патрэбы ў сваім існаванні. Са сталым чалавекам — разлічваецца.

*

Дагніваюць свой век дамкі ў невялікіх вёсках па ўсёй Беларусі. Пакінулі іх жыхары не ад вялікай раскошы — ад немагчымасці выжывання. Цяжкая праца ў калгасе за капейкі. Ад ранку да змяркання ў полі ці ў смярдзючым кароўніку, потым свая гаспадарка, без яе не пражыць селяніну. Акрамя тэлевізара, яго і глядзець няма часу, — ніякай прадухі. Бальніца, паліклініка, школа далёка, садка няма, магазін — назва адна, нават па самае неабходнае даставайся ў раён. Непагаддзю па вуліцах не прайсці. Моладзь, якая засталася ў вёсцы, амаль усе без працы бадзяюцца, хварэюць на гарэлку. Большая частка і саміх вяскоўцаў дажываюць нішчымнікамі, жабракамі на мізэрную пенсію, дачакаўшыся яе, купяць у аўталаўцы бутэльку, так і бавяць час, страціўшы цікаўнасць да жыцця. Летам грыбы, ягады ратуюць бюджэт. Адзінкі самых трывалых, цярплівых, цяглых, старанных выстаялі ў нялюдскіх умовах, не спіліся, не паніклі духам: вывучылі дзяцей, выправілі ў горад і да старасці працягваюць дапамагаць дзецям зараз ужо выжыць у сучасным горадзе.

Раптам кошт на дамы сігануў у дзесяць, дваццаць, у сто разоў, калі вёска ля вадаёмаў на Браслаўшчыне, у Нарачанскім раёне ці ля багатых прыродных заказнікаў, ды яшчэ па першай лініі ад вады. Выкупляць сталі не проста па аднаму дому — цэлымі вуліцамі, вёскамі. Ніякія забароны і цыркуляры не дзейнічаюць там, дзе законам правіць хабар. Азёры літаральна абгарадзілі двухметровым плотам — жыхарам вёскі да берага не даступіцца. Фальваркі растуць як грыбы. Штрафы, выстаўленыя за парушэнне прыродаахоўнымі структурамі, — не памысліць простаму чалавеку якой велічыні! — гаспадарамі прыбярэжных катэджаў выплочваюцца лёгка, бы міласціна жабракам. І працягваюць будаваць лазні на вадзе, каб з парылкі ад парога даваць нырца. Вёска на возеры Снуды таксама скуплена больш як напалову. Замест былых невялікіх дамкоў пабудавалі прыгожыя сучасныя катэджы з каліброванага бярвення. З лазнямі, гаражамі, стацыянарнымі электраветракамі.

Сезон адпачынку адкрываецца маштабна. Наязджаюць госці з-за мяжы. Новы барын з сябрамі прылятае з Мінска на чатырох маленечкіх верталёціках. Рознакаляровыя: чырвоны, жоўты, блакітны і зялёна-плямістай вайсковай расфарбоўкі. Аблятаюць азёры, кружаць над вёскай. Па вуліцы носяцца джыпы з квадрацыкламі, бабахае салют. Вёска ажывае, і магчыма, у тым яе будучыня. Толькі шкада, як заўсёды апошнім у гэтым працэсе застаецца тутэйшы селянін. Яму і ногі памачыць у вадзе няма як. Рыбіны злавіць на вячэру не выходзіць. Штрафуюць.

*

Ноччу прачнуліся ад грукату ў дзверы. Таксіст патрабаваў заплаціць за кліента. Прывёз Косцю. Дваццацітрохгадовы хлопец, прыгожы, стромянькі, акуратныя рысы эмацыянальнага твару, толькі абвостраная нервовасць яго, прасвечаная знутры тонкай скурай, выдае няпросты лёс хлопца. Косця вярнуўся з «вялікіх заробкаў». На пачатку вясны завёўся з Мікалаевічам, псіхануў, у Косці злосць у адзін момант! Паехаў у Піцер, там тысячу у. е. за такую работу даюць! Калі ласка, адказаў Мужчына, — шчаслівай дарогі. Лета скончылася. Пайшлі дажджы. Да віртуальных тысячаў у. е. жытло, вопратка і ежа не дадаваліся. Вярнуўся Канстанцін у дзіравых красоўках, абтрапаным швэдары, купленых яшчэ ў Мінску зімой да вялікіх заробкаў, з таксістам у дадатак — заплаціце.

— Ён казаў — хазяін заплоціць. Што я, дурань, за горад вазіць дарма?!

Гаспадар пашукаў па кішэнях, сабраў некалькі купюр — хопіць? — (Добра, што з вас возьмеш.) — і, ні словам не адазваўшыся да Косці, пайшоў спаць. Косця накіраваўся ў суседнюю пабудову, дзе на другім паверсе начавалі работнікі: яму цікава было паглядзець, хто зараз тут, хто сышоў, хто вярнуўся, што адбываецца новага. Вось і Жанчыну, якая кінулася сварыцца з таксістам, ён бачыў упершыню, трэба запытацца, хто такая. На заўсёдных работніц, якіх падбіралі на трасе ці ў вёсках для падсобных работ, зусім не падобная…

У начлежцы нечакана сустрэў свайго роднага брата Віталіка, на пару гадоў старэйшага, але таксама гаротнага, не здольнага хватка ўчапіцца за жыццё. Яго на мінулым тыдні выпусцілі, сядзеў за запазычаныя аліменты. Віталік вышэйшы ростам, постаццю не такі зграбны, худы, твар з адценкам глыбокага смутку і разгубленасці. Ён быў мала падобным на Косцю адкрытага, даверлівага, рызыкоўнага, занадта эмацыянальнага — маўклівы, пануры, ні з кім не гуртаваўся. Пры той розніцы, адзін і другі за сябе кулакамі пастаяць маглі, жорстка абгасіць нападкі крыўдзіцеляў. Віталік, як і Косця, некалькі разоў трапляў сюды на базу, ды ніколі надоўга

не затрымліваўся. Дзе ён табарыўся потым, невядома, хутчэй, зноў і зноў адбываў свае аліменты альбо які невялікі крадзеж.

Апошнім разам быўшы тут пры двары, Косця ледзь не ажаніўся. Паездка буддэсантам на браслаўскую сядзібу прынесла яму шалёнае каханне. Танька, баявая блакітнавокая маляўка ад пятнаццаці сваіх гадоў разам з мамкай, вясёлай выпівохай Зінай, сябравала з работнікамі гэтай брыгады, хтоналіваў, той адчуваў сябе іх кавалерамі. А Косця ўлюблівы, шчыры, гарачы — закахаўся. Ледзь адгаварылі не спяшацца. Вось паедзеш у Піцер, бабла награбеш, тады і жаніся. Куды ты сваю жонку прывядзеш? — смяяліся з яго ў брыгадзе. Косця плакаў употай. Зараз Танька лічылася паўнапраўнай жонкай белабрысага Толіка і жыла тут жа, разам з усёй брыгадай у адной каморы.

*

Толіка прывёў у брыгаду Вася са Слабодкі, што ля Браслава. Вася доўга не пратрымаўся ў Мінску, злавілі яго з дзвюма вялізнымі сумкамі ў задніх варотах. Хлопец збіраўся паехаць дамоў на пабыўку. Міша сцяміў і адсачыў. Нічога ў тых торбах каштоўнага не знайшлі, ну крыху вызвалiў Васілій двор ад хламу: прыхаваў старую люстру, добрыя салдацкія боты, яшчэ нікім у Прапара не выкупленыя, толькі рэкламна пачэпленыя на цвік пад сумленне Гаспадара, пару камплектаў не новай бялізны… Крадзеж не крадзеж, а інцыдэнт меў месца.

— Прыедуць вярэнькай падпяразаныя, дамоў — торбы не ўзняць! — буркнуў Мужчына, вызваны Мішам на судовішча, і пайшоў спаць.

Вася пакрыўдзіўся, у Мінск не вярнуўся, знайшоў сабе жанчыну бліжэй ля дома, стаў жыць у яе прымаком. Тая не шкадавала — налівала кожны дзень. Мела малое дзіця, што Васю не засмуціла, затое весела ў доме — мясцовая моладзь збіралася па вечарах. Але пад час дэсанту брыгады на Браслаўшчыну Васю абавязкова запрашалі ў талаку і па дарозе забіралі са Слабодкі, уціскаючы ў перагружаную машыну (Ford Mondeo) шостым, сёмым, восьмым седаком на чыесьці плечы, калені, шыі, паверх лістоў пенапласту, цыганскім табарам, цыркавым балаганчыкам з прычэпам, поўным бліншчаных тачак, бочак, рыдлёвак, шufляў… ехалі да Краснагоркі.

Толік у брыгадзе асеў надоўга. За ім цягнулася вялікая запазыка аліментаў і некалькі штрафаў, трэба было адрабляць. Гаспадар па дарозе ў Браслаў сплочваў па частках запазыкі, заязджаў да Толікавых бацькоў у Слабодку паказаць сына, каб не хваляваліся. Але штрафы здаваліся невычэрпнымі. Раслі. Не паспее Анатолій уцячы, украсціся самадумам на тыдзень які адпачыць, як новы штраф ідзе следам за ім, быццам участковы, толькі і чакае яго прыезду, каб застукаць Толіка без нагляду, абагаціць

казну за яго кошт, ведае — з гэтага ўдасца выцягнуць, Гаспадар сплоціць. У Толікавай натуры раілася какафонія несумяшчальных матываў. Не благі вучань школы, у маленстве паслухмяны сын, ён не меў волі, цвёрдасці, кідкім быў на дурноту. Толік паддаваўся мацнейшаму па характары, ленаваўся думаць, не ўмеў трымацца слова. І гарэлка. Вось яго дарога ў гэты двор. Ахвота да лёгкага жыцця асабліва прывязала хлопца да «зайздроснай нявесты» ў асобе Танькі. Брыгада падбухторвала, смеючыся за спінай: «Багацце, Толік, цябе чакае! Палова кошту за Краснагорскі дом — твая!» І Толік, не прызнаючыся сабе, верыў, чакаў, цярпеў. Яму і не прыходзіла ў галаву, што Таньчына частка даўна сплочана за інтэрнат і на ўтрыманне яе тут, у Мінску, на штодзённае пітво, якое сам Толік актыўна на халяву ўжываў. Напіўшыся, Танька не раз з сякерай ці нажом кідалася на кавалера па прычыне недастатковай інтымнай увагі. У Вялікдзень прапарола каханку жывот, ды хутка памірыліся, вечарам жаніх зноў падзыгоўваў нявесту на новую бутэльку.

*

Краснагорскі Зінчын дом — другі на Браслаўшчыне ў Гаспадара. Ён, як і першы, стаяў на самым беразе возера Снуды, але пакуль яшчэ знаходзіўся ў «распрацоўцы». Першы дом быў выкуплены ў Лёўкі з Евай значна раней, яго пацiху перабудоўвалі. Кожным прыездам брыгады ў Краснагорку спыняліся затаварыцца ў самым пачатку мястэчка ля вясковай крамы, і там адразу збіраўся вольны люд. Падыходзілі павітацца, прапаноўвалі паслугі, дапамогу — мелі запрашэнне, паказвалі самазрэбны тавар: вяроўкі, мётлы, малаткі, сякеры, — атрымлівалі добрую ўзнагароду, так прасілі паўлітэрка і не ведалі адмовы. Як многія з вяскоўцаў, каму няма чым заняцца, прыходзілі ў двор пагаманіць у свой час, яшчэ да замовы наконт дома, і Таня з братам Максам. Дзяўчо паводзіла сябе смела, зухавата, весела. Старэйшы яе брат, дваццацігадовы (на той момант) Максім ледзь трымаўся на нагах ад фізічнай слабасці, голаду і хранічнага алкагалізму. Максім высокі, шыракаплечы, крэпкі ў косці (як спадчына некалі здаровай працавітай сялянскай жылы, зараз амаль што страчанай чалавечай прыродай) прыгожы цемнавокі хлопец заходзіў у двор, прысядаў на кукішкі, утуліўшы галаву ў калені, праз усю сваю моц цярпліва і сціпла чакаў, пакуль хто з брыгады заўважыць яго да фіялету бледны твар і здагадаецца гукнуць у адкрытую фортку: «Вынесіце стакан піва Максіму і закусіць чаго, зараз страціць прытомнасць». Сам Максім памрэ — нічагуткі не папросіць, толькі пасля, праз пару гадоў, калі яго з сястрой узяў на ўтрымане пад будучую аплату дома Мікалаевіч, на пытанне — чаго прывезці з магазіна — нясмела прасіў за свае ж грошы ад пацеранага бацькоўскага дома: «Купіце дзіцячага хар-

чавання альбо ралтону». Ён адкрываў бліскучы фольгавы пачак салодкай парашковай малочнай сумесі, з прагай засыпаў сабе ў рот найвялікую прысмаку, мару дзяцінства, і нічога лепшага не прызнаваў. Колькі разоў адгаворвалі яго наконт «ралтону» — не траць грошы на атруту, лепш макаронаў свежых звары — не, яны яму здаваліся за цуд, і хрумстаў Максім свой ралтон сырым. Таня ж выбірала пайку пітвом: з нецярпеннем ад ранку будзіла Гаспадара, каб ехаў па піва ці віно. Таня і Максім малымі гадаваліся ў інтэрнаце, Мішка, старэйшы сын Зіны, пазбег іх лёсу, жыў з бацькам, былым Зінчыным мужам. Налічаную за дзетдом запазыку з Зінаіды дзяржава не выпатрабавала б і да канца яе жыцця. Заробкі даяркі не дазвалялі звесці канцы з канцамі.

Пра «вольны» дом на беразе возера Снуды: яго калгас некалі выдзеліў мнагадзетнай Зінінай сям'і, потым за капейкі прыватызаваны, зараз кінуты без вокан і дзвярэй (Таня з Максімам пасля інтэрната жылі ў бабуліным доме на яе пенсію) — дазнаўся мэтанакіравана і распавёў Гаспадару Моўша. Без лішніх слоў, на мігі, яны змовіліся, і Моўша ўзяўся прываджваць да двара ўсю сям'ю. Наліваў Максу, купляў бутэлькі Зіне, перадаваў ежу, вопратку, прыкормліваў Таню, і ў хуткасці працэс пайшоў. Першым нумарам Мужчына сплаціў вялікую запазыку за інтэрнат, яна складала амаль чвэрць дамоўленага кошту. Работніца адпаведнага кабінета падняла бровы, зірнула з пагардай у вочы плацельшчыку, спытала:

— Дом покупаете с рабами?

(Быццам да гэтай пары камусьці ў дзяржаве, і асабліва ёй самой, была вялікая цікаўнасць да гэтых «рабоў», акрамя таго, як бы з іх садраць лішнія падаткі.)

Да пакупкі дома было далёка-далёка. Не хапала процьмы папер, даведак, а палова кошту ўжо выплачана, ды не Зіне і не дзецям, сплыла на застарэлыя падаткі, штрафы, унёскі, запазыкі за газ, электраэнергію. Пакуль што грошы ішлі напавер, па-сяброўску, як праз рэшата вада. Для новага сужыцеля Зіны прывезлі з Мінска гумовую лодку, рыбацкія прылады: сеці, вуды, кручкі… адрамантавалі перфаратар, дастаўлялі торбы харчу са сталіцы. Прынялі ў Мінск на пастой Таню з Максам. Працаваць зусім не прывучаныя, яны жылі на базе, як божыя кветкі, ці выпраўляліся вандраваць па іншых гасцявых дамах разам з брыгадай. Праз месяц сталічнага жыцця Максім засумаваў:

— Хочацца дамоў з'ездзіць, на могілках памаліцца, — запрасіўся ён перад Тройцай. У Краснагорцы жылі стараверы. Гаспадар апрануў хлопца па модзе, такім яго аднавяскоўцы зроду не бачылі. Тры камплекты перамен: у белым колеры джынсы, швэдар; чорнага тону пара і блакітны ансамбль. Выправіліся ўсёй працэсіяй на Браслаўшчыну. Макса аж круціла ад моцы пачуцця. У свае дваццаць два, зусім не дурны хлопец, ён не ўмеў усміхацца, не знаў, як выказаць радасць, яго твар торгаўся,

вусны дрыжэлі, вочы апускаў долу. Толькі шмат разоў паўтараў падзяку. Максім прывык перабывацца падачкамі сяброў-аднавяскоўцаў. На гэты раз у аўтобусе везлі скрыню піва і некалькі бутэлек сухога — гасцінец ад яго слабадскім хлопцам.

*

Вандроўка зацягнулася надоўга. Хацелі па дарозе праездам заадно адрамантаваць дах над верандай у Канюках. Накупілі празрыстага гафраванага матэрыялу на перакрыцце, каб прапускаў сонечныя промні, увязалі разам з новай тачкай-трохколкай у прычэп, паехалі. Напярэдадні ў горадзе выпадкова сустрэлі Бражкіна, на пытанне мімаходзь, як справы, Мужчына грунтоўна і жаласліва распавёў аб жабрацкім становішчы бізнесу. Бражкін дастаў з барсеткі пару тысяч долараў звыш сплачанай за кватэру сумы і ахвярна прэзентаваў пад дробныя расходы. На частку тых грошай накупілі селекцыйных саджанцаў: яблынь, ажыны, каліны, шмат іншых дэкаратыўных кустоў і кветак, хоць сезон пасадак даўно адышоў.

Прыехалі ў Канюкі, агледзеліся — тачку з шыферам згубілі па дарозе. Бетонамяшалку канюкоўскія работнікі пазычылі суседзям, тыя яе зламалі. Работа сарвалася. Заставацца начаваць у Канюках не было сэнсу. Са злосці адразу маханулі на Браслаўшчыну.

*

Першы браслаўскі дом вялікага прыбытку прынесці не мог, прымаў адпачыванцаў толькі летам і зусім не багата.

— Як замовіць дамок на пару тыдняў у Браславе? — пыталіся праз тэлефон патэнцыйныя кліенты ў Жанчыны, купіўшыся на добрыя фотаздымкі рэкламнага сайта, на якім згубілі сапраўдныя здымкі і падсунулі гледачу чужыя. — Мужчына нейкую бязглуздзіцу нясе: «Там адпачывае мая жонка з мужам».

— Там сапраўды адпачывае яго былая жонка са сваім цяперашнім мужам.

— А ў ліпені?

— А ў ліпені будзе адпачываць другая былая жонка. Так што, пакуль не позна, займіце вольныя дні.

Але спадзявацца на пастаяннага кліента не выпадала — не тыя ўмовы і сэрвіс. Не дахадзілі рукі ўсё давесці да канца. Крануты перабудовамі дах пачаў прапускаць вільгаць пад час працяглых дажджоў, распачатая і пакінутая перапланіроўка пакояў, не даведзеная да ладу сістэма лазні і каналізацыі не дазвалялі разлічваць на заможных гасцей. Хоць, трэба

праўду сказаць, убахана ў браслаўскі дом было процьма сродкаў, а ўсё ж не хапала… Вялікія грошы, атрыманыя ад Бражкіна за палову кватэры з плошчы Перамогі, сплылі скрозь пальцы, не забавіліся. Адно, што куплена за іх з відавочнага, гэта замена былому «Форду» — добра патрыманы мікрааўтобус маркі «Мерседэс» за адзінаццаць тысяч у. е. І яго ўжо да гэтай пары дабілі на калымагу.

Браслаўскі дом перабудоўваўся па завядзёнай сістэме: забетанавалі, напраразалі, пазакладалі, дабудавалі, замасцілі, разбурылі. Прыляпілі з блокаў пакойчык пад санвузел, купілі сантэхнічнае абсталяванне ў трох экзэмплярах: унітазы, трубы, ракавіны — і пакінулі пыліцца па кутах. Хоць дом стаяў на беразе возера, гэта ні на кроплю не ўнесла карэктыву ў сістэму забудовы: план па басейнах у Браславе перавыканалі! Роўна на тым месцы, дзе заўсёды быў ганак перад уваходнымі сенцамі, вырылі яму, зацэментавалі, абклалі пліткай. Як жа зайсці ў дом? Дзірак хапае ў кожнай сцяне. Толькі на лёгкія пуці не разлічвай. Прыступкі выведзены — галава закруціцца разважаць, куды ставіць нагу наступным крокам — не рынуцца б на вострыя кант. Басейн выштукавалі мінулым разам. Зараз прыехалі — закопвай! Трэба пасунуць сантыметраў на дваццаць пяць улева. Разбілі, выкінулі шчапаную плітку, дабетанавалі, даляпілі новай пліткай. Раніцай: пад'ём! Не так! У сярэдзіне чашы патрабуецца заглыбленне акунацца даросламу ва ўвесь рост. Плітку новую, учора прывезеную — вон, трэснула! Выкапалі ў цэнтры штосьці накшталт стакану, пліткі не хапіла. Забетанавалі. Кінулі так!

Лёва, чый дом быў да продажу, чыім застаўся і пасля гешэфту, бо Лёва лічыўся вартавым пад час адсутнасці новага гаспадара, а час вымяраўся паловай года, месяцамі. Прыязджалі сюды больш у летнюю пару. Ды Лёва і ў момант прыезду не даваў спакою. З'яўляўся сярод дня і ночы без запрашэння і стуку: тут стаяла на стале, можна падысці і наліць.

Лёва ўбачыў басейн, захваляваўся.

— Мікалаевіч! Як п'яны дамоў пайду ад вас — я ж ё…нуся ў гэты басейн!

З Лёвам абышлося, а сам Мікалаевіч набіў гуз. Застаўся адзін у двары, работнікі разышліся: хто дабаўляць, хто купацца, дзяўчат шукаць. Мужчына прысеў у добрым падпітку на бардзюр. Перад гэтым правяралі надзейнасць працы, спрабавалі запоўніць басейн. Апусцілі насос у калодзеж, падключылі. І тут вярнулася Лёўкава жонка. Ева ўзняла гвалт — вады не застанецца жывёлу напаіць. У Браславе з вадой сапраўды праблематычна. Азёры поўныя — у студнях пуста. Прыйшлося пакінуць задуму, насос адключылі, не набраўшы і паловы цэнтральнага заглыблення. Як асоба сентыментальная, Мужчына палез ратаваць мушку, зачарэпнуў яе палонікам з самага дна, не ўтрымаў раўнавагі, кульнуўся стоць галавой у стакан. Туды прасунуўся — назад застраў. Паспрабуй у такім стане, дагары

нагамі, выпхнуцца з дзіркі, калі важыш сто пятнаццаць кіль. Выратавала ад смерці разанская загартоўка.

У тую паездку не заладзілася ўсё! Адзначалі свята — не хапіла. Падзыгнулі Гаспадара з'ездзіць у Плюсы па дабаўку. І сам не супраць. На п'яную галаву не забаяўся па прыгранічнай зоне без адпаведных дакументаў вазіць людзей. Спачатку перахапілі службоўцы дарожнай інспекцыі, з імі амаль дамовіліся, ды з кустоў выйшаў пагранічны патруль. Абышлася дабаўка Гаспадару аж восемсот у. е… Падвязло, што сустрэлі Бражкіна.

Дык вандроўка зацягнулася, а селекцыйныя саджанцы смяглі ўвесь час спякотай у аўтобусе. Нарэшце вярнуліся ў Мінск. Вывалілі дрэвы ў двары, пайшлі адпачываць. Жанчына глянула на пакуты раслін, знайшла рыдлёўку, паторкала дзе папала, ледзь прысыпала карані да заўтра. Раніцай гаспадар выправіў Мішу касіць траву. Моўша абмундзіраваўся да зубоў, як патрабавала тэхніка бяспекі пры рабоце з бензакасой: акуляры ахоўныя, боты, шчыт, роба, — рушыў у сад. Праз некалькі хвілін новыя саджанцы, разам і тыя, што не ўмацаваліся, не набралі сілы з мінулага года, ляжалі на газоне. А, х… з імі, махне рукой Гаспадар.

Тады ў назначаны пасля святаў пад зваротны ад'езд з Браслаўшчыны дзень Макс не прыйшоў, Таня казала — уцёк, не хоча ехаць у Мінск. Вярнуліся без Макса. Хутка патэлефанавала Зіна. Максіма знайшлі ў бальніцы з праламаным чэрапам, беспрытомнага. Бачылі: п'янага яго падабраў міліцыянер, што здарылася потым — невядома. У пратаколе запісана: пры падзенні ў нецвярозым стане ўдарыўся галавой аб бардзюр. Мікалаевіч мусіў ехаць у Браслаў па Зінаіду, каб звазіць да сына ў віцебскую клініку, хоць яна пра гэта і не прасіла. Купіў вопратку для бальніцы, ежы, лекаў, параіўся з дактарамі: чакалася складаная аперацыя па ўжыўленні металічнай пласціны. Максім нікога не пазнаваў, але хірург абяцаў станоўчую дынаміку. З Мінска праз Браслаў у Віцебск ездзілі не аднойчы. Пакуль Зінаіда з Гаспадаром хадзілі да Максіма, Жанчына ставіла за хлопца свечкі ў царкве. Да хранічнай хваробы яго дзяцінства, эпілепсіі, дадалося калецтва, чакалі хуткую камісію з перспектывай прысваення Максіму інваліднасці. Тое дасць магчымасць атрымліваць хаця б які пенсіён. Ды камісія патрабавала процьму папер. Іх без Мікалаевіча дабываць ніхто б не стаў, у Макса не было нават пасведчання аб нараджэнні, не тое што пашпарта.

*

Яшчэ перад навагоднімі святамі самай запаркай Міша моцна запіў. Ён крадком вырываўся за вароты пад прычыну пошукаў Джэка. Сабака добры прапаў: разумны, талковы, каманды слухаў з паўслова. Амаль месяц Міша

«хадзіў на пошукі». То да чырванадрэўшчыка, той таксама запойны, то да зваршчыка Дзімы, гэты яшчэ горшы — да смяротнага стану, а рабацяга рэдкі. Гаспадар Мішу выгнаў з двара, праз тыдзень за яго прыйшоў прасіць Дыпламат (Зорыч). Прынялі назад, пратрымаўся Міхаіл дзень, наступным вечарам пасля «пошукаў Джэка», добра агаладалы, схаваўшыся за фіранкай, ён чмякаў бяззубым ротам (устаўныя дзесьці згубіў) чырвоную рыбку пад марынадам, якую сам, дарэчы, і прыгатаваў для гасцей раніцай. Фіш Міхаіл выканаць мог у любым стане. Вось за гэтай карыснай справай злосны Мужчына і схапіў яго за шкірку.

— Забыў парадак?! Дзе п’еш — там і закусвай! — выштурхнуў бедалагу ў двор. Міша было накіраваўся ў свой закуток, ды заваліўся на ганку — нага аказалася зломленай. Паслізнуўся ён ля Дзімавых варот. Увагі не звярнуў, датыргіцкаў да базы, а зараз нялоўка крутануўся, — і нагу вывернула зусім.

Хлопцы прынеслі Мішу ў катушок. Пад раніцу нага змярцвела, назызла, пасінела. Гаспадар заглянуў у прачыненыя дзверы, злосна хмыкнуў і больш не пераступіў парога каморы. Жанчына на працягу трох дзён прыносіла чаю, чаго гарачага паесці. Устаўную сківіцу яна знайшла і аддала Мішу, каб не пакутаваў без гаматнай стравы. Цвярозы Міхаіл Пятровіч са слязьмі на вачах шчыра дзякаваў, быццам не засталося і сляда нянавісці да яе.

— Трэба Мішу да хірурга звазіць.

Мужчына не рэагаваў. Яго жыццё страціла рухавік. Без Мішы не ішла справа, не працавала галава, адсутнічаў асноўны раздражняльнік — не хапала адрэналіну. Мужчына ляжаў у сваім адсеку гасцявога дома. (Бы ў японскім інтэр’еры, пры двухстворкавых дзвярах проста на ўзвышанай, накшталт невысокага подыума, падлозе ў яго было спальнае месца. Да прыезду Жанчыны гэты адсек не меў ніводнага акна, а дзяліў ён месцазнаходжанне побач з туалетам, лазенкай і кухняй: вентыляцыя, як і паложана ў гэтым доме, выходзіла не на адкрытае паветра — на гару, дзе жылі галубы і зброддлівыя каты.

— Гэта ж трэба! Дабіцца свайго! — прыгаворваў Мужчына, маючы на ўвазе настойлівасць госці, праразаючы праём для акенца ў першы ж дзень прысутнасці Жанчыны ў яго доме. Вось тут зараз ён і драмаў у забыцці пад тэлевізійныя навіны.

Нейкія сілы давалі Мішу шанц. Прыехалі ў госці каменшчыкі Пеця з Колем, адначасова і сын гаспадара, разам яны дамовіліся звазіць хворага ў бальніцу. Памылі Мішу ў лазні, пераапранулі, запатрабавалі ў Мікалаевіча «на шакаладку дакторцы», паехалі. Хутка загіпсаваны і «папраўлены» аж да чырвані ў твары Міхаіл Пятровіч ляжаў на сваім ложку, пачытваў свежую прэсу з перыёдыкай. Раніцай Мужчына загадаў:

— Сядай у машыну, — адвёз Мішу ў канюкоўскую ссылку, зімаваць у адзіноце.

Там да гэтай пары зімой ніхто не заставаўся, наведваліся пару разоў у месяц, прывозілі з Мінска харч Бою, старому хвораму сабаку. Яго ўзялася карміць вясковая жанчына. Ці перападала Бою што з пакункаў — невядома. Яго ніколі не спускалі з ланцуга: сабака так азліўся на жыццё і людзей, што нікога не падпускаў блізка. Боя баяліся ўсе, нават пакарміць маглі толькі Міша з Гаспадаром. Выжыў. Пры мінскім двары яшчэ быў беленькі Бім, вялікі, моцны сабака амерыканскай байцовай пароды, але выхаваны Мішам пад плюшавага медзвядзька — зусім дурны. Хвастом віляў перад кожным, хто пераступаў лінію варот, затое на маленькіх дзяцей рваў ланцуг і цягнуў за сабой будку. Будку Бім меў адмысловую, зробленую чырванадрэўшчыкам, — еўраклас! Пераносная, разборная з чарапічным дахам. Ён там амаль ніколі не сядзеў. Насіўся па двары вольна. Бесталковы сабака. Яго шчанюком Міша паўсюль вазіў за сабой, ён і прывык да змены акружэння. Зараз, калі месца знаходжання Біма супадала з Боем, у амерыканца ўзнімаўся байцовы дух, абавязкова адшукваў старога бедалагу і кідаўся барацца. Сам меў слабыя лёгкія, прабяжыць вакол дома круг — і захакаецца, б’еца ў кашлі. Стары Бой, адчайны і бясстрашны, седзячы на ланцугу, ні на каліва не саступаў задушліваму амерыканцу. Пакуль пачуюць валтузню, пазавуць Гаспадара разняць — парве Біма на шматы. Бой ціха залізваў раны ў сваёй звычайнай, не еўрабудцы. А Біма вазілі па ветлячэбніцах, куплялі мазі, прысыпкі, вітаміны. Рабілі прымочкі да наступнага разу. Дурны сабака — упарты, пры першай магчымасці знаходзіў саперніка падужацца сіламі. Вось з Бімам Міша і зімаваў у Канюках. Для цеплаты пускаў сабаку пад пасцілку. Пры зламанай назе дроў не наносіш. Усю адказнасць за жорсткую ссылку ён злапомсна перакінуў на сумленне Жанчыны, бо ніколі і ні ў чым не вінаваціў свайго Гаспадара. Выгляду Моўша не паказваў, пры сустрэчах (ежу яму вазілі) трымаўся з ёй далікатна, з павагай і павялічанай ветлівасцю. Аднойчы пры развітанні ўлавіў момант адсутнасці Мужчыны, прамовіў.

— Ніколі Мікалаевіч не быў такім суровым… У гэтым ваша віна. Нельга на яго абрушваць столькі бязжаласный крытыкі.

О, гэта так! Яна не шкадавала, па-генеральску ўмела ацвярозіць каго заўгодна выкрыццём грахоў, прытым добра ўсведамляючы свае і даволі… Жанчына не прыняла да ўвагі словы, не палічыла іх вартымі. Тым больш, што ворагам у яе не паменшала, дабавіўся яшчэ адзін, і значна мацнейшы. На мінскай базе Мішаў катушок пуставаў не доўга.

*

У адзін з мітуслівых дзён Жанчына зайшла спачыць у «свой» пакойчык, дзе ўбачыла новага жыхара. Спачатку яе абдало невыносным смуродам. Пахла псінай. На гарачай керамічнай падлозе ляжаў скрутак ануч. Зашмальцаваная да бляску коўдра і была крыніцай атрутнага паху.

— Што за смурод? — запыталася Жанчына ў незнаёмца.

Здыхляк засмяяўся, паказаў роўныя жоўтыя зубы, сцебануў позіркам глыбока пасаджаных вострых вачэй.

— Я на гэтай коўдры з сабакам спаў, грэў аб яго бакі. Паспрабавалі б зімой на верандзе без абагрэву заснуць — не пыталіся б.

Хлопец гадоў трыццаці трох сядзеў на гарачай падлозе сярод пакойчыка і сам ствараў дадатковую крыніцу араматызацыі паветра, рыўся ў партфелях, пераглядаючы паперы, дакументы, гэта было яго першым тут заняткам на сягонняшні дзень. Паўсюль ляжалі горы вытрыбушанай з папак і шуфляд макулатуры. Парадку і чысціні належала сказаць: бывайце! Жанчына раззлавалася.

— Я паўгода адкопвала сабе месца ад бруду, ты адным махам звёў усё ў глум! Паперы гэтыя я даўно перабрала.

— Мікалаевіч папрасіў пераглядзець дакументы, — металічны тон у голасе няпрошанага госця папярэдзіў: камандаваць ім тут ніхто не пасмее.

Разгарэлася не жартоўная сварка. Яна не прынесла нікому перамогі, паказала — абаіх чакае жорсткае супрацьстаянне. Гэта і быў Сяргей. Мала таго. Спаць пад час маразоў у Мішавай бытоўцы, забруджанай, цеснай і халоднай, ён не стаў. Начаваў тут на падлозе разам з Гаспадаром і Жанчынай на працягу месяца пад здзіўленне будбрыгады, апазіцыйна настроенай да навабранца. Іншы раз вечарамі ён выбіраўся ў казіно, раніцай вяртаўся зомбі: глухі, сляпы, у ліхаманцы. Знаходзіў дальні ціхі куток, у верхняй вопратцы, скруціўшыся ў абаранак, клаўся куды папала і засынаў. Разбудзіць яго ў такі момант — няхай пажар, няхай патоп — было немагчыма. Прачнуўшыся, Сяргей хваліўся:

— Падняў за ноч тры тысячы зялёных! Дай, Сямён, закурыць.

— Ні храна не пайму, — паціскаў плячамі Якаўлевіч, — Пры такіх барышах, мільянер, а курыць у мяне, беднага Сямёна, просіш…

— Дык я потым ўсе спусціў.

Сяргей значна выдзяляўся сярод прывычнага кантынгенту базавых жыхароў. Як бы ні выглядалі свае хлопцы, маладыя ці зусім не, часовыя альбо канчаткова аседлыя тут, яны выглядалі прывычна. Працавалі хто як мог. Сяргей нават сваёй пастаццю на мужыцкую прымітыўную работу не цягнуў. Высокі, танкакосты, ледзь пакрыты скурай шкілет. Шэрая, колеру аўсяных шматкоў скура на твары, які нагадваў морду дахадзягі мерына. Згорблены, сутулы, уцягнуўшы галаву ў плечы, нібы чакаючы ўдару,

Сяргей рухаўся касабока, прыціскаў пры хадзе сагнутыя ў локцях рукі кулакамі да жывата. Самі локці ён тоечасна нязграбна выварочваў пікамі вонку, быццам вёсламі адпіхваўся ад паветра; ногі ў каленях соўгаў не разгінаючы, бы на лыжах паўпрысяддзю. Пакідаў трывалае ўражанне — недаразвіты дзяцюк з яўным дыягназам: скаліёз, варус, плоскаступнёвасць плюс алігафрэнія. Яскравы ўзор прыкладу абыякавасці бацькоў да сваіх нашчадкаў… Толькі гэта было адно з яго аблíччаў…

*

Каменшчык Пеця не жыў на базе. У яго была кватэра на Лагойскім тракце ў самым канцы (ці пачатку?) горада, так што Пеця мог пры любым памкненні сесці на сто трынаццаты аўтобус, пад'ехаць пару прыпынкаў, а там пешы завулкамі праз заднія вароты са сваёй нязменнай сумкай цераз плячо нечакана прыгуртавацца да хлопцаў. Ён па справядлівасці лічыў сябе паўнапраўным чальцом брыгады, хоць і завочна, затое ад самага першага каменя. І камень той быў расшчэплены, апрацаваны і пакладзены Пецевымі крэпкімі рукамі.

Пеця не самавучка. У яго за плячамі прафесійны рамесніцкі тэхнікум з архітэктурна-скульптурнымі спецыяльнасцямі. Па-гаспадарску аглядаючы двор, перш чым прывітацца з хлопцамі, ледзь не кожным візітам Пеця дапытваецца: калі вы папрыбіраеце з вачэй скульптуру малой формы? Выставілі на продаж! Гэта ён пра ўнітазы і ракавіны. Стукне нагой па аднаму, другому, не палянуецца прысесці на кукішкі, хоць даўно на памяць ведае ўсе іх хібы — о! шчарбаты, гэты луснуў, тут брак. Шукае стул прысесці да стала — дайце куды кубатуру згрузіць. Па-дзелавому ацэньваючы жанчын, Пеця адзначыць: торс годны, трэба толькі «актыўней корпусам врашчаць», ногі бачацца яму тачонымі балясінамі.

Пеця здолен шчапаць любы камень з трох удараў на патрэбныя кавалкі і ладна падганяць іх адзін да аднаго. Таўшчэзныя, двухметровыя вышынёй слупы для агароджы «базы» выводзіў Пеця. Ён і сам выглядаў нібы з граніту выразаная статуя альбо натура мастака-кубіста: квадратнае тулава, галава квадратная, квадратныя далоні, нават нос квадратны, а вось з думкамі прырода пажартавала над Пецем. Паміж завучаных квадратаў чужых фраз нясмела выбіваўся і ніяк не мог прабіць сабе русла жывы ручаёк яго ўласных думак. Па той прычыне Пеця знаходзіўся ў стане дэпрэсіі і глыбокага разладу з самім сабой. Ён вырываўся з гарадской абыдзенасці, ехаў сюды, бліжэй да прыроды і трапляў у яшчэ горшае ачмурэнне. Пеця наведваў базу, нават калі ў двары нікога не заставалася. Бывала, дарогай яго мінаў гружаны аўтобус, праз адчыненыя форткі насустрач ляцелі прывітанні: мы ў Браслаў, на Бягомлю. Хлопцы махалі, маўляў, вяртайся — на

базе няма нікога. Пецяне мяняў маршруту, прыпускаў барзджэй. Ведаў, дзверы заўсёды пакінуты не замкнёнымі. Які сэнс зачыняць — ключы згубяць праз пару дзён, прыйдзецца ламаць і замкі, і дзверы. Пецяняспешна адкаркоўваў прынесеную з сабой бутэльку, наліваў у стакан віна і па дамашняй звычцы прыхоўваў паўлітэрак за тумбачку ці шафу. Тут мог у любы момант з'явіцца яшчэ не адзін падобны Пеця, Коля, Дзіма… База была прахадным і выратавальным дваром. Адзін на адзін Пеця мог заглянуць у халадзільнік, закусіць кілбаскай, запіць «Баржомі». Пачынаў расшукваць сярод складовішча цікавыя кнігі і рэчы, разглядаў іх, учытваўся, дзівіўся, мог пакласці якую сабе у сумку, — а лепш няхай збадзяюцца? Калі на месцы былі хлопцы, Пеця пачынаў уголас развважаць, жорсткімі крокамі шнураваў узад-уперад, моцна дугаючы ў падлогу абцасамі, і гаварыў, гаварыў, гаварыў бесперастанку. Так праяўлялася яго дэпрэсія. Чалавек адчуваў вялікую патрэбу ў вольных вушах, дома ў сям'і з ім даўно ніхто не размаўляў. Слухалі Пецю і тут мімаходзь, але не цураліся, любілі і прымалі. Пад добры настрой ён запрашаў Мікалаевіча прыехаць да сябе «на аб'ект затарыцца». Пеця хоць і быў пенсіянерам, а працаваць не ленаваўся ні па сваёй фізічна цяжкай спецыяльнасці, ні ў выпадкова прапанаваных падпрацоўках. Зараз ён вартаваў будоўлю шматкватэрнага жылога дома, там тое-сёе яму перападала прыхаваць, вось і шукаў купца.

*

Пад вечар вярталіся з Віцебска ў Мінск, праз Браслаў, трэба было адвесці дамоў Зіну. Ехалі лесам, змяркалася. Дарога выпала цяжкай. Некалькі разоў прыйшлося вяртацца па недаведзеных папяровых справах, потым спыніла ДАІ. Аўтамабіль без тэхагляду, без страхоўкі, фары не гарэлі, тармазы не працавалі, «дворнікі» адсутнічалі… Корачкі пасведчання з фотаздымкам у форме пад пагонамі дапамаглі, але прыйшлося вяртацца ў краму па абяцаную бутэльку для інспектара. І вось на паўдарозе Мужчына зноў зрабіў рэзкі разварот…

— Ну што яшчэ здарылася? — нецярпліва запытала Жанчына.

Мужчына не адказваў. Ля пагорка ён злаўчыўся спыніць аўтобус, выглянуў у акенца.

— Сядай у машыну, — загадаў пешаходу, які ішоў у процілеглы бок. То быў хлопчык гадоў васьмі. Ніхто акрамя Мужчыны не звярнуў увагі на тое, што дзіця шпацыруе сярод лесу пад ноч на адлегласці дзясяткаў кіламетраў у абодва бакі ад населеных пунктаў. Хлопчык паслухмяна залез у салон.

— Куды ідзеш?

— Да бабулі ў Язвіна.

— Ого! А ты ведаеш, што гэта дужа далёка?

— Ведаю.

— Адкуль ідзеш?

— З Мёр.

— Калі ты выйшаў?!

— Раніцай.

— Дайце яму чаго-небудзь перакусіць…

— Не хачу, — хлопчык прамаўляў роўным, без эмоцый і цікаўнасці голасам. У ім штосьці сядзела глыбока-глыбока, чаго ён не мог пазбавіцца і аддаўся ў палон, таму і выглядаў спакойным і раўнадушным, тое пужала найгорш. Не павёўся і на размову. Ні есці, ні піць не стаў. На пытанні адказваў безынфармацыйна. Пры пад'езде да Мёр стаў запэўніваць вадзіцеля — далей сам дабяруся.

— Куды ехаць, гавары? Дзе жывеш? — патрабаваў Мужчына.

У цэнтры мястэчка хлопчык зноў стаў прасіцца — далей пайду сам.

— Не, браток, здам цябе толькі ў бацькоўскія рукі.

Нарэшце пад'ехалі, зайшлі ў дом. Маці, відавочна расхваляваная, не звяртала ўвагі на чужых людзей. Загаласіла.

— Дзе ты быў, я шукаю цябе па ўсіх Мёрах?!

У доме парадак, чысціня, добрая гаспадарка. Бацька строгі, без сумневу. Маці ўся ў клопатах. За работай ім наўрад хапала жадання і часу звяртаць увагу на душэўны стан дзіця.

— Не сварыцеся на хлопчыка. З ім штосьці здарылася… Маліцеся за Мікалая, — прамовіла Жанчына на адыход.

*

Саша-камазавец вылез з кабіны размяць косці — заседзеўся. Хлопцы таксама зрабілі перакур, прыселі хто куды ля свежай гурбы прасеенага дробненькага пясочку.

— А дзе ваша птушка завадная, што за долары купленая? — пацікавіўся Саша, агледзеўшы амаль пустое падвор'е. Па ім бегаў дурнаваты здаравяк Бім, ды яшчэ падскокваў дзяўбціся да кожнага мінака, акрамя Гаспадара, задзірака певень.

— Даўна ўжо няма. Крумкач пацягаў, — адмахнуўся хтосьці з хлопцаў ад нежаданай тэмы.

— Не-е, я не пра тых пытаюся, цікавыя такія, фірмовыя.

— Сабака падушыў.

— Ай! Не! Пра сабаку вы яшчэ ў той раз казалі. Ну што з чубамі бухматымі, беленькая такая, забыўся, як завуць. Страшэнна дарагая, як на золата купленая.

Хлопцы маўчалі. Настойлівасць Сашы-камазаўца несла небяспеку. Ім не хацелася працягваць гаворку — непадалёку хадзіў Гаспадар.

Тая гісторыя цёмная, у ёй шмат хто замешаны. Проста аднойчы пад час адсутнасці Гаспадара не хапіла. Ніхто пасля так і не вымкнуўся пра гешэфт. Едучы праз суседнюю вёску, Мікалаевіч што ні раз углядаўся ў панадворак крайняй наводшыбе сядзібы, дзе трэслі над карытцам бліскучымі на сонцы чубамі слаўныя курачкі кітайскай шаўковай пароды, з гонарам прамаўляў:

— Вунь якая прыгожая птушка мая гуляе!

*

Бомж Якаўлевіч па дакументах, якія ўзамен згубленых дапамог яму раздабыць дзякуючы старым сувязям Мужчына, аказаўся зусім не бамжом. Ездзілі па заводах, дзе калісьці працаваў Якаўлевіч, збіралі паперы на пенсію, у лютым якраз яму спаўняецца шэсць дзясяткаў.

— Як сабе хочаце, Мікалаевіч, — лежачы ў лёгкім падпітку на канапе, рука пад галавой, другая шчэпкай калыпе штось у роце, Якаўлевіч звярнуўся да Гаспадара, — я перад Новым годам дамоў пайду, да ўнучак, мне трэба сто долараў.

— Ёсць! — паўжартоўна аддаў чэсць Мужчына. І ў хуткім часе заняўся падрыхтоўкай і выпраўкай на пабыўку любімага работніка. Накупіў у «сэканд хэндзе» моднай вопраткі: кароткі шэранькі кажушок, джынсы, кашулю, швэдар, вязаную шапку.

— Не-ей-кае ўсё маладзё-ожнае, — закапрызіў нуднаваты Якаўлевіч. Але вочы не здолелі схаваць вясёлых іскарак у прадчуванні свята. Уся вопратка чыстая, па росту і камплекцыі, да твару і характару!

— Дык самае тое! Ты ж у нас кавалер — хоць куды!

Якаўлевіч дабрадушны чалавек. Больш за дзесяць гадоў з перарывамі тут, пры базе: псіхане, сыдзе, пабадзяецца, потым, як пахаладае, вернецца, а куды яму? Кватэра-аднапакаёўка ў Мінску, канечне ж, некалі выдзелена была яму на заводзе, ды там жыве дачка з дзвюма амаль дарослымі ўнучкамі Якаўлевіча і яе сужыцель, не ўпадабаны Якаўлевічам «чучмек». Пасля зоны, куды Якаўлевіча пасадзілі зусім без віны «за забойства жонкі», жыве тут, у Мікалаевіча, за ежу, адзежу, жытло, цяпло, абавязковую норму чагосьці весялейшага. Хто ведае Якаўлевіча, пасміхаецца — трэба ж было на зону загрымець! Які з яго забойца?! Мухі не пакрыўдзіць, але і грэх такога не пасадзіць, праўду будзе даводзіць, хоць язык вырывай. Не саступіць. Па гэтай прычыне ходзіць з жалезным прутам у перадплеччы. Моўша піхнуў з лесвіцы, зламалася рука, штыр уставілі, а праз паўгода выцягнуць так і не дабраліся. Ездзілі не раз да хірурга: то не той участак,

то аналізаў не хапае, то доктар у адпачынку. Плюнулі і забыліся. Трэці год са спіцай у руцэ цэглу кладзе. Якаўлевіч лічыўся тут за майстра, пакуль не прыйшоў у брыгаду Юра, сапраўдны спецыяліст-мастак, талент. Якаўлевіча ён толькі што ў шахматы не абыграе. Тут няма роўных Якаўлевічу па шахматах, таму і гуляць яму не цікава, просіць калі-нікалі Жанчыну: аднойчы села ўпершыню з ім перад дошкай і выпадкова выйграла, праўда, у шашкі. Але з той пары Якаўлевіч, ведаючы сабе кошт у інтэлектуальных гульнях, пранікся павагай да Жанчыны і заўсёды вечарам прамаўляў перад чарговай партыяй:

— Толькі адзін у мяне тут годны партнёр па шашках… — і ўсміхаўся, паказваючы свой адзіны зуб. — Больш ні ў кога галава не варыць, — чым прымушаў Юру склыгаць зубамі і зарабляў на будучыню новыя праблемы. Юра не спускаў абразы, яго чатыры зоны не спісаць на бязвінныя…

*

Магчыма, зон і не было столькі. Пахваліцца мог. Справа не ў колькасці, у тым, што яны не выпадковыя. Характар у Юры калючы, выбуховы, рэзкі, эмацыянальна перанасычаны — якраз адпаведны. Псіхоз — звычайны стан яго настрою. Размаўляе нецвярозы з кім па мабільнаму, раптам штосьці не ўпадабае — тэлефон аб зямлю, нагой патрушчыць. Усё ў Юры праз меру, праз край, і ўсё займанае, знарочыстае, не сваё, уздоўж душы. Яшчэ і не будзе ведаць, пра што гаворка хлопцамі вядзецца, толькі парог пераступіў, а перадкаваць адразу наважаны, хутчэй спяшаецца пярэчыць: «А-а, а-а… (нецярпліва вядзе першынство Юра хоць гукам) А-а… Херня ўсё! А-а-а… Не так! Не так!» Невялікі ростам, жылісты, крэпкай косці, Юра чорнымі, як ноч, вачамі і кудлатай галавой, мо не жадае стрыгчы кучаравыя валасы, а мо лянуецца, падобны на цыгана. І ўсё ён ведае лепш за іншых, і круты ён, і важны! І памер абутку ў яго сорак пятага нумару! Дзесьці Юра пачуў пустую байку, што мужчынскі орган адпавядае памеру ступні, і папаў бедалага ў пастку.

Прапар нанёс на продаж салдацкіх чаравікаў, задаволеныя хлопцы выбралі свае нумары, а Юра ў прысутнасці жанчын пачаў выраблядца, падвышаць памер нагі да немагчымага. Малыя! Саракавы лёгка ўторкнуць у сорак пяты, ды насіць няма як. Не можа Юра даць слову ход назад, як і не можа прылюдна зрабіць выбар між прыступнымі і «прэстыжнымі». Малыя! Кажа і на сорак пяты. Хлопцы туляюцца, муляюцца, ледзь стрымліваюць смех, уголас проці Юры не адважацца ні адзін сказаць, параіць: кінь дурное, купі па назе абутак ды хадзі як чалавек. Аднаму Якаўлевічу і тут не церпіцца.

— Можна ж і сорак сёмы начапіць ды хадзіць, як у лыжах.

Юра адзін, хто зарабляе тут, у Мікалаевіча, грошы. Адзін, хто не стане проста капаць і закопваць ямы па загаду Гаспадара спрасоння. Ён сам вырашае, чым займацца, як гэта будзе выглядаць і калі спыніцца на адпачынак. Ён запраста разбурыць зробленае чужымі рукамі, калі не здаволіцца вынікам. Звярэдзіць сваё, перарабляць і ламаць узведзенае яго рукамі не дазволіць і самому Гаспадару. Ды і жадання такога ў Гаспадара не ўзнікала. Вось арка ў канюкоўскім гасцявым дамку. Якаўлевіч да прыезду Юры ў брыгаду змагаўся з ёй месяц, кумекаў, каб з цэглы вырабіць паўкруг над дзвюма калонамі. Штосьці атрымалася. Юра даў нагой у калону, і аркі — як не было. Паставіў потым, не пытаючы дазволу, калоны з двух бярвён, не абхапіць — таўшчынёй. І ніхто не запярэчыў. Жорсткі ён, Юру амаль усе пабойваюцца. Мішу прыходзіцца (каб не страціць свой аўтарытэт пры двары) нашэптваць Гаспадару на вуха крамолу пра Юру і яго сыноў — таксама сюды пад час беспрацоўя, а яно падсцерагае хлопцаў пастаянна, прыязджаюць на месяц, другі. Працаваў і пляменнік Юры, Сашка, калі можна тое працай называць. Добры, спакойны хлопец, але зусім не ўмее з алкаголем трымаць дыстанцыю, а тут без выпіўкі не пражывеш. Мала таго, да работы спрыту ў Сашкі аніякага. Падай цвічкоў, — камандуе Юра, абіваючы вагонкай сцяну ў калідорчыку, — тваю макаўку! Што прынёс?! Трымае сонны Сашка іржавы гбаны цвік-двухсотку ў руцэ. Нясі нажоўку! З сямі, пачэпленых на сцяну, Сашка выбірае шчарбатую без ручкі. Адпілуй ад дошкі дваццаць тры сантыметры! Шарашыць Саша ўсе сорак шэсць. Ніводнай дошкі ад першага разу не вымераў па заказу. Блоту наробіць. Знервуе Юру. І сыны ў Юру не ўдаліся, да работы яго спрыту пакуль што не займелі, хоць і старанныя. Зусім яшчэ маладзенькія, а ўжо пры сем'ях, ды пад пагрозай «пазбаўлення бацькоўскіх правоў». Па першаму каханню ажаніліся: жыць не навучаныя. Бядуюць, як бедавалі бацькі. Юра і зараз, адчуваецца, кахае сваю жонку, яна гадуе трэцяга сынка, прыжытага без Юры ад няўдалага раману. І яму вязе Юра гасцінцы, не мінае. Толькі сямейнае жыццё наладзіць немагчыма. Бярэ з сабой сыноў, каб на вачах былі, штосьці зарабілі. Паўмесяца восені пад нудным дажджом удвух хлопцы цягалі тачкі з каменнем, зразалі глебу з пагорка ля сажалкі, капалі ямкі пад дрэвы. Пад вечар аж ежа не лезла ў глотку. Троху зарабілі. Шчаслівыя сабраліся ў дарогу дамоў — не далёка, у Глыбоцкі раён. Ды не вытрымалі, ля Бягомльскай аўтастанцыі прыдбалі ў прыдарожным кафэ бутэльку — ім хапіла. Міліцыя службу нясе. Завезлі ва ўчастак, аформілі штраф. План выконваць і ім трэба. Вяртаюцца рабацягі да сваіх непаўналетніх жонак нішчымнымі: тут і злосць, тут і крыўда, і сваркі. Немаўляты есці патрабуюць.

Юра — той работнік з вядомай евангельскай прытчы, які не каменне цягаў, не грошы зарабляў, а будаваў храм. Толькі ў яго жыцці з храмамі не задалося. Без дома Юра застаўся. Сам родам з Латвіі: Ригас, латвияс,

Андрис… форсіць «ведамі» замежнай мовы Юра. Усе вы «калхознікі», а я ў горадзе нарадзіўся.

*

Мінскі гасцявы дом дазваляў умясціць пры патрэбе чалавек дваццаць за сталом. На начлег пакласці столькі людзей не было як. Бесталкова распланаваныя пакоі спрэс прахадныя. Стаялі два вузенькія ложкі і два шырачэнныя: як тошчанькіх, то па чатыры студэнцікі ўціскалася. Ды на калідорчыках тры канапы. А якая ноч у моладзі — да ранку вяселяцца. Сапраўднае вяселле, са сватамі, тамадой і маладымі дамок прыняць не мог ніяк, але іншы раз замаўлялі ўчэпістыя, напорыстыя — праз сілу, нахрапам. Вось такіх чакалі на базе наступнымі выхаднымі днямі. Сваты прыехалі нахабныя, жлабаватыя, пачалі з парога патрабаваць і страшыць, выказваць прэтэнзіі: музыка не тая, лазня не гарачая. Усю ноч не давалі спакою. Пад раніцу нявеста збегла ад жаніха. Малады з сінцом пад вокам хроп на лаве ў шашлычнай. Сярод двара валяліся дзверы, якраз пад вяселле выштукаваныя суседам-чырванадрэўшчыкам, з мальтыйскім крыжам, выкаваным над рыфленым шклом. Сусед абяцаў: крыж сімвалізуе вялікі зрух і шалёны прыбытак у гаспадарцы. Сваты выбілі вокны, вялізнае насценнае люстэрка. Стырылі медны самавар, патрушчылі плітку на падлозе ў лазні, скруцілі кран у ваннай, сапсавалі караоке. Па ўсёй тэрыторыі блішчэлі аскалёпкі бітага посуду ад Лювал.

Ля варот чакала новая група гасцей, а вясельныя ніяк не хацелі з’язджаць. Прыйшлося выклікаць маршрутнае таксі, каб перавезці п’яных сватоў (без маладых — тыя разбегліся) у канюкоўскі дом за сотню кіламетраў ад Мінска.

Падлічылі баланс між расходамі і прыбыткам, вынік згубна бянтэжыў. А падлогу ў парылцы трэба было тэрмінова рамантаваць — небяспека. Паехалі ў Ждановічы па керамічную плітку.

— Якую купляць? — разгублена пытаўся Гаспадар, ашарашаны падзеямі.

— А не лепш за ўсё — адпаведную той, што засталася на падлозе? — не змагла схаваць іроніі ў голасе яхідная Жанчына, кратаючы глянцавы беражок рэкламаванага тавару, чым і сапсавала працэс. Мужчына не цярпеў ніякіх намёкаў і кпінаў адносна сваёй персоны.

— Чырвоная, малюнкам пад цэглу, прыгажэй будзе, Мікалаевіч, — свой шанс імгненна выкарыстаў Міша, угодліва прапануючы памацаць экзэмпляр.

— Бяром. Загружай!— зрабіў выбар Мужчына, са зларадным жаданнем укусіць гонар эстэткі.

Выключна будматэрыяльная тэма размоў з Мішам на зваротным шляху пацвердзіла падазрэнне апазіцыі. Вярталіся злыя, пакрыўджаныя, непрыступныя і гордыя. Даляпілі да белай чырвоную — не хапіла. Паехалі дакупілі шэра-блакітнай, пад камянёк. І той не хапіла. Пакуль дабраліся купіць зялёную, госці адарвалі палову з чырвоныхналёпышаў. Так і пакінулі шэра-бура-малінавую падлогу з дзіркамі і лапікамі. Затое прыйшло натхненне замяніць палок у парылцы, усталяваны на мінулым тыдні. Узарвалі, павыкідвалі дошкі з лістоўніцы, па якую ездзілі аж у самую Рэчыцу, замастырылі палок з дубу.

— Вы нічога не разумееце ў бізнесе… У мяне такія грандыёзныя планы! Былі б толькі грошы.

*

— Пакажу вам Шагалаўскі дамок, — казаў Мужчына і не забыўся. Тады, на зваротным шляху з Рэчыцы, і завярнуў у Парычы. На стромкім беразе ракі стаяў стары напаўразбураны дом. І праўда, падобны на той, што маляваў Шагал ля Віцебска. Габрэйскія пабудовы ў Парычах розніліся ад іншых тут вышынёй столі. Беларусы будавалі нізкія дамы, зберагалі цяпло. Габрэйскія давалі прастору галаве.

— Колькі я цікаваў яго! Вы і ўявіць сабе не зможаце. Першы раз убачыў — забыць не мог. Прыязджаў, даведаўся, хто гаспадар, бабулька тут жыла, не згаджалася прадаць. Цяпер дамок пустуе, памерла. Сын з турмы вярнуўся — трэба забіраць да нас.

Жанчына слухала моўчкі да той пары, як пайшла гаворка пра «распрацоўку».

— Ну калі вы спыніцеся?! «У множества нет границ». Навошта вам гэта развалюха? І стаіць дом не ў лініі турыстычнага напрамку, пра які марыце: Мінск — Бягомля — Браслаў. Такая далячынь!

— А-а-а, марай было сесці ў лодкі ля Бягомлі і водным шляхам дайсці па Беразіне да вялікай вады.

— Гэты дамок — рэшата, пхні — рассыпецца. Не вытрымае ваш бізнес яшчэ адной распрацоўкі. Грошы прыносіць толькі мінскі гасцявы, а трат — на ўсе бакі. Столькі дзірак не залапіць!

Мужчына не слухаў. Дамок даўно лічыў сваім. У яго галаве раіліся планы.

Зайшлі ў двор: дом не замкнёны, вакол бур'ян, вокны павыбіваныя, столь з прарэхамі. Прыбег гаспадар. Калі можна ўявіць чалавека, здольнага адседзець за кратамі тры разы за адзін магнітафон, «пазычаны» ў клубе паслухаць Высоцкага, гэта — ён. Ігару хутка сорак сем, выраз твару больш падышоў бы хлапчуку-школьніку. На пытанні ён адказваў

нахіляючы ўбок галаву, шчыра ўглядаючыся ў вочы, старанна вымаўляў нескладаныя сказы ці проста гукі згоды альбо нязгоды.

— Дзе зімаваў?

— Хлопцы пускалі ў кацельню.

— А як не?

— На печы ў коўдру ўкручуся…

— Дроў няма…

— Печ вялікая — усё роўна не нацэпліш.

— Што ясі?

— Што дадуць.

— Паедзеш з намі ў Мінск?

— Шкада хлопцаў кідаць.

— Цябе хутка зноў возьмуць.

— То праўда, — без лішняй інтанацыі згадзіўся Ігар.

Ігар бездапаможны чалавек. Мозг яго востра распазнае жорсткасць, хітрасць у людзях, ды не рэагуе на небяспеку, не жадае прымаць умовы соцыуму. Пад суд папаў па маладосці за тое, што вельмі захацеў паслухаць песні Высоцкага. Магнітафона не было, і хлопец проста адкінуў зашчапку фанерных дзвярэй клубнай каморы, куды на яго вачах пасля танцаў умоўна схавалі ўмоўную апаратуру, прынёс дамоў магнітафон і слухаў да раніцы. Доўга злодзея не шукалі, магнітафон працаваў на ўсю моц — чула навакolle. Многа не далі… Вярнуўшыся з калоніі, Ігар вырашыў даслухаць рэпертуар куміра да канца. Участковы сцяміў, праверыў знаёмы двор. Пад час працэсу маці запыталася: «Вы не бачыце, каго ўзяліся судзіць?» Але ў суддзяў свае развагі — справы заведзены. Судовая машына запушчана, самае важнае, каб кожнае слова ў паперы адпавядала пратаколу і параграфу. Так паўтарылася і яшчэ. Тэхнічна састарэлы, дабіты гадамі працы да «цугундару» магнітафон той даўна прасіўся на звалку: яму там і чырвонае месца, ды клубу новага не куплялі. Апарат пасля судовых разборак акуратна вярталі ў камору, а ён, у сваю чаргу, старанна слугаваў, ствараючы заадно і гратэскавы сюжэт Ігарава лёсу. Апошні раз вярнуўся Ігар — маці дома не застаў. Ды і сам дом яго не чакаў. Печ рассыпалася, сцены перакасіла, электраправодка завісла абарваным матуззём, пустыя пpасторныя пакоі летам яшчэ напаміналі гады дзяцінства, зімой страшылі, гналі холадам прэч.

Ігар згадзіўся ехаць у Мінск. Сабралі пажыткі, Мужчына купіў віна, закускі, каб Ігар мог развітацца з хлопцамі, адпусціў яго ненадоўга, каб не паспелі адгаварыць. Набралі па мабільнаму міжнародны нумар сястры, жыла ў Кіеве. Сястра запрыказвала: «Ой, брацітка мой, застанешся без дома. Што ты надумаў? Як ты будзеш жыць?» А як жыў, так і будзе жыць.

Ігара прывезлі ў Мінск, адмылі, пераапранулі. Пасадзілі перад тэлевізарам у пакоі на другім паверсе турэцка-паўднёвага корпуса і загадалі Мішу

спраўна насіць ежу. Налівалі не многа — стакан сухога ці «мокрага» альбо паўтара піва. Працаваць не прымушалі. Міша склыгаў зубамі, цярпеў, толькі іншы раз ад злосці вырубаў электрашчыт, маўляў, Ігар перагравае секі сваім тэлевізарам. (У доме, дзе па трыццаць чалавек збіраецца, паляць па пяць стосвяцовых лямпак у кожным пакоі. Дадаць музычную апаратуру, лазню, вадзяную помпу, караоке, тэлевізары, мікрахвалёўкі, электрапліты, халадзільнікі, прэсавыя прасы, радыятары-абагравальнікі, электраацяпленне падлогі…) Раз у месяц Ігар набіраў ужо на сваім мабільным міжнародны нумар і выслухваў перасцеражэнні сястры наконт чорных рыэлтараў. У канцы размовы ён пранікліва, з гэткім жа нахілам галавы, быццам сястра перад ім, завяраў яе: «Ты крэпка памыляешся. Я ніколі так не жыў, як тут».

Ігар знайшоў тут сабе сябра, Макса. Яны падабраліся адзін да аднаго як браты, абодва інфантыльныя, безабаронныя.

*

У адзін з навагодніх дзён Зорычу захацелася адразу дзвюх жанчын, загадаў Мішу ацяпляць лазню. (Гаспадар саромеўся праявіць характар проці сваіх «сяброў», папусціўся да нельга. А Зорыч верхаводзіў ад студэнцкіх гадоў. Дзякуючы Мішу стаў тут і зусім прывілеяванай асобай. Дзіўнае сяброўства былога дыпламата Зорыча і бамжа Зінгера яднаў і змацоўваў маген Давіда, а сілкавала лагічна абумоўленая хітрасць і карысць. Было, на месяц Міша знаходзіў прытулак у Зорыча, калі за ману і крадзеж «в особо крупном размере» Мужчына папёр яго з двара. І Зорыч напоўніцу атрымаў дывідэнды ад сяброўства з Мішам: у любы дзень яму тут было «мёдам намазана» і лазня нацеплена.

Абедзвюм жанчынам каля пяцідзесяці. Адна з іх — балерына на пенсіі, увесь час задзірала нагу пад столь і перасыпала гаворку французскай тэрміналогіяй: батман тандзю, фуэтэ, па дэ труа… Другую заагітаваў экспромтам, яна сваёй прысутнасцю крыўдзіла балерыну, даўнейшую каханку.

— Девчонки, не заморачивайтесь. Давайте поскорее в баню, — прыспешваў Зорыч.

Ён дастаў з кішэні па дастойнай купюры і размашыстым жэстам рук у знак прымірэння прапанаваў іх на два бакі, жанчыны не адмовіліся, павесялелі. Міша падзякаваў Зорычу за прэзентаваны крышталеўскі напітак, запэўніў: пар — во! Падняў да столі адтапыраны палец, маўляў, для Зорыча тут усё і заўсёды будзе — вось так! Сашчапіў дзве далоні разам, крэпка патрос імі ў паветры — сябры да канца! Пайшоў спаць у сваю камору.

У неасветленым тамбуры забарабаніла кінутае Мішам пад нагамі ў праходзе бляшанае вядро з-пад попелу. Дзверы рванулі, у праёме з цемнаты вымалявалася раз'юшаная Хрысціна з адарванай дзвярной ручкай, нібы браўнінгам, у руцэ. Наконт ручкі яна не вінаватая — вясельныя адарвалі, так была прыторкнута часова.

— Где Володя?! — ад парога запатрабавала справаздачы Хрысціна.

Жанчына невыразна паціснула плячамі, кіўнула галавой, маўляў, дзесьці тут… Хрысціна рушыла ў глыбіню апартаментаў. Праз міг адтуль паляцела брыдкаслоўе і абразы.

— Пенсионерки! Бабушки! Старые выварки!

Каханкі няспешна апраналіся. Балерына, абмінаючы ў праходзе Хрысціну, культурна прамовіла.

— Не изощряйтесь, барышня, все мы тут подруги по несчастью…

— Девчонки, да не ссорьтесь вы, — спакойна, быццам вось толькі выйшаў з кабінета паўшчуваць малодшых сясцёр і яго гэты канфуз ніякім бокам не тычыўся, прамовіў Зорыч, нацягваючы сподняе.

Хрысціна выбегла ў фае, хацела нагой адчыніць дзверы, ды забылася, што іх заклініла ад вырванай ручкі, з усяго размаху па інерцыі дзюбнула лбом у шыбіну, шкло бразнула аб вядро, пасыпалася на цэментаваную падлогу. Хрысціна з мацюкамі выбегла праз шашлычную, яна ведала тут усе хады і выхады, сама не раз бывала ў «канюшні»: спачатку ў прыемнай ролі каханкі, потым шчаслівай нявестай, пасля законнай жонкай і, нарэшце, з аблавай. Наўздагон ёй Зорыч паўжартам, паўсур'ёзна запытаўся:

— Май лав, сапожками конфликт исчерпан или сразу за шубой ехать?

Але сягоння ён ужо нікуды не паехаў, падвёз да аўтобуснага прыпынка распараную пакрыўджаную балерыну, апраўдаўся прынятымі «на грудь» градусамі і вярнуўся на базу, у багажніку яго аўтамабіля ляжала некалькі бутэлек сапраўднага італьянскага вінаграднага, засталіся з вандроўкі ў Італію. Зорыч шчодра выставіў сухое на стол. Хрысціна прыбягала яшчэ не раз. Апошнім візітам яна такі наскочыла на збянтэжанага Гаспадара базы. Беспрытомны Мужчына спрасоння выпаўз на хвілінку пастаяць тварам да сцяны, і тут Хрысціна, не зважаючы на пікантнасць моманту, пачала вычытваць за бардак у гаспадарцы. Прыгразіла выклікаць міліцыю, патэлефанаваць у падатковую, напісаць у фінансавы аддзел і энерганадзор.

Воўк сабакі не баіцца — не любіць звягі.

— Што тут робіцца?! — Мужчына з вялікім намаганнем перакінуў нагу цераз парог, утрымліваючы баланс, дзвюма рукамі абхапіў вушак.

— Усё як звычайна.

— Дык што тут у ВАС робіцца?! Хрысціна ў міліцыю тэлефануе, — не губляў цікаўнасці Мужчына, хоць пасля трохдзённай навагодняй папойкі з Паслом на вуліцы Чырваназорнай (жонка Пасла з сынам традыцыйна

адзначала Новы год у Празе без мужа) яму не хацелася ўдзельнічаць ні ў якіх праблемах, марыў толькі аб гарызанталі.

— У НАС… Вашы сябры, як тут даўно і не мной заведзена, адчуваюць сябе як дома, — адказала Жанчына.

Зорыч паклікаў Гаспадара да стала, адмаўляцца той не ўмеў, хоць стол відавочна здаваўся яму пакутай. Жанчына паставіла чысты фужэр, Мужчына сядзеў сціпла і безудзельна, бы ў гасцях, гледзячы вялізнымі пукатымі вачамі перад сабой у нябачную кропку. Жанчына наліла ў таз летняй вады, насыпала солі, паставіла пад стол.

— Суньце ногі ў ваду. Страх глядзець — распухлі, што бярвенне. Мужчына паслухмяна рабіў усё, што прапанавалі: браў бакал, выпіваў налітае, акунаў ногі. На трэцім фужэры ён умольна звярнуўся да Жанчыны жаласлівым голасам.

— Дапамажыце дайсці да ложка.

Жанчына павяла яго ў дальні пакой. На слізкай кафлянай падлозе яго ногі пакідалі шырокія мокрыя плямы. Мужчына кульнуўся ў ложак, з усяго размаху бразнуўся галавой аб драўляны брыж, падтрымаць сто пятнаццаць кіль ёй не ўдалося. Пстрыкнулі на жываце гузікі з кашулі, пасыпаліся долу. Жанчына расшпіліла і верхні — каўнер душыў шыю. Непаслухмянай рукой Мужчына ўхапіў яе за сцягно.

— Вось тут вы і папалі…

— Ай, спіце вы ўжо.

Але спаць не выпадала. Зазваніў мабільны, жанчына дастала з нагруднай кішэні яго кашулі тэлефон. Ёй не аднойчы прыходзілася адказваць на званкі за Мужчыну.

— Калі Алімпіец — не падымайце трубку, — папярэдзіў ён.

— Так і ёсць — Алімпіец П. Чацвёрты не прыняты. Чаму вы не прымалі званкі ад Алімпійца П.?

— Дык ён у госці будзе прасіцца.

— Мала іх у вас тут, гасцей? Не выводныя.

— Дык ён жа дзяўчат, маладых спартовак прывязе.

— І што?

— Мяне запатрабуюць, адзін не справіцца.

— У чым жа праблема?

— Вы каля мяне ўсю пляцоўку занялі. Куды дзяўчат яшчэ?

— Канал шчасця перакрыла, выходзіць.

— Якое там шчасце, — мармытаў Мужчына сонным, тэатральна старэчым голасам. — Мне гэтыя дзеўкі да лямпачкі. Але ж хочацца іншы раз праверыць, як там у іх — удоўж ці ўпоперак.

Тэлефон зноў зазваніў. На гэты раз не Алімпіец. Жанчына націснула зялёную кнопку і рэзка адвяла трубку далей ад вуха.

— Мікалаевіч! Што гэта дазваніцца ніяк не магу?! Забірайце бацьку — надаеў, п’е з ранку да начы!

Жанчына не зразумела, прыкрыла рукой мікрафон, прашаптала выразна ў самае вуха Мужчыны.

— Нейкая «Дачка Як», — прыгледзеўшыся ў экранчык мабільнага, прачытала Жанчына. — Крычыць, каб бацьку забіралі, выгнала яна яго з дому.

— О-о-о, у Якаўлевіча скончыліся сто долараў. Б’е свае рэкорды — тры дні, — ён забраў слухаўку з рук Жанчыны.

— Алё.

Там паўтарылі слова ў слова, толькі з большым напалам і нецярпеннем.

— Ёсць, — па-ваеннаму прыняў загад Мужчына, звесіў ногі з пасцелі, намацаў гумовыя сланцы, якія жанчына ў руках прынесла ад стала, з цяжкасцю ўпіхнуў у іх разбухлыя ступні.

— Што рабіць з Зорычам? — запыталася яна. — Поўнач мінула.

— А рабіце што хочаце.

— Лёгка сказаць.

— Міша!!! — зароў Мужчына ў двары, на хаду абтрасаючы снег са сланцаў.

— Я тут, Мікалаевіч, — хрыпла адказаў Міша, выходзячы з кацельнай.

— Дзе вы яго будзеце шукаць па Мінску? — спытала Жанчына

— А дзе яму быць, як не ў Графа, — кінуў Мужчына, падыходзячы да аўтобуса. — Не забяру сёння — заўтра абодва разам зап’юць на доўгі час. У Канюках трэба завяршаць падключэнне водаправода.

П’яным Мужчына толькі прымушаў сябе быць, цвярозасць з яго галавы і колам не выбіць.

*

Коля Граф паўнапраўны і адзін з даўнейшых чальцоў брыгады. Жыве на базе з хлопцамі, хоць сам мінчанін. У яго жонка і двое дзяцей, але Коля месяцамі прападае тут, не губляе надзеі штосьці зарабіць для сям’і. Рабацяга. Апынуўся ў брыгадзе дзякуючы найлепшаму сябру, Якаўлевічу. З маладосці на адным заводзе працавалі, кватэры атрымалі ў свой час у адным доме. Так і жывуць, як браты, ніколі не сварацца, не спрачаюцца.

Дамочкі ў вёсцы Канюкі купіць, хутчэй за ўсё, параіў Гаспадару Граф, ён адтуль, у Канюках застаўся бацькоўскі дом жонкі Графа. Летняй парой Люда Кулеш (такое сапраўднае прозвішча Колі, Граф — мянушка) адпачывае ў Канюках. Збіраюць з мужам ягады, грыбы… Граф першакласны спец у лесе. Правядзе па самых непраходных балотах, выратуе ад лешавых сцежак, адкрые нявідана багатыя ягадамі паляны. Ад чатырох раніцы ў

лесе, потым на будоўлі, потым вязе здаваць грыбы, потым усё прап'юць разам з каханай жонкай.

— Узарву! Замінірую! Парэжу! Застрэлю! — крычыць п'яны Кулеш. Хто яго не ведае — напалохаецца. Свае толькі смяюцца. Як і сябар яго, Якаўлевіч, Граф не злы, ціхі, жаласлівы, добры душой. Самае шкоднае, на што здольны, — сцягнуць якую дробязь з базы сабе ў гаспадарку. Такіх, як Граф, Моўша лічыў быдлосамі, смеццем, асабліва дзічыла яго шляхецкая мянушка: факт — самім Куляшом прыдуманая. Тым больш, у наваколлі засталося мала старажылаў, якія памяталі маладога Куляша, сам ён не тутэйшы, прымака — не праверыш. Дзе б ні быў Моўша, па якіх мясцовых крамах і прадпрыемствах ні акалачваўся следам за Гаспадаром, не прамінаў запытацца незнарок, ці ведае тут хто такога Колю па мянушцы Граф. Нарэшце яму неверагодна пашанцавала. У адным з вясковых прадмагаў прадавачка ўлавіла родную хвалю зацікаўленасці, ганебна хмыкнула і распавяла сакрэт, што Граф на справе з'яўляецца Сандалем, так ён тут зваўся сярод тубыльцаў праз сваю крайнюю нішчымнасць і жабрацтва. Моўша ад радасці ледзь не верашчаў, але выгляду не падаваў. Доўгі час з падагрэтай павагай да ахвяры выбіраў момант, і ён надышоў. Святамі ў Канюкі з'ехаліся гараджане, госці, адпачыванцы. Як звычайна, усе вечарам сцягнуліся да мангала ля басейнчыка. Быў і сусед, гамяльчанін па мянушцы Кадафі, які бясконца казыраў сваімі замежнымі камандзіроўкамі, асабліва ў Лівію. Кадафі, а разам і яго швагру Мянта (па мянушцы і па занятасці) асцерагаліся: грубыя, жорсткія, маглі без разбору пакрыўдзіць як словам, так і фізічна: проста сунуць кулаком пад дых. У самы разгар хмяльной сябрыны, яшчэ не зусім п'янай, ды ўжо нервовай, задзірлівай і нядобрай, ад сваёй хаты паказаўся Кулеш. Ён тыргіцкаў у светлым настроі да збірышча, здалёк падняў далонь: Граф вітае! Моўша кашлянуў у нецярпенні, як толькі Кулеш параўняўся з кастрышчам, прамовіў выразна, чутна ўсім: «О, Сандаль прышлэпаў». Зарагатаў Кадафі, захіхікалі яго дочкі, заржаў Мент, пырснула Мянтова жонка. Кулеш сеў на лаву, Моўша ў той жа момантам устаў, незамацаваная дошка гважанулася — Кулеш кульнуўся долу. Ціха мацюкнуўся, засмяяўся, перасеў і стаў грэць рукі над агнём, у сполахах на асветленай шчацэ бліснуў вузенькі шнурочак.

*

Дыябетыка прывезлі ў вялікія маразы. Хтосьці са знаёмых Гаспадара пашкадаваў вялізазнага, паўнацелага — ад хваробы, бо раз'ядацца яму не было з чаго, нязграбнага, ленаватага, ледзь-ледзь апранутага ў што папала хлопца-цельпука і прывёз да двара на зімоўку.

Іншы раз прырода стамляецца шчыраваць «з праху», дазваляе сабе абыякава аднесціся да стварэння фізічнага выгляду істоты. Толькі пахаваюць чалавека, глядзіш — пабег новы, выліты пакойны Сёма, Сашка, Грыша — пухам ім зямля, а цела быццам узялі ў пазыку, напракат, як пасля хімчысткі чужое паліто. Горш таго бывае: перасыпе запчасткі,ператасуе, а скласці ранейшым парадкам залянуецца. Кіне каму што: тое — ад гэнага, гэта — ад тога. Так і ў Дыябетыка — некамплект. Нават галаву склалі з дзвюх розных палавін. Паўшар твару — вялікага памеру, паўшар задняй часткі чэрапа — ад меншага. Іх берагі розных акружнасцяў не супалі на стыку. Моцнае грамаздлівае тулава паставілі на тонкія ногі формай пад літару «Х». Здольнасць мазгоў да інтэлектуальнага мыслення сумясцілі са свінскім норавам. Дыябетыка неўзлюбілі адразу і ўсе. У першы ж вечар ён выявіў невыносны характар: фанабэрысты, няўдзячны, да таго ж аказаўся нячыстым на руку. Тут кожны мог цыўкнуць у Гаспадара што пападзецца, як патрэба прыйдзе: прадалі і новы каштоўны фірменны перфаратар, і бензапілу, электрадрэль, шурупавёрт, будматэрыялы (самому ж Гаспадару маглі запрапанаваць, быццам прынесены кімсьці з вуліцы, з другога аб’екта, тавар. Па нецвярозасці, спрасоння яму ўсё адно — купляй, Міша). А вось бутэльку адзін у аднаго сцягнуць — забаранялася! Дыябетык парушыў закон. Пакуль брыгада працавала, выпіваў чыёсьці піва і беспрытомны (яму хапала) засынаў, у дадатак да ўсяго пусціўшы па падлозе з-пад сябе смярдзючы жоўты ручаёк.

І ў першы дзень, доўга чакаючы, пакуль брыгада вернецца з работы, потым пакуль закупяць і прывязуць прадукты, яшчэ пакуль Міша згатуе вячэру, Дыябетык пачаў абурацца дрэнным побытам, непарадкамі ў гаспадарцы — ён разлічваў на іншы прыём, на лепшыя ўмовы, у яго лопнула цярпенне, хацелася есці.

— Пэўна, пад плот табе своечасова падносілі, — заключыў Якаўлевіч.

— А што ты сёння рабіў, каб ежу патрабаваць? — падтрымаў сябра Граф. — Шуфлем не кідануў, а парадкі ўзяўся перайначваць.

— Цябе тут ніхто не трымае, — склыгануў зубамі Міша і ўцёк, бо з калідора пачуліся крокі Гаспадара — прывёз лекі Дыябетыку.

Да работы Дыябетык аказаўся абсалютна не прыдатным, нават двор ад снегу расчысціць яго рукі не слугавалі. Кожную раніцу пачынаў са сваркі: не так усё трэба рабіць, не ў гэты час, зусім не тымі прыладамі, і наогул кругом адны дурні, нічога ў будаўніцтве не разумеюць.

Звычайная з’ява: у фатэлі ля печы сядзіць Дыябетык, у руках газеціна ці часопіс, між радкамі і артыкуламі ён выкрывае Гаспадара за няздольнасць весці справы. Гаспадар такім праявам ніякай увагі не надаваў, хоць чуў усё, бо спаў тут жа за занавескай, — не па рангу забава. Сам сабе ціха

ўхмыляўся, маўляў, яшчэ ў тваім жыцці здарыцца магчымасць параўнаць умовы, тады прыпомніш.

Дзякуючы знаёмству з Сашам-камазаўцам Гаспадару за шалёныя грошы ўдалося ажыццявіць даўнюю мару — вырыць у Канюках праточны ставок ля крынічкі і прабурыць свідравіну. Да гэтай свідравіны, якой карысталіся б усе жыхары і адпачыванцы вёскі, ён купіў дарагую электрапомпу, каб з нізіны вада паступала аж наверх, у дом. Дык вось Дыябетык, будучы чалавекам інтэлектуальна нераўнадушным, зацікавіўшыся новым абсталяваннем, здолеў-такі ўтапіць помпу ў той глыбіннай свідравіне. Мужчына выпіў з гора шампанскага і пайшоў спаць. Перажыць вялікія дарэмныя траты ён мог толькі ў дрымоце. Брыгада, змушаная ўтопленую помпу нейкім чынам даставаць, крэпка пакрыўдзілася на Дыябетыка. Вечарам ён, не адчуўшы адказнасці крытычнага моманту, сцягнуў у Юравай сяброўкі Фаіны двухлітровік піва. Раніцай Гаспадару прыйшлося везці Дыябетыка ў бальніцу. У адносіны між работнікамі ён рэдка ўмешваўся, але самі адносіны напоўніцу залежалі ад настрою Гаспадара… Дарослыя мужчыны адзін перад адным перадкавалі, убіваючыся ў ласку, вечарам спяшаліся заняць месца побач за сталом, раніцай — у машыне. Хто прапанаваў масаж, хто паслугу цырульніка. Мужчына часта прамаўляў: «Самае галоўнае ў калектыве — псіхалагічная атмасфера!» Дык вось ён сам лепш за ўсіх умеў узвіхурыць яе. Ці знарок, ці не: сваім позіркам, словам ён абавязкова надзяляў ад раніцы кагосьці асобнай увагай, выводзіў на мігі наліць сакрэтную чарку для пахмелу, даваў пасмакаваць са сваіх рук недаедзены сняданак. Хоць чарку кожны атрымае сваёй чаргой, але першы лічыўся фаварытам. Брыгада затойвала злосць на шчаслíўца, і праз некалькі гадзін ствараласа невыноснае становішча. Распачыналася сварка, кідалі работу, сыходзілі ў краму па віно, напіваліся, цягалі адзін аднаго загрудкі, надоўга ўпадалі ў запой. Маніпуляцыя людзьмі — крадзеж чужога жыцця…

Дыябетыку сшылі трэці раз (як аказалася) зламаныя сківіцы, ніжнюю і верхнюю разам, моцнай шаўковай ніткай між зубоў крыж-накрыж так, што яны не разнімаліся, і ежу Дыябетык мог прымаць толькі праз трубачку. Свяціла вясновае сонца, спявалі птушкі, пад кожным кустом раскідвай застолле, спраўляй начлег — Дыябетык у двор не вярнуўся.

*

Фаіну падабралі яшчэ ўвосень на трасе Полацк–Глыбокае. Махнула рукой, круценька ўскочыла ў кабіну: жвавая, лёгкая, вясёлая, бесклапотная. Міша акінуў вокам, зрабіў умомант псіхааналіз, атрымаў лагічны вынік.

— Куды спяшаешся?

— Куды вочы глядзяць, — пажартавала маладзіца.
— То паехалі з намі разам у Мінск!
Фаіна з запытам у твары зірнула на Мішу, потым на вадзіцеля — той пацвердзіў кіўком галавы.
— Запрашаем у нашу брыгаду. Не пакрыўдзім.
Яны распавялі характар дзейнасці, гэтым часам якраз і пад'ехалі да павароту на Зябкі.
— Дык маханём дамоў па шмоткі? — адважна прапанавала Фаіна, рукой тыркнуўшы напрамак.
Пакуль зграбала невялікі багаж, у двор выйшаў муж старэйшай сястры.
— Асарамаціць яна вас. Зняславіць… Запойная, загульная яна, — каб не пачула Фаіна, тым горш жонка, упаўголаса зашапярыў швагра. Як нікому іншаму яму лепш было знаць — жонка і па гэту пару не зусім яшчэ даравала апошні іх сумесны загул. Невядома, што перш кіравала добразычліўцам: жаданне папярэдзіць ці нежаданне страціць сяброўку. Выйшла павітацца Зоя, старэйшая сястра Фаіны. Тыповы твар простай вясковай жанчыны: шырокі, адкрыты, выветраны сіверам да бляску, да чырвані. Струджаныя рукі сашчапіла пад грудзямі. Прамая пастава, позірк прыжмураных (неяк праз) насцярожаных вачэй, углядаецца ў незнаёмцаў: што на гэты раз чакаць ад бедалажнай сястрыцы? Мужчына загаварыў ветліва, прыхільна, відаць, чалавек сур'ёзны, але хто яго там ведае… Яна вынесла гасцінец: шматок сала, некалькі качаноў, мяшэчак бульбы, перакладзеныя газетай яйкі, кошык яблыкаў. Нібыта і пачастунак, дык і сястра, можа, не прападзе па первасці…
У Фаініных руках работа гарэла. Яна ва ўсім знала толк і да ўсяго мела спрыт. Ніякая дробязь не мінала яе ўвагі і зацікаўленасці. Ад пяці гадзін раніцы на нагах: чысціць снег, мяце двор, носіць дровы, распальвае печы, гатуе хлопцам ежу, наладжвае апаратуру… прасуе білеты на грамадскі транспарт і спявае пад экспрэсіўную лірыку караоке: «Желтоглазая ночь, свою милость яви, желтоглазая ночь, ты — царица любви…» Як многія, начыста пазбаўленыя музычнага слыху, яна аж верашчала — так любіла спяваць — і спявала. І дома, і ў рабоце, і за сталом пры гасцях, саліравала нават калісьці на сцэне ў самадзейных канцэртах рамонтна-будаўнічага прадпрыемства, дзе прыйшлося папрацаваць колькі часу. Пракампасціраваныя не раз квіткі злосна шыпяць пад прасам, але, добра вымачаныя, зліпаюцца на дзірачках, выроўніваюцца і яшчэ паслугуюць ёй і хлопцам пры самастойных выкідках у горад. Песні хвалявалі яе, бударажылі і хлопцаў: Фаіна старанна нізводзіла распузыраныя секунды, хапала недаспелую тэрцыю, сігала на нетутэйшыя кварты і квінты, віртуозна апераджала рытм і з зайздроснай упэўненасцю трымала рэзкі дысананс пад тоніку… У такой гаспадыні парадак і ўтульнасць, Фая не ведала, як можна сядзець склаўшы рукі без работы. Яе прысутнасць у брыгадзе не толькі прынесла

зрух і ўдыхнула жыццё у пахмурых хлопцаў, мела найвыгаднейшы сэнс для Гаспадара: прыбірала за групамі гасцей у Канюках, збірала ягады, варыла варэнне, грыбы, даглядала птушку, карміла сабак. Была душой, весялухай і атаманам у брыгадзе — адна здольная замяніць дзесяцярых. Хутка пра яе дазналася наваколле… і панеслася! Кожны кінуты жонкай бадзяка альбо бабыль ці ўдавец за шчасце меў бы атрымаць у хату такую жанчыну, гаспадыньку і сяброўку.

Ад першага дня Фаінінай тут прысутнасці, таксама па дарозе сустрэты і прывезены разам з ёй на базу, Сеўка стаў яе першым тут кавалерам. Фаініна супрацьлегласць. Нервовы, крыўдлівы, нязграбны, кволы, плаксівы няўмеха. «Цыркуль ты!» — смяялася без злосці Фаіна з яго звычкі на прамых нагах боўтацца без справы сярод хаты абы побач з Фаінай. Дзе яму такую ўтрымаць? Пасябравалі, пакуль прыгледзелася да брыгады і до. Сеўка кідаўся вешацца, скардзіўся Гаспадару, патрабаваў прыняць меры, у Зябкі тэлефанаваў Зоі — а чым яна дапаможа? Фаіна ўнаравіла Юру. Сеўка з'ехаў дадому, больш не вяртаўся. Ды яна і ля Юры не затрымалася, як ні спрыяў іх тандэму Гаспадар, зацікаўлены не страціць выгадных работнікаў, паўсюль у вандроўкі з брыгадай стараўся вазіць і Фаю. Пагасцявала яна нават на вяселлі Юравага сына. Не паслухаў Юра сыноў, прывёз-такі новую, без году нядзеля, жонку пахваліцца перад раднёй для свайго бенефісу. Ці жарт?! За шафёра на вяселлі слугаваў сам Гаспадар, юрыст са сталіцы (пабаяўся, што Юра зап'е адзін на вяселлі і не вернецца ў брыгаду.) Вось не атрымалася з музыкантам, Юра затаіў крыўду на Жанчыну: адмовілася пайграць, а то яшчэ б адна фішка — былы дырэктар музычнай школы абслугоўвае ЯГО, грае на вяселлі сына!..

Фаіна закадрыла там маладога свата, пляменніка Юры, і пайшла з ім разам начаваць на сена. Дараваў… Хутка Фаіна стала запіваць на тыдзень-два. Сыходзіла ўпрочкі да чарговага кавалера і там не доўга гасцявала, вярталася ў брыгаду. Юра дараваў і гэтыя здрады, мірыліся. Паціху наладжваўся былы рытм жыцця. Тут пачынаўся сезон: паляўнічыя едуць у лес, сямейныя мальцы, адказныя, пры ружжах, тармазнуць ля ганка.

— Фая! Паехалі з намі!

— Бырла ё?

— А то!

Кіне недамытую падлогу, пакрыўджаных хлопцаў і — айда на невядомы час. Вернецца праз тыдзень выпетраная, высмягшая, выхуданая, змызганая, хворая, зацятая. І паляўнічыя да жонак павязуць не толькі дзікоў з ласяцінай, хвароб гідкіх, саромных — лячыцеся, жонкі.

Міша выведаў пра дамок на хутары, спадчынная маёмасць Фаіны, — з радасцю прадала, каму ён там у вёсцы патрэбен. Афармілі без перашкоды.

*

Адпрасаваныя на кант чорныя штаны. Бялюткая кашуля, «бабачка» пад каўняром, лакіраваныя пантэфлі. Прамы як струна паставай. Цыгарэта ў артыстычна адхіленай руцэ. Мэтанакіраваны позірк. Гадзіннік на бліскучым ланцужку, мабільны тэлефон у скураным футляры. Стылёвы, інтэлектуальны, іранічны, вытанчаны эстэт.

— Мікалаевіч, да вас нейкі шляхціч завітаў, вунь па двары пахаджае.

— То наш Сярога.

Адзенне — усё са сметніцы, ім жа адмытае, выпрасаванае, даведзенае да глянцу. Гадзіннік адрыў на базе ў залежах хламу, тэлефон выпрасіў купіць авансам. У яго катушку на маленечкім століку красуюцца срэбраныя чайнік з цукровымі кусачкамі і мініяцюрны сервіз пад каву. Сяргей любіў прыгожыя каштоўныя рэчы, вышукваў іх тут па кутах сярод смецця і зносіў у свой.

Выгляд Сяргея мяняўся да непазнавальнасці, і дыктавалі яго не знешнія перамены — унутраны стан чалавека. Натуры разнастайнай, супярэчлівай, з бліскучай памяццю, учэпістым розумам, псіхалагічным звышчуццём, містычнымі задаткамі, адчайнай і смелай да крайняй мяжы (акрамя Мужчыны, усе Сяргея баяліся, Міша — першы. Яму аднойчы Сяргей ледзь не адарваў вушы. Усё праз дурны жарт. На пытанне, за што Зінгер адседзеў тэрмін, Мужчына пасмяяўся: адрэзаў жонцы вушы. Сапраўдных прычын Моўшавых сідак не ведаў ніхто. Хваліўся: украў пятнаццаць КамАЗаў — пераганяў па загаду. Уздыхаў прытым: маўляў, гэта з гразі ў князі весела, а вось назад — цяжка. Лічы — намякаў — за князя. Пры наступнай стычцы Сяргей напаў на Мішу, і той ледзь вырваўся з акрываўленымі вушамі), адначасова натуры дробнай, гнюснай, нікчэмнай. З часам Сяргей выявіў абсалютную здольнасць лёкая: прыроджанага, таленавітага, хітрага. Сяргей умеў патрафіць Гаспадару не горш за Мішу, убіцца ў ласку, сказаўшы тое, чаго прагнуць на гэту хвіліну яго вушы. Да прыкладу, прытаіўшы здзек, як праз пару гадоў пад яго наглядам расквітнее база, ухваліць якуюсь недарэчную задумку ці пакупку, прыбраць пад настрой пасля гасцей у дамку, ды так, што ні пылінкі не застанецца, літаральна зубной шчоткай адчысціць сцены, столь і падлогу… мог, ды не рабіў, бо не дзеля гэтага сюды з'явіўся.

— Я не працаваць прыехаў. Прыйшоў навесці тут парадак, — паставіў сябе Сяргей ад першых дзён і паўтараў кожнаму, хто імкнуўся дастукацца да яго сумлення.

Сяргея прывёз у двор сын Гаспадара ад другога шлюбу, ён працаваў у казіно, там прыгледзеўся да заўсёднага безграшовага ігрока. Сяргей меў страшную хваробу, залежнасць ад аўтаматаў, іграманію. Даўно праматаў

сваю кватэру і невялікі скарб, што пакінула яму маці, памерлая ў час юнацтва сына.

— Стаю ля труны, вакол амаль увесь наш гарадок: глядзяць на мяне, шкадуюць, — успамінаў Сяргей. — А я заўважаю, якая прыемная мне ўвага натоўпу. Штосьці моцнае расце ў душы, шырыцца, казыча, хвалюе. Вялікае, магутнае… Такі смелы я зрабіўся, адважны — нічога мне не страшна! Маці лупцавала мяне малога смертным боем, дужа зневажала, хоць працавала ў культуры, хорам кіравала, прыгожая, маладая, а я баяўся яе, як ваўка.

Прыехаў Сяргей з багатага, вядомага на ўсю Беларусь калгаса ў Мінск без вопраткі, без дакументаў, без капейкі — як стой. Жыў на часовых кропках: дзе вартаваў шашлычную, дзе тавар у падсобцы на рынку, па знаёмых, на дачах. Начаваў дзе папала. Абыходзіўся на тыдзень адным пачкам аўсяных шматкоў, запараных варам. З’явіўся на базу ў чужым паўпальто, з-за якога доўга яшчэ сварыўся з Мужчынам па тэлефоне ранейшы добразычлівец Сяргея, гаспадар яго былога прыстанішча, пакуль яму не падабралі тут вопратку, годную па росту.

Сяргей хутка скумекаў: Гаспадар, не здольны выносіць эмацыянальныя перагрузкі, лепш дазволіць вадзіць сябе за нос, чым дапусціць якое душэўнае хваляванне. Стаў карыстацца гэтым на ўсе сто адсоткаў: выпрошваў пазыкі, браў авансы, спускаў у казіно атрыманыя ад кліентаў грошы, спасылаўся на непрадбачаныя вялікія траты. Мужчына часта знаходзіўся ў раз’ездах па іншых дамах, тут пакідаў Сяргея аднаго. Хлопец бесцырымонна швэндаўся сярод гасцей, сядаў разам з адпачывальнікамі за стол, травіў анекдоты, баяў байкі, адпускаў пошлыя жарцікі, і заўсёды знаходзіліся прыхільнікі яго таленту сярод самых разнастайных кампаній. Нярэдка раз’ядноўваў групу на два варожыя лагеры: хтосьці пакідаў тусоўку пакрыўджаным. Сяргея не цікавіла ўражанне гасцей, аўтарытэт дамка — яму тут не векаваць. Далёкіх планаў не любіцель, Сяргей не клапаціўся аб рэйтынгу на адпаведных сайтах, аб рэпутацыі бізнесу. Хутка ён стаў выдаваць сябе за гаспадара. Лёгка займеў «сваіх» кліентаў. Наладзіў цішком даўно кінутую «Аўдзі», падабраў да яе ключы і раз’язджаў без правоў і дакументаў. Пад час адсутнасці гаспадара здаваў дамок тайна, сабе ў карман. І прыбытак ад зарэгістраваных груп яму нярэдка ўдавалася ўтаіць ад Мужчыны, потым проста збедніцца і паслухаць чарговае ўшчуванне. Бліскуча адораны самымі разнастайнымі здольнасцямі, Сяргей нёс у сабе незаменную асобу пад час аўралаў — лепшага ратаўніка ўявіць цяжка. Не давядзіся, пагасне святло на ўсёй вуліцы — спыняй, база, жыццё. Калі дом заняты адпачывальнікамі — патавае становішча! Ад святла ў мінскім гасцявым і вада залежыць: у туалет не зайсці, посуд не памыць, святла няма, музычная апаратура не працуе. Ад прысутнасці Гаспадара на базе ў такім выпадку не залежыць нічога.

Мужчына, бы страус, хаваўся пад коўдру і засынаў, прыгасіўшы нервовы стрэс бутэлькай сухога. У лазні — дзесяць намыленых нецвярозых дзецюкоў. Страшна ўявіць іх стыхійную незадаволенасць сэрвісам! Не дапаможа ні прапанова адпачынку без аплаты іншым разам, ні шчырае абяцанне вярнуць усе грошы да капейкі — адпачынак сапсаваны! Такое было. Сяргей вяртаўся з казіно па тэлефоннаму званку Жанчыны. Ён вырашаў праблему перш за ўсё здольнасцю да дыпламатыі, і ў другую і ў трэцюю ступень — прыроджаным талентам амбасадара. Сяргей праз дваццаць хвілін вяртаў святочны настрой тусоўцы. Ён развешваў па сценах бытавыя ліхтарыкі, дзякуючы містычнаму звышчуццю знаходзіў на сметніцы і падключаў якісь акумулятар, гнаў з гумарам хлопцаў у басейн апаласнуць пену, насіў шайкі з вадой у лазню абліць нязгодных, без перапынку таратаіў языком, сыпаў смешныя небыліцы, не даваў гасцям апамятацца, а яшчэ праз нейкіх паўгадзіны ўлучалі нарэшце святло…

*

На базе, акрамя Жанчыны з Сяргеем, нікога не засталося. Яна не любіла такія дні.

— Пакідаю вам у памочнікі Сярогу, толькі кіруйце становішчам, — заяўляў Мужчына, не змушаючы сябе падумаць, як тое ішло на справе. Дапамагаць хлопец ані не рупіўся: сварыцца з псіхічна неўраўнаважаным чалавекам — небяспечная справа. Жанчыне аднойчы гэта прыйшлося зразумець. Паспрабавала запярэчыць: Сяргей спусціў Біма з ланцуга і прывёў у п'яную кампанію. Сабака хадзіў па стале, еў з талерак, шчэрыў пашчу на асабліва цікаўных разявак. Новая група чакала ў двары, прыняць яе не было ніякай магчымасці. Сяргей не стараўся спраўдзіць загасцявалых нахабных кліентаў. Наадварот — забаўляў, прываджваў, бо з некаторымі паспеў пасябраваць, яны нават замовілі ў яго асабіста лазню на будучую адсутнасць Гаспадара. Не выбіраючы слоў і інтанацыі, Жанчына запатрабавала вывесці вон сабаку. У адказ пачула такое, што пашкадавала аб сваёй непрадбачлівасці…

Звычайна з вечара Сяргей, нацыганіўшы па кліентах за растопку мангала грошы, зыходзіў у казіно. Не ўсе госці трапляліся шчодрымі. Тое не ставала прычынай застацца на базе. У зале іграваых аўтаматаў вяліся падпольныя рахункі і парадкі. Работнікі клубаў употай пазычалі пад працэнт грошы сваім заўсёднікам. Як выгрыш, так і пройгрыш прыносіў ліхвярам не малую выгаду. Выйгрыш вяртаў пазыку з працэнтам і долю ад выйгранай сумы. Пройгрыш хоць і аддаляў пазыку, затое расціў працэнт. За ноч паспявала перавярнуцца шмат аперацый, і пазыканты ніколі не заставаліся ў накладзе — праз тых жа безграшовых ігракоў імі

вёўся забаронены адміністрацыяй абмен валюты, чапляліся на кручок новыя залежныя ахвяры. Самы лепшы вынік безграшовага іграка, калі той здолее своечасова спыніцца, чакаў у выглядзе невялічкага астатку на торбачку прадуктаў з суседняга супермаркета: батон, малако, плаўлены сырок, калечка таннай кілбасы. Так што прысутнасць Сяргея дыктавалася не столькі неабходнасцю ў ім на базе, колькі патрэбай у казіно: сын Гаспадара не жадаў упусціць з вачэй выгаднага кліента. Вяртаўся Сяргей раніцай беспрытомны, не ад алкаголю, — ад нервовай перанапругі. Сяргея калаціла, ён курчыўся ў дрыжыках, на позвы не рэагаваў. Было, залез у ванну, наліў гарачай вады адагрэцца і не звяртаў увагі, што аплачаны на двое сутак дом даўно заняты чужымі людзьмі. Сварыцца з Сяргеем у тым стане бессэнсоўна. Няхай яна будзе і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц, але Жанчына куды лягчэй пераносіла адсутнасць памочніка, чым яго прысутнасць.

Сягоння яна поркалася ў кветніку, сплятала пад гартэнзіі кошыкі з лазы, абкладвала каляровымі каменьчыкамі папараць — садовы дызайн займаў і захапляў. Жанчына адкрыла тут у сабе новыя здольнасці, аб якіх нават і не здагадвалася, бо развіваць іх дома не было шанцу: надта дарагі занятак. А ў Мужчыны з грашамі, вядома, асаблівыя адносіны — куды б збыць — раздолле ў творчасці: сядзіб шмат, толькі пальцам паспявай ківаць — усё прыдбае, што ні прыйдзе ў галаву з новымі планамі па інтэр’еру ці дызайну. Пад поўдзень на ганку з’явіўся нарэшце заспаны пакамечаны памагаты. Сяргей коса зыркнуў, пазяхнуў на ўвесь рот, пачасаў патыліцу.

— А што, усе зноў куды з’ехалі?

— Толькі зараз заўважыў? Другія суткі, як ты павінен пачысціць басейн і замяніць ваду.

— А пайшло яно! Усё роўна ў гэтым праклятым двары ўсё праз жопу. Калі Мікалаевіч хоча, каб я тут быў, няхай грошы плоціць як паложана, — кінуўся разважаць Сяргей, намацваючы псіхалагічную абстаноўку, — а няма, дык я сваіх кліентаў знайду і зараблю на сябе, яшчэ й ягоных магу прымаць пад добры працэнт.

Як ні заракалася Жанчына ніколі не падтрымліваць падобных размоў з кім бы то ні было з жыльцоў базы, з Сяргеем тым больш, — не хапіла цярплівасці.

— Ого, планы! Хто будзе рамонтам займацца? За якія грошы посуд, мэблю, усё астатняе купіш?.. Які б ні быў гэты дом — не ты яго будаваў… Мы тут часовыя.

— Бачу, вы захацелі не часовай стаць, вернеце работу з ранку да ночы. Да Мікалаевіча рашылі ў ласку ўбіцца? — Сяргей заўсёды трымаў за пазухай самы надзейны козыр: абразіць Жанчыну яе неадназначнымі адносінамі з Гаспадаром. — Няўжо вам не надакучыла такая лабуда — сядзець тут, сярод халдзеяў смярдзючых?

— Ідзі куды ішоў. У мяне свае рахункі з жыццём, у цябе — свае.
— Якой х…нёй вы займаецеся! Лепш пайшлі б пазагаралі.
— Адчапіся.
— Я наогул не разумею, што вас тут трымае, чалавек з вышэйшай адукацыяй, з такой спецыяльнасцю? Работа, блін, была, як у людзей, чаго не хапала?

Сяргея вельмі раздражняла прысутнасць Жанчыны на базе. Спачатку ён прыняў яе за маці хлопца, што прывёз яго ў гэты двор, і, знайшоўшы ў Жанчыне і востры розум, і спагаду, і гумар, хоць прытым дужа нелагодны характар, з павагай ставіўся як да гаспадыні. Калі ж дазнаўся, што яна нават і не жонка гаспадару, а Мужчына за звычайную дамашнюю работу плоціць ёй немалыя грошы, якія проста маглі б дастацца яму, ды яшчэ дадаў іншыя для сябе невыгоды яе тут існавання, узлаваўся. Сяргей хацеў заставацца без нагляду, з гонарам пачуваць сябе. Прысутнасць Жанчыны не дазваляла весці стасункі сам-насам з кліентамі, ператварала яго перад імі ў парабка, лёкая, качагара і прыбіральшчыка. Сяргей як мог імкнуўся выказаць сваю незадаволенасць і Жанчыне, і Гаспадару, прымяняў улюбёныя хітрыкі, скардзіўся, нагаворваў, падазраваў, не грэбаваў брыдкаслоўем, вычмураўся ў абразах, па-майстэрску скарыстоўваў дурную звычку Жанчыны сварыцца з Гаспадаром.

— Вы дачакаецеся… Хутка пад мостам апыняцеся. У Мікалаевіча такіх жонак сто на дні можа быць.
— Мы і так тут усе «пад мостам». Ідзі, Сяргей, рабі, што гаспадар даручыў.
— Я не сабака, у мяне няма гаспадара.
— У дома ёсць гаспадар, і ён цябе тут прытуліў.
— Навошта ён вам здаўся? П’е кожны дзень, не прасыхае. Які з яго толк? — сам сабе пярэчыў апанент, горш і горш злуючыся на немагчымасць хоць як адрабіць апошнія запазыкі клубным. — Спінку ён парыць ёй, бляха муха! Я цябе так адпару, што больш ніколі не захочацца! — адыходзячы ў глыбіню двара, мармытаў Сяргей, ён там, схаваўшыся за ўдала сплеценым рукамі Графа парканчыкам, абвітым густым разросшымся ўюном, яшчэ доўга лаяўся і псіхаваў. Жанчына як мага сілілася адключыць увагу, не слухаць. Але пасля, як сышоў у сваю камору, працаваць не змагла, таксама пайшла ў пакойчык, дзе яе чакаў сюрпрыз… Хтосьці распакаваў яшчэ не распачаты пакет сасісак, куплены звечара і пакінуты ў лядоўні ў замкнутай на ключ каморы. Выходзіла, што ў закрытым памяшканні хтосьці пабываў. Лічылася, ключ ад пакойчыка адзін і яго мае толькі Жанчына, бо «касу» і ўсе грошы Гаспадара трымала яна. У грудзях запякло. Сяргей падабраў ключ! Жанчына кінулася да яго ў катушок, але Сярога лоўка прышчаміў нагой дзверы, і ёй ледзь не ляснула па твары кантам — паспела ўхінуцца. З каморы моцна цягнула прыгатаванымі ў

паўлітровіку пры дапамозе электракіпяцільніка сасіскамі. Размаўляць давялося праз зачыненыя дзверы.

— Ты пракраўся ў мой пакойчык!

— У гэтым двары вашага — роўна як і майго. Не крэпка бярыце на пуп!

— Ты ключ падабраў!

— У вас галюцынацыі. Па ўсяму відаць — перагрэліся на сонцы. У вашым узросце небяспечна так працаваць, — смачна, з апетытам прачамкаў Сярога.

Размовы не выйшла. Жанчыну распірала ад злосці і бездапаможнасці, бо зараз не заставалася сумневу — нядаўняя прапажа грошай ёй не прыдумалася, і яна не аблічылася, як запэўніваў Мужчына. Ужо тады Сяргей арудаваў ключамі: замкнёная на час паездкі ў Рэчыцу шафа па вяртанні аказалася расчыненай. А такая нечаканая ў той вечар і зусім не ўласцівая Сяргею прыязнасць да Жанчыны тлумачылася не сяброўскімі адносінамі, а цікаўнасцю, што ж будзе, ці заўважыць яна прапажу, ці здагадаецца пра наяўнасць дубліката.

Жанчына пайшла ў палісаднік да сваіх кветак. Уласнае жаданне палохала. Станавілася страшна, злосць бязлітасна тасавала думкі як заўгодна, не пытаючы дазволу, шукала спосаб пазбавіцца ад ворага. Фізічна!!! Сяргей, Міша, Юра… Час, праведзены на базе, жорстка паўплываў на яе. Язык без згоды прамаўляў брыдкаслоўе, яе смачная лаянка падабалася ўсёй брыгадзе — Мужчына знаходзіў у тым пікантную асалоду, хлопцы лічылі: агулам прыняты тон раўняе і братуе іх з Жанчынай, — і зусім не падабалася ёй самой; ні ўвага, ні свядомасць не адольвалі захапіць пачатак «працэсу», спыніць ці запярэчыць яму, быццам чужая істота, а справядлівей — пачвара пасялілася ўсярэдзіне і давала аб сабе знак. Напярэдадні жыццёвых перамен, калі пакідала прывычную работу ў школе, перад самым ад’ездам сюды, ёй сніўся бацька: «Дачушка, баюся, злодзей перахрысціць тваю душу…» Гады, праведзеныя на тэрыторыі базы, пацвердзілі такую магчымасць. Лёгка заставацца чалавекам сярод людзей у звычайных умовах, паспрабуй ім быць вось тут. Жыццё на базе было кепскім альбо зусім кепскім, іншы раз — невыносна кепскім. Ніяк не выходзіла трымацца: зрывалася на разборкі, лаянку, паддавалася на злосць, настрою агулу, ілгала, выкручвалася, нападала і апраўдвалася. Не грэбавала падняць з падлогі цыгарэту, даесці разам з Мужчынам і брыгадай за агульным сталом недаедкі гасцей… Апошняе зусім не палохала Жанчыну і ні на кроплю не прыніжала ў сваіх вачах. Заўсёды лічыла чыстаплюйства заганай — чалавек павінен мець здольнасць выжыць у любых умовах. Трэба было тут апынуцца, каб пазнаць нікчэмны кошт сабе. Яна спрабавала пакінуць базу не раз, аднак і дзень даваўся з пакутай. Ехала адсюль — плакала, ехала сюды — плакала. І пакуль не бачыла выйсця. Праўду кажа Сяргей — тут ёй не месца. Праўду кажа Пятровіч — трэба

браць сябе ў рукі, ратавацца. Што трымае яе тут? Не пасулы, якімі спакушалі ўсё ТАМ пакінуць і прыехаць СЮДЫ: надрукуем кнігі, зладзім выставы, афіцыйна аформім бізнес, будзем даваць адпачынак мастакам і паэтам, даю асобны дом, будзеш мець уласную майстэрню з паўночным святлом… Не тое грэла. Хацела быць побач з чалавекам, у якога жыццё мае высокі сэнс. Вельмі хутка заўважыла — Мужчына не ўладар свайго слова. Грандыёзныя планы — сэнсу пшык. Прага захапіць тэрыторыю, забетанаваць яе на тым і стухала. Ніякім іншым ідэям і намаганням: упарадкаваць, упрыгожыць мясціны, абладзіць людскі адпачынак — не хапала ні ўвагі, ні сродкаў. Грошы ішлі ў пыл. Ва ўсёй свістаплясцы, здавалася, паталагічна прыемным яму было маніпуляваць падапечнымі і назіраць той бруд, у якім прахла жыццё бедалаг.

Трымаў Жанчыну тут страх зноў застацца сам-насам з іншага кшталту ворагам, містычным, якога чалавек носіць у сабе, магчыма, той самай пачварай, што рупіцца зараз браць верх над ёй самой: гэты вораг страшнейшы за туташнія. Моцна памыляўся Нобелеўскі лаўрэат, аўтар рамана «Зрымая тьма» Уільям Голдзінг. Магчыма, перажытае пісьменнікам не было дэпрэсіяй, калі змог вынікаваць: «З дэпрэсіяй нельга змагацца, яе трэба прыняць і змірыцца». Дэпрэсію абавязкова патрэбна лекаваць. Не заўсёды медыкаментозна! Але заўсёды духоўна. Сапраўдную дэпрэсію немагчыма прыняць, і звыкнуцца з ёй немагчыма. Альбо ты пераможаш яе, альбо яна знішчыць цябе. Дэпрэсія — жудасная хвароба, яна даказвае сабою: духоўнае і фізічнае — цэлае! Пачаўшы свой разбуральны паход праз душу, хутка знішчае і фізіялогію.

Нядаўна Жанчына адкрыла трэці стан плачу. Думала, людзі здольны плакаць толькі свядома альбо ў сне. Зараз неаднойчы лавіла ў памежжы між сном і яўнасцю дзіўную непаслухмянасць мышцаў твару. Міміка незалежна ад настрою і жаданняў стварала маску глыбокага адчаю і слёз. Незнаёмая грымаса палохала. Яна выяўляла штосьці новае, не менш загадкавае, чым падсвядомасць, штосьці трэцяе, непадуладнае і свядомасці, больш арганічнае і праўдзівае, чым хацелася б думаць чалавеку аб сабе. Гэта была праўда плоці, якую не падмануць ні юнацкім запалам, ні залівістым смехам, ні разважаннямі аб вечным, ніякімі іншымі апраўданнямі. Нашай часовай, самай надзейнай, самай адданай, іншы раз не ацэненай намі пакутніцай плоці, над якой уладараць нейкія не пазнаныя і яшчэ не прызнаныя чалавекам сілы, аднак яны і ёсць сам чалавек.

Ці адна яна такая, не знаёмая з малітвай, з верай у Бога, перад вітрынай спакус, маны, псеўдасутнасці. Выкінутая, як рыбіна на бераг. Крыўдна і небяспечна злавіць сябе на такой памылцы ў паўвекавым узросце. Жанчына з усіх сіл намагалася закрыцца ад рэальнасці. Ні ў словах, ні ў думках не жадала прызнаваць глыбіню роспачы і разгубленасці перад нечакана аголеным жыццём. Слёзы ні на кроплю не палягчалі цяжар. Розум Жан-

чыны сцвярджаў: «Бог ёсць! Я знаю! Бог ёсць!» Душа не рэагавала, там было пуста… штосьці пакінула яе. Цела чалавека — ёмістасць душы, яе МЕСЦА, СФЕРА, часовае прыстанішча, ФОРМА, якую чалавек за жыццё мусіць напоўніць. Тое, чым будзе напоўнена сфера у канцы жыцця, і стане душой. Але яна здольна пакінуць цела дачасна: саспелая альбо не, па якойсьці іншай хвароблівай прычыне. І гэта не заўсёды супадае з канцом жыцця. Моцныя людзі здольны пражыць некалькі «душэўных» тэрмінаў за адно зямное існаванне. Ёсць сярод нас нямала істот-зомбі, пустых абалонак. Вось такой абалонкай і адчувала сябе Жанчына пад час дэпрэсіі. Жывое, чуткае, радаснае адляцела, а «свято место пусто не бывает», трэба змагацца з усіх сіл, каб яго не захапіў вораг, ды ў тым і бяда, што сіл у становішчы бяздушша не хапае. Прайшоў год з таго часу, як на вочы ёй трапіла Багародзічнае права, здавалася — выпадкам. Яна на працягу года чытала малітвы і аднойчы пачула ноччу страшны голас з зямных нетраў: «Моліцца яна!» Жанчына пракінулася са сну: «Мо-о-оліцца-а-а яна!» Бы ў запаволеным гукавядзенні магнітнай плёнкі электронна-металічны голас пранізваў планетарную прастору ніжняга плана і ўсю істоту самой Жанчыны. Быў голас ЧУЖЫ, ды належаў і ёй, быў голас сваім, толькі зусім не ейным: ЧУЖЫМ і звонку. У тую ноч засталася яна адна сярод недабудаваных сцен на ўскрайку вялізнага горада, у чужым непрытульным раскіданым двары, і ўсё ж не адчула страху. «Малілася і буду маліцца», — адказаў хтосьці з яе падсвядомасці спакойна, упэўнена. Так была паказана ёй сіла малітвы.

Жанчына яшчэ займалася кветкамі, Сяргей суцішыўся, нават спрабаваў лісліва заводзіць гамонку. Павалэндаўся па двары і сышоў у горад. Зазваніў тэлефон.

— Алё. Вы на месцы? — цікавіўся Мужчына. — Вазьміце трыста доляраў, вынесіце да варот. Зараз пад’едзе чалавек — аддайце запазыку.

Жанчына паспрабавала давесці яму свае перажыванні, ды Мужчына толькі пасмяяўся — справяцца без яго, не першы раз.

— Навошта вы тут трымаеце Сяргея? — запатрабавала яна адказу.

— А што мне рабіць? Вы не жадаеце заставацца на базе, вам жа хочацца ездзіць у Браслаў, у Парычы, у Канюкі. Які лямант учынілі, што не ўзяў вас гэтым разам. На каго мне пакінуць дом?

— Як толькі Сяргей перастане прыносіць карысць праз казіно — на базе яго ў той жа дзень не стане пры тых самых варунках.

— А-а, абы-што вы кажаце… — пасмяяўся Мужчына.

Жанчына пайшла па грошы і наўмысна яшчэ раз заглянула ў лядоўню, у пакеце ізноў відавочна паменела сасісак. Іх задача — выжыць, успомніла жартоўныя словы Пасла. Пад час адсутнасці Мужчыны на яе ўскладалася негалосная задача накарміць тых, каго пакінулі на базе. Справа не ў сасісках. Дублікат ключа ламаў усе яе рэдуты.

Машына спынілася ля варот раней, чым Жанчына дайшла да іх. Вылез незнаёмы чалавек, павітаўся. Жанчына падала грошы. Той усміхнуўся.

— Рановато как-то… — пажартаваў госць, грошы не ўзяў.

Ён зайшоў у двор, агледзеўся, адчыніў дзверы у дом.

— Хозяин всего этого участка… — чалавек назваў поўнае прозвішча, імя, па бацьку Гаспадара.

Жанчына падцвердзіла.

— Я сотрудник финансового отдела, — з усмешкай адрэкамендаваўся мужчына. — Дом работает в режиме гостевого комплекса? Много клиентов принимаете за месяц?

Адмаўляцца не выпадала — вясной на ўсю цэнтральную сцяну прымацавалі вялізную драўляную шыльду. Яна, прыгожая, ручной работы, вісела на ланцугах пры самым уваходзе.

— Госці бываюць па святах і выхадных: сябры, сваякі, радня гаспадара. Сябры сына, калегі… Яшчэ толькі вывучаем працэс.

Фінінспектар абышоў усе пакоі, заглянуў у банкетную залу, шашлычную.

— Наверное, вы ведёте какой-то учёт, имеется журнал?

— Так.

— Хотелось бы посмотреть.

— Ой!.. Прабачце, без гаспадара не магу вам нічога паказаць.

Мужчына смеючыся накіраваўся да выхаду.

— В ближайшую пятницу жду его в моём кабинете на третьем этаже, — чалавек назваў сваё прозвішча і нумар кабінета. — В десять тридцать.

Па грошы так ніхто і не аб’явіўся.

У наступную пятніцу Гаспадар з Мішам і Жанчына ехалі па загаданым адрасе.

— Калі праз паўгадзіны не выйду з кабінета — вяртайцеся на базу і знішчайце ўсе журналы, замоўленыя дні прыйдзецца адмяніць — заплоцім няўстойку, — даваў ён «ЦУ» Жанчыне.

— Няўжо павяжуць, Мікалаевіч? — умяшаўся Міша.

Мужчына прамаўчаў.

Ён вярнуўся праз паўгадзіны. Са змоўніцкай ухмылкай сеў за руль, завёў матор.

— Ну што, у Дражню па піламатэрыялы ці перш на «Керамін»? — быццам нічога і не адбылося, маракаваў Мужчына.

— Здзекуецеся з нас, Мікалаевіч?! — не вытрымаў Міша.

— Ды ён, здаецца мне, хацеў вяселле дачкі справіць у нас на халяву — так бы і сказаў, я б з радасцю згадзіўся. Стаў дапытвацца, хто сябры, хто бывае. Я назваў прозвішчы — у яго ахвота адпала цікавіцца журналамі.

*

Сонечным летнім ранкам настрой быў працоўны, ды работа не клеілася. Ні цэменту, ні цэглы, ні грошай. Няма куды рук прыкласці. Паўсонныя хлопцы абівалі вуглы бакамі.

— Мо па «Запарожац» з'ездзіць? — няўпэўнена запытаўся Мужчына.

«Запарожац» — асобая тэма. На пляцоўцы базы стаялі чатыры аўтамабілі. Яны былі не на хаду. Іржавелі патануўшы ў бур'яне: стары вайсковы УАЗік, «Казёл» па-простаму, рарытэтная «Пабеда», «Вольва» даўніх гадоў выпуску і зусім яшчэ прыгодны да эксплуатацыі «Аўдзі-100». Гісторыя апошняй не менш цікавая за гісторыю першай. Адным вечарам зазірнуў на базу Прыяцель. Загасцяваў і Прафесар Вуха-горла-нос. У размове выяснілася: Прафесар мае на продаж аўтамабіль. Пасля трэцяй бутэлькі Прыяцель загарэўся прыдбаць тэхніку, ды грошай з сабой не было. Мужчына не змог адмовіць пазыку, і здзелка адбылася. Прафесар атрымаў на рукі некалькі тысяч зялёных, «Аўдзі» прыгналі да варот і налілі па згодніцкай. На выхадзе з базы Прафесар нялоўка стаў на дашчаны насціл, кульнуўся з ганка і моцна разбіў галаву. Паклалі яго ў акрываўленых прасцінах на ложак, адмылі, адкачалі, павялі дамоў.

Раніцай Прыяцель апамятаўся, што не халасцяк, і сумленна заспяшаўся ў сям'ю. Пра пакупку забыўся наадрэз, адпаведна і пра пазыку. Мужчына паспрабаваў зрабіць зваротны абмен: машыну на грошы, ды Прафесар, аказваецца, адправіў «зялёныя» сыну ў Амерыку. Хутчэй, іх экспрапрыіравала жонка, то яшчэ больш незваротна. Так ці інача — «Аўдзі» засталася ля варот. На ёй адзін раз з'ездзілі ў горад. Пакуль Мужчына хадзіў па справах, Міша крутануўся ў фірменны «Крышталь». Машына дзюбнулася ў слуп, яе і пакінулі на тым няшчасным месцы. За той час, што аўтамабіль чакаў эвакуацыі, яго раскамплектавалі, пакралі ўсё, што можна адвінціць і знесці. Так на базе аказалася чацвёртая адзінка лому. Дзе і як натрапілі на прадаўца «Запарожца» — невядома, і навошта «Запарожац» спатрэбіўся, таксама. Але грошы на факт абвяшчэння пакупкі былі ўнесены, заставалася толькі прыгнаць машыну.

— Паехалі! — бадзёра скамандаваў Мужчына, знайшоўшы нарэшце сабе занятак.

Не жадаючы сядзець без справы, за ім у аўтобус пасела ўся брыгада. Шлях: з Бараўлян у Серабранку. Міша па дарозе чытаў прэсу. Граф з Якаўлевічам успаміналі гады маладосці Юра распавядаў пра родную Латвію, Вася — як у войску служыў. Косця, ўсё ж задаволены, — пахваляўся піцерскім дэсантам. Аўтобус вёз кожнага ў свае ўспаміны.

— Міша! Ты куды глядзіш?

— Што, Мікалаевіч?

—Трэці круг па кальцавой ганяем! Ты што — не бачыш?! Дзе звярнуць, не напомніў!

Нарэшце даехалі да Серабранкі. «Запарожац» стаяў ля высотнага дома.

— Міша! Заводзь!

— Ключоў няма, Мікалаевіч.

— …!!! …!!! Дзе яны?!

— На базе засталіся. Я не памятаю, куды паклаў…

Ключы шукалі актыўна і доўга, за іх знаходку аб'яўлена была немалая ўзнагарода, знайшлі праз пару тыдняў у поліэтыленавым пакеце са смеццем. Машыну забралі, перагналі «Запарожац» маштабнай працэсіяй у Канюкі, дзе на ім адзін раз злёталі ў Ваўчу па віно, пасля чаго машыну хтосьці паспяхова развінціў на запчасткі. Мінаючы ў Ваўчы крайні двор пры шашы, там на агародзе ля хлеўчука некалькі гадоў стаяў на прыколе «Запарожац», Мужчына задаволена адзначаў.

— Маладзец Віця! Адрамантаваў нарэшце машыну, — ён здагадваўся, што, адбываючы зімовую ссылку, Міша грэўся не без дапамогі запчастак ад зялёнага «Запарожца».

*

За шэрай калонай, яна падтрымлівала сяк-так злепленую з цэменту і фанеры столь, на запыленай канапе сярод дошак, мяхоў і штабеляў шклаваты трэці дзень спаў мужчына. Гэта Аляксей. Звычайна пасля першых сутак яго пераставала трэсці, пад канец трэціх арганізм пачынаў прымаць стравы, на чацвёрты дзень прачыналася свядомасць і Аляксей з сумленнем і шчырай падзякай за прытулак абяцаў Гаспадару, што абавязкова разлічыцца за ўсё на свеце адразу пасля пенсіі. Гаспадар добра ведаў: не будзе гэтага ніколі, і такі факт яму даваў нейкую радасць. Найгоршай згубай і абразай для Мужчыны было б жаданне кагосьці з пастаяльцаў пакінуць двор. Больш за ўсё ён хацеў мець ля сябе людзей удзячных, залежных, абавязаных і падначаленых. Хоць у асобе Аляксея такая перспектыва не вымалёўвалася, было ў гэтым шасцідзесяцітрохгадовым лядашчым чалавеку штосьці не зразумелае, асобнае ад іншых і непрадказальнае, у ім зусім не было калектыўнасці.

Аляксей пакутуе на залежнасць ад аўтаматаў, іграманія высмоктвае ўсе сілы. Жыў чалавек, дажыў да старасці і не ведаў, што новы век нясе яму такую страшную хваробу. Жартам паспрабаваў аднойчы пагуляць у аўтаматы, іх скрозь панастаўлена, зайшоў у зазыўна мільгаючы павільёнчык і выйшаў зусім іншым чалавекам. Зараз у яго ні кала ні двара, добра, пенсія засталася і дакументы ў парадку (закалка і звычка доўгіх гадоў

чыноўніцтва — мець павагу да папер). Хоць як-небудзь ачаўрыць Аляксей і прыходзіў на базу, кожны раз абяцаючы аддзячыць. Як толькі атрымліваў пенсію, а яна была немалой, Аляксея ніхто не бачыў на працягу паўмесяца. Потым усё паўтаралася: трое сутак на канапе, адпачне, адап'ецца, падсілкуецца і чакае наступнага паступлення пенсіёну. Вясной Аляксей узяўся абразаць сад, атрымлівалася гэта справа ў яго даволі разумна і прафесійна. Міша ад рэўнасці (раптам Гаспадару згадзілася на штосьці такая нікчэмнасць, глядзі яшчэ, прытаварышуецца да яго) як шалёны бегаў па двары, злаваў, лаяўся, екатаў, учыніў сапраўдны скандал, чапляўся да Аляксея, абражаў яго, патрабаваў зараз жа кінуць пустую работу.

— Няхай абразае, — спакойна заключыў Гаспадар, не менш задаволены Мішавай адданасцю, чым увагай Аляксея да саду. — Адчапіся ад чалавека.

Аляксей перадаў Жанчыне на схрон свае паперы, адзіны пажытак, акром вопраткі на ім.

— Храните как зеницу ока, — папярэджваў.

— Ну, ад мяне тут не ўсё залежыць. І не камера аховы тут вам.

— Можете почитать при желании, — з важнай мінай на твары прапанаваў жылец.

— Навошта мне яно? — здзівілася Жанчына.

— А вы прочтите. Вы и представить себе не можете, КТО я такой.

«Ну чаму ж? І не такіх бачылі», — хацела адказаць Жанчына, але прамовіла:

— Усе мы аднолькавыя, калі трапілі сюды.

Яна заглянула ў паперы. Там былі «Неадпраўленыя лісты Пуціну» з парадамі, як кіраваць дзяржавай, у іх Аляксей фамільярна называў прэзідэнта «Володенькой»…

*

Звычайна навагоднія святкаванні зацягваліся ледзь не на месяц, плаўна перацякаючы ў вясновае свята жаночага дня. Гэтым перыядам мінскі дамок прыносіў вялікі прыбытак. Толькі двое навагодніх сутак можна было пры разумным падыходзе здаць за паўтары, нават дзве тысячы у. е. Гэта патрабавала і немалых затрат, намаганняў. Куплялі новы посуд, бялізну, музычную апаратуру, сродкі бытавой хіміі і гігіены. Штосьці прыходзілася рамантаваць, аднавіць. Пасля святаў групы заязджалі адна за адной: Ражаство, каляды, стары Новы год, заканчэнне сесіі ў студэнтаў. Замовіць дом на святочныя навагоднія дні спрабавалі наўперад за два месяцы, і гэта былі самыя культурныя, выгадныя і надзейныя кліенты, пазней заставаліся выпадковыя, шумныя, скандальныя, неплацежаздоль-

ныя, больш стратныя. Але Мужчына заўпарціўся: на Новы год дом здасць любы дурань, сказаў — і пачаў адмаўляць кліентам.

— Дом займае Ларыса Грыбалёва. Вольнага месца не маем, — важнічаў з чарговым кандыдатам Гаспадар. (Пакуль дабудоўвала свой, Грыбалёва сапраўды здымала дамок для адпачынку бацькоў-віцябчан з унукамі, але гэта было летам, сям'я спявачкі даўна-подаўна вызваліла пакоі.)

— Да Новага года лічаныя дні, мы застанёмся без прыбытку!

— Я на сваім бізнесе зубы з'еў, — трымаў вертыкальную лінію Мужчына.

Канюкі ў апошнія дні ўдалося здаць студэнтам, а мінскі дамок, які прыносіў асноўны даход усёй гаспадаркі, і Новы год у гэтым даходзе меў максімальны ўдзел, застаўся пуставаць выключна праз самадурства Гаспадара… Бізнес аддаваў канцы. Разгублены Мужчына, каб не думаць аб справах, зазбіраўся ў Браслаў.

— Крутануся за дзень туды-назад, заадно адвязу да Лёўкі ўнука на канікулы.

— Дзіму браць у дарогу нельга! Ехаць марозам на такім транспарце?!

Аўтобус ледзь трымаўся, тармазы працавалі дрэнна, фары не свяцілі, ачышчальныя шчоткі не працавалі, печ у машыне грэла толькі летам у спякоту, і выключыць яе тады было цяжка, зімой у мароз печ не ўключалася.

Адгаварыць не ўдалося — Жанчына таксама зазбіралася ў дарогу.

— А хто застанецца на базе?

— У вас не баліць галава за гаспадарку — навошта мне яно?

Пакуль выбраліся, пакуль забралі з другога канца Мінска хлопчыка, — звечарэла. Не паспелі даехаць да Бягомлі, аўтобус зламаўся, ды так, што парваным рамянём пашкодзіла шмат значных і непапраўных дэталяў. Шнурок начной аўтатрасы свяціўся мільёнам плывучых уперад і назад фар, людзі спяшаліся ў вёскі, на дачы, у госці. А паспрабаваць спыніць машыну было безнадзейным. Мароз крапчэў, у кабіне сядзець не падавалася магчымым, дзесяцігадовы хлопчык з усіх сіл стараўся не паказаць слёз.

— Праз вашу фанабэрыю ўгробім дзіця, — раззлаваная Жанчына выйшла на шашу. З бакавой лясной дарогі выязджаў «Масквічок». Шафёр спыніў машыну і згадзіўся эвакуіраваць аўтобус да Канюкоў. Жанчына з хлопчыкам пераселі ў цёплы аўтамабіль. Вадзіцелем аказаўся ляснік з суседняй Канюкам вёскі. Ён паабяцаў заўтра раніцай прыехаць глянуць на паломку, адрамантаваць, калі тое магчыма, аўтамабіль.

— Дзе я буду сустракаць Новы год? — запытаўся Дзіма.

— Не ў дзеда — факт.

— Што ж, я тут застануся? — не стрымаў слёз хлопчык.

— Не перажывай, па цябе бацька з Мінска прыедзе.

— Ого! Вы ведаеце, якіх грошай будзе каштаваць яму наняць чужую машыну?

Дзіму забралі, а вось паломкі ў машыне аказаліся сур'ёзнымі, трэба было везці з Мінска радыятар і яшчэ процьму неабходных дэталяў. Ляснік слова трымаў. Толькі сказаў, што рамантаваць прыйдзецца пару дзён.

Гасцявы канюкоўскі дом занялі студэнты. Другі, маленечкі, памерам з адзін невялікі пакойчык на два аднаспальныя ложкі, печ, стол, халадзільнік і пару кухонных табурэцікаў, займалі рабочыя, на святы засталіся: Якаўлевіч, Толік, Таня, Максім, Ігар — нават ім не было месца прылегчы. У гасцявым доме, на тапчане ў дальняй верандзе перад лазняй за навешанай на вяроўку пасцілкай папрасілі прытулку на двое сутак Мужчына з Жанчынай… На тапчане елі, на тапчане спалі, на тапчане сядзелі ў дзённы час, чакаючы, калі ж скончацца навагоднія святы. Студэнты аказаліся без комплексаў, вясёлыя, ніякай увагі на «кватарантаў» не звярталі, сноўдалі ў выглядзе ню паўз занавесу з лазні — у лазню. Яшчэ праз пэўны час падбягала Таня папрасіць грошы на новую пайку «гарачыцельнага».

*

Старэйшы сын Гаспадара (ад першага шлюбу) жыў у Амерыцы, тэлефанаваў часта і аднабакова (міжнародныя званкі не танныя — апраўдваўся Мужчына), відавочна сумаваў па бацьку, нягледзячы на тое, што павінен быў звыкнуцца з такім фактам… Нельга сказаць, што Мужчына не займаўся яго выхаваннем, пакінуўшы першую сям'ю з шасцігадовым сынам, забраў яго пасля з сабой у Маскву, дзе на той час, усё ў тыя ж дзевяностыя, зарабляў першыя цяжкія грошы, працуючы жывым сейфам. Эканамічнае становішча краіны не дазваляла падпольным мільянерам карыстацца банкам, поштай, крэдытам. Наймалі ахвотнікаў з былых вайскоўцаў, тыя, рызыкуючы жыццём, дастаўлялі вялікія сумы па назначэнню, прыхоўваючы банкноты за крысом непрыкметнага шэрага ватніка ці ў драным заплечніку. У Маскве, дзякуючы знаёмству з сям'ёй аднаго з першых савецкіх мільянераў Тарасава, Мужчына і прыстроіў сына ў элітную школу, дзе выкладалі на сур'ёзным узроўні замежную мову, без яе будучыня ў сучасным грамадстве не вымалёўвалася. Хутка расстараўся грынкарт і выправіў сына за мяжу. Хлопец і ў самастойным веку жорстка сумаваў, сумуе. Тэлефануе рэгулярна. І рэгулярна трапляе на адказ: «Мікалаевіч у ад'ездзе». Пакуль аднойчы хлопец не назваў сваё імя. Жанчына завыбачалася: «Зараз пабуджу, прабачце, калі ласка, я не ведала, хто тэлефануе, вы б раней назваліся!» Нецвярозы Мужчына спрасоння цяжка разумеў, што вярзе яго язык, жаліўся на эканамічнае становішча. Сын са слязамі ўпрошваў кінуць дурны занятак, пашкадаваць сябе, паберагчы здароўе, зваў у Бруклін, абяцаў забяспечыць неабходным. Хлопцу не хацелася зноў і канчаткова страціць бацьку. Мужчына ў адказ румзаў, жадаючы выклі-

каць яшчэ больш спачування і павагі, звычка маніпулятара: ён не ўмеў шкадаваць людзей, нават сваіх дзяцей. Сентыментальна жаласлівым быў толькі да сваіх душэўных праяў, але ў роўнай ступені ставіўся абыякава да свайго здароўя і быў бязжаласным да сябе фізічна.

Малодшы сын ад другога шлюбу падрастаў як раз у дзевяностых, калі Мужчына зарабляў «вялікія грошы» ў Маскве, на выхаванне гэтага дзіцяці не хапіла ўвагі, бо хутка і новы шлюб не заладзіўся. Спачатку, як модна было — хаваючы маёмасць, разваліся фіктыўна, потым рытуал спраўдзіў сваю моц. Шалёныя бабкі ўспенілі мазгі, і наваспечаны алігарх кінуўся ў шыкоўнае жыццё. Зрэдку ўспамінаў пра малога (старэйшы ўжо быў у Амерыцы) — забіраў на базу, месца яшчэ і не было базай, той першы пачатковы дом, які потым разбурылі. Забіраў… і даручаў Мішу, сам, часцей нецвярозы, гуляў тут вольніцу з незлічонымі сябрамі. Хлопчыка ратавалі анёлы — шацунчык! Неаб'езджаны конь панёс вершніка, скінуў стоць галавой ля дрэва; упаў з вышак на новабудоўлі без нагляду, зламаў ключыцу. Калі наступным разам жонка пярэчыла ўік-энду— муж разважаў коратка: адбывалася замена праграмы фінансавання — не даваў грошы. Нараджаецца жанчына, каб УСЁ цярпець дзеля дзіцяці. Здаецца, мужчына менавіта дзеля таго і нараджаецца, каб гэта УСЁ арганізаваць.

Падрастаючы, хлопчык засвоіў — грашыма можна вырашыць усе праблемы. Хацелася быць падобным на бацьку, хацелася заваяваць яго любоў і ўвагу.

Літаратурныя крытыкі шукаюць нейкі падтэкст у не надта імі хвалёнай «Крэйцэравай санаце» Льва Талстога. Адкрытым тэкстам Леў Мікалаевіч яскрава паказаў дэманічную сутнасць мужчынскай натуры. Пісьменніку тое было ўласна знаёма. Соф'ю Андрэеўну, якая «атруціла» жыццё генія, многія асуджаюць. Разглядаць бы геніяў, калі яны жылі ў шлюбе, толькі парай. Соф'я трынаццаць разоў была цяжарнай, карміла немаўлят грудным малаком, адначасна сама з'яўлялася педагогам усіх сваіх дзяцей па многіх дысцыплінах, дармавым перапісчыкам, перакладчыкам, сакратаром, выдаўцом твораў пісьменніка: сем (!!!) разоў перапісала ад рукі «Вайну і мір» (не кожны асіліць прачытаць раз). Стала ахвярай прайдохі В. Чарткова і псіхічнага экзерсісу свайго дэпрэсіўнага ў канцы жыцця мужа-пісьменніка.

*

Дзень нараджэння Пасла святкавалі на базе. Спачатку адзначыў дома ў асобным, элітарным асяроддзі, хто там прысутнічаў акрамя яго сямейных — невядома, магчыма, радня жонкі, высокапастаўленыя асобы; пасадачных месцаў не хапіла, браў Пасол з базы ў пазыку некалькі крэслаў,

значыць, была не толькі сям’я. Сюды, за горад, сабраў калег, сяброў, патрэбных людзей. Была выключна мужчынская сябрына. Міша спраўляўся па чорнай рабоце: лазня, басейн, мангал, Жанчына — па сталу. Размовы вяліся важныя. Тост трымаў імяніннік. Чытаў чарговую застольную вершаванку. Пятровіч любіў складаць рыфмаваныя байкі на матэрыяле падмечанага з жыцця сяброў. Вялася ім своеасаблівая Лысагорская эпапея. Мова складанак была сакавітай, смачнай, народнай, вока аўтар меў вострае, язык бойкі, высокае пачуццё гумару. Застолле пры такой аздобе прымала не толькі шляхетны, яшчэ і культурна-інтэлектуальны выгляд. Дарагое пітво, харошая закуска, спакойны тон гамонкі. Пасля поўначы госці збальшыні раз’ехаліся, Жанчына прапанавала папрыбіраць са стала нераспачатыя каштоўныя бутэлькі, каб раніцай не папасці ў сарамлівае становішча. У глыбокай дрымоце Мужчына хоць і слаба, але па завядзёнцы адрэагаваў: «А-а, рабіце вы што хочаце…», і яна ўстала з ложка. Аказалася, у сталовай яшчэ сядзеў Былы Інтэрпал, корпаўся ў сваім пузатым партфелі. Ён знянацку падхапіў сабе на калені Жанчыну, палез з пацалункамі. Яна жартаўліва мякка, каб не пакрыўдзіць Пасловага госця, дала зразумець, што іх жаданні не супадаюць. Аднекуль намалявалася Маладуха. Як бывалая тут, і не проста як бывалая, літаральна па-гаспадарску агледзела стол, шчыра і ветліва прапанавала Жанчыне застацца з ёй падтрымаць кампанію. Здзіўленая Жанчына адмовілася, пайшла спаць, ды не паспела легчы і запытацца ў Мужчыны, кім бы магла быць тая асоба, як на калідоры пачуўся зычны голас. Маладуха пазвала: «Мікалаевіч!» У дзверы забарабанілі, і, не чакаючы дазволу, яна ўварвалася ў пакой, гопнулася на ложак, ні кроплі ўвагі не надаючы, што ў ложку Мужчына не адзін, запрыгаворвала, пачала яго абгладжваць, абцалоўваць.

— Як я вас даўно не бачыла, як ссумавалася па вас. Як жа я ўдзячна вам за ўсё-ўсё-ўсё… — праз замілавана-хмяльныя слёзы выкрышталізоўвалася тэма: ёй неадкладна спатрэбілася мінская прапіска.

Смуглявая, высокая, ладная постаццю Маладуха з доўгімі бліскучымі чарнявымі валасамі, дзіўна падабранымі рысамі прыгожага твару. На яго фоне позірк вялікіх круглых вачэй, плоскіх, нібы талерачкі, непрыемна ўражвалі, нават палохалі пустатой, бы вочы манекена ці лялькі.

Потым, як Маладуху ўдалося выправадзіць, Мужчына патлумачыў, што яна, будучы студэнткай універсітэта, кватаравала на базе, прыбіралася тут. Пасля заканчэння вучобы Прафесар Вуха-горла-нос дапамог уладкаваць яе на шпалерную фабрыку інжынерам-эколагам. Хто сёння запрасіў яе на начную сустрэчу, Мужчына не выдаў.

Назаўтра апошнія госці з тых, хто не спяшаўся вечарам дамоў, пад поўдзень усё ж раз’ехаліся. Засталіся толькі Пасол з Былым Інтэрпалам і Маладуха. Гасцявы дом быў зарання замоўлены групай кліентаў, патрэбна было тэрмінова вызваляць месца, што надзвычайна пакрыўдзіла і абразіла

імянінніка, давялося самім прымяняць мастацтва дыпламатыі. Каб суняць капрызы Пятровіча, прыйшлося перанесці рэшткі страў у будан, дзе месціўся пакойчык, у якім начавалі Мужчына з Жанчынай. За ўчарашні дзень, бяссонную ноч, праз нядаўнюю мінтрэгу з прыёмам групы кліентаў у непадрыхтаваны дамок Жанчына вельмі стамілася. Прылегчы адпачыць не выходзіла, мусіла сядзець за сталом, слухаць песні: Маладуха кідалася спяваць, голасу не маючы, а слыху дык аж тры разы — не! Верашчала: «Цячэ вада ў ярок, цячэ вада ў ярок, кладачку занясло». Хацелася хутчэй справадзіць гасцей, і госці спрабавалі развітацца, выходзілі на ганак…

— Мне здаецца, яны дастануць з багажніка бутэльку — і ўсё распачнецца па новай, — з надзеяй у голасе вымаўляла Маладуха.

Адчыняўся багажнік элітнага аўтамабіля Пятровіча, даставалася чарговая бутэлька каньяку, развітальная працэсія вярталася ў будынак, усё пачыналася наноў. Жанчына, нягледзячы на стомленасць, шкадавала неўтаймаваную дзявуллю, адчула ў ёй дурнавата-наіўную прастату і глыбокую адзіноту.

Становішча тым часам накалялася да градусу кіпення. Ад ранку, як толькі Пасол заўважыў прапажу — усё ж такі са стала сцягнулі віскі ў фірменнай дэкаратыўна аздобленай тубе, — паралельна і перпендыкулярна ўсім падзеям вяліся шчыльныя разборкі. Нягледзячы на паблажлівы тон, маўляў, брыгада пахмялілася — і на здароўе, жарты самога Пятровіча на тэму прапажы не сціхалі, што балюча кранала Мужчыну, які, мала таго, што страціў прыбытак ад вызваленага з-пад кліентаў выхаднога дня, яшчэ і ганьбу панёс. На допыт да стала па чарзе падзывалі Мішу, Сяргея, Графа… Адразу і наадрэз адпала кандыдатура Якаўлевіча, за гады доўгага жыцця пры двары ён ніколі не папаў пад падазрэнне ў крадзяжы, адпадаў прывілеяваны Юра, яго характар і высокі статус у брыгадзе не дазволілі выказаць падазрэнні… Адпадаў і Міша, падазраваць яго было б не лагічна: учора перад ім ліліся паўнаводныя рэкі, яны значна пераўзыходзілі магчымасці пітака. Мішу перапала не толькі з каньякоў, джын, віскі без абмежавання, хоць больш за ўсё яму даспадобы быў родны і прывычны «Вермут». Таму ў вольную хвіліну Моўша ўзбягаў па хісткіх драўляных прыступках наверх да хлопцаў, каб не страціць паложаную норму — брыгадзе занеслі пачастункам некалькі бутэлек віна. Віскі, ды яшчэ ва ўпакоўцы, было за межамі жаданняў кагосьці з брыгады, яны не ведалі такога смаку, іх марай заўсёды заставалася віно. Эстэтыка крадзяжу настойвала шукаць у іншым напрамку, але… Графа знайшлі за хлеўчуком з рэшткамі віскі ў бутэльцы, і выкараскацца бедалагу з крытычнага становішча не выпадала, як ні ўставала гарой на яго абарону Жанчына, бо здагадвалася: Кулеш забраў з шашлычнай пакінутую там за непатрэбай недапітую ўчора бутэльку, падобную колерам на віно. І ўжо ніяк бы не асіліў адзін выпіць сямсотпяцідзесяціграмовую дозу моцнага, таго, нераспачатага, з-за якога

разгарэлася следства і сварка. У сталовую Граф не пайшоў бы па сваёй сціпласці і баязлівасці. Тым больш, браць запакаваную бутэльку з дальняга краю стала — які сэнс? Туды і дабрацца ціха, не паваліўшы некалькі лаў, яму, нязграбнаму, было б цяжка, і гэта пры тым, што на стале ля самага ўвахода стаялі на любы густ раскаркаваныя і запячатаныя бутэлькі. Але кандыдатура Графа здавальняла многіх. Мужчына бачыў усіх навылёт. Ды надта не любіў душэўных перыпетый, трывог і эмацыянальнага ўзрушэння, ленаваўся перажываць, развважаць, падазраваць кагосьці, яму не хацелася нічога мяняць у сваім настроі: Граф падаўся яму найменшай і найвыгаднейшай у такім непрыемным становішчы ахвярай. Мішу хацелася хутчэй скончыць разборкі: усё адно не пазбегнуць лупцоўкі, яму яшчэ прыйдзецца сам-насам адказваць перад Гаспадаром. Куляша ён не цярпеў, і хоць Мішава ўчэпістае вока не дазваляла згадзіцца з прымітыўнай кандыдатурай — няхай ходзіць у зладзеях Граф… Сяргей цураўся, маўляў, як лёг вечарам спаць, так да раніцы не прачынаўся, аднак, хітруган, злавіў Мужчыну твар у твар, нашаптаў яму нечаканую версію: «Жанчына сядзела на каленях у Інтэрпала, магла ўкрасці яна». Не ўсю ноч, значыць, праспаў і сам Сяргей, хадзіў пад вокнамі, сачыў, чакаў, пакуль заснуць… Яго эстэтычнаму густу цалкам адпавядаў інцыдэнт, але нельга было скінуць з рахунку і пузаты партфелік Інтэрпала. Жанчына прыпомніла, як паўгода таму, пасля лазні з каханкай, Інтэрпал не пасаромеўся сабраць з талерак рэшткі пачастункаў, пахаваў у той самы пузаценькі партфелік заторкнутыя недапіткі. Нягледзячы ні на што, гуртом успалі на Графа, і той, даняты ўсімі, бажыўся і горка й голасна плакаў ад крыўды.

*

Наступным днём Міша хадзіў панылы, з падпухлым тварам.

— Якое дзікунства! Чалавек адслугаваў выхадныя, не краў — ясна кожнаму! За што? Вы не маеце права біць людзей! — Жанчына не магла змірыцца…

— Гэта нашы з Мікалаевічам справы, без вас разбяромся! — заступаўся за свайго экзекутара Міша. (Адзін ён заставаўся непахісна адданым.)

— Трэба ж! Мала ёй усёй брыгады, нават Юру перахрысціла ў сваю веру! — невядома чаму вымавіў Мужчына.

Здагадалася, адзін з яе заклятых ворагаў на базе — па жыцці такі ж любімы, як усе туташнія хлопцы, Юра (менавіта яна падказала заангажаваць Юру ў брыгаду) нарэшце асмеліўся падтрымаць не Гаспадара — яе.

— І ахвота вам гуму жваць, гутаркі з імі вадзіць… Гэта не ваш узровень, вы не павінны трацицца, трэба з разумнымі людзьмі стасавацца.

— Ці не вашых прыяцеляў высокапастаўленых прапануеце ў суразмоўцы? — з недазваляльным здзекам спытала Жанчына. — Разумныя без мяне абыдуцца.

Колькі разоў папракала сябе за нястрыманасць характару, які дужа перашкаджаў ладзіць адносіны з неабыякавым ёй чалавекам. Добра разумела, як губляе жаноцкасць у такіх варунках, як прайграе… Тыя, за каго заступалася, любілі і паважалі яе. Ды павага іх каштавала роўна бутэлькі рудой вадкасці, купленай Гаспадаром звыш нормы: сімпатыі адразу прыхоўваліся, ранжыр мяняў кірунак. Кожны ў свой час здрадзіў ёй дробязна, баязліва. Жанчына не крыўдавала: не гожа раўняцца з кволымі, безабароннымі людзьмі. Не дзеля іх ваюе, дзеля справядлівасці і дзеля самога Мужчыны, якога не хацелася бачыць у брыдкіх праявах. Свядома ахвяравала жанчынай у сабе, каб застацца чалавекам, забываючы пра тое, аб чым даўна дадумалася: чалавечае-боскае пачынаецца з жаноцкасці.

«Магчыма, я не ўмею любіць, — разважала яна ў роспачы, — таму і не складаюцца стасункі з процілеглым полам?» Слова «каханне» Жанчына не выносіла, не ўжывала, толькі любіць — не кахаць! Ну не скажаш жа: я кахаю сваё дзіця. Пачуццё да мужчыны мае іншы сэнс. І яна ўмела любіць, толькі не хацела «кахаць» каго б то ні было мацней, чым можна любіць дзіця. І не хацелася страчваць у «каханні» той чысціні, якою любіш дзіця. Калі любіць і мужчыну пачуццём з ТЫХ, якім любіш дзіця, бацькоў, родных, то фраза: «Я больш не веру ў каханне!» — падасца бязглуздай, немагчыма разлюбіць тых, каго любіш. Гэта даказвае, што КАХАННЕ ёсць падмена ЛЮБОВІ… У кожнай душы ёсць недакранальная сфера, парушыўшы якую, даеш пачатак незваротнаму працэсу. Жанчына не была здольнай у каханні дазволіць камусьці пераступіць мяжу, за якой пачыналася Боская вотчына — не страчваючы пачуцця, пакідала залежнасць.

*

— Трэба штосьці вырашаць з рэкламай, — Жанчына не ў першы раз спрабавала дастукацца да ўвагі Гаспадара. — Трэці месяц як аддалі фотаздымкі, столькі сродкаў патрацілі на сайт, на фатографа, а на нашай старонцы па-ранейшаму вісяць чужыя краявіды і ўзоры інтэр’еру.

Мужчына, безудзельны ў заклапочанасці Жанчыны, бораючыся са сном і непаслухмянасцю рук, штосьці кнапіраваў у мабільным тэлефоне. Ён злаваў, ціскаў пупачкі на панелі, шаптаў вуснамі, дыктуючы самому сабе тэкст, збіваўся, сціраў, пачынаў спачатку.

— Скардзяцца кліенты: неадпаведная інфармацыя. Там страусы ў загоне ходзяць, на конях катаюць і катамараны па прыватным возеры снуюць.

— Некалі і ў нас будзе не горш, — бы ў мроях прабурчаў Мужчына, ні на хвіліну не адарваўшы вачэй ад экранчыка.

— Як будзе, тады і выставім новыя фотаздымкі, а зараз трэба запатрабаваць грошы назад. Вось агенты прыслалі рахунак за новы месяц. Паглядзіце, якая лічба! Мы з-за іх змарнавалі летні сезон. Ніякага толку ад такой рэкламы. А патрабаванне аплаты з пагрозамі тут як тут!

Мужчына не слухаў.

— Дапамажыце мне, — нарэшце звярнуўся ён да Жанчыны.

Яна ўзяла з яго рук тэлефон, паглядзела ў блакітнае акенца: «Так, сын мой дарагі! Ёсць у цябе галава на плячах, ці ні х… няма?! Мне зусім няма ніякай справы да таго, дзе ты там зараз бадзяешся і якой х…ёй заняты пад час экзаменаў. Можаш не хавацца ад мяне — я не збіраюся цябе вышукваць. Калі твая галава не варыць зразумець, што тэлефаную я табе не ад няма чаго рабіць, а таму, што я…»

— Што гэта?! Накручана чатыры звесткавыя нормы, і ніякай інфармацыі. Пра што вы?

— Мне заўтра раніцай патрэбен ключ ад кватэры на Захарава. Агент прыедзе глядзець, магчыма, знойдуць кватарантаў. А ён не рэагуе на званкі, дзесьці ў сяброў адзначае сесію.

— Ці вам сапраўды нецікава, дзе ваш сын?

— Гэта зусім не так.

— Навошта ўвекавечваць хвілінную злосць? Нельга пісаць столькі пустых слоў. Набрала: «Сынок, тэрмінова патрэбен ключ ад кватэры».

Але агент аказаўся бяссільным. Патэнцыйны кліент, усё з тых жа пасольскіх, завярнуў нос, жадаў бачыць лепшыя ўмовы і сучасную мэблю.

З рэкламай усё ж разабраліся. Абяцалі без аплаты трымаць пару месяцаў. Здымкі, на якія пайшло процьма грошай, у агенцтве згубілі незваротна.

*

— Забыўся вам сказаць, харошае месца Пятровічу падвярнулася… Памятаеце, я звёў яго з чалавекам, сустракаліся ў нас.

— Што за месца?

— Банк расійскі. У кіраўніцтва папаў.

— Вось і сон у руку.

— Які сон?

— Снілася яму, Пуцін пазваў — пойдзем са мной разам.

Пятровіч захапіўся інтарэсамі сябра і задумаў прыдбаць дамок ля возера.

Спрыялі падзеі. У трох кіламетрах ад Канюкоў, на бойкай шашы ля возера Сцюдзёнага, якое аблюбавалі сталічныя рыбакі, бо не раз удавалася вылавіць у ім нават фарэль, стаяла вёсачка Ваўча. У ёй аб'явілі продаж дамка. Пятровіч ацаніў сядзібку — на самым беразе возера, дубок на ўчастку, у канцы агароджы ў ражку з-пад каменя прабіваецца крынічка… Сам дамок ніякі, трэба палову бёрнаў выкідаць, трэба дабудоўваць да толку, але мара гарэла, Пасол пачаў яе ажыццяўляць.

Канечне, акрамя радасці за сябра Мужчына атрымаў праблемы ў дадатак: будоўлю Пятровіч вёў сіламі яго брыгады за так, задаволеным жа быў рэдка, не раз жартам выказваў прэтэнзіі, змушаў перарабляць… Карміць жа хлопцаў прыходзілася не яму.

Мары разрасталіся грандыёзныя: па возеры ўжо хадзіла яхта… Сапраўды, у мінскім гаражы стаяла добрая лодка, Пасол паказваў, як самаруч вядзе рамонт парусніка. Яшчэ здабыў і сам адрамантаваў папулярны ўсюдыходны УАЗік 1965 года выпуску, які павінен слугаваць у вандроўках па лясных дарогах, дзе элітны новы «BMW» Пятровіча здаваў усе правы… Пятровіч зварухнуўся духам, сядзеў на дыетах, хоць і не пакутаваў на лішнюю вагу — так трымаў стан, для бадзёрасці, прыязджаў разы тры на тыдзень парыцца ў лазні…

*

Вясна пачалася нявесела. Дамок не замаўлялі. Работы не было, брыгада сядзела без віна, начамі хлопцы ўкрадаліся ў гравыя клубы, вярталіся шалёныя, спалі да вечара і зноў з прыходам цемнаты кудысьці выпраўляліся заднімі варотамі, прыхапіўшы што добрае на продаж — баставалі… Усё валілася з рук, ламалася, не ладзілася. У дадатак запсіхавалі, з'ехалі на папутках Толік з Танькаю, і хоць не было сакрэтам і для самога Гаспадара — «цэнныя кадры» хутка вернуцца: есці захочуць — не забавяцца, каму яны патрэбны? — але самай жорсткай абразай для яго быў сыход кагосьці з брыгады. Сам Гаспадар прагнаў з двара Сяргея, на гэты раз канчаткова: Сяргея ў казіно перасталі пускаць… Мужчына ні з кім не размаўляў, ляжаў на канапе перад тэлевізарам у сталовай зале гасцявога дамка, не падпускаў да сябе нават Мішу.

*

Прачнуўшыся раніцай, Жанчына пакутліва старалася прыпомніць хоць які-небудзь ход, вензель ці паварот меладычнага малюнка: ёй прысніласяя невядомая музыка касмічнай прыгажосці. На справе аказалася, то была гама, самая звычайная, dur. Магчыма, ТАМ, у небе, яна так і гучыць.

Прыпомнілася, як у маладосці запісаныя ў сонным стане на скорую руку думкі ноччу здаваліся адкрыццём, а раніцай маглі ператварыцца ў банальныя фразы. А вось Чайкоўскі такую банальную гаму ператварыў у Adagio для балета. Сыходная мажорная, як пратэст, як нязгода, як патрабаванне, потым сыходная мінорная як прымірэнне, супакаенне, злад. Проста гамы… на разрыў душы.

З Браслава патэлефанаваў Лёўка — заваліўся падгнілы плот, у Канюках парвала апошнімі маразамі водаправод. З Парыч перадалі вестку, што якісь канкурэнт-нядобразычлівец з пасялковага Савета заднім днём перааформіў палову Ігарава дома на сваю радню.

З усіх дзірак даха цякло, намакалі ад шчылін сцены — апошняе прыстанішча, мінскі гасцявы дамок не вытрымаў, заплакаў у тры ручаі, расстаўленыя на падлозе тазы і шайкі лавілі звонкія кроплі, весела рассыпалі іх пырскамі наўкола. Драмалі на дрывотні прыблудныя каты, чакалі шчодрых пачастункаў. Канчаткова сканала помпа — вады, акрамя дажджавой, не было. Затое на ставок пасела гуляць мімалётная пара качак. Яны не звярталі ўвагі на цікаўных хлопцаў з брыгады, шнуравалі па стаўку, давалі нырца, плёскаліся сярод нясцерпна бліскучых сонечных промняў. Зусім не хацелася заставацца на месцы. Хацелася сесці ў машыну і ехаць проста ў белы свет, куды вочы глядзяць, як то было не аднойчы. У дарозе кожнаму з іх абаіх лягчэй было заставацца самім сабой, без поз і малявання. Ехаць, ні аб чым не думаць, не разважаць, ціха гаманіць, назіраць праз акно прыгажосць прыроды… У такія моманты пасеяная ў ёй трывога адыходзіла. Толькі тут, на базе, такая магчымасць існавала: хто яшчэ калі і дзе дазволіць пасяліцца ў сваім доме чужому чалавеку, стане цярпець нораў, брыклівы характар, дасць магчымасць проста існаваць, ці вось так, проста «катацца»…

Яна абавязкова знойдзе ў сабе сілы пакінуць базу, выбрацца з-пад моста, але пакуль што Мужчына і Жанчына былі адно аднаму вельмі патрэбны, як кульгаваму мыліцы. Маскі сучаснага соцыуму, яго крывадушнага выхавання, так уеліся ў іх, што даўно пачалі весці сваю ўласную дзею незразумелага ім, непадуладнага ім чужога жыцця. Марафонцы, спрынтары, стаеры… некалі яны страцілі арыенцір і апору, развучыліся хадзіць па-людску: без ідэй і лозунгаў, без стартавага пошчаўку, без кімсьці пракладзенага маршруту, без маршыру і каманд, без конкурсаў і спаборніцтваў… да пачэпленага чыейсьці рукой ФІНІШУ. Іх аб’ядноўвала адна галоўная рыса — немагчымасць класіфікацыі. Нягледзячы на тое, што на працягу доўгіх гадоў ушчэмлівалі штосілы свае звычкі, паводзіны, думкі, жаданні ў пракрустава ложа заведзеных грамадствам штампаў, іх нельга было аднесці да нейкага тыпажу, атраду, касты, кагорты, групы, статка, зграі… Радніла іх падсвядомае жаданне вярнуць знішчаную сапраўднасць, знайсціся сярод пануючай хлусні, клаўнады жыцця. Яны так і не здолелі

канчаткова страціць сваёй індывідуальнасці. Смешнай, дзікаватай, алагічнай, балючай, супярэчлівай, хвароблівай… Якая ёсць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Паехалі ў Лагойск. Даўно не былі на крыніцы.

— Паехалі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Можа, пасля крыніцы ў Канюкі заскочыць?

— Заскочым.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— А ці не махнуць з Канюкоў у Оршу?

— Чаму не…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Дзень выдаўся! А што калі з Оршы ды ў Парычы злётаць?..

— Паляцелі…

*P. S.*

Праз год пасля апісаных падзей Жанчына здолела пакінуць базу.

Праз два гады зусім нечакана ад страшнай хваробы памёр Пасол.

Казалі, Сярога аднойчы здолеў пакінуць казіно з вялікім выйгрышам у руках, і нікому не ўдалося спакусіць яго вярнуцца дайграць. У клубах і казіно яго не бачылі з той пары.

Жанчына напісала некалькі змрочных карцін — даніна былой дэпрэсіі, распачала новы, каляровы перыяд. Ёй прыйшла ў галаву думка: колькі шчасця дадзена чалавеку ад самага нараджэння! Шчасце — ведаць Бога. Скруху трэба было пераружыць, каб гэта зразумець і больш ніколі, нідзе і ні з кім ЯГО не зблытаць.

Яшчэ праз нейкі час… Арыштавалі малодшага сына Гаспадара… Дом на беразе Браслаўскага возера пайшоў з малатка лотам нумар адзін па прымусовым гандлі…



## ЛІПА ВЕКАВАЯ, або ПАЛЯВАННЕ НА МУЗУ

1

Гасцей чакалі транзітам. Марылі сустрэць калону пленэраўцаў духавым аркестрам, нават угаварылі чырванашчокага электрыка патрымацца хаця б з тыдзень, «не ўжываць» — той пранікся адказнасцю моманту, партыю сваю адшліфаваў і на першай жа рэпетыцыі даволі бадзёра выдзімаў у муштук старой пацямнелай тубы: «до-соль, до-соль...» На партыю трубы, не без націску раённага начальства, атрымалі заатэхніка калгаса імя XXII партз’езда, які меў за плячыма музычную адукацыю ў выглядзе завочнага навучання на працягу двух гадоў у нейкай падшэфнай культурнай установе па накіраванню таго ж самага роднага калгасу.

Як падалося спачатку — найпрасцейшы з музычных інструментаў, барабан стаў «камнем преткновения». У каго выявіліся здольнасці — не хапала моцы трымаць доўгім часам на плячах велізарны, бы цэбар з-пад квашанай капусты, інструмент, асілкі ж, як на злосць, траплялiся прафесійна не прыдатнымі. Урэшце спынілі выбар на адной з кандыдатур, хлопец максімальна адпавядаў усім патрабаванням і, без перабольшвання, у долю трапляў не менш за дзевяць разоў з дзесяці патрэбных. Горшым аказалася тое, што ад хвалявання ён пачынаў так шчыраваць, без разбору пярыў калатушкай у абвятшалыя па даўнасці веку скураныя бакі барабана кожную моцную, а заадно і слабую долю, заглушаючы нават саліста, што яго музіцыраванне пагражала поўным выводам інструмента са строю.

Музыканты ўцягнуліся ў культурны лад жыцця, акрыленыя «дазвалялі сабе» толькі вечарам, выключна пасля рэпетыцыі, як раптам — неспадзеўка! На генеральнай рэпетыцыі камісія забракавала рэпертуар, які гадамі не мяняўся і ашчадна зберагаўся ў верхняй шуфлядцы стала загадчыцы вясковага клуба на пажоўклых нотных лістках, апярэзаных шпагатам паверх кардонавай папкі:

Нумар адзін, кропка —Туш; нумар два, кропка — Шапэн, Пахавальны марш (аддаленае падабенства). Трэцім і чацвёртым нумарамі адпаведна ішлі Беларускі і Савецкі гімны, іх па прычыне адвольнай трактоўкі музыкантамі нотнага тэксту і празмерна творчага падыходу да выканаўчага майстэрства цяжка было адрозніць адзін ад другога... На духавым паставілі крыж. Артыстаў распусцілі. З-за недахопу часу ўрачыстасцю сустрэчы рашылі ахвяраваць... Па раёне прайшліся чуткі, што прычына крылася

не ў тым… Быў тэлефонны званок!!! Маўляў: «Повременить привечать внеплановые делегации! Неизвестно, как в будущем отнесутся к ним новые лица у власти. Времена сложные, можно просчитаться… Лучше без лишней активности: встретили — приняли, но отношения и участия в событиях не проявили. Будьте бдительны! Действуйте с осторожностью». (Ідэалагічны падмурак дзяржавы даваў разбуральную расколіну, невядома, які кірунак у хуткасці можа прыняць палітычнае жыццё: з гімнамі, адным словам, — непярэліўка.)

Пастанавілі абмежавацца праваднікамі ад імя аддзелаў і органаў ускласці кветкі на магілу апошнім часам папулярызаванага нейкім сумнеўным грамадскім рухам земляка (не то мастака, не то пісьменніка — хадзіў тут па вёсках вандроўнік-летуценнік), у гонар якога і ладзіўся сталічнымі мастакамі пленэр. Па патрэбе няўстойлівых палітычных абставін не змагла адмахнуцца ад мерапрыемства і мясцовая ўлада, змушаная варункамі гістарычных пертурбацый нос трымаць па ветру…

Потым высветліцца — лепш было праігнараваць, позна спахапіліся. Без загаду адпаведных структур! Не па выпрацаванаму на пасяджэннях і нарадах плану ладзілася мерапрыемства! Самадумам хтосьці расшукаў імя мастака, адрэдагаваў дзённікі, творы, абсталявалі музей, адрадзілі памяць… ды яшчэ з падтэкстам, дачыненнем да апазіцыйных сіл! Са-ма-ду-мам!!! Наступныя пленэры ўжо пойдуць бокам ад мясцовых улад, пасля прафільтруюць і зусім забароняць непадуладныя масавыя мерапрыемствы. А пакуль не разабраліся…

— Не ударить лицом в грязь! — даручылі работнікам культуры мястэчка, што па дарозе на клады.

Гадалі на трэцюю па поўдні, сыходзіла сёмая, пачынала вечарэць,

Дзеці, іх прыйшлося ўзяць з сабой, румзалі, нылі, змораныя марудным чаканнем пад жорсткай спякотай, іх не пашкодзіла б прыстроіць да якой нянькі — хто згодзіцца ў самую вясковую запарку з чужымі дзецьмі за няньку сядзець, ды і не ў навіну ім смягнуць на «мамчынай рабоце»…

Брылёк з далані над брывамі, вочы шчылінкамі — жмурацца, углядаюцца, ці не відзён чырвоны «Ікарус», правінцыйныя работніцы культасветы… Не жанчыны — кабеціны: цяглыя, згрубелыя, рудыя ад сонца яшчэ маладыя іх твары, некалі прыгожыя адным толькі дачыненнем да ведаў сусветнай паэзіі, музыкі, жывапісу, зараз трывала ўпячаталі рысы сцярпеласці, звычкі: «так трэба», зацятай маўклівасці — «а што тут зробіш», звычкі не патрабаваць, не пытацца, не думаць пра лепшае, каб дарэмна не спадзявацца, абы выжыць. Цвялілі сваіх надаедлівых дзяцей: л-л-лепяка! — выхоўвалі ў іх цярплівасць, ураўнаважваючы выбухам гневу прытрыманую да прыезду гасцей ветлівасць і прыязнасць. Не хацелася пускаць у настрой пярэстыя ўражанні апошніх дзён: пошук па чужых прыватных палісадніках больш-менш прыстойных кветак для букетаў

(загадана начальствам — каб былі), пазыкі адпаведнай вопраткі і абутку (в работнике культуры всё должно быть изяшь-шь-щно!) — немагчыма мець сваё на ўсякі момант жыцця з-за мізэрнасці заробку, пошукі грошай на… пачастунак і бутэльку для гасцей: «Непременно коньяку — встретить и проводить как следует!» Байцы масавай культуры…

Думкі збягалі прэч ад паўсядзённага, успомніліся студэнцкія гады…

*

«Ліпа векавая» ў апрацоўцы для аркестра народных інструментаў: з домрачкамі, з кульмінацыйным сола баяна — прарасла ўспамінамі на ўсё жыццё, праз сэрца. Перапляла моцнае карэнне пад густым мурагом альтовых, шапаціць высока ў сіняй бездані піколкамі, патыхае маладым гаркавата-салодкім мёдам секунд*; зузумкае пчоламі над пышнай квеценню кроні — гэта шпуляе даўгалыгі, лапавухі саліст па перламутравай клавіятуры свайго канцэртнага «туляка», адмысловага вырабу баяна, па замове ў майстра-саматужніка. Музычныя інструменты такога высокага прафесійнага ўзроўню былі ў той час даступнымі толькі студэнтам Украіны і Расіі, часцей патрыманыя. Беларусы яшчэ не ведалі, дзе водзяцца шалёныя грошы, а хто ведаў — дзяцей на музыку не здаваў, бо і тое добра знаў — за катаржныя работы грошы не плацяць. І як толькі спаракваў канцэртмайстар аркестра, выпускнік-выдатнік, лаўрэат міжнародных конкурсаў, сваімі непамерна доўгімі пальцамі выдырліньгваць найскладанейшыя пасажы кульмінацыйнага сола…

*

Міф і байкі, што ў музыкантаў прыгожыя рукі. Рукі музыканта-прафесіянала за жыццё пераварочваюць тоны цяжару. Яны могуць балець ад перагрузак, як ногі балетных танцораў. Яны могуць мець непрыгожыя вузлаватыя вены, дэфармаваныя суставы. Дарэчы, далёка не кожны музычны інструмент жадае мець адносіны з доўгімі пальцамі, што прыпісвае чутка. Шмат віртуозаў мелі самыя звычайныя рукі, тое не перашкодзіла ім заставацца Маэстра. Пацікуйцеся зірнуць на пальцы музыканта-струнніка: скрыпачы, альтысты, віяланчэлісты, дамрысты, балалаечнікі, гітарысты… Падушачкі пальцаў, якія лёганька пырхаюць над грыфам з нацягнутымі вострымі, як лёзы, струнамі, сабой уяўляюць капыткі. Перарэзаная глыбокім раўком уздоўж конуса верхняй фалангі падушачка кожнага пальца ператвараецца праз паўсядзённыя рэпетыцыі

* Строй аркестравых інструментаў.

ў непазбежны і неабходны сухі (мокры даўно лопнуў, сышоў, загаіўся) мазоль-натоптыш, і крый божа зачапіцца ім за штосьці (паспрабуйце, жанчыны, нацягнуць на ножку калготкі з такімі мазалямі — яны за ўсё чапляюцца, шкрабаюць, «прыемная пікантнасць!» у пяшчотах і ласках) і сарваць перад канцэртам — аднолькава, што вадзіць нажом па адкрытай ране. А манікюр — недасягальная мара жанчыны-музыканта, мець доўгія пазногці не дазволена ніколі. Пакуль іграе, пакуль музыкант.

*

Гэта як Музыкант — то іграе, а проста скрыпач — будзе пілікаць, ці піліць, баяніст звычайна рэжа, шпуляе, наярвае, альбо, як і флейтыст, палівае. Хоць піяніст і клямкае, пакуль невысокага капылу, сярэдняй рукі спецыяліст ужо грабе, ці не выграбае, калі ў яго тэхнікі, бегласці пальцаў недастае, а вось міжнароднага класу майстра «валіць будзе — будзь здароў»! Што ж балалаечнік — той брэнькае, а то і «бруха чэша», як тэксту не ведае, хоць любы з іх на сцэне павінен рубіць, валіць і паліваць, чаго не запатрабуеш ад тубіста ці трамбаніста, нават на сцэне, бо ў іх на нотным стане па большасці выпадкаў — бульбіна — працяглы гук цэлага, палавіннага, зрэдку іншых памераў… Не перажывайце! Духавік заўсёды мае магчымасць прыстроіцца цягнуць жмура на хаўтурах, хоць, дзякаваць богу, апошнім часам такія працэсіі не ў модзе. Ну а лабух — той, усім вядома, лабае*. Прабачце, па галубым — не каманда для інаходцаў у сэксе, так можна сыграць на любым інструменце, не пацэліўшы ні па чорных, ні па белых, ні па ладах… фальшыва.

*

Зноў незалік. Трэці раз! Такі фінал быў прадказаны з першага позірку. Выкладчык — сыты, нахабны пенсіянер з непрыхаванай прагай бэсты ў вачах да маладых прыгожых студэнтак. Першы незалік лічы намёкам. Асцярожны, жартаўлівы, са шматлікай варыянтнасцю наступных хадоў, як у пачатку шахматнай партыі. Другі — разведка боем, раптам малодка сама клюне, пойдзе насустрач. Бялёсыя вочы Борава (прозвішча такое) выдавалі няўстойлівы настрой і характар: ад напорыста-жорсткага да нахабна-фрывольнага, па-юнацку гуллівага, ды начыста пазбаўленага лёгкасці, уласцівай маладым людзям. Цяжка прадбачыць: растопчуць цябе і плюнуць зверху, ці пасмяюцца разам з табою з няўдалага заляцання…

* Лабух — звычайна адораны музычна, але пазбаўлены пачуцця меры, высокага густу і ПАЛЁТУ музыкант.

Не пасмяяліся. Адмова Завочніцы правесці вечар у рэстаране адгукнулася чорным «андрэеўскім крыжам» з ражка ў ражок абклеенага паштовымі маркамі сшытка: «Незалік» і подпіс. На трэці заход кантрольную па гармоніі рашаў заангажаваны, дзякуючы складаным знаёмствам праз знаёмствы знаёмых, выкладчык з кафедры тэорыі музыкі пры дзяржаўнай кансерваторыі: правяраў Бораў-недавук, «медны духавік», адстаўной казы барабаншчык, былы прапар ваеннага чырванасцяжнага аркестра, квінту з квартай блытае! Ніякай зачэпкі, ніводнай памылкі — усе задачы хвалістай лініяй дэкарыраваў і пакінуў заўвагу цаглянай сцяной на нотным стане: «Не гучыць!»

Скардзіцца! Трэба скардзіцца!

*

— Вы ж ведаеце, дзіця маё, што такое гармонія, ніякая ў свеце камісія не возьмецца абвінаваціць выкладчыка ў заганных адносінах да вашай работы, — твар дэкана, ружовы і потны, нарэшце павярнуўся да Завочніцы. І ў яго вачах мільганулі знаёмыя іскрынкі, неверагоднае падабенства (да Борава), толькі без шалёнай рызыкі — тут ёсць што губляць. Кар’ера! Тут жаданне вагалася са страхам, тым рабілася бясшкодным, тым не менш брыдкім. — Вы чуеце так, а хтосьці зусім іначай, — дэкан зноў стаў разгублена корпацца ў шуфлядцы, быццам шукаў якуюсь рэч.

— Але ў нас ёсць выйсце, хоць гэта так складана, так складана, — дэкан выйшаў з-за стала, накіраваўся ў памежны пакойчык, застаўлены стэлажамі, на якіх цясніліся падпяразаныя папкі з дакументамі, пузатыя падшыўкі папер у кардонавых вокладках. Яго твар заставаўся засяроджаным, заклапочаным пошукамі невядома чаго, мінаючы студэнтку ён незнарок — спрытней разысціся, дакрануўся рукой ніжэй таліі жанчыны.

— Вы і не ўяўляеце, як гэта складана, — працягваў разважаць дэкан. — Мы павінны штосьці з вамі разам прыдумаць, — насцярожаныя вочы праз павелічальныя шкельцы акуляраў намацвалі, вывучалі псіхалагічны фон дыялогу. Студэнтка магла аказацца Чыёйсьці дачкой, жонкай, раднёй, сваячкай, ды проста палюбоўніцай — гэта несла б вялікую небяспеку. Але аксамітная блузачка так хараша аблягала стан, акругла-прыцягальныя формы жаночай фігуры Завочніцы перашкаджалі думаць, цяжка было ўзважваць і разлічваць абставіны. У спякоце, у задушлівым ад пылу папер паветры кабінета, у строгай, на ўсе гузікі зашпіленай тройцы, з высокім, пад самы кадык, каўняром накрухмаленай кашулі ён захлынаўся ад хвалявання і жарсці, уяўляючы навязлівыя вобразы.

— Гэта так складана. Але вы маглі б адрасаваць усе свае работы на маё імя, тады б вам нічога не пагражала.

Крывая сцежка не раз з прамой пасмяецца. Вось дык паскардзілася! Вось табе і далягляд у ружовай афарбоўцы! Чырвоны сцяг надзеі на чыстае, светлае, сапраўднае! Непераадольнае жаданне вучыцца. Ва ўсім гэтым: прафесіяналізме, майстэрстве, кар'еры, марах, надзеях, спадзяваннях, у спорце, навуцы, мастацтве, літаратуры… вось тут мужчыны заўсёды гатовы саступіць, дапамагчы і прызнаць талент жанчыны. Заўсёды! Вось тут, на падлозе ўласнага кабінета.

2

Спыніліся толькі УАЗік з «Волгай». За непатрэбай дарэмна траціць паліва і шматлюднай працэсіяй таптацца па магільніку, аўтобус з мастакамі-пленэраўцамі, якіх так і не дачакаліся жанчыны-культработніцы ля скрыжавання, адразу з раёна накіравалі на турбазу «Леснікова хатка», куды па дамоўленасці пусцілі на пастой і адпачынак вандроўнікаў. Акрамя вадзіцеля ў «Волзе» сядзеў сталічны госць, саноўны і важны мужчына на пачатку шостага дзясятка жыцця, яшчэ Дама з раённай улады, самы непасрэдны начальнік нашых культработніц, жанчын з букетамі і торбачкамі ежы. Дама была не ў гуморы…

З машыны выйшаў павітацца маладзёністы мастак, не па гадах мальчукаваты, маднячы, вяртлявы, ён адразу засыпаў жанчын дзяжурнымі салодкімі клішэ-кампліментамі… Ён і кветкі прыняў за ўсіх мастакоў-пленэраўцаў, і размясціў жанчын ва УАЗіку. Дзяцей выправілі дамоў — не хапіла месца, пазачыняў дзверцы аўтамабіля, па-гаспадарску махнуў вадзіцелю «Волгі» праз акно: давай, паехалі!

Бясспрэчна дам прычыну падцятых вуснаў і незадаволенага позірку высокапастаўленай Дамы з раёна на сваіх падначаленых. Не спадабаўся іх прасцецкі выгляд, прымітыўныя — самасад — кветкі, прысутнасць мурзатых, дрэнна выхаваных дзяцей. Не любіла яна падначаленых, якія выклікалі шкадаванне, роўна як і тых, хто скардзіўся, ці патрабаваў і — крый бог! — яшчэ з намёкамі на хібы існуючай сістэмы. Яна сама з людзей, што здароўе, жыццё, энергію і асабістае шчасце паклалі пад ногі дзяржаўнай патрэбы. Ахвяравала сябе «великому делу!» — ніколі не пасмела папракнуць у тым СІСТЭМУ.

Нібы ў апраўданне перад саноўным госцем за нягегласць кадраў, жанчына зазірнула яму ў твар і ўсміхнулася з надзеяй на разуменне:

— Нет-нет, мы, всё-таки, были совершенно иными… — пры наяўнасці ўдзячнага слухача вочы Дамы загараліся зорным святлом, урачыстасць голасу выдавала: не аднойчы яна ў марах бачыла сябе перад мікрафонам, дыктуючы мемуары карэспандэнту газеты «Правда» — «…на общественных началах, с искренним энтузиазмом». Далей у перакладзе…

3

— Я таксама пачынала з нуля. З вясковай школкі. Дзірка ў сцяне — чалавек на двор пралезе! Печкі дымяць, дах працякае... Ні абсталявання, ні фінансаў, ні выкладчыкаў. За свой кошт шпалеры, фарбы купляла, сама рамантавала, клеіла...

Што яны думаюць, — Дама кіўнула галавой на УАЗік, маючы на ўвазе сваіх жанчын, — нам хтосьці на талерцы падносіў? Падзякі аб'яўляў? За той рамонт на мяне ледзь справу не завялі. Дзіця горкае, маладая была. Не ведала, што на ўсё патрабуецца адпаведная папера. Сплаціла штраф, — Дама патрымала лёгкую паблажлівую ўсмешку па адрасу кагосьці нябачнага: дробязнага, неразумнага, несвядомага, хто яшчэ па сваёй дурноце здолен ставіць палкі ў колы бягучага магутнага паравоза. — А тут: дванаццаць тон брыкету прывезлі на зіму. Адпачынак, лета, ды не ў дырэктара школы. Усю ноч змагалася — кашамі пераносіла пад паветку. У нас, бюджэтнікаў, на падсобных і рознарабочых заўсёды эканомілі. Тыдзень кашляла чорнай слізззю. Атрымліваю заробак — ні капейкі! Спісалі ўсё за прастой транспарту — засталася яшчэ вінаватая дзяржаве! — Дама засмяялася, яна падносіла факты, як гераічную эпапею: упэўнена, з гонарам, быццам менавіта такія ўмовы і парадкі кіравання апраўданы неабходнасцю і справядлівасцю і ў свеце няма больш удалага прыкладу разумна наладзіць жыццё. — Аказалася, што трымаць машыну я магла толькі некалькі хвілін. А як яе за гэтыя мінуты выгрузіць — нікога не цікавіць. Жыццё навучыла — бухгалтар падказаў: бутэлька для вадзіцеля спыніць бег часу.

Так бы і засталася наша Дама ў сваёй вёсцы, як засталіся векаваць сотні, тысячы падобных ёй звычайных настаўнікаў, каб не яе палымяныя прамовы. Такі талент хутка заўважыла раённае партыйнае кіраўніцтва. Што б ні запатрабавалі «довести до сознания народных масс» аддзелу прапаганды: Даму — на першы план! Яе слухалі, ёй захапляліся, з усім згаджаліся, ёй верылі — ставілі подпісы, аддавалі апошняе.

У крытычныя моманты ёй прыходзілася самааддана ісці на ахвярнасць: па грудзі ў снезе, з двара ў двор, непагаддзю, цемрай, завеяй. Агітавала, угаворвала, сарамаціла, упрошвала, натхняла, прымушала. Дама не стала распавядаць госцю пра тое, як пасля сумленна выкананай грамадскай нагрузкі (мела ў той час немаўля, мусіла пакідаць яго) застудзілася, хварэла цяжка, страшна і доўга, перажыла складаную аперацыю. «Гераічны подзвіг» вельмі дорага абышоўся нашай Даме. Затое позірк удзячнасці і цёплай павагі сакратара партыйнай арганізацыі пераважыў страты і згубы. З той пары пачаўся ўзыход па службовай лесвіцы. З апантанай вясковай дзяўчыны яна хутка ператварылася ў актыўнага дзеяча палітычна-культурнай нівы. Яе асабістае жыццё стала таксама падпарадкоўвацца

агульнаграмадскаму статуту. Сімпатыі, знакі ўвагі, інтымныя прыхільнасці тычыліся толькі тых, хто з падобнай жа адданасцю, шчырасцю і любоўю ставіўся да загадаў і абавязкаў. Ды вось чамусьці мужчыны яе гатунку даўно выбралі жонкамі для сябе зусім іншага кшталту жанчын: не цікавых, шэрых квактух-домработніц. Яе запал несумненна падабаўся ім, толькі на рабочым месцы, зрэдку, пасля банкетаў, у патаемных закуточках. Дама пакутавала. «Я б гэтых жонак расстраляла, — у гневе казала яна, — не разумеюць ні адказнасці моманту, ні важнасці абставін!» Кароткія тайныя сустрэчы не супакойвалі, не ўраўнаважвалі яе палымяную натуру, толькі рабілі злоснай, чэрствай і няшчаснай. Дарослая дачка даўно пакінула гняздо, з'ехала за мяжу, зараз гэта не асуджаецца. Мнагалікая сялянская радня, прыяцелі, дабрахоты, сяброўкі карысталіся падтрымкай высокапастаўленай сваячніцы колькі маглі і як жадалі, пакуль тая трымалася ў аўтарытэтах. Зараз пасада Дамы стала больш нагадваць «вясельнага генерала», чым адказнага работніка.

4

Маленькі вясковы магільнік на пагорку выдаваўся кронамі высачэзных дрэў здалёк, а на пад'ездзе, між ствалін, прасвечваўся пакручастым арнаментам старадаўніх крыжоў. Адразу насупраць брамы, ля дагледжанага грудка са свежым кветнікам, корпалася грузная, хваравітага выгляду цётка. Здзіўленая нечаканым візітам нетутэйшых, нясмела намацвала думку: ці не яе гора прывяло неяк сюды гэтых людзей? Нядаўняя магіла, лічы, адна сярод замшэлых камянёў і пахілых пліт — за імі ў маленькай вёсцы, напэўна, ужо і не засталося каму даглядаць: яны, хутчэй, навявалі спакой і ўраўнаважанасць, чым смутак, — крычала пякучым болем трагедыі: маладзенькі «жаўтароты» салдацік, зусім не арол выглядам, хоць і пры поўнай вайскова-дэкаратыўнай амуніцыі на авальным фотаздымку ў чорнай мармуровай стэле; рысачка жыцця між годам нараджэння і датай смерці, пры нескладаным матэматычным разліку, раўнялася дзевятнаццаці. Афган.

Госці агледзелі блакітную агароджу, наіўны твар хлопца на бляшаным партрэце, пахіталі ў спачуванні галовамі, затрымлівацца не сталі, запыталіся ў цёткі, дзе пахаваны яе славуты зямляк.

—А-а-а, дзядзька… Вунь — у тым рагу, пад бэзамі, — цяжка ступаючы па сыпучым пяску, павяла паказаць, — Я яго добра знала, сваяк, па грыбах з ім малая ўсе бярэзнікі з імшарамі аблётала, — яна яшчэ спадзявалася хоць успамінамі зацікавіць прыезджых, трудзіла патрэба выгаварыцца перад кім бы ні было.

—Абавязкова прыедзем наступным разам пагутарыць, — спыніў яе вяртлявы.

—Во, — цётка махнула рукой на вялікі камень з барэльефам на адшліфаваным баку.

Звычайны валун, на такія ж пры жыцці гэты вандроўнік не раз прысядаў у дарозе спачыць. Выдатная задумка майстра! Гэты помнік арганічна ўжыўся з навакольнай прыродай і месцам на старых вясковых кладах. Быццам адсюль, з пагорка, ясным мудрым вачам з партрэта відзён увесь сусвет. Прыгожы сціплы твар з класічна правільнымі рысамі; асаблівы нейкі, глыбокі, удумлівы позірк з вечнасці — выдавалі неардынарнасць асобы, чалавека касмічнага ўзроўню. Госці ўхвалілі работу дойліда, што спраектаваў ладны помнік, адшукаў адпаведную форму…

Паклалі кветкі. Вяртлявы пераняў з рук жанчын-культработніц пузаценькую торбачку.

— Ну, па нашай, па традыцыі — трэба памянуць, — раздаў на рукі па катлеціне, пусціў па кругу службовік, плёхкаючы ў яго з бутэлькі нагрэты сонцам каньяк.

Высокапастаўленая Дама выступіла наперад, пафасна звярнулася да прысутных. Відаць, не ўпершыню прамаўляныя словы, яна не здагадалася знюансаваць на колькасную прысутнасць народа і прытушыць занадта парадны парыў і патэтыку. Загадзя падрыхтаваны тэкст падала без купюр і «мы — выходцы из народа», разлічанае на ўсіх мастакоў з «Ікаруса» плюс мнагалюдны мітынг перад вачамі дакладчыцы — «бесконечно черпаем истинное богатство у вас, у простого народа», — прагучала тэатральна і двухсэнсоўна, далей па сцэнарыю Дама ўздымала галаву і акідвала позіркам масы… разгубілася ў сваім памкненні, бо толькі зараз, здаецца, апамяталася — народа тут было: цётка ад афганскай магілы, якая і не ўдзельнічала ў мерапрыемстве, воддаль стаяла ля агароджы, недаверліва прыслухоўваючыся да прамовы, ды жанчыны правадніцы, культработніцы са скрыжавання, якім даўно ўсе даклады і прамовы, вывучаныя на памяць, збрыдлі, яшчэ гэты летуценнік з шэрага каменю на пагорку, што ўглядаўся ўдалячынь, не быў «выходцем» — ён сам з народа.

Прырода страхуецца: двум мастакам Беларускай зямлі адначасна даручыла абвясціць прыход касмічнай эры. Першы, адораны багаццем, паехаў у Парыж, каб паведаміць усяму свету: МЫ не АДНЫ — паветра населена нябачнымі для многіх духовымі істотамі; другога Бог адарыў жабрацтвам, каб змог давесці сваім землякам пра тое ж самае — НЕБА.

5

Нейкім часам у раёне ўзняўся вэрхал: у невялікай прыгараднай вёсцы завялася нячыстая сіла. Тады ў газетах не дазвалялі пісаць пра такія з'явы і тэрмін палтэргейст не ўжывалі. А страху нарабілася. У драўляным дамку жыла сялянская сям'я: састарэлая бабуля, яе дачка і малая ўнучка — поўны набор для стварэння энергетычнага дыскамфорту; звычайна пры ўзнікненнях палтэргейсту не абыходзіцца без дзіцяці і бабулі. Пачало адбывацца штосьці надзвычайнае. Казалі, якраз перад тым бабуля чытала нейкую кніжку, прынесеную варажбіткай. Пастукалі ноччу ў акно — выйшлі адчыніць дзверы — нікога. З электрашчыта выбіла пробкі. Першую ноч тым і абышлося. На другі вечар зноў у акно барабаніць, святло пагасла, жудасна зрабілася. Пайшлі пераначаваць да суседзяў. Ды кожным разам не напросішся ў чужыя двары. Навалілася і ўдзень праява: з ніадкуль цагліна пячная выскачыць, крупы, фасоля, гарох па падлозе рассыпле. Міліцыя дзяжурыла: сяржанту па галаве патэльняй дасталося. Увесь раён стаў з'язджацца ў вёску на дзіва паглядзець. У райвыканкаме занепакоіліся непарадкам у грамадстве. Сазвалі нараду, прапясочылі культработнікаў.

— Немедленно прекратить все разговоры о глупостях! Средневековье! Обыкновенное баловство молодёжи. Ветер дул — окно разбилось. Мало ли от чего электричество гаснет. Больше мероприятий в деревню! Нет культработы надлежащей, мало агитбригад, лектории отсутствуют — вот результат! Если бы в мире были какие-то «иные силы», они бы прежде всего вышли на контакт с властью и правительством, не обращались бы к тёмным людям!

Абышлося: бабуля памерла, кніжку кінулі ў грубку: печ разнясло, сцяна рухнула, вокны павывальваліся. Сям'ю перасялілі ў новы дом.

А «какие-то иные силы» даўно паразумеліся з «правіцельствам» і ўладай, ды трымаецца гэта ў строгім сакрэце, мала хто здагадваецца…

*

Дык што там наша Завочніца? Толькі выйшла з кабінета, не паспела азірнуцца — Лабарант, знаёмы студэнт стацыянара, разводны аліментшчык, працаваў пры навучальнай установе вахцёрам-капцёрам-вартавым, бурай пралятае: заўважыў, спыніўся, адкінуў модную пасму валос з ілба, закрывала палову твару.

— Якая сустрэча! — як заўсёды мітуслівы, рассеяны, ветраны, сам сябе не чуе. Пустой работай па вушы загружаны, яшчэ на трох халтурах. Ну і пакінем яго пакуль што, няхай бяжыць разгружаць апаратуру, яе, казаў, удалося выбіць для эстраднага аркестра.

*

— У вас недасканалыя веды. Ды што казаць — зусім ніякіх! Хто ваш выкладчык? Проста ганьба! — пытаецца адзін з чальцоў экзаменацыйнай камісіі.

— Халя… Халяў… здаецца, так: Халявін, — ледзь успомніла студэнтка ў вочы пад час сесіі не бачанага выкладчыка.

— Гм-м… — здзіўлена і недаўменна паглядзеў старшыня камісіі на цікаўнага экзаменатара Халявіна: мог бы хоць прозвішчы сваіх студэнтаў запомніць, ці ўжо сядзеў бы ціхенька, не выторкваўся…

*

— Кажуць, сёння ансамбль здаём!

— ?!

— Нашы па кветкі пабеглі.

— З кім я ў пары?

— Дык са мной.

— Што рабіць будзем?

— Трэба лабаць з ходу.

— Хвасты нікому не патрэбны.

— Ты — «Лявоніху» сола, я варыяцыі, «Мікіту» — наадварот, ага?

— На раз!

Пабеглі, пахапалі балалайкі, знайшлі аўдыторыю, дзе засела камісія экзаменатараў. Пакланіліся, падрыхтаваліся чынна, кіўнулі галовамі адзін аднаму ўступ, замахнуліся рукамі — і-і-і-раз! Ён «Мікіту», яна — «Лявоніху» ў той жа момант.

— Ой! Прабачце, — спыніліся, пераглянуліся, падстроілі лады. Кіўнулі! Узмахнулі! І-і-і — раз! — Яна «Мікіту», ён — «Лявоніху» адначасова.

*

Рай — расчыненыя наўсцяж вокны. Сонца плавіць чорнае крыло раяля. Гамы, гамы, арпеджыа, акорды, пасажы, зноў гамы… З другога паверха скрыпкі, альты, віяланчэлі і, канечне ж, фартэпіяна. Гамы, арпеджыа, эцюды, пасажы. На трэцім цымбалы, баяны, акардэоны, домры і фартэпіяна. У падвале тубы, габоі, флейты, валторны і фартэпіяна — гамы, арпеджыа, пасажы. У туалеце першы тамбур заняў акардэаніст, другі тамбур з люстэркам перад рукамыйнікам — прыткнуў пульт са стулам баяніст, у калідорчыку паўз кабінак, ля акна прытуліўся, расчыніўшы вокны веснавому паветру, скрыпач, адточвае практыкаванні. На доўгіх

калідорах па паверхах праз восем-дзесяць крокаў баяністы альбо струннікі, студэнтаў пяць на калідор, на кожнай лесвічнай пляцоўцы па седаку. Дзень у музычнай установе пачынаецца з шасці нуль нуль, разам з гімнам: спазніўся на пятнаццаць хвілін — клас страціў, аддадуць другому — сядай дзе прыстроішся. Піяністу складаней — ва ўборную раяль не вынесеш.

У гамах, арпеджыа, практыкаваннях, адшліфаваных да аўтаматызму, да бляску, да абсалюту, пачынае праступаць арганізаванасць пачуццяў, урачыстасць паўсядзённага, паэтыка прозы, то боскі цуд, пераведзены ў мову лічбаў і формул, у законы вышэйшай матэматыкі — гімн рамяству.

Талент — крылы, дадзеныя для таго, каб узняцца над зямлёй, яны за спінай у кожнага — смеласці для палёту не дастае. Палёт — заўсёды адзінота. Чым вышэй узлятае душа, тым больш аддаляецца ад зямнога. Якімі б ні былі моцнымі крылы, страшна лятаць у адзіноце. Рамяство здольна аддаліць страх, дадаць упэўненасці, перакласці мову ўласнай душы на мовы раней прыдуманыя.

*

Лабарант вынырнуў з нейкай падваротні, запасных дзвярэй — відавочна ад кагосьці туляючыся, ён любіў хадзіць чорным ходам, гэта звычайны стан яго існавання — хавацца ад усіх: ад выкладчыкаў, лекцыі якіх крымінальна ігнараваў і кожны раз шчыра кляўся — руку да сэрца, што ў апошні раз, ад каменданта студэнцкай гуртжытлоўкі, той патрабаваў ад яго маладух за нелегальнае пражыванне ў інтэрнаце, ад загадчыка гаспадаркі, пры якім прыпрацоўваў інструментальшчыкам у капцёрцы: выдаваў аркестрантам музычныя інструменты, партытуры і партыі; ад былой жонкі з сынам, з-за аліментаў; нарэшце, ад палюбоўніцы, чарговай дызель-бабы, на якіх паказваў яго адмысловы густ.

Яны паехалі з Завочніцай у чужую аднапакаёўку, дзе па дамове кватараваў сябар Лабаранта, вядомы бас-гітарыст. Гаспадар-кватэраздатчык бяздумна пакінуў не толькі квадратныя метры — раяль, ён займаў большую палову галоўнага пакоя, а яшчэ багатую нотную бібліятэку, без сумневу, мяркуючы па штампах, натыраную па вясковых музыкалках: поўныя антрэсолі тамоў і фаліянтаў оперных і аркестравых партытур, поўнае падпіснае выданне музычнай спадчыны Шастаковіча. Настройшчыкам, хутчэй за ўсё, зарабляў на жыццё гаспадар-музыкант, толькі яны маюць такі вольны доступ да скарбу вясковых музычных школ.

Лабарант балдзеў ад джазу, з парога прапанаваў Завочніцы паслухаць новую фішку: спяваў ён пасрэдна, ды быў першакласным прафесіяналам і добра імправізаваў. Слухалі новыя кружэлкі… Хапіла б на вечар негрыцянскіх спірычуэлсаў, але ён палічыў сябе абавязаным дагадзіць, а

яна дала сабе слова не крыўдзіць яго на гэты раз: перапіхнуліся спешна, шпарка, маторна, без уражанняў і ахвоты. Павячэралі расталымі ў сапсаванай лядоўні пельменямі, паглядзелі ў тэлевізар і раз’ехаліся па дамах: ні ў яе, ні ў яго не было Дома.

Дом, кватэра, сядзіба, жытло, хата, хібара, барак, віла, прыстанішча, хаза, «очаг», кропка, маёнтак, шалаш, пакой, пабудова, фальварак, нары, катэдж, маліна, вігвам, закуток, лежбішча, юрта, «абшчага», дзетдом, атэль, гуртжытло, інтэрнат. Калі для азначэння адной рэчы ці з’явы існуе некалькі слоў — сэнс іх ніколі не будзе аднолькавым.

*

Світанак. За акном не рака, не мора, не возера, нават не жывапісны ставок — брудная канава ад нястомных восеньскіх дажджоў з разводамі масляных плям ад машын, звычайная лужына пад вокнамі аркестравай залы, у якой трэцюю гадзіну сядзяць дзясяткаў пяць студэнтаў з адным нецярплівым жаданнем: хутчэй бы скончылася рэпетыцыя. Лужына — а эфект той самы. Рабізна, рэдкія кругі ад кропель пацішэлага дажджу, выдзіманыя ветрам узоры і арнаменты. На хвіліну змоўкне вецер — адаб’юцца ў гладзі люстэрка дрэвы, дамы, хмары — неба. Зусім не абавязкова, што Мадэст Пятровіч Мусаргскі глядзеў на раку ў той момант, калі пачуў свой шэдэўр «Рассвет на Москва-реке», уверцюру з оперы «Хованщина». Здольны бачыць неба пазнае яго і ў лужыне.

Завочніца сядзела на верхнім подыуме ля самага акна і заглядзелася на лужыну, у глыбіні залюстроўя якой плылі чароды белых аблокаў, — некалькі тактаў яе партыя трымала паўзу, а студэнт Панылы з першых альтоў заглядзеўся на яе. Дырыжор быў, як звычайна, у добрым настроі: прамахнуўся раз з уступам альтовай тэмы, другі, спыніў аркестр і з усмешкай назіраў за Панылым — той паставіў старчма домру сабе на калені, узлакаціўся на корпус, ашчаперыўшы грыф рукамі, утуліў у іх галаву — не зводзіў з Завочніцы вачэй. Яна сядзела далёка за спінамі рада альтовых домр і зусім не заўважала ні позірку дырыжора, ні замілаваных вачэй альтыста. Ім прыпісалі каханне з першага курса: дзе б ні з’явіліся — перш-наперш шукалі адно аднаго і не сядалі за інструмент, пакуль не знойдуць… А іх не каханне злучыла — падобнасць душ. Студэнцік Панылы спяваў ёй пад уласны акампанемент свае матэматычна разлічаныя рамансы, дарыў пярсцёнкі і па-дзіцячы крыўдзіўся на смех замест удзячнасці ў адказ, проста яна бачыла ў ім найлепшую прыяцельку, больш за пярсцёнкі цаніла кветкі.

Потым на нейкім курсе невядома адкуль узнік Г., крэпкі прыгожы цымбаліст з неймавернай харызмай, як любілі жартаваць студэнткі, і не

меншай воляй у позірку, нешматслоўны, адасоблены ад тусовак, рэзкі, недасягальны. На лекцыі аднойчы ён, седзячы адразу за іх сталом, паклаў на плечы Завочніцы рукі, доўга трымаў іх так: яна адчула цеплыню мужных далоняў, ток прабег па целе — азірнулася і ўсё сапсавала…

— Ты — маленькая?! — пасмяялася Сяброўка. — Ён жанчынамі не цікавіцца.

Тут і Завочніца прыпомніла, як сустрэла выпадкова ў скверы свайго мілага сябручка Панылага разам з гэтым Г., як пачырванеў альтыст, ён заўсёды чырванеў, заспяшаўся, упершыню не затрымаў яе для размовы, як зніякавеў зусім не сарамлівы Г. Тады яшчэ саромеліся. Вельмі хутка, не пройдзе і пяцігодкі, як па ўсіх каналах тэлебачання пачнуць навязлівую, нахабную прапаганду аднаполага сэксу; не як трагедыі і не як драмы асаблівасці чалавечай душы, а менавіта пікантнасці сэксу, не прыкрытага належнай таямніцай. Заўзята кінуцца віхляць вёрткімі азадкамі бессаромныя хлопцы і мужчыны. Бесталанныя «зоркі»: артысты, спевакі, танцоры — зоймуць першыя ступені кімсьці ад балды прыдуманых рэйтынгаў толькі за тое, што ахвярна падставілі сваю дупу патрэбнаму Бугру. Прыйдзе мода з гонарам заяўляць на ўсю краіну: я гей! Быццам тое ўзнагарода альбо прывілея. І вось ужо сотні, тысячы сарамлівых, мілых, інтэлігентных, разумных хлопцаў і мужчын, якіх прырода не ўкамплектавала стаадсоткавым наборам тэстастэронавай самаўпэўненасці, затое надзяліла дарам пяшчотна кахаць, цаніць сям’ю, клапаціцца аб дзецях, употай засумняваюцца, убачыўшы назойліва падсунуты ролік з мантажаванай паўтарагадзіннай карыдай самца і на выбар па густу «палавога станка», зловяць сябе на думцы: магчыма, я не такі, як трэба, не сучасны, не модны, закамплексаваны. І лісліва зазірнуць аднойчы ў вочы «сапраўднаму мужчыну».

У пастку крэатыўнага і харызматычнага Г. наш бедалага трапіў па нецвярозасці. Ён не ўмеў піць — той жа скарыстаў момант даверу. Змалку запалоханы нецвярозым бацькам, ён цягнуўся да мужчын, як парастак да сонца, хацелася ўвагі і павагі. Тры гады ганебных адносін між Панылым і Г. ледзь не скончыліся гібеллю ахвяры. Хлопец спіўся, страціў работу, атрымаў цяжкую траўму ў бойцы, дакладней: яго збілі да паўсмерці «змагары за чыстыя адносіны між паламі». Урэшце на яго лёс знайшлася жанчына, у іх склалася сям’я, нават дзіця нарадзілася.

*

Першая сесія акрэсліла асноўныя задачы — выжыць ва ўмовах татальнай партпрапаганды. Двухтомнік «Гісторыі КПСС», таўшчынёй з цагліну кожны з фаліянтаў — асноўная навука савецкага студэнта, на каго б той

ні вучыўся. Хітрэйшыя студэнты рабілі выгляд стараных батанікаў і не выдавалі, што заўважаюць амаль штодзённы нецвярозы стан грознага выкладчыка гісторыі. Некалькі першакурснікаў забралі дакументы перад навагоднімі святамі, пасля няўдалай спробы здаць залік па гісторыі КПСС.

Экзамены і залікі праходзілі прыблізна такім чынам. Хранічнае пахмелле змушала Гісторыка прасіць якогась даверанага студэнта збегаць па моцную каву. За цяжкай гардзінай ля акна ён адкупорваў тэрмічную пляшку, туды даліваў з міні-бутэлькі частку каньяку — палёгка прыходзіла хвілін праз дзесяць. Вось на гэты найлагоднейшы момант першая пяцёрка мела вялікую надзею. Выкладчыка павінна было адпусціць якраз на іх здачны «перівад» (мовай самога педагога). У першую чаргу перлі нахабныя гарлапаны, і сіла групы — выдатнікі. Дарэмна спадзяваліся… Гісторык ні ў якім стане не губляў пільнасці, уедлівым вокам пранікаў у самыя патаемныя закуточкі інтэлектуальнага багажу студэнта і націскаў на балючую кропку.

— А как Владимир Ильич поступил в таком-то году в такой-то ситуации? И какие выводы сделала партия в связи с этим, да какие глубокие перемены последовали, да какие исторические события явились откликом тех великих деяний?

Сядзяць выдатнікі, не здольныя прыпомніць адпаведны параграф, главу ці абзац: бяссоннем трызнілі пра Ільіча ад перагрузкі мазгоў важнай інфармацыяй, а нават у жахлівых снах прадбачыць не маглі такога пакручастага пытання. Харошыя студэнты, добрасумленныя, але спуску не будзе. Першы раз Гісторык адправіць з экзамену ні з чым, другая спроба абавязкова скончыцца падобным жа мудрагелістым пытаннем — пойдуць выдатнікі з папярэджаннем, наступнае апытанне па матэрыялах партз’ездаў пойдзе ў хуткасці, будзе доўжыцца да паўночы — бывала такое не раз, але адзнакі не будзе, замест адзнакі толькі скупая пахвала, па адзнаку наведайся студэнт з другой групай. Здача экзамену па гісторыі КПСС адбывалася на працягу ўсёй сесіі, гэта найлепшы варыянт, бо і хвасты — не рэдкая з’ява… і вось нарэшце адзнака пастаўлена ў заліковую кніжку. Не спяшайся радавацца! Подпіс дадаць Гісторык не ахвяраваўся. Па подпіс яшчэ хадзіць і хадзіць. Дык што застаецца з вольнага часу пад заняткі галоўнымі дысцыплінамі, дзеля якіх імкнуўся малады чалавек у навуку: музыка, педагогіка, культура?

*

Галоўнай праблемай завочнікаў (а зараз усіх студэнтаў) заўсёды была жыллёвая, бо хвалёныя інтэрнаты аддалі кітайцам і другім іншаземцам, дзяржава і ВНУ зарабляюць грошы, свае студэнты — так пераб’юцца.

Некалькі сесій завочніцам прыйшлося кватараваць на вуліцы Фабрыцыуса, там у старым чатырохпавярховым доме жылі яўрэйскія сем'і. Завочніцы пасяліліся ў васьмідзесяціпяцігадовай Гаспадыні. На сцяне віселі паасобку мужчынскі і жаночы партрэты: мужа і жонкі. Нягегленькага лапавухага насаціка завочніцы не засталі жывым, а прыгожая па-каралеўску Гаспадыня і да гэтай састарэлай пары не страціла сваёй шляхетнай адметнасці, інтэлігентнасці і нават прыгажосці. Яна была жанчынай далікатнай, маўклівай, культурнай.

Зрэдку між адлёжкамі ў «спецпрафілакторыі» ў кватэры з'яўляўся яе сын, ціхі інтэлігентны дзяцюк — мужчынка, відавочна падобны на бацьку, насаціка з насценнага партрэта. Ён увесь час амаль нерухома сядзеў на адведзеным для сну і пражывання тапчане, у калідорчыку перад самымі дзвярмі ўборнай, чым моцна трымаў завочніц у напрузе, але падзецца не было куды; ён і так сябе адчуваў і паводзіў быццам не дзяўчаты, а ён кватаруе ў гэтым доме. У руках Насацік нязменна трымаў штотыднёвік «Факты и аргументы» — менавіта так ён называў газету: «Факты и аргументы»! І дазваляў сабе іншы раз каменціраваць з газеты якісь факт альбо аргумент. Самай каларытнай асобай у той сям'і была сямідзесяцігадовая суседка, выкладчыца рускай мовы і літаратуры Роза Самуілаўна. Яна без забароны наведвала ў любы час сяброўку і зычна раз'ясняла ёй бягучае становішча жыцця. Гаспадыня пры гэтым ляжала на сваёй канапе і не думала ўстаўляць у маналог прыяцелькі свае слова, а калі б і насмелілася ўторкнуцца з якой заўвагай — атрымала б такі апазіцыйны адлуп, што на доўгія дні страчвала жаданне адкрываць рот у прысутнасці суседкі. Паколькі сесіі завочніц адбываліся па цэламу месяцу два разы на год, яны, не жадаючы таго, станавіліся сведкамі жыцця ў доме па вуліцы Фабрыцыуса. У сем'ях іх бліжняй і дальняй радні.

Залікі, абароны курсавых і экзамены цесна пераплятаюцца з жыццёвымі калізіямі гэтых мілых людзей. На адной з сесій збіралася ў Ізраіль сям'я якойсьці славутай Мэры: трагедыя была ў тым, што выехаць імкнуліся ўсе чальцы ад малога да вялікага, акрамя самой Мэры. Яна доўга трымала радню ў стрэсе сваёй нязгодай пакінуць звычнае месца жыхарства, але нарэшце на наступнай, восеньскай сесіі здалася… А вось вясновая сесія завочніц ужо прайшла ў трывожным мінoры, чакалі звестак з дальняй дарогі, а іх падазрона доўга не было. Гаспадыня больш чым звычайна праяўляла непакой, штодня перапытвала, ці не забадзялася незаўважаным на дне паштовай скрыні якоесь невялічкае паведамленне, ці не зачынілі на рамонт бліжэйшае паштовае аддзяленне і ці не захварэла знянацку ўчастковая паштарка…

Неяк вечарам сабралася сямейства, з абавязковым прыдаткам, суседкай. Ішла грамадска карысная, ідэалагічна пралічаная перадача аб эміграцыі габрэяў у Ізраіль. Гаспадыня ляжала ні жывая ні мёртвая, суседка на ўсю

кватэру, улічваючы і вушы кватарантак, агучвала поўную салідарнасць з каментатарам. Насацік на заднім плане ля ўборнай спрабаваў дзе-нідзе ўставіць хліпенькія рэплікі нязгоды з катэгарычнасцю госці. Кульмінацыйным ходам тэлеагітматэрыялу быў пададзены прыклад адной сям'і. Трагедыя і драма разыгралася на самым памежжы чужых краін. Старэнькая бабуля надумала памерці транзітам у дарозе і бедная сям'я — ні ўзад, ні ўперад з труной. Ні адна з чужых дзяржаў не жадала прымаць транзітнага нябожчыка.

— Ой-ёй-ёй! — бедная Мэра, как там она пережила такой дальний переезд?! — Гаспадыня зайшлася ад прыступу астмы і схавалася ў ванны пакойчык, каб не дакучаць кашлем. Менавіта ў гэты момант зазваніў тэлефон — сын падняў слухаўку і асеў на канапу.

— Не знаю, как сказать маме.

— А што такое? — запыталася Роза Самуілаўна.

— Умерла Мэра.

— Молчи, дугак, ни слова! Её нужно подготовить… Я это возьму на себя — ты только молчи, не пговогись, дугак!

Праз некалькі хвілін вярнулася Гаспадыня. Яна трымала руку на левым баку грудзіны, пакручвала галавой і ціхенька паўтарала: «Бедная, бедная Мэра, как она там пережила? Такая дорога, такая дорога. Бедная моя Мэра».

— Ну так вот и сдохла твоя Мэга! Едут на чужбину! Бгосают Година! И дохнут там как собаки! — заключыла сердабольная Роза Самуілаўна.

*

Адну з сесій Завочніца з Сяброўкай кватаравалі ў адзінокай Балерыны, хадзіць па кватэры даводзілася на дыбачках — уся падлога была засцелена пранумараванымі лістамі паперы. Балерына пісала дысертацыю, па вечарах у яе збіралася прасунутая моладзь, эпізадычна, роблена, няшчыра яны размаўлялі на МОВЕ, аказваецца, тады гэта прыходзіла ў моду, а завочніцы ні аб чым такім і не здагадваліся, імкнуліся пры гаспадыні штучна пераламіць язык на гарадскую мову, з-за чаго яшчэ горш адчувалі на сабе яе скептычныя пагардлівыя позіркі…

— Вам зноў тэлефанавалі. — Балерына ва ўпор аглядала з ног да галавы сваіх кватарантак. — Мужчынскім голасам.

— Гэта брат, — знайшлася адна з іх.

— Штосьці сягоння ў яго непазнавальны голас быў.

— Прастудзіўся.

— Да таго ж тры разы званіў, і ўсё рознымі галасамі, — яхідна заўважыла Балерына.

— Прабачце.

— Дзе ж вы так доўга бавіліся? — з замаскіраванай цікаўнасцю, а магчыма і зайздрасцю, дапытвалася Балерына.

— У тэатр хадзілі.

— І што вам прапанавалі сёння? — лавіла яна.

— «Дон Кіхот» Мінкуса! — прыпомніла смялейшая тэатральную афішу.

— Сапраўды, — згадзілася Балерына, яна была ў курсе тэатральных навін. У думках дабавіла: развядзёнкі! І злавіла сябе на зайздрасці.

*

Дык Лабарант і прыстроіў завочніц на другой сесіі ў прафілакторый, недзе між Заслаўем і Ждановічамі. «Па лініі прафкама» — ён і там валодаў становішчам. Клас! Дармавое чатырохразовае сілкаванне — загінай палец. Дармавое жыллё ў двухмесным пакоі, гэта ж не трэба зноў на Фабрыцыуса прасіцца, ды яшчэ штодзённая дармавая падвозка на аўтатранспарце да навучальнай установы. Адна толькі няўвязачка, зусім дробязь. Ці едзеш у Мінск на заняткі ад ранку да змяркання, а значыць — галодны, бо ніхто не стане зберагаць твае порцыі ў сталоўцы, альбо харчуйся па поўнай праграме, прабачце, пахерыўшы навуку. Мог бы такое нарэдчас дазволіць сабе студэнт стацыянара, ды не завочнік.

На зэканомленыя грошы завочніцы абнавілі ў ЦУМе свой гардэроб. Апрануліся модна: «І ўсё пры іх — і нічога ў іх лішняга!», выйшлі на праспект — пенсіянеры ўстаўныя сківіцы пагублялі. Аўтобусы спыняліся, кіроўцы страчвалі прытомнасць. Там жа, на тэрыторыі «лежбішча» між Заслаўем і Ждановічамі, дзе сярод зялёнай дубравы размясціўся прафілакторый, і сустрэлі завочніцы Дацэнта, маладога, прыгожага, сучаснага. Прывёз студэнтаў на копку бульбы. Спачатку яны прынялі яго за шафёра — такім бесцырымонна-нахабным падаўся позірк Дацэнта, быццам і не існавала за плячамі інтэлектуальнага багажа ў выглядзе ўніверсітэцкай адукацыі, аспірантуры, працы ў акадэміі. Сяброўкі ж падаліся дацэнту-шафёру такімі падобнымі і аднолькава зваблівымі, што вочы як разбегліся, так і не збегліся, пакуль не сутыкнуўся нос да носу з адной з іх на калідоры між сваім і іх пакоямі. Немы ад нечаканасці (хутчэй, асцерагаўся сваім гучным голасам павыманьваць з пакойчыкаў студэнтаў, якіх нежартоўна пабойваўся, ва ўсіх адносінах) Дацэнт выразным жэстам абедзвюх рук і пачцівым нахілам галавы запрасіў жанчыну ў госці — тая ад нечаканасці і завітала. Напэўна, спрыяў гараскоп, бо і далей словы не спатрэбіліся, каб уладкавацца на нешырокім казённым ложку, папярэдне рассунуўшы акуратна раскладзеныя па газетах ахопкі рамонкаў, якія Дацэнт старанна

збіраў у полі, пакуль студэнты гарбаціліся над барознамі, і сушыў у цяньку, каб выпалоскваць свае шаўковыя валасы. Гэта былі зусім не тыя рамонкі, патрэбны аптэчныя, а не звычайны пустазёлак, толькі яго, відаць, гэты факт неадпаведнасці не засмучаў. Дацэнт аказаўся абсалютным імпатэнтам, а што ж? Ці не занадта? Пры такім інтэлекце, пачуцці гумару, з такой выбітнай знешнасцю, ды ў дадатак з неверагодна прыцягальным блонд-сассон на галаве, завялікая раскоша аказацца яшчэ і палавым гігантам: добранькага патрошку. Дацэнт мог і без таго зацікавіць любую разумную жанчыну, ды вось праглася яму прызнання ў якасці самца, горш за ўсё тое, што ён увесь час цікавіўся, ці добры ён любоўнік, і патрабаваў доказаў. Кінула яна яго… раніцай.

Вечарам Дацэнт расстараўся ў нейкіх бабак самагонкі і арганізаваў культурнае мерапрыемства на траіх у пакоі завочніц. Пітво, відавочна, гналі з тэхнічнай сыравіны, пра што бессаромна сведчыў ненатуральны колер вадкасці і пах машыннага масла; з гэтай нагоды ў Дацэнта знайшоўся анекдот пра дацэнта-алкаша, на якога зграйна напала чарга за беспадстаўную пераборлівасць пры пакупцы такога дэфіцыту, як трайны адэкалон: то яму этыкетка падрапанай здавалася, то корак не таго стылю. «Вам за рогам піць і так добра, а мне, інтэлігенту, на стол ставіць прыйдзецца!»

Жанчыны піць адмовіліся. Павесялелы Дацэнт сыпаў жартамі, плёў байкі, заляцаўся то да адной, то да другой, потым да абедзвюх адразу, у запале пачаў брыдкасловіць і нарэшце прапанаваў «тройственный союз», за што і быў вытураны за дзверы. Бяссоннем, апоўначы ён спахапіўся: па згубнай нядбайнасці пакінуў у чужым пакоі на падаконніку швэдар, а раніцай — на палявыя работы, нядоўга і прастудзіцца. Такая зачэпка яму падалася бездакорнай і цалкам інтэлігентнай. Вокамгненна падхапіўся з ложка і праз хвілінку настойліва стукаў у дзверы соннага пакоя. Адчыніла яна, Дацэнт радасна схапіў за руку і прымяніў сілу — жанчына пачала бунтавацца, але дужаліся нядоўга: па пакоях сцішыліся студэнты, напэўна, пачалі прыслухоўвацца — крычаць было б несалідна, ды і не хацелася ёй зусім крычаць, хацелася скарыцца.

## 6

Густы пах разнаСтраўя запаланіў калідоры і фае ўтульнай турбазы «Леснікова хатка» — развітальны стол, багаты, упрыгожаны, смачнай кропкай завяршаў тыднёвую працу пленэраўцаў-мастакоў. Выстаўленыя на агляд і прасушку работы: эцюды, накіды, эскізы, замалёўкі — пасавалі агульнаму турысцка-рамантычнаму настрою, дадавалі сэнсу і асалоды да пачуцця значнасці недарэмна праведзенага мерапрыемства. Аб'яднаныя вандроўкай мастакі трымаліся прыязна, па-сяброўску і ўсё ж кожны па-

асобку, як звычайныя творчыя людзі: розныя характарам, лёсам, талентам, светапоглядам; упэўненыя ў сваёй непаўторнасці, рэўнасна-варожыя да ўсяго, што набліжаецца з параўнаннем і якія заўсёды маюць прыродную патрэбу ва ўнутранай адзіноце. Так ці іначай мастакі былі між сабой знаёмымі, калі не блізка, дык дзесьці раней сустракаліся: на выставах, нарадах, сустрэчах, у майстэрнях, магчыма, разам вучыліся, а не — дык проста сачылі за творчасцю ў друку, па сродках інфармацыі. Прысутнічалі мэтры, слынныя майстры-адзіночкі, акадэмікі, студэнцкая моладзь.

Урэшце ўдалося наладзіць апаратуру, папераджальна пракірхікаўшы, з кволых узмацняльнікаў вырвалася музыка і адразу згусціла прастору, разняволіла прысутных, стварыла ўтульнасць. Сярод мужчын наэлектрызоўвалася затоеная канкурэнцыя з прычыны дамінантнага інтарэсу — жанчына. Муза — такое імя насіла правадніца, што ўзялася суправаджаць мастакоў. Ані капрызаў, ані какецтва, хоць усе мужчыны ахвотна даравалі б ёй гэта тут. Роўна, проста трымалася з усімі, аднак гучаў у ёй нейкі дысананс: ветлівая, шчырая, эмацыянальна выразная — адчужаная, далёкая, незразумелая, няўлоўная. Магла не знайсці нічога смешнага ў тым, з чаго смяяліся мастакі, не рабіла хаця б для прыліку задумлівага твару перад творам, у якім запраграмаваў хтосьці вялікі сэнс, ды не змог перадаць... Муза ўсё ж хвалявала кожнага з мастакоў, дужа хацелася ёй падабацца, выказаць сімпатыю, заручыцца яе прыхільнасцю. За тыдзень сумеснай працы яна так і не аддала нікому з іх асабіста перавагі, гэта не крыўдзіла мужчын, наадварот, падбухторвала.

На кухні гаспадарылі жанчыны, прыкамадзіраваныя нейкім не дужа загружаным работай аддзелам з выканкама: прыгатаваць ежу, сервіраваць сталы, стварыць добры настрой. Мясам і гароднінай забяспечылі старшыні мясцовых калгасаў, з харчпрадпрыемстваў прыслалі тое-сёе з прысмакаў і мацнейшага.

Кемлівыя з народу нашага заўсёды мелі шанц не жабраваць. Шмат прадпрыемстваў харчовай вытворчасці (некалі — саюзнага значэння) у гэтых мясцінах дазвалялі наладзіць такі камунізм, які і не сніўся яго ідэйным заснавальнікам. Прынцып натуральнай гаспадаркі савецкага гатунку. Сістэму бартару шматлінейнай варыянтнасці асвойвалі хутка.

Агульнаграмадскі крадзёж на рабочым месцы — геніяльны здабытак сацыялістычнай сістэмы. Чалавеку трэба неяк выжываць. А паколькі нельга ўсім дзяржавам сацыялістычнага накірунку развіцця прыпісаць як непазбежнасць падобную характэрную асаблівасць, тым больш, немагчыма паўшчуваць былы ўрад вялікага і магутнага ў нязадольнасці з часоў закона аб пяці каласках выкараніць з псіхалогіі савецкага чалавека гэты перажытак капіталізму, бо мільёны лёсаў з адзнакай «працаваў у далёкай Сібіры», проста перашкаджаюць спыніцца на такіх меркаваннях, ды ўлічваючы, як неахвотна заўважаюць і вяла змагаюцца (у параўнанні

з іншымі хібамі дысцыпліны — вольнадумства, напрыклад) кіраўнікі сучаснай дзяржавы з крадзяжом па вертыкалі і гарызанталі, сам сабой грунтуецца вынік — дзесьці ў вышэйшых эшалонах дасканала ўзважылі і ацанілі ўсе плюсы і мінусы нашай глабальнай праблемы і прыйшлі да высновы: кіраваць народам, у якога сарамліва апушчаныя долу вочкі і замазаны рот (чытай, «рыльце в пушку») куды прасцей. Такі падыход з усіх бакоў станоўчы! Пралетарыят атрымлівае магчымасць не галадаць, значыць — цалкам задаволены вярхамі і пры тым «знае котка, чыё сала з'ела» —ласкавейшай будзе. Зноў жа, на кожную гайку належыць мець ключ, каб своечасова — раптам адкруціцца — падвінціць. А яшчэ: вінаваты сабака хвост падцінае... Тут вось народная мудрасць памыляецца. Прыведзеная прымаўка састарэла. Сучасны прыклад: на перадвыбарнай збюрцы даведзены да адчаю электарат выгукнуў адным аднюткім голасам да важнага кандыдата:

— Накраўся дзяржаўнага, зараз у дэпутаты прэ!

На што яму проста з трыбуны кандыдат адказаў:

— А хто табе красці перашкаджаў? — чым выклікаў буру «одобрительных аплодисментов» і без сумневу быў выбраны ў дэпутаты.

Яшчэ адзін сучасны прыклад. У рэйсавым аўтобусе хлопчыка гадоў шасці пытае цётка:

— Куды ты едзеш?

— Да бабулі.

— Малачка адап'ешся... Ёсць кароўка ў бабулі?

— Во — малака! — малы рабрынай далонькі правёў па шыі, зазначыўшы, «пакуль» малака, і ганарыста абвёў позіркам пасажыраў: — Дзед на малаказаводзе працуе.

## 7

Жанчыны-гаспадыні справіліся на кухні, перайшлі ў залу, узяліся старанна весяліцца: усе сярэдняга ўзросту, каля сарака, выбеленыя андуляцыі, шчыльна залакіраваныя ў масіўныя стагуры на галовах, адзін на ўсіх жарт-намёк, ён здаваўся весялухам дужа смешным і тонкім:

— Жанчыны дзеляцца на дам і не дам, дык я — дам.

Напорыстая гатоўнасць у тварах і арганізмах, так крыўдна ігнаруемая сталічнымі кавалерамі. Гады ў рады выпадае пафліртаваць з цікавымі людзьмі, дык вось — неспадзеўка! Канкурэнцыя. Муза. Прыбіліся ўсе да адной, быццам іншых жанчын не бачаць: за стол — навыперадкі, каб з ёй сесці, у танцы адзін перад адным хапаюць, тосты — за яе, нібы турнір які! У адрас Музы сярод жанчын закіпала злосць. Была б маладой — не так крыўдна, на тое б і спісалі: ціху-ціху, у цябе яшчэ ўсё наперадзе: і

здрады, і згубы, і расчараванні, — дык не дужа маладая. Не свойская, не кампанейская, не прыбралася, не нафарбавалася — так, адзін гонар. Выбрала б з мужчын сабе каго аднаго — не — і сама не гам, і другім не дам: папсавала жанчынам настрой. Заставалася суцяшэнне — вадзіцель з аўтакалоны, што вазіў мастакоў у «Ікарусе». Прыгледзеліся — залішне сціплы, дзікі нейкі, ваўкаваты, нялюдскі: яму б разгуляцца — раздолле — ні адной не зачапіў.

8

Невялічкі пузанок па прозвішчу Самавіты, што з «Волгі», мог бы па праву лічыцца завадатарам усяго мерапрыемства, каб была патрэба — не пры цяперашніх абставінах у грамадстве. Ён, наадварот, імкнуўся трымацца сціпла, насцярожана: думак не спяшаўся выказваць, у цесныя зносіны ні з кім дужа што не лез — інтуітыўна ведаў, чым здольныя абярнуцца розныя сувязі пры палітычных пераменах, з прамовамі не перадкаваў… У момант, калі пачыналіся вострыя спрэчкі, небяспечныя гутаркі, неўпрыкмет выходзіў у фае, апускаў вочы ў нататнік, балазе, ён заўсёды ў кішэні з алоўкам, пад рукой — прафесійны карэспандэнт — занатоўвае думкі. З усімі разам, тым іншым, нібы й ні пры чым: на аддаленасці ад мітынгаў, правадыроў — нікому не вораг і не сябар. Пакуль галава трымаецца на плячах — думкі будуць, куды важней іх мець, чым выказваць. Часы мяняюцца, а разумны яздок цішэй едзе — далей будзе.

9

Выпадкова апынуўшыся ля Музы, з пачаткам экспрэсіўных хваляў музычнага афармлення, Самавіты ўлавіў момант, без мітусні і перашкоды запрасіў яе ў танец. Не лічыў ён сябе зухам у адносінах з процілеглым полам, хутчэй наадварот, а вось губляць абставінамі дадзены шанц не прывык. Спатнелая макушка ледзь дацягвалася да барады жанчыны, цвярозыя хітра-разумныя вочы адсочвалі кожны зрух настрою партнёршы. Ён здолеў суняць хваляванне — не з тых, хто трапляе ў нерат пачуццяў. Вожыкавай пысай (меў смешныя вусы і сціснутыя ў гузку вусны) разважліва накручваў пра штосьці жыццёвае ля самай падпашкі Музы. Бадзёрыла думка: ён тут адзін карабель далёкага плавання. Ён цярплівы, настойлівы, здольны абысці многіх. У канцы стала ля гукавой калонкі, апёршыся на яе, сядзеў добра захмялелы кучаравы статны малады мужчына — адзіны тут сапраўдна, нават геніяльна адораны прыродай мастак па прозвішчу Здольны, мог убачыць і выявіць на палатне тое, чаго не заўважаюць іншыя. Навучыцца маляваць пейзажы, нацюрморты, партрэты

пад сілу кожнаму прафесіяналу, сказаць сваё слова, перадаць думкі праз фарбы, удыхнуць жыццё ў палатно ўдавалася толькі адзінкам. Але меў Здольны вялікую прагу да гарэлкі. З ім Самавітаму, як нікому іншаму, прыходзілася трымацца напагатове, каб не трапіць пад з'едлівы жарт ці «мяккі намёк», чым вольныя творцы ніколі не праміналі пазабавіцца, а зараз, у здураным дэмакратыяй грамадстве, ледзь не за абавязак лічылі выказацца, пакрытыкаваць. Ад Здольнага чакаць прыходзілася любой абразы — аўтарытэтаў не прызнаваў, язык у п'янага без касцей; губляць яму не было чаго: ні пасад, ні сям'і, ні работы, выстаўляцца не мог, дык і зноў жа — няма чаго: што папрапіваў, што за пазыкі пайшло, што пакралі. Тут, дарэчы, гасцюе ўдалы вяртлявы дзеяч мастацкай нівы, хлюст з УАЗіка, па прозвішчу Увішны — не аднойчы скарыстаў яго, Здольнага, вобразы, стыль, сюжэты для сваіх работ. Пакуль сябар вычухваецца з запоеў, Увішны дэманструе наватарскія эксперыменты ў сваёй майстэрні, прабівае работы ў друк, дзеліцца вопытам з моладдзю, своечасова падглядзеўшы асноўныя накірункі ў беспрытомнага мастака.

А па сутнасці, нашчадкам глыбока да лямпачкі сапраўднасць аўтарства. Тут у гісторыі свае рахункі з майстрамі і асобамі. Можа, і дзюбнула яблыкам Ньютана ў макушку, толькі тэорыю аб зямным прыцягненні не ўбіла ў галаву. Гэту ідэю разам з матэматычнымі разлікамі яму настойліва прэзентаваў Гук, толькі яму аднаму вядома, што перашкодзіла самому вучонаму фізіку дамысліць і давесці да канца сваю ідэю. А нашчадкам дужа спадабалася прыдуманая сваячніцай Ньютана байка пра яблык.

Не пазнаем мы ніколі, хто хаваўся пад псеўданімам Шэкспір і чаму неадукаванаму мясніку з гандлёвай лаўкі пад такім прозвішчам выпала пашана прымаць кветкі на сваю магілу ад удзячных чытачоў бессмяротных п'ес.

У анёлаў нявызначаныя магілы, у злачынцаў — нявызначанае бацькоўства, як казаў Плутарх: «Происхождение их тёмно, поэтому они считаются потомками богов».

## 10

Але вернемся да гасцей. Позірк Самавітага незнарок слізгануў па тварах прысутных і... ён пяшчотнымі рухамі пад музыку танца скіраваў партнёршу ў такі ракурс, каб постаць жанчыны закрыла яго ад вачэй з процілеглага кута — там сядзеў мастак з правінцыі Змрочны. (Гэта вам не валацужка Здольны. Няхай і геніяльна адораны, але яго п'яная праўда нікога тут надта не ўразіць. З яго самога не прэч паздзекавацца многія з прысутных, не аднойчы аплявузганыя прылюдна захмялелым блазнам без меры і тармазоў, тузаліся з ім загрудкі, і выводзілі штуршкамі ў каршэнь з афіцыйных

паседжаняў, важнасць якіх упарта не жадаў прызнаваць гнаны мастак. Глыбей капні — у кожнага знойдзецца зачэпка не любіць чалавека, якому гуляючы даецца тое, чаго іншым прыходзіцца дабівацца ад лёсу гадамі доўгай працы.) А вось Змрочны меў рэдкую асаблівасць — з ім лічыцца мусіў кожны. Ваўчысты, маўклівы, седзячы ў правінцыі, нейкім чынам мог уплываць на думкі і меркаванні сталічных калег. А сваю кар’еру на карані абсякаў невыносным характарам. Было не раз: планавалі выставы, прэзентацыі, разгортвалі работы па падрыхтоўцы, нават афішы замаўлялі, ды ў апошні момант Змрочны завядзецца з арганізатарамі з-за якой дробязі, спонсараў пакрыўдзіць, пасварыцца з начальствам і зграбе свой скарб у камору. І ўсё ж, нягледзячы на адсутнасць афіцыйных адзнак, многія з мастакоў лічылі першым крытыкам Змрочнага, трымаліся сяброўства, пыталі яго меркавання.

Не любіў Самавіты правінцыялаў, якія дамагаліся стаць уровень з мэтрамі, хоць сам толькі-толькі распакаваў чамаданы, пакінуўшы бераг Заходняй Ракі, перабраўся ў сталіцу. Ён генетычны, чыстакроўны прадстаўнік гаротнага народа, якому ні адна сістэма не гарантавала спакою, змушаны працаваць з падвоенай-патроенай напругай, каб нікому і ў галаву не прыйшло папракнуць. Адваяваў сваё месца пад сонцам і балюча перажываў, калі тое, чаго ён дасягаў гадамі і непамернай працай, камусьці проста валілася на галаву з неба. Не любіў, каб з яго прозвішчам побач уставала прозвішча невядома якога выскачкі. Пратэставаў! Пратэставаў як мог! Быў супраць, супраць, чатыры гады яму ўдавалася тармазіць сабраныя сябрамі Змрочнага паперы да прыёму ў Саюз мастакоў, змоўчваў дзе мог яго імя, калі тое пачынала няпрошана гучаць; як шаноўны членец розных мастацкіх калегій, пярэчыў распаўсюджванню творчасці самародка. (Так ён ставіўся толькі да жывых. З «мёртвымі» самародкамі справы абстаялі зусім іначай. Менавіта на іх творчасці і грунтавалася яго кар’ера, і ўласнае Імя, не надта гучнае, але-такі важкае ў мастацтве! «Ён шмат зрабіў у галіне мастацтва! Нельга перабольшыць уклад мастака Самавітага ў нацыянальную культуру краіны!» — так будуць распавядаць пра яго нашчадкам.) Самавіты рэдагаваў і адказваў за публікацыю матэрыялаў аб забытых асобах, даводзіў імёны да вушэй і вачэй шырокіх мас. Лёс яго даў рэзкі паварот з пераменамі ў палітыцы, зусім выпадкова ім апрацаваны матэрыял аказаўся дарэчы ў момант пошукаў новых нацыянальных герояў. Улавіўшы накірунак грандыёзных перамен у грамадстве, Самавіты скарыстаў абставіны і даў ход матэрыялу аб асобе, якая магла стаць сімвалам адраджэння на дзяржаўным узроўні. Як усё пачыналася! Якім падзвіжнікам ён нечакана паўстаў на фоне новага часу і вольных вятроў! У тыя гады кожны чыноўнік імкнуўся прылюдна засведчыць сваю прыхільнасць да свежых веянняў, даказаць адданасць грамадству, каб — крый божа — не застацца па-за каляінай. Якімі лёсавызначальнымі яму

здаваліся паездкі ў дзяржаўных «Волгах», намёкі на вялікую адказнасць асабістых даручэнняў, хоць і прыходзілася іншы раз крывадушна ківаць галавой у знак згоды з інтэлектуальнымі высілкамі састарэлых кіраўнікоў, як вось на днях у «Волзе», слухаючы Даму…

— Между нами говоря, никак не пойму, за что стали пропагандировать этого «вандровника». Картины у него слабенькие, лубочные, мещанские, жалкие какие-то. Литературных произведений серьёзных тоже нет. Ну, неординарная личность, своеобразная — да. А вот не смог он наладить свой быт. Вроде и не глупый был человек — такое образование имел, мог общаться с такими высокопоставлеными людьми, был вхож в такие круга, но как же оказался беспомощен в быту, как нищенствовал. А ведь это показатель многого. Неудачник он какой-то, вот в чём его трагедия, бесспорно.

Самавіты ўсё ж быў чалавекам разумным, грунтоўна адукаваным, і падобныя «мнения» яму каштавалі не танна, надоўга забяспечвалі бяссоннем і брыдкім настрем. Аднак будучыня абяцала: з Самавітым у тыя часы пачалі лічыцца і згодныя, і нязгодныя з палітыкай. З ім раіліся тут і там, бы з парламенцёрам, руку пацiскалі ў самых высокіх кабінетах, нават ноччу апаноўваў страх. У час вятроў згінацца трэба было б ніжэй! Невядома адкуль нагоніць пагоду — каб не пераламіла. Як кажуць японцы: гнуткае дрэва выстаіць. Так яно і здарылася! Новых нацыянальных герояў хутка пачнуць засоўваць, пілігрымкі скручваць, пленэры страцяць дзяржаўны ўзровень. Самавіты па-ранейшаму ў пашане і тут і там, ён не спяшаецца: ні адцурацца ад старога накірунку, ні перабягаць у новыя калоны. Галоўнае памятаць: жыццё трымаецца не на крыкунах, не на летуценніках, якімі б таленавітымі ці адважнымі героямі яны ні былі, іх рукамі і мазгамі, а бывае і целамі, ствараюцца вялікія перамены. Потым мітынгі сціхаюць, супакойваюцца жарсці, прыходзіць час разважлівых, цэльных, цярплівых, назіральных, гнуткіх, простых. Не прасцецкіх, як Увішны, не прастакоў, як Няўрымс, не просталінейных, як Змрочны, не спрошчаных, як Здольны, а па-сапраўднаму, па-біблейску простых, якіх любіць народ і жыццё і якія самі любяць і ўмеюць жыць.

Калі хто і здольны быў прапанаваць Музе штосьці падобнае зямному раю — гэта ён, Самавіты. Хто яму тут роўня — п’яніца Здольны? Увішны — вертухай, лёкай. Яго не паважаюць ні свае, ні чужыя. Можа, Няўрымс? Тупы, настырны рамеснік. Сапам выцягвае сваю сціплую пасаду арганізатара пры сярэдняга гатунку мастацкай навучальнай установе. (Той, што апанаваў студэнцкую тусоўку, мастак-працаголік Няўрымс. Не здольны адпачываць ні целам, ні душой. Нават сюды, на вечарыну, прыйшоў з тоўстай папкай ватманаў і звяслам алоўкаў. А большасць жывапіснага здабытку пленэра, бяспрэчна, сушылася з-пад яго пэндзляў.) Не-не, толькі ён, Самавіты, годны ўвагі Музы. Але ён не зрабіў памылковага кроку, не дазволіў пачуццям

аваладаць сабой, адчуў — гэта жанчына не ведае смаку Яго спакус, не разумее кошту Яго вартасцяў. Танец скончыўся пачцівым рэверансам.

11

Увішны тым часам шмат дзе паспеў: дамовіўся аб замежнай камандзіроўцы для сына, абнадзеіў Змрочнага (можа, калі і ён спатрэбіцца) абяцанкай удзелу ў рэспубліканскім фестывалі, пахадайнічаў за студэнта (казалі, сваяк Цяперашняму), падараваў Няўрымсу пару цюбікаў яго любімай неапалітанскай персікавай, нават па-сяброўску паўшчуваў Здольнага, ухваліўшы яго «самыя цікавыя тут» эскізы. Прыходзілася праяўляць віртуозны спрыт, каб наладзіць складаныя сацыяльна-культурна-эканамічныя сувязі, пры выпадковым знаёмстве неабходных яму людзей з патрэбнымі ім, каб першыя і другія адчувалі ў свой час патрэбу ў ім самім. Колькі сіл, энергіі, нерваў, прыніжэння патрабавала такая сістэма! А плёну — мізер. Сягоння ад мядзельскага сваяка Увішны толькі і мог чакаць, што запрашэння другасортным героем у другасортную перадачку. А чаго некалі каштавала ўладкаваць таго сваяка на тэлебачанне хоць кімсьці. Мусіў шукаць людзей, здольных дазволіць будоўлю лецішча на ўлонні Нарачанскага возера для аднаго з тэлебугроў! Зараз Бугор і не глядзіць у бок Увішнага, лічыць, што атрымаў ад дзяржавы і лёсу заслужанае, належнае яму. Вось-вось перастане вітацца і мядзельскі сваяк — кар'ера пайшла ўверх, развівае думку, што і яго не Увішны, а жыццё аддзячыла па справядлівасці.

Увішны пакрутаў у танцы кожную з гаспадынь і ўрэшце схапіў з-пад рук Самавітага Музу. Папрасіў яе папазіраваць перад кінакамерай, артыстычна валодаючы мімікай і жэстамі, не горш, чым языком, Увішны, бы знарок, дытыкаўся да спакуслівых форм жанчыны, пячаткай салодкай усмешкі да яе рукі, надоўга спыняў зазыўны позірк — вочы ў вочы, зманліва прымружваючы яго па-дзявоцку бухматымі веямі: не па Сеньку шапка.

12

Ад напорыстасці наступнага кавалера Музу прыйшлося ратаваць. Няўрымс настойліва пасадзіў жанчыну на драўляны зэдлічак пасярод залы і, не пытаючы дазволу, стаў наносіць завостранай дзюбкай алоўка разметкі на ватмане, для будучага партрэта. Ён не заўважаў, што раптам у жанчыны сапсаваўся настрой.

—Характар не ўлавіў, — спрабавалі жартамі вызваліць Музу з палону мастакі. — Душы не хапае.

—А навошта мне яе душа? Я натуру малюю, — буркнуў сабе пад нос Няўрымс, ні на хвіліну не адхіляючы маятніка вачэй ад зададзенага курсу:

мадэль — аловак, мадэль — аловак, учэпіста адзначаў кропкі і пераносіў рысы з натуры на паперу. Не ўцярпеў Змрочны, скарыстаў даўняе знаёмства з жанчынай, падбег, прысеў перад ёй на калена, захінуўшы спіной ад назолы-Няўрымса і, выбачаючыся, пацалаваў прыўзняты чаравік, яна сядзела закінуўшы нагу на нагу.

— Дурань! — па свойску адпіхнула Муза галаву кавалера, гарэзліва засмяялася! — Увесь дзень пыл збірала.

— Такая нага бруднай не бывае, — адказаў па-мужчынску Змрочны.

## 13

Як пад заказ, з невыноснай духаты ўліў дождж. Неўпрыкмет Муза выкралася на ганак, дзе ў адзіноце стаяў сумны мастак Здольны. З усіх пленэраўскіх яны былі найдаўнейшымі сябрамі, з юнацтва, але за ўвесь гэты час ён так і не насмеліўся перайсці з ёй на «ты», ніякавеў, губляўся, саромеўся вымавіць слова, ці не з-за гэтага, а можа зусім і не, — заспяваў. Не папярэдзіў нічым свой намер: мелодыя нарадзілася арганічна, натуральна злілася з шумам дажджу, падхопленая моцным ад вільгаці і прыгожым акустыкай рэхам. Гукі ўзнікалі ціхімі, маркотнымі, разрасталіся ў глыбіні грудзіны пеюна і выходзілі надрыўна-горка, плакуча, разрываючы санлівую штодзёнасць, шчымліва-самотныя, затухалі далёка-далёка ў ночы... Штосьці незнаёмае, ніколі не чутае, са скарбніцы фальклёру... ці сваё, экспромтам. Муза баялася варухнуцца, напалохаць рэдкае адчуванне чысціні і праўды, маўчала.

— Гэта для цябе, ластаўка мая. Толькі для цябе, маё сонейка.

Аблівень сціх, з расчыненых дзвярэй павалілі на двор пленэраўцы падыхаць чыстым паветрам. Праз хуткі час пяюн спаў на стале, рассунуўшы кучаравай галавой місы з закускамі. Гаспадыні хіхікалі, хаваючы ў далоні ўсмешкі з кідкімі залатымі фіксамі. Самавіты, як мага, сіліўся не заўважаць недарэчнасці. Няўрымс злосна спіхнуў плячо Здольнага са свайго эцюдніка, які так паслужліва прыйшоўся яму добрай падпоркай, — сонны мастак ледзь не бразнуўся на падлогу, своечасова падхоплены Змрочным. Увішны паблажліва балансаваў растапыранамі рукамі, супакойваючы Няўрымса: «Ну не ведае меры чалавек — няхай адпачывае. Яму ўжо ніхто не дапаможа...» Змрочны падхапіўся з лавы, наліў сабе з бутэлькі крыху белай, чокнуўся з чаркай Здольнага — будзіць не стаў, выпіў адзін:

— Меру то мы знаем. Толькі як яе выпіць?!

Усе, хто ведаў Змрочнага, прыціхлі. Па тым, як хадзілі жаўлакі пад скурай на яго шчоках, як торгаліся вусны, прадчувалася вялікае «вядро сцюдзёнай вады на патыліцу». Але ён паставіў на стол чарку, уздыхнуў.

— Любіў бы співаць — не ўмею. Хацеў бы танчыць — няма спрыту. Заляцаўся б да жанчын — сарамлівы. Не хочацца піць — ды вось мушу.

Сказаў і выйшаў на вуліцу. Самавіты з палёгкай уздыхнуў: відаць, на гэты раз пранясло, ды і наогул, пленэр удаўся.

*

Маскульт — абязножана-абязручаны па слыхавой асацыяцыі і вобразным уяўленні інвалід з кульцёй і абоймай танных бляшаных медалёўбранзэлак, юбілейных і памятных значкоў, урачыста пачэпленых на сухотныя грудзі героя, узамен страчаных ног-рук на полі бою. Маскульт — пярэварацень, вырадак народнай, нацыянальнай культуры, кармушка для шэрасці «обуреваемой жаждой деятельности»*, вялікіх арганізатараў і энтузіястаў чужых высілкаў, дзе на аднаго майстра-прафесіянала альбо таленавітага самародка дзесяць верхаводаў-прысмоктышаў, бязглуздых, некампетэнтных, адпаведна неадукаваных самадураў і самадурак, паталагічна амбітных з маніяй самазначнасці «выходцев из народа» — начальнікаў, здольных стакроць адцурацца пярэдніх лозунгаў, каб борздзенька, падбрыкваючы, гнацца за любымі свежа наквэцанымі і гвалтоўна праз маскульт «внедрять» іх у галовы народа. Прыстасавацца і паверыць любой палітычнай канфесіі, калі тая не пагражае стратай пасад і не заяўляе: «Аюсь — ад карыта!» Галоўнае — «массовость», як залог народнай падтрымкі і апірышча. Ёсць вялікі змысел ва ўсім: узамен народу змантаваць маналітную папуляцыю паслухмяных чальцоў. Багата прыродай адораны талентамі спяваць, жартаваць, танчыць, народ уціскваецца ў пракруства ложа хлуслівай ідэалогіі непасрэдна пры дапамозе падмены Божага дару на «яешню». Эксплуатацыя духоўнай каштоўнасці чалавека ва ўгоду Молаху, Ваалу, Асмадэю ды Мамоне перасягнула ў нашым грамадстве ўсе дазволеныя межы. Таму не менш спрыяе індэксаванне ўчэпістых ідэалагем: «Искусство принадлежит народу», — выкінулі з слоў Леніна галоўны сэнс: «…его лучшей части». І ў гэту «лепшую частку» так лоўка ўвінчваюцца прайдохі — без асаблівага нюху не разабраць, дзе «мастак», а дзе мастацтва. Менавіта ад здрады прыспешнікаў калямастацкай, калядухоўнай нівы, а то і сапраўдна адораных дзеячоў культуры, ды не асвечаных промнем сумлення, якія хутка ў пагоні за надзённымі патрэбамі і палітычнымі лозунгамі забываюць пра абавязак зберагаць вечнае духоўнае ад уплыву часовага дэманічнага, і ствараецца глабальны МАСКУЛЬТ. Сваёй увішнасцю гнуткія дзеячы культуры мацуюць дамбу, якая не дае праходу жывой вадзе і сіле чыстага народнага мастацтва.

* Словы Эльдара Разанава.

Кутні камень маскульта — «чарніла», яго пуцяводная рака і зорка. Ці то вёска, ці сталіца: застолле з начальствам — лепшая ўзнагарода! Бо яно — магчымасць «патапіць, схаваць адкат», без якога маскульт ніякай матэрыяльнай карысці для дробнага чыноўніка не нясе. Наш грамадзянін не заўсёды здольны ўбачыць, што процівагай усенароднаму дзяржаўнаму крадзяжу ўлада выпрацавала яшчэ адну лінію гвалтавання чалавецтва — паўсямесны АДКАТ. Адкат велізарных сродкаў ад будоўлі, медыцыны, аграпрамысловасці, гандлю, навукі, спорту, культуры… (Таму цякуць дахі, разбураюцца сцены, ламаюцца машыны, гніюць ураджаі, гінуць людзі…) Таму, што народныя сродкі, адпісаныя на дабрабыт краіны, асядаюць у кішэнях зладзеяў-чыноўнікаў любога рангу. Здольныя, таленавітыя прафесіяналы сваёй дзейнасці атрымліваюць жабрацкі «заробак», якога хапае ўрэшце на лекі ад усіх праблем — на «чарніла». А ў той час за голыя азадкі, за падстаўленыя сіліконавыя грудзі, паказаныя на ўсю прастору былога Саюза, ахвяруюцца велізарныя сродкі, з мэтай адкату.

«Чарніла» — звада, прыманка: допінг, узнагарода, суцяшэнне, штучнае панібрацтва — ого! — артысты за адным сталом з начальствам, якое назаўтра не гляне і ў той бок; «чарніла» — кляп у рот, корак у вушы, павязка на вочы, гэта самы ўлюбёны дыпламатычны ход прайдзісветаў. Чарніла для справаздач, для хвалебных од, «чарніла» на стол для камісій і праверак, «чарніла» пад прыгажэйшай этыкеткай не таннага кошту — пад стол начальству, каб лагадней жылося. «Чарніла» перад і пасля рэпетыцый, перад і пасля канцэртаў, аглядаў, конкурсаў. «Чарніла» — мора — пі, народ! Быдлаватыя ад збытку моцы пры кідкім недахопе розуму дзецюкі ў сініх халатах са швабрамі ў руках (самы распаўсюджаны від сцэнічных касцюмаў правінцыйнай культуры, ад нястачы фінансавых сродкаў) на сцэне з відавочна падробнай весялосцю і неспажывальным гумарам прадукуюць «спушчаны зверху» маскульт! Перадчасна ўсвядоміўшы сябе шанаванымі абранцамі і ўлюбёнцамі «сильных мира сего».

«Культура должна греметь!» «По сто мероприятий в год — на каждую кадровую единицу! Наши учреждения культуры сэкономили в прошлом году 15% энергозатрат в период отопительного сезона! Обязуемся в текущем году сэкономить 25%». (А ў наступным — абрасці поўсцю, каб не змерзнуць на працоўнай вахце.) Наступны перл красамоўя з трыбуны: «Ког-гда бар-р-ран р-руководит стадом львов — ничего хор-рошего не выйдет! А вот ког-гда л-лев р-руководит стадом барранов — дело пойдёт как надо!» Трэба чытаць «чеканя слог и буравя взглядом».

Пры наяўнасці адпаведнага патрабаванням (паслухмянасць вышэйстаячаму) льва, само сабой паўстае неабходнасць, для поўнай яго ўкамплектацыі, падстрыгчы ўсё астатняе стада пад баранаў. Кожны паасобку: хоць леў, хоць баран, а ўсё ж — індывідуум з уласнымі прыхільнасцямі, сімпатыямі, густам, а разам, дагаджаючы адно аднаму, каб не парушыць

штучна выдабыты хвараблівы панятак субардынацыі, дзе баран губляе мову ад жаху перад ільвом, а самы галоўны ЛЕЎ больш за ўсё на свеце, як ні дзіўна, дрыжыць ад страху перад стадам, бо «народ честной — честной он до поры, а коль что не так — опять за топоры! Сколь ни масли ты его, ни ублажай, всё равно для них ты — хан да Мамай»* ствараюць разам заняпалы шлях, духовае бухалава, няемную баланду, гумовую жуйку — МАСКУЛЬТ… Апошнія дзесяцігоддзі гэта з'ява набыла глабальны маштаб. Яна так адпавядае патрабаванням сучаснай постсавецкай сістэмы, так прыйшлася даспадобы ўладам па вертыкалі і гарызанталі, і не толькі бязмежнай магчымасцю адмываць бабкі, баксы, маны, лавэ — мегасродкі плывуць у пашчу маскульта, які зараз выпрастаўся зусім у іншую плынь — ШОУ, магчымасцю пад выбухі салютаў і выкрунтасы голых дзяўчат кіраваць да шызу шчаслівымі масамі пры дапамозе сучасных псіхатронных сродкаў; то пагражае паглынуць цяжка напрацаваныя вякамі здабыткі духоўнага развіцця грамадства. Цяжка разумець класіку? Яна патрабуе душэўнай працы. Пад грыль і шашлык, вядома, папса, гапата пройдзе на ўра! Сіліконавыя цёткі «растлевают» народ шэдэўрамі маскульта: «Ба-унти, баунти, баунти-…уяунти. Сникерсы, сникерсы, сникерсы-…уикерсы». Да сямнаццатага стагоддзя агульнанародная духоўнасць праяўлялася праз іканапісцаў, потым на варту заступілі паэты, мастакі, музыканты… Сёння — дастаткова хірурга-касметолага ды цырульніка з мадэльерам. Прыкінутыя адпадна геі і лесбіянкі, альбо робленыя «пад іх» — натуралы не ў модзе, грабуць бабкі, адабраныя ў народа, каб той забыўся назаўсёды пра свае таленты. Не па грашах бяда — густ, душу знішчае дзяржавай дазволеная «духоўнасць».

Падобна разважала і Завочніца на экзамене, да якога не рыхтавалася, па спісу тэм мяркуючы: адолее сама паразважаць, без чужой дапамогі. Аблом! Аднагрупнікі круглілі вочы, міргалі, шапталі, намякалі — штосьці не так. «Давайце заліковую кнігу. Тры». Крыўдна, не зразумела — чаму? Студэнты патлумачылі — усё ты правільна сказала, толькі галоўнае ўпусціла: гэта — «порождение» культуры капіталістычных краін, у нас такога няма…

*

Дацэнт запаў цяжка і паныла, яшчэ горш занурыўся з таго часу, як праявіў недаравальнае маладушша, забаяўся пры студэнтах прыстойна развітацца, калі жанчыны ад'язджалі з прафілакторыя, не выйшаў з пакоя, не паднёс да прыпынка чамаданы. І толькі з-за фіранкі назіраў, як узды-

* Радкі з песні Яўгена Бачурына.

мае цяжкі восеньскі пыл маршрутны аўтобус, успомніў, што не ведае ні прозвішча, ні факультэта, ні курса. Імя, ВНУ, чацвёртага снежня: пачатак наступнай сесіі — усё, што змог прыпомніць, а недаставала яе ўжо зараз…

*

Хапіла б імгнення, каб размінуцца, — яна апранула футра і выходзіла з універсітэта, ды штосьці яму дапамагло… У апошні момант азірнулася, убачыла знаёмую постаць — з другога паверха спускаўся Дацэнт, здалёк трымаючы позу і яе ў полі зроку. Яму ніякавата адчувалася тут, маглі сустрэцца калегі, хаваў «тэму» свайго візіту, але пажартаваў: «Я тыдзень з раскладушкай цікую цябе на вакзале…» А сам падумаў: неверагодна, прыйсці ў чужую ўстанову і ў васьміпавярховым будынку сярод тысяч людзей сустрэць тую, дзеля каго прыйшоў, страціўшы звычайную асцярожнасць. Завяршаўся дзень чацвёртага снежня. Рэстаран, вядома, выбіраўся па сістэме найаддаленага месцазнаходжання ад кропак частага наведвання: акадэмія, універсітэт, бібліятэка, пражыванне сяброў і калег.

Трэба яшчэ забяспечыць кавалерам прысутнасць сяброўкі, без якой адна яна не згадзіцца на вечар адпачынку. У рэстаране Дацэнт прызнаўся, што чакаў гэтай хвіліны і занадта часта ўспамінаў яе.

*

Завочніцы ў чатыры рукі неслі па блату раздабытыя ў фанатэцы дзякуючы Лабаранту кружэлкі, ён жа нёс перад сабой дарэвалюцыйнага веку прайгравальнік з гукавымі калонкамі — меліся здаваць віктарыну па музычнай літаратуры. За ноч марылі праслухаць увесь курс рускай класічнай музыкі. Першай трапіла пад руку кружэлка з рамансамі. Як паторкнулі на штырок адну кружэлку з рамансам у выкананні вядомага опернага барытона, так, сотні разоў паўтораны, аплаканы, і не змянілі да раніцы. Ён адпавядаў псіхалагічнаму станам завочніц да такой ступені, што яны забыліся на цэлы стос іншых шэдэўраў рускіх кампазітараў, не звёўшы вачэй праслухалі барытона да світання.

Выкладчык ставіць першы нумар, знаёмыя гукі віяланчэлі пачынаюць сумны ўступ. Хвіліна замінкі. Іх начны раманс! Разгубленасць. Завочніцы адна на адну тарашчаць вочы. За імі з надзеяй і чаканнем падказкі сочаць іншыя студэнты — не ўсім шанцуе атрымаць фанатэку на дом. Як так? Як так! Нават не звярнулі ўвагі на аўтара, не запомнілі назвы. Логіка дапамагла: падсумаваўшы стылістычныя асаблівасці, характэрны ход мелодыі, яшчэ аналіз гармоніі, рытм… вызначылі: М. І. Глінка «Сумненне».

*

— Сягоння ў нас банны дзень — збірайцеся, — з Дацэнтам быў сябар для Сяброўкі. Дацэнт відавочна хваляваўся, ад нязграбнасці зачапіў рукавом філіжанку — гарачая кава плёхнула Сяброўцы на калені…

— Опалённая солнцем! — заспявала яна, падскочыўшы з фатэля ад нечаканасці.

Парыліся ў саўне, пілі сухое віно. Дацэнт ляжаў голы на більярдным стале, выразна размахваў вольнай рукой у такт гаворкі — другая падпірала светлую галаву. Поліэтыленавы пакет з нацюрмортам важкіх бананаў і ананаса прыкрываў яго ню.

— А зараз намецім галоўныя вехі і абагульнім асноўныя тэзісы, — ён меў спецыялізацыю выкладчыка палітэканоміі капіталізму і ганарыўся, што яго прадмет нясе менш хлусні, чым змежны — эканоміка сацыялізму, начытваў лекцыі па філасофіі, заўтра ў завочніц самы страшны экзамен.

— А наогул, скажу вам па сакрэту, гэта «навука» — такая брахня! Чытаць трэба зусім іншых аўтараў і філосафаў, — ён назваў некалькі незнаёмых жанчынам імён, на той момант яны не здольнымі аказаліся зразумець яго словы.

*

Праз год гэту навуку абвесцяць па-за законам, перад самым выпускным, напярэдадні дзяржаўных экзаменаў: гісторыя КПСС, філасофія матэрыялізму, палітэканомія СССР, марксісцка-ленінская этыка і эстэтыка. На працягу пяці гадоў штудзіравалі спецыялісты галіны культуры і мастацтва, будучае апірышча ідэалогіі, палітыкі партыі і ўрада аснову асноў. Ні слова пра нацыянальную асаблівасць беларускай культуры, пра яе гістарычныя карані і вытокі. Ні слова пра каштоўнасць роднай мовы, фальклёра, пра духоўнасць чалавека, грамадства.

«На палубу вышел, а палубы — нет».

За пару тыдняў да выпускных змызганыя выкладчыкі кінуцца начытваць новыя сучасныя веды, пахапаныя з кан’юнктурных артыкулаў — дазволена — напісана, дазволена — зачытана. Педагог, які паставіў трояк маёй Завочніцы за маскульт, сабярэ групу студэнтаў давесці ім пра тое, што, аказваецца, у сацыялістычным грамадстве таксама ёсць загана — маскульт, пра што на выпускным экзамене неабходна распавядаць.

— Дык тое ж самае на мінулай сесіі расказвала наша студэнтка.

— Прашу цішыні! І так няма часу! Выказвацца будзеце на экзаменах.

— Выкажашся ў вас…

*

— Ты ўсё ж пойдзеш са сваімі?

— Дзяржаўны экзамен вытрымалі — грэх не адзначыць!

— Я марыў адзначыць разам з табой, столік замовіў у рэстаране.

— Не, я са сваімі.

— Будзе позна і цёмна, ты ўдакладні адрас — я пачакаю ў машыне, каб адвезці цябе дамоў, — прапанаваў Дацэнт.

— А я буду не адна, з маладым і цікавым, — наўмысна дзёрзка адмовіла яна, бо адчула: пачынае эмацыянальна залежаць ад гэтага чалавека, а ён запознена прызнаўся, што не свабодны, мае сям'ю. Зноў заблыталася ў прамых і крывых сцежках.

— Ну і што? Ты зрабі выгляд, быццам я звычайны таксіст, — пажартаваў Дацэнт. — Мне будзе сумна без цябе ў гэты вечар.

*

Адзначалі ў кагосьці на лецішчы. Элітны малады чалавек трапіў у іх кампанію выпадкова: патрэбен быў магнітафон — у яго магнітафон знайшоўся, тое і стала прычынай запрасіць Незнаёмца на чужое свята. Зараз такіх хлопцаў і дзяўчат на вуліцах горада — гаць гаці, і ў вёсках не аднаго сустрэнеш, а тады ён падаўся ўсім з іншай планеты, і не толькі знешнім выглядам: стылёвы, раскаваны, супермодна прычасаны, чорная касаваротка, касматы берэт з плямістага футра, а думкі, а высновы! У вольны ад заняткаў час спяваў у царкоўным хоры, пра што смела, не саромеючыся распавядаў, гэта тады, калі не толькі «Бога не было на зямлі», — існаванне самога чалавека ставілася пад сумнеў.

— А ты не думала пра веру?

— Я атэістка, — ухапілася Завочніца за пошлую збітую фразу, каб схаваць сваю разгубленасць і цемнату.

— І таму баішся думак, палохаешся нязвычных меркаванняў? Каб не быць ідыётам, абавязкова трэба ўслухоўвацца, углядацца, параўноўваць.

Элітны малады чалавек жыў пад гадзіннікам у адной з высокіх прывакзальных вежаў, адно гэта рабіла яго недасягальным.

Па заканчэнні ВНУ элітнага маладога чалавека накіравалі ў выгаднае месца, па былой камсамольскай лініі прасунуўся ў кар'еры, потым дарос да сакратара выканкама, ажаніўся з дачкой начальніка прамысловага гіганта, усё ў яго адпаведна стану: кватэра, аўтамабіль, адзін з першых джыпаў у краіне, заможнасць, дастатак, замежныя камандзіроўкі, кругасветныя вандроўкі за кошт дзяржавы. Сямейныя фотаздымкі па святах на фоне царкоўнай брамы ў кафедральным саборы. Казалі, пасля паездкі ў Егіпет (за

якую прыйшлося непрыстойна пасварыцца з усім працоўным калектывам, бо адзінкі разумнікаў западозрылі спусташэнне калектыўнай казны) там з сынам наведалі саркафаг з муміяй фараона, іх абаіх скруціла смяротная хвароба, у хуткасці адзін за адным яны ў нечалавечых пакутах памерлі.

У свеце мільярды ручайкоў, не ўсім наканавана дабегчы да мора.

14

Перадад’езная мітусня надосвітку не кранала Здольнага, ён стаяў, падпіраючы маленькую драўляную калону, што падтрымлівала брылёк над ганкам, чакаў Музу. Гладка адпрасаваная бялюткая кашуля, як нішто іншае, падкрэслівала ў яго надломлена-пакамечаным вобразе вострую ракавую трагічнасць, намеціўшы парасткі дэгенератыўнай тэндэнцыі пераўтварэння пароды ў выродства, што набываецца генетычна пры «непасільным намаганні» не аднаго пакалення. Тут жа, непадалёк, на калодзе сядзеў, таксама безудзельны ў зборах, Змрочны. Яго настрой відавочна хаваў зыгаватае свавольства. Пацягваючы цыгарэту, крадком касавурыўся на кучаравага мастака. Муза выйшла без свайго звычайна абавязковага рукатворнага капелюша, валасы сціпла сабрала ў тугую касу, цёмныя акуляры закрывалі вочы, хоць таго зусім не вымагала надвор’е. Прыпынілася ля Здольнага забраць з яго рукі прапанаваную лясную кветку. Пяюн пагладзіў плячо жанчыны: «Ластаўка мая, сонейка». Муза вызваліла руку, пайшла села ў аўтобус, за ёй пацёгся і Змрочны. Пяюн схадзіў па свой эцюднік і апошнім зайшоў у «Ікарус». Муза і ў салоне не зняла акуляраў, праз іх цьмяныя шкельцы паглядала ў акно. Ёй зусім недалёка, хутка выходзіць.

15

А ў гаражы мясцовага аўтапарка, у невялікай каморы-інструментальцы на кавалках фанеры ўзнікалі дзіўныя рэчы: яркія рознакаляровыя фарбы, з няпоўных цюбікаў, пакінутых за непатрэбай мастакамі, проста з рукі вадзіцеля пераходзілі на роўную паверхню, складаліся ў неверагодныя формы, вобразы, каляровыя спалучэнні. Шафёр захапіўся як дзіця, выціскаў і выціскаў алей на пальцы, пэцкаў імі пядзю за пядзяй, не мог нарадавацца свайму нечаканаму спрыту, углядаўся ў лісты фанеры, не даваў веры вачам: адразу ахапіла нагрэтым паветрам, стыхійны зараснік алешніку вакол скрыжавання вясковых дарог (глаўканіт з умбрай, крыху ленінградскай шэрай і абавязковы валконскаіт), хаатычна кветкі — па зялёнай травяной мазкамі кадмій светлы, карміна ледзь-ледзь і багата бяліл, лімон-жоўты нямнога, а над усім — лазурная! Нябесна-блакітная,

дзе-нідзе кобальт з бяліламі і для апошняга, зусім мізэрна, кропельна, пункцірам дзеля кантрасту сажа чорная. Прастора ажыла, заварушылася, адгукнулася. Панесла хвалямі няскошанага лугу гарачае паветра, перамешваючы партытуру складанага шматгалосся нябачнай фаўны: ціў-ціў-ціў, цёх-цёх, цьюр-р-л-ль… калыхнула раскошай веераў-лапухоў, юрліва напарфумілася салодкім дурманам кашкі, ліпавай квецені.

*

Пачатак аркестровай рэпетыцыі: настройка інструментаў па першай скрыпцы ў акадэмічны строй: «ля-а»-«ля-а», квінта ўніз, кварта ўверх, актава… Асобныя гукі, абрыўкі фраз, паскрыпванне крэсел — доўгі пошук зручнай пасадкі, пробныя пасажы, прыдзірлівы агляд-падкрутка смыкоў, кароткія перамовы мызыкантаў, шэлест нотных лістоў, прызыўны стук дырыжорскай палачкі аб пюпітр, жэст патрабавання ўвагі: хаатычныя гукі згортваюцца ў кропку — шостае вымярэнне… і неразрыўна — пятае. Цішыня. (Асалода… Экстаз прадчування.) Відавочны правобраз самога жыцця, ілюзія: чаканне, надзея, сэнс, якім абавязкова ўзнагароджвае аркестр і які ў рэальным жыцці мы не заўсёды здольны ўлавіць: чакаем, чакаем, памыляемся, крэслім, выпраўляем і раптам заўважаем — жыццё адбылося, мы яго не заўважылі. Палявалі на ілюзію, упусцілі сэнс…

У аркестры кожнаму сваё месца, кожнаму свой нотны стан, кожнаму свой ключ. Тут адзін аднаго слухае, чуе, адчувае, разумее, пераймае і падтрымлівае. Тут у авангардзе — саліст, за ім ідуць, яму пашана! Тут першую скрыпку не іграе аферыст, на гэтую ролю ніколі не пасягне цвердалобы самазванец. Тут ворагам не абвесцяць кантрабас толькі за тое, што партыя ў яго другая. Тут апазіцыя ў законе! Без яе не адцяніць значнасць, прыгажосць і сэнс галоўнай тэмы. У аркестры кожны інструмент гучыць на сваёй мове, тут не дазволена моцнаму задушыць слабейшага, тут калі «стучаць» — дык па барабану… Тут усё па вобразу і падабенству творцы. Тут дырыжор у моры гукаў абавязкова чуе кожны асобны голас, а ў перспектыве асобнай мелодыі адчувае ўвесь аркестр. Тут кожны гук мае свой непаўторны кошт, тут не бывае віртуальнага электарату, які падаўляе «жменьку так называемых апазіцыянераў». Тут Моцарта не прымусяць размаўляць на мове Шастаковіча, Баха ніхто не пасмее перапісаць на мову Брукнера — кожная мова ў сваёй бясцэннай пашане.

У чалавечым грамадстве магло б быць так, як у выдатным аркестры…

## 16

Мастакам яшчэ доўга дабірацца паасобку, каму куды. Хтосьці з іх захварэў на думку: здалося яно, гэта мастацтва, вунь як людзі і без мастацтва жывуць! Змрочны цішком паглядаў на Здольнага, цяпер ужо не цызмуючы — і добра, што сябар не бачыў, як пад раніцу з дзвярэй пакойчыка, у якім начавала Муза, вылузнуўся вадзіцель «Ікаруса»... Можа, і праўда — прыпомніліся Змрочнаму словы святара:

— Не Музы павінны натхняць творцаў — Дух Святы...

Жанчыны-гаспадынькі вярнуліся ў свае аддзелы й кабінеты, доўга між сабой вохкалі, колькі яшчэ дармаедаў прыходзіцца карміць у грамадстве.



## WARUM NICHT?*

Здавалася, здарыцца штосьці ў апошні момант — і вандроўка ў Аўстрыю сарвецца. Нязвычна саўковаму грамадзяніну прымаць ад жыцця падарункі, прасцей думаць, што ўсё і так ёсць, больш нічога не трэба. Была я ў замежжы… Першы раз у Германіі, канечне ж «нашай», па камсамольскай пуцёўцы, але тая паездка помніцца бы сон. Шмат што ў тыя гады я разумела, але многае не хацела яшчэ разумець мая маладосць, таму і пошасць дазволеных з навязлівай асцярогай абавязковымі «саглядатаямі» зносін, задавальненняў, уражанняў не сапсавала «сну», камсамольскага сну. Другая вандроўка — у Польшчу, мяшэчна-камерцыйная. Тая заслугоўвае асобнага аповеду! З яе ўдалося вывесці выснову: калі не нарадзіўся «шпікулянтам» — дык і не сунься не ў сваё.

Аўстрыю хацелася бачыць асабліва — туды доўгія гады ездзілі спяваць у хоры «Эдэльвейс» мае дзве дачкі, я шмат чула ад іх пра ІНШАЕ жыццё, а зразумець, не бачыўшы на свае вочы, немагчыма. Знайшла нямецкія слоўнікі ўзнавіць у памяці некалі ацэненыя на выдатна веды замежнай мовы… Інстытуцкія тэмы: «Meine Heimat», «Unser Institut» und «Mein Beruf» з «Die DDR»** не дапамаглі мне. Людзі не размаўляюць між сабой на такія тэмы ды плакатамі. Гэта ў Франкфурце-на-Одэры і ў Берліне мне неяк удавалася карыстацца невялічкім слоўным запасам пры юнацкай упэўненасці. Аўстрыйскае вымаўленне ў побыце зусім непазнавальнае для майго ўзроўню ведаў нямецай мовы. Вітаюцца яны нават не так, як вучылі нас на ўроках нямецкай. *Guten Tag* вам пазычаць не многія — *Grüß Gott!* — павіншуюць амаль усе. І прыемнага апетыту зусім не так пажадаюць — «Маль цэт» (сумнеў маю наконт напісання, бо гэта дыялект і не адпавядае арфаграфіі, таму толькі транскрыпцыя), штосьці падобнае на «самы час». На маё вуха аўстрыйцы вельмі картавыя, размаўляюць, нібы малыя дзеці, якія яшчэ не спрактыкаваліся вымаўляць усе гукі: і артыкуляцыя, і інтанацыя напамінае дзіцячы лепет. Добрую палову з напісаных літараў зусім не прамаўляюць, шмат якія замяняюць на глухія, альбо значна памякчаюць цвёрдыя, не прызнаюць гукаў Р, Б, Г, Д, З, В, Ж… (Навошта ж пісаць тады, калі іх няма ва ўжытку? — злуюся сама сабе! А навошта ў нас такія складанасці ў мове?! — успамінаю… Ну гэта яны НАШАЙ мовы, беларускай, не ведаюць!) І вядомую нямецкую згоду: «ja-ja», што значыць — так-так, аўстрыйцы прамовяць інакш: «ё-ё»

---

* Чаму не?

** Мая Радзіма. Мой інстытут. Мая прафесія. ГДР.

пачуеш і ад вінароба, і ад дырыжора, і ад прафесара. Вядомае нямецкае спалучэнне «еі», вымаўляемае «ай», у аўстрыйцаў будзе «э». Іхь вэс вас ду вілль, — скажуць, а не «вайс» — «ведаю». Як і час: па-нямецку гучыць — цайт, аўстрыйцы скажуць — цэт. Першыя дзесяць дзён я нават не адрознівала сказаў, не магла ўлавіць у суцэльнай гукавой стужцы хоць бы адно знаёмае слова, толькі напрыканцы другога тыдня да мяне стаў даходзіць прыблізны сэнс пачутага і адасобіліся між сабой словы.

Вена ўбачылася мне прыгожай неабсяжнай сучаснай правінцыяй, калі гэта не цэнтр гандлёвых ці яшчэ якіх масавага назначэння мегакропак. Шматпавярховыя гмахі прыйдзецца добра пашукаць сярод выдатна ўпарадкаваных прыватных, прыватных і толькі прыватных сядзіб і дамоў. Вузкія пакручастыя вуліцы, невысокія пабудовы, ну і як вынік жадання жыць адасоблена сваёй сям'ёй — доўгая-доўгая дарога з пункту «А» ў пункт «Б». У вядомыя гістарычныя мясціны горада, напрыклад, на работу… Культурных цэнтраў там хапае ў кожным асобным раёне, як і ўсяго неабходнага для насельніцтва, а неабходным у Аўстрыі лічацца нават фірмовыя магазіны для продажу новых аўтамабіляў — у маленькай вёсцы будзе, не тое што ў аддаленым раёне горада Вены.

У Аўстрыі я не ўбачыла ўласцівага нашым багацеям жадання перадкаваць і выдзяляцца. Калі з нашых каму ўдалося накрасці больш за суседа (а іншых шляхоў разбагацець у нашай краіне няма і па гэту пару, нават слухаць не буду апанентаў, так ці йнакш, першапачаткова бізнес разгортваецца на нялюдскіх падставах: законы абыходзяць, падмінаюць; дураць, падманваюць ці адкрыта абкрадаюць людзей), дык той абавязкова выпендрыцца напаказ. Ці мураванку пабудуе, у якой і жыць немагчыма па бязглуздзіцы яе ўсталявання, ці вяселле адбамбяць на трыста персон, а праз год на ўсю краіну распачнуць скандальны развод… Аўстрыйскія сядзібы не выдзяляюцца помпай ніяк, хто б там ні жыў: доктар навук, музыкант ці звычайны земляроб. Усе яны, дамы, будуць аднолькава максімальна служыць зручнасці і ўтульнасці пражывання. Да дробязі, да скрупулёзнасці ў аўстрыйскіх сядзібах разлічана побытавая выгода. І ніякіх лішкаў ці паказухі. Хто зарабляе не надта вялікія грошы — мае адзін дом на сям'ю і па выдатнай машыне на кожнага здольнага кіраваць ёй, хто ж атрымлівае дзевяць тысячаў еўра ў месяц, як наш фундатар, можа мець некалькі дамоў: у Вене — не адзін, у гарах, у Харватыі на ўзбярэжжы мора, у невялічкай вёсцы, для спакойнага адпачынку, але гэтая маёмасць таксама не будзе выпяндрожам і паказухай перад суайчыннікамі. Дабротна, дыхтоўна, з любоўю і толькі для патрэб сям'і.

Раёны вакол горада маюць свае назвы, існуюць нібы асобныя гарадкі, з суседскімі адносінамі, цесным сяброўствам, культурнымі праграмамі. Яны пераходзяць адзін у другі непрыкметна і з'яўляюцца часткай вялікай Вены, але і нейкая аўтаномія адчуваецца неадрыўна ад жыцця сталіцы.

Канечне ж, Венай перш за ўсё лічаць цэнтральную частку — Старую Вену, казачна, дзівосна прыгожую, дзе ўзвышаецца незлічоная колькасць гатычных *Kirche*, знаходзяцца знакамітыя каралеўскія палацы, тэатры, у якіх некалі панаваў сам Моцарт, і шмат, шмат іншых гістарычных культурных забудоў. Што казаць, не пра тое распавядаю, нават не пра *Stefansdom*, убачыўшы які, хочацца бразнуцца долу і ўкленчыць перад майстэрствам дойлідаў і загадкавасцю векавечнай таямніцы. (Па паданні, дойлід меў змову з цёмнай сілай наконт таго, што пабудуе самы дзіўны і высачэзны храм; дасягнуўшы нябёсаў першым шпілем, ён сiгануў з недабудаванага другога ўніз галавой, так і пакінуўшы сваё тварэнне няскончаным. Так яно ці не — ніхто ўжо не разгадае.) Гэты храм і агледзець няпроста: колькі ні задзірай галавы — шпіль не дасягнуць вачмі — вышэй за сто трыццаць метраў, адысціся на адлегласць не дазваляе цесната забудовы старога горада. Сфатаграфаваць храм цалкам немагчыма па гэтай прычыне.

Уся Вена патанае ў ружах. Аўстрыя буяе ружавымі шатамі мільёнаў сартоў, відаў, падвідаў, колераў, водару. Цэлыя паркі руж, скверы, *Straße*, *Gasse*, двары, лоджыі, балкончыкі…

Наш цягнік прыйшоў у Вену выхадным днём, з дарогі хацелася хутчэй апаласнуцца, аднак, пераступіўшы парог, пачулі, што душ не працуе. Мяжы не было расчараванню. І ў ІХ тое самае?! Гаспадар падазваў домработніцу і паведаміў пра паломку — неабходна выклікаць сантэхніка. Я ўявіла той працэс і зразумела, што раней чым праз тыдзень не змагу нармальна памыцца, аднак не паспела чамадан паставіць на адведзенае для яго месца, мне прапанавалі прыняць душ. Аказваецца, у Аўстрыі ўсё робіцца як мае быць, ёсць сантэхнік — сантэхніка працуе.

Гаспадар гасціннага для нас дома — прафесар матэматыкі, у яго пакоях раяль і выдатны арган, бібліятэка з фанатэкай налічвала столькі сусветнай класікі, што мы, музыканты-«прафесіяналы» (пасля вандроўкі ў Аўстрыю рука не жадае інакш пісаць гэта слова, як толькі ў двукоссі), і не здагадваліся аб наяўнасці ўвогуле.

## Wachau

Хор праз тыдзень выязджаў на гастролі ў Італію, мяне трэба было кудысьці «падзець» — Венецыя пакуль што не жадала сустрэчы са мною. Дамовіліся, што тыдзень я пажыву з маці нашага фундатара, прафесара Курта Хёніга, у яго горнай сядзібе ў горадзе Шпіцы.

Пакідалі Вену мостам праз Дунай і на працягу гадзіны серпанціннай дарогай пад праліўным дажджом дабіраліся да Шпіца. Адзін з многіх невялікіх гарадкоў вінных зямель левабярэжжа Дуная, даліны *Wachau*, што раскінуліся сярод буйна-зялёных, лясіста-каменных гор, вяршыні многіх вянчалі *Ruine* старадаўніх замчышчаў адзінаццатага, а то і дзявя-

тага стагоддзя. З аўтабана ў нізіне хутка стала вымалёўвацца шырокая, ускаламучаная доўгімі дажджамі рака, уся фінішная прамая пралягала паралельна ёй — рукой падаць, на працягу пары кіламетраў. *Spitz an der Donau* — абвяшчала шыльда поўную назву населенага пункта на самым пад'ездзе да гарадской брамы… Нічагуткі не кемлю ў геаграфіі, як і ў сіле зямнога прыцягнення! Уявіла Венскі Дунай і вышыню, на якую падымаліся на працягу гадзіны… у галаве стварылася яўная нестыкоўка па гарызанталі… Ды гэта ўражанне выцяснілі іншыя.

Прырода, вінаграднікі, архітэктура, руіны старадаўніх замчышчаў… шкадаванне аб няўбачанай Венецыі падуціхла. Пабываць у Аўстрыі і не пазнаёміцца з *Wachau*?! Калыска краіны, раздолле вінаробаў, *Marille Marmelade* (абрыкосавы джэм), *Heurigen*…

Гасціла я у дзвюх сясцёр: Ханны, маці Курта, васьмідзесяцітрохгадовай жанчыны, яна на лета прыехала з Вены ў Шпіц адпачываць, і сямідзесяціпяцігадовай Хелен, яе роднай сястры, з Зальцбурга. Іх дамы стаяць побач, і сёстры амаль што не развітваюцца, толькі на кароткую летнюю ноч.

Як жа не хапала мне ведаў нямецкай мовы! Талмачы нашы назіралі Пізанскую вежу, а мы тут да таго «дагаворваліся» іншы раз, што заставалася толькі смяяцца ад бяссілля. Нават самае насутнае гучала непазнавальна. «Пьоот» — прапанавала Ханна да першага блюда за абедам. Я не зразумела, а па вытанчаннасці свайго культурнага выхавання Ханна не здагадалася торкнуць пальцам у хлебніцу. Нас вучылі: БРОТ, як тапаром з-за пляча! Потым ужо я да кавы папрасіла БУТЭР? і яны абедзве збянтэжана круглілі вочы і хіталі галовамі з няўцяміцы. Я мімічна мазанула нажом па скібе, і жанчыны пляснулі далонямі на сваю нездагадлівасць — пьутьэ, пьутьэ. Яшчэ мяне дужа зацікавілі і рассмяшылі частыя паўторы Ханны двух незразумелых мне слоў (потым аказалася — словазлучэнняў.) «Кечё, кечё» — памінутна запэўнівала мяне гаспадыня і кожны раз за сталом прапанавала з разгубленасцю: «совас… совас» — без перакладчыка мы не змаглі разабрацца. Аказалася, мной чутае «кечё» — ёсць неверагодна распаўсюджанае ў Аўстрыі «geht's schön» — у транскрыпцыі (гейт'с шён) і калі змякчыць па-аўстрыйску літару «Г на К», выкінуць палову невымаўляемых гукаў па іх «дзіцячаму» вымаўленню, дык і атрымліваецца — кечё, што пачуеш на кожным кроку і ад дзетак, і ад дарослых, і ад старых: «Wie geht's? — Geht's schön!» Калі даслоўна, то: Як ідзе? — Ідзе добра! Прыблізна нашаму: Як справы? Усё добра! Што ж тычыцца «совас» — я і зараз яго дакладна не адчула, ведаю толькі, што Ханна настойліва прапанавала мне з'есці хоць «што-небудзь!» Даслоўна «So was» — «Так што».

І ўсё ж з гаворак да мяне дайшло, што з ласкі маіх гаспадынь на заўтра мне прапануюць культпраграму — вандроўку ў *Stift Melk*. Прыехалі з Вены зяць з дачкой Ханны, каб даставіць госці такую асалоду. З школьных урокаў памятала значэнне «шціфта» — аловак, аднак тут яно не

стасавалася; на днях у Пандорфе я зацікавілася, як называюць аўстрыйцы кветку браткі і пачула — Шціфмутар, мачаха. Таксама не тое! Па сэнсу падалося, гэта старадаўная крэпасць, але слоўнік не пацвердзіў — заўтра пабачым. Мне здавалася, я столькі ведаю слоў! Так шпарка тараракала на экзаменах. А тут заціяло — узрост шкодзіў. Уявіла аўстрыйца на маім месцы, няхай таксама з невялікім багажом ведаў, слухае гаворку адразу двух, трох чалавек; схапіў знаёмы корань: о-р-г-а-н. Прыпамінае, што б то значыла — арган, ці орган, арганізаванасць, арганізатар, арганічны, арганізацыя, як прадпрыемства ці як працэс, а магчыма арганайзер, арганізм, можа арганіка… А гутарка тым часам працягваецца, працягваецца… без цябе, пакуль ты сілішся падабраць сэнс пад пачутае спалучэнне гукаў.

Раніцай мы каціліі па самай высокай гары Дункельштайненвальд (Цёмны Каменны Лес). Добра, што густы зараснік хвойна-ліставога лесу закрываў край вузкай дарогі, якая раз-пораз рабіла такія рэзкія выверты, аж перахоплівала дух. Затое калі на імгненне дзе-нідзе расхіналася кустоўе і перад вачамі адкрываўся відарыс, выяснялася: блакіт далёка ў нізіне, гэта не возера, як падавалася спачатку, і не рака, гэта неба — ты высока ў гарах, а наперадзе яшчэ дарога з паў-той, пакінутай за плячыма, — рабілася не па сабе. І што ж я ўбачыла на пад'ездзе да Шціфта?! *Donau*! Як цёк сабе ўпэўнена ў нізінах Вены, на горных схілах Шпіца праз даліну Вахау, так і *fließt* тут, пад небам. Мы пераадолелі такую вышыню! А яму хоць бы што… *Nicht verstehe*! — ні ў геаграфіі, ні ў фізіцы.

Шціфтам аказаўся манастыр бенедыкцінцаў, заснаваны тысячагоддзе назад (які і сягоння дзейнічае, нябачна для наведвальнікаў музейнага комплексу, за каменнымі сценамі старадаўняй пабудовы). Безумоўна: тут і крэпасць, і абарончыя вежы, казармы, школа манахаў (сучасная гімназія з вышэйшай адукацыяй прыблізна на 800 навучэнцаў), выдатнейшая бібліятэка і царква, зямельная маёмасць…

Самае цікавае… За нейкі месяц да аўстрыйскай вандроўкі я мела гутарку з добрым знаёмым Уладзімірам Пятровічам Бельскім, які некалі быў Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Беларусі ў Чэхаславакіі. Пятровіч узрушана распавядаў пра новую кнігу па гісторыі, якая выпадкова трапілася яму на вочы: там, маўляў, перакуленыя з ног на галаву ўсе сучасна прынятыя паняцці вытокаў славян, арыйцаў і іншых народаў. Па праўдзе сказаць, і сучасна прынятых не ведаю, тым больш «перакуленых», — гісторыю ў нас вёў чалавек, пастаўлены настаўнічаць за ваенныя раны і ўзнагароды. Свой прадмет чытаў па школьнаму падручніку злосна і нецікава. Доўгія гады гісторыю лічыла самай нуднай навукай, пакуль не абзайздросцілася, калі мае сакурснікі па адной вопратцы салдат ці дваранства вызначалі гістарычны перыяд альбо маглі пералічыць дынастыі ад пачатку і да заходу. Дык вось, у манастыры пачула, што яшчэ ў рымскія часы, пасля перасялення народаў, гэтыя землі займалі славянскія сяляне, нават назву шціфта Мельк, ад ракі Медзіліца, яны прыпісалі славянскай

мове — «медленный» ручай. Потым у 907 годзе мадзьяры разбурылі мірнае суіснаванне славян з баварамі, а ў 996 годзе гэтыя мясціны ўпершыню іменуюцца Остаррыхі, Остэррайх (Аўстрыя). Вось бы сюды Пятровіча з «перакуленымі» каранямі і вытокамі! У даліне Вахау кожная крэпасць, кожны (з пяці) гарадок па поўнаму праву мог бы назваць сябе калыскай Аўстрыі. Вось праз некалькі кіламетраў ад Шпіца, у Крэмс-штайне, у 955 годзе з'явіліся першыя аўстрыйскія манеты (крэмскія пфенігі).

Жанчыны штодзень з адзінаццаці гадзін раніцы прыносілі вялізны збан чыстага вінаграднага сухога віна, яго закуплівалі на ўвесь год у якогась суседа-вінароба і захоўвалі ў падполлі. Пад вечар трохлітровай конаўкі звычайна не хапала. Фраў пераходзілі пасля дзевятнаццаці гадзін на мацнейшыя напоі, але рэдка выпівалі разам з нашынкаванымі фруктамі больш за фужэр такога дэсерту, седзячы перад тэлевізарам пад час сваёй любімай праграмы — гучалі мелодыі іх маладосці, наўдзіў прыгожыя, густоўныя. Колькі харошай музыкі я не чула і колькі не пачую ніколі! Жанчыны ніяк не маглі дапытацца ў мяне, што п'юць беларусы на працягу дня. Каву, гарбату — адказваю … Не-не, гэта не тое… Гэта раніцай п'юць. А ўдзень, за абедам, спатоліць смагу, адпачываючы… Ой, лепш вам не ведаць… Сухое віно ў Аўстрыі п'юць замест вады, сока, квасу… Дазволена ўжываць вадзіцелям. А што п'юць беларусы? — ніяк не супакойваліся жанчыны. Ну паспрабуй адказаць на гэта простае пытанне! Сказаць: нічога не п'юць — будзе хлуснёй. Зранку за акном гужам ходзяць ці ляжаць пад кустамі «цвярозыя» беларусы. Сказаць, што ў нашых крамах прадаецца? Бырла фірмы «Minaszali» з кансервантамі і хімлабудой па шалёных цэнах, а калі штосьці выстаўлена больш-менш натуральнае, годнае для ўжывання — не годна па кішэні ніводнаму прыстойнаму беларусу. Яны гэтага не здолеюць зразумець — у Аўстрыі ўсё для СЯБЕ, а значыць — для людзей. Жанчыны хацелі прывучыць мяне да віна… Не звыклая да такой культуры вінапіцця, у мяне балела галава, а яны не верылі, смяяліся — *Schwieps*! — і не разумелі ўжытага мной глагола *kranke*, жахаліся, хіталі галовамі — такім глаголам аўстрыйцы азначаюць толькі цяжкую хваробу, а простае часовае недамаганне назавуць інакш. На жаль, толькі пад канец вандроўкі зразумела: *Spritz* для мяне — самае тое. Шпрыц — сумесь адной часткі сухога віна з роўнай часткай халоднай газіраванай вады ці соку. У спякоту няма лепшага паратунку ад смагі.

## Niveau

Тым летам залівала Еўропу. Наш цягнік ішоў праз Польшчу, Чэхію: з вокан вагона віднеліся залітыя палеткі, гектары пасеваў, размытыя дарогі… Навіны на аўстрыйскім тэлебачанні дыктары пачыналі жартоўным

шкадаваннем: «Wasser, Wasser, Wasser*…» І мы раніцай выглядалі на тэрасу — *Es regnet***. Але ўсё ж дождж рабіў значныя перапынкі, і адразу пачынала ярыць сонца. Я выпраўлялася на свой штодзённы шпацыр, хацела разгледзець усё, што трапіцца на вочы. Дажджу ў Вене я нават і не памятаю, настолькі захінулі з’яву прыроды іншыя ўражанні, ды, здаецца, там яго зусім і не было — спякота невыносная, трыццаць сем па Цэльсію, гэта не забылася.

Спадарыні раніцай, як вырушала на шпацыр, выбачаліся за нямогласць — хворыя ногі — суправадзіць мяне далей канца завулка. Старанна пісалі на квіток свае тэлефонныя нумары, адрас і дзявочае прозвішча — маўляў, так хутчэй накіруюць, калі заблукаю. Я ступала за брамку, і мяне ахопліваў густы вільготны водар паветра, паўсюль гуло — з гор ліліся вірлівыя і гаманкія патокі дажджавой вады, на такі выпадак і былі скрозь абсталяваны падземныя хады, каб шалёная вада не знесла сядзібы, не размыла вінаграднікі і дарогі. Ваду ўтаймоўвалі каменнымі пасткамі-заваламі, накіроўвалі ў жолабы і падземныя трубы. Мала дзе дазвалялася ёй паказаць свой нораў увачавідкі, затое чутно было раз’юшаную і нябачную паўсюль — грымела, несучыся ўніз да прытока Дуная. Дзесьці падземныя раўчукі здвойваліся, стройваліся, пагрозліва ўзмацняючы сілу стыхіі. Толькі здагадвайся, што робіцца ў гарадской рацэ, якая лічылася тут усяго толькі бахам — ручаём, а мне бачылася паўнаводным прытокам славутай ракі. Па ўяве нашых празрыстых, павольных пясчаных раўчукоў, па якіх плаваць маглі хіба папяровыя лодачкі, бах на ручэй быў зусім не падобны, закуты ў прыродны камень: па правую руку гара Дункельштайненвальд, па левую — набярэжная цэнтральнай вуліцы (*Hauptstraße*) горада, трывожны, цёмны, спяшаўся скінуць нечаканыя лішкі вады Дунаю, які нёсся зусім побач, праз шашу, ля гарадской брамы. Паўз берагоў дзвюх рэк ішла мітусня, вяліся выратавальныя работы: рух шматлікай спецыяльнай тэхнікі, пажарнікі, камунальшчыкі, валанцёры-дабрахоты цягалі мяхі з пяском, утаймоўвалі стыхію. Два дні таму, як па дарозе з Вены ў Шпіц я назірала з аўтабана раку, ужо тады неспакойныя воды Дуная нервова боўталі паплавамі, але лінія берага адлягала на дзясяткі метраў ад шашы значна ніжэй дарогі. Супрацьлеглы бераг крыху на ўзвышшы ў зарасніку зялёных пышных дрэў вітаў рознакаляровымі, бы цацачнымі, прыгожанькімі дамкамі. Сёння дамкі ступілі ў ваду, а дрэвы, пахаваўшы ствалы, здаваліся кустоўем, сама ж рака, як вока, ураўнялася з аўтабанам, а дзе і паквапілася на яго правы. Цяжка верылася бачанаму… Пра ўсё гэта карцела распавясці гасцінным гаспадыням, аднак, прыкінуўшы запас неабходных слоў, у бяссіллі адмовілася ад парыву. Маленькі кішэнны

* Вада.

** Дажджыць.

слоўнічак — дрэнны дапаможнік. Знайшла ў ім толькі даўно знаёмае па касметычнай лініі слова *Niveau* — узровень.

Ханна і Хелен узрушана замахалі рукамі, падзываючы мяне, толькі я пераступіла парог.

— Хутчэй, хутчэй да тэлевізара! — там ім паказвалі разліты Дунай, што я пабачыла на свае вочы.

## Kunst im Keller*

Буднім днём Шпіц і іншыя гарадкі Вахау, наогул усёй Аўстрыі (калі гэта не ў цэнтры турысцкіх кропак), нешматлюдныя — мала сказаць, ні чалавека. Мясцовыя бюргеры працуюць, працуюць, працуюць… Калі хто выйшаў на шпацыр — госць, так і знай. Перадусім хацелася зазірнуць у суседнюю краму (у Аўстрыі ўсё прыватнае, я пра гэта часта забывалася), якая яшчэ ўчора зазывала адчыненымі дзвярамі, ды здзівілі сёння горы будламачча, якія ляжалі перад прыступкамі будынка (раніца — калі паспелі столькі наламаць і скласці ў мяхі для вывазу смецця?), ад рукі міла ўпрыгожаная цыдулка выбачалася «У нас рамонт» — і праўда, стаяў велізарны кран — мянялі дах, спецыяльна апрануты рэгуліроўшчык руху папрасіў мяне перайсці ў менш небяспечнае месца — яму прыходзілася з-за часовай тэхнічнай перашкоды скіроўваць па чарзе два напрамкі аўтамашын. Я пашкадавала, што такую цікавую для мяне крамку (у ёй гандлявалі мастацкімі прыладамі: падрамнікі, пэндзлі, фарба, грунтоўка…) так і не абследую, я ж сюды, у Шпіц, усяго на тыдзень «здадзена».

Кожная пядзя зямлі тут апеставаная, упарадкаваная. Убачыўшы прыгожую каляровую яшчарку, падумала: во як упрыгожылі камень, балазе, ён стасаваўся з па-мастацку створанай агароджай, нават руку працягнула памацаць — як жывая! А яна і ажыла, ляніва, нетаропка завіхляла між камянёў. Першы раз бачыла такую квятастую саламандру (як мне тады падумалася). Спалучэнне яркага зялёнага, лімонна-жоўтага, нябесна-сіняга, аранжавага… і ўсё фасфарыцыруе, пераліваецца. Потым мяне паправілі: саламандры балацяна-чорныя, гэта — *Schmaragd*. (У гонар гэтай яшчаркі, вельмі распаўсюджанай тут, аўстрыйскія вінаробы Вахау назвалі сорт віна, якое вырабляецца з восеньскага падвяленага вінаграду — *Schmaragd*.) Дзе б ні праходзіў шпацыр: далёка ад сядзіб, па склонах гор, у нізінах рэк, ручайкоў, у лесе — зямля заставалася дагледжанай да травінкі.

Паўсюль працавалі ліхтары, і неслі не толькі дэкаратыўны — строга спажывецкі сэнс.

---

* Мастацтва ў склепе.

На працягу дзесяці гадоў я хадзіла на вакзал ноччу праводзіць і сустракаць сваіх дзяцей-студэнтаў навобмацак, тарашчыла вочы ў цемры ад страху пры кожным шолаху вось у такім жа пасёлку:

— Ну калі ўжо будуць асветлены хоць бы цэнтральныя вуліцы?

— А няма чаго па начах блудзіць, — злагодным рогатам цураўся мэр.

Тут, у Шпіцы, да кожнага дома, а гарадок месціцца на гарах, вядзе асфальтаваная дарога з частымі ліхтарыкамі, нават калі дом зусім адзінока стаіць на вяршыне.

— Як жа зімой сюды дабіраюцца жыхары? — не перастаю здзіўляцца, уявіўшы галаледзіцу на такой круцізне.

— Камунальшчыкі для гэтага ў нас ёсць, мы плоцім падаткі, — не менш здзіўляюцца майму пытанню тутэйшыя. — Людзі павінны дамоў вярнуцца, а як жа?!

Усе працуюць у нізіне, у іншых гарадах, вяртаюцца штовечар на сваіх аўто без перашкод. Сярод бязлюднага міжгор'я праз невялічкія прамежкі ладкаваліся скрыні, крыху большыя за нашы паштовыя. Маленькі смешны жулікаватага выгляду сабачка на малюнку трымаў у зубах мяшэчак і ўсміхаўся — «мяне любяць», маўляў, збяры за мной у мяшэчак і пакладзі ў скрыню.

— А скрыначкі пустыя, ніхто не збірае за сабачкам, — здекліва ўсміхнулася я.

— Кожны дзень апаражняюць сметніцы, — не зразумелі маіх кпінаў.

Я азірнулася вакол, каму б перашкаджалі тут, у глухім месцы, сабачыя «кілбаскі»? Кожны дзень машыну ганяць дзеля такой дробязі? У нашых дварах сабачкі з коцікамі спражняюцца выключна ў дзіцячыя пясочніцы, ні зімой, ні летам не пройдзеш, не начапляўшы на падэшвы гаўна. Наша любоў да жывёл чамусьці абавязкова павінна межавацца з непавагай да людзей.

Аўстрыйцы вельмі любяць і спрэс ужываюць дэкор ручной работы: у невялічкіх сямейных страўнях, кафэ, крамах, дварах абавязкова ўбачыш штосьці выдатнае, неардынарнае, сваё. Дом на *Sonneberg**, у якім я жыла, пакуль мае харысткі курсіравалі па Італіі, знаходзіўся зусім не ў цэнтры горада, стаяў асобна ў завулку на горным склоне, побач з вінаграднікавымі плантацыямі. Далей за ім — міжгор'е, ручаёк. Тут сядзібы адстаялі адна ад адной, нібы хутары. Але праз асфальтаваную дарожку, якраз пры выхадзе з брамкі, месцілася чыясьці старадаўняя каменная забудова — вінны скляпок; там цёмна — здавалася мне з вуліцы. І кожны дзень адтуль хтосьці пасылаў мне прывітанне: «Grüß Gott!» Я бянтэжылася, аглядалася і таксама адказвала нябачнаму камусьці ў закратаваную прастору цёмнага скляпка. Аднойчы звярнула ўвагу на шыльду ў канцы завулка: донца ад віннай бочкі мастацкім шрыфтам паведамляла: «KUNST IM KELLER» і

* Сонечная гара.

тэлефоны мужа і жонкі з прозвішчам (усе шыльды і аб'явы аўстрыйцы пазначаюць парай — так шануюць сям'ю і адно аднаго). Стрэлка на дэнцы паказвала накірунак да сямейнага музея даўжынёй з ходку метраў сто… раўнюсенька гэта і быў каменны скляпок, адкуль мяне віталі шторанак. Я зацікавілася, асмялела зазірнуць, што ж там за мастацтва ў падвале выставіла сям'я. Дэкаратыўна закратаваная брамка не перашкаджала бачыць экспанаты. Там выстаўляліся скульптуры з рэштак старых вінавытворчых прыладаў: бочак, абадоў, выціскальных машын, камянёў… Гэта было надзвычайна таленавіта і цікава, з гумарам і вытанчаным густам. Мне б па правінцыйнай звычцы здзівіцца — для каго на далёкім завулку штодзённа адчынена брама такога файнага міні-музейчыка, ды ўжо не здзіўляюся. Як усё ў гэтай краіне — для сябе, для мяне, для цябе…

Тут усё робіцца для людзей.

Той дзень канчаткова збіў мяне з панталыку! Вяртаючыся з прагулкі, заглянула ў растузаны дворык той маленькай крамы для мастакоў, дзе раніцай, да майго расчаравання, адбываўся рамонт… Зараз у ім была чысціня, на будынку красаваўся новы дах, рэкламка зноў гасцінна запрашала наведвальнікаў…

## Ruine

За адзін сонечны дзень ад сквапнасці намеціла не шкадуючы ног агледзець усе *Sehenswürdigkeiten* — славутасці, як тлумачыць слоўнік. А ўвогуле, ніводнае чужое слова па-сапраўднаму адчуць і зразумець мы не здольны, калі не маем асацыяцый, інтуітыўнай сувязі, эмацыянальнай еднасці, прыдбанай дзяцінствам. Таму так рэўнасна народы ўсяго свету даражаць сваёй нацыянальнай культурай і роднай мовай, як чыннікамі самадастатковасці, адзіна праз што чалавек здольны мець пашану і гонар да гісторыі; перадаць іншым і пасмакаваць сам не толькі значэнні рэчаў, з'яў, дзеяння, уражання, настрою, эмоцый, а нават найдалікатнейшыя адценні пачуццяў, найтанчэйшы рух душы.

Ад дома на *Sonneberg* ёсць два шляхі да цэнтра Шпіца: праз *Hauptstraße**, горадам — далёка, альбо па міжгор'і, уздоўж вінаграднікаў, па пратаптаных турыстамі сцежках. І там, і там мной хаджана. Сёння перадусім я ўжо паблукала па *Grabe***, наведала *Kirche****, маю вялікае жаданне дабрацца да *Ruine*, старадаўняга замчышча на высокай гары… і ўсё пешы… Пакуль спачывала на тэрасе невялічкай кавярні, мяне падманула ілюзія гор. Як рукой падаць — зазывала брама руін замчышча.

---

* Галоўная вуліца.

** Могілкі.

*** Царква.

Я дакладна ведала: руіны крэпасці на вяршыні суседняй гары, між імі цэнтральная вуліца горада, мост, сам ручэй і далёкі акружны шлях па абедзвюх гарах, не менш за чатыры кіламетры. А брама ўсё ж — вось, перада мной, толькі падысці да зарасніку ўздоўж вінаградных радоў. Не жадаючы саступіць яве, паддалася ілюзіі, нават не ўгасіла вярэдлівае памкненне перапытаць у гаспадыні кавярні, ці прайду «zu Fuß (нагамі — пешкі) Ruine», з надзеяй гледзячы ў бок вінаградніку. «Не-е!» — жанчына махнула рукой у процілеглы бок і, з усмешкай хітаючы галавой, паказала на абцасы белых туфляў: так не ходзяць, далёка!

Нічога! Праз гадзіну я стаяла ля падножжа Дункельштайненвальда, і ўжо без ілюзій руіны ўзвышаліся перад маімі вачамі, толькі заставаўся самы цяжкі адрэзак дарогі — круты пад'ём па каменным склоне, парослым густым лесам, але трапляліся турысты і страшнага, як чакалася, нічога не было, а хвілін праз дзесяць азначылася шырокая брукаванка, па якой тысячагоддзе назад вершнікі спешвалі коней, бо за рогам высачэзнай агароджы расчынялася брама. Кожны куточак, кожная прыступка дыхала гісторыяй, быццам трапляў адзін на адзін (гідаў-наглядчыкаў тут не было, нешматлікія наведвальнікі хадзілі паасобку) ва ўчэпістыя абдоймы спрасаванага пазачасся. Глыбачэзны каменны закратаваны жалезам калодзеж-турма, а хутчэй за ўсё туды кідалі здраднікаў — сняданак дзікаму зверу, — падказала мая фантазія. Бо не так многа там месца, каб трымаць палонных. Для вязняў прызначаўся падвал. Чамусьці з першых крокаў захацелася хутчэй пакінуць яго сырыя, змрочныя сутарэнні, яшчэ не пазбаўленыя энергетычнай інфармацыі аб людскіх пакутах. Праз вузкія шчыліны байніц як на далоні праглядаўся шырокі Дунай, схілы суседніх гор процілеглага берага далёка-далёка на дзясяткі вёрст. Аконцы ў таўшчэзных сценах выходзілі на ўсе напрамкі, адкуль чакалі ворага. Гэты бераг ракі з-за стромкага схілу Дункельштайненвальда быў непрыступным для чужакоў, на акружным шляху іх сцераглі меткія стрэлы тутэйшых абаронцаў. За каменнымі заваламі ў густым непраходным зарасніку некалі надзейна неслі службу вартавыя…

У гэтай крэпасці хто толькі не панаваў, чаго толькі не бачылі камяні яе сцен. Непадалёку адсюль, у крэпасці Дзюрнштайн каля года пакутаваў Рычард Ільвінае Сэрца.

Усім народам свету ўласціва бараніцца чужынцаў. Хтосьці бароніцца, хтосьці нападае, а ёсць народ, які звыкся вякамі цярпець прыгнёт.

Спякота стаяла неверагодная, трыццаць сем пры высокай вільготнасці!

Горны *Wachau* распаўсюджваў невымерна насычанае мядовым водарам паветра, здавалася — п'еш, не дыхаеш. Калі ж паднялася на самую высокую вежу замка, паветра проста загусцела, зрабілася цягучым, жывым, здольным пранікнуць у кожную клетку арганізма. Столькі кветак, расліннага пылку… Алергічны катар, падумала, забяспечаны! Нічога падобнага. Перайшла яшчэ вышэй на адкрытую пляцоўку — захапіла

цудоўная панарама, а вось горад хаваўся ўнізе, я не змагла адшукаць і тую кавярню на процілеглай гары, з якой збіралася шыбаваць напрасткі сюды, і дамок на Зонэберг, куды вярнулася праз паўгадзіны, схаваўся ад мяне. Ілюзія гор…

## Ruhige stätte*

На аўстрыйскіх *Grabe* ўсё на першы погляд як у нас. Абнесеныя высокай каменнай агароджай, дагледжаныя, і магілы таго ж памеру з чорнымі, белымі ці шэрымі вертыкальнымі мармуровымі плітамі. Вось тут, як учытаешся, прыйдзецца здзівіцца — адна на ўсю *Familie*. Звычка эканомна расходваць, цаніць зямлю, не растрачваць ні пядзі яе дарэмна. Традыцыя паважаць сям'ю, вяртацца ў адно вытокавае месца… *Ruhige stätte*, *Familie Gritsch.* (Распаўсюджанае ў Шпіцы прозвішча, мяркуючы па надмагільных помніках. І мы ўчора наведалі хойрыген сям'і з такім прозвішчам…)

Josef — паважаны, пачэсны бюргер, 1901–1978

Helmut — сын Ёзэфа, дырэктар школы, 1926–1997

Gretta — жонка Хельмута, народжаная Вагнер, 1929–2001

Martin — акадэмічны мастак, сын Хельмута і Грэты…

Jahn — вучоны фізік… і гэтак далей. Цэлая кніга лёсаў, з апісаннем, хто каму кім даводзіцца, колькі меў дзяцей, кім сталі іх дзеці… На двух квадратных метрах горнай непадатлівай суровай зямлі. Гэта не падзахаванне попелу пасля крэмацыі! Такая сцяна з урнамі стаіць асобна. Тут звычайнае пахаванне па хрысціянскай традыцыі… Толькі ў адно месца.

Асобна стаяць парталы сямейных склепаў заможных, вядомых не толькі ў Шпіцы, Вахау, магчыма, ва ўсёй Аўстрыі бюргераў. Такіх склепаў няшмат, на кожным баку агароджы і ў цэнтры магільніка. Мармуровыя калоны абвівае вінаградная лаза, кусты бухматых руж. Дэкаратыўна выкананая шыльда аднаго з такіх парталаў сведчыць, што пад цяжкой, мастацкай адліўкі з чыгуну плітой спачывае сям'я Хёнігаў, нашчадкі якіх гасцінна дазволілі мне пазнаёміцца з Аўстрыяй.

Ханна расказвала, што маці мужа (свякроў Ханны), адзінокую маладую жанчыну з дзіцяткам, узяў замуж зайздросны кавалер, банкір Хёніг, усынавіў хлопчыка і пакінуў яму свой бізнес — *Sparkasse***. Так што вядомае на ўвесь Шпіц, Вахау, а потым і ўсю Аўстрыю прозвішча муж Ханны займеў не па роду, а па лёсу. Як бы там ні было, а шчаслівая нявеста (цяпер ужо Ханна) па сваёй заможнасці невялікі сямейны дамок сваіх бацькоў пакінула сястры Хелен, а муж пабудаваў побач яшчэ адзін

---

* Месца супачыну.

** Ашчадбанк.

(для адпачынку — сям’я жыла ў Вене), які потым дабудаваў і абсталяваў іх сын, прафесар матэматыкі Курт Хёніг.

Невялічкі сямейны дамок бацькоў Ханны і Хелен мне таксама паказалі. І ён зараз адбудаваны, вельмі ўтульны, выгодны, зручны. Але старую яго частку так і пакінулі ў нязменным выглядзе, бы музейчык: з даўнейшай мэбляй — куфрамі, лавамі, камодамі; з вокнамі, столлю і нефарбаванай падлогай, з каморай у цэнтры ўсёй пабудовы для вэнджання мяса і рыбы. Хелен ганарылася старым бацькоўскім домам. Абедзве сястры зараз удовыя. Кожны дзень я чула ад іх успаміны пра сваіх «каханых мужчын», менавіта так адна і другая называлі памерлых мужоў.

## Heurigen

*Wachau* з адной тысячай пяцістамі гектарамі вінаградных зямель — маленькая частка, нават адносна вінаграднікаў самой Аўстрыі. Аднак услаўлены на ўвесь свет сваімі адмысловымі вінамі, якія напоўніцу збераглі ўсе адценні смаку эльзаскіх рыслінгаў. Менавіта тут ёсць некалькі сусветна вядомых вытворцаў віна. У Шпіцы гэта *Hirtzbergen*. У кожнага вытворцы свае сакрэты, аднак мацуюцца яны вякамі напрацаванымі сакрэтамі ад часоў загадкавых нібелунгаў. Каб пакаштаваць віно ўсіх сартоў і відаў, канечне ж, трэба наведаць сапраўдны і не шараговы рэстаран, аднак і ў ім кошты на аўстрыйскія віны зусім не вялікія, па нашаму разуменню; самі аўстрыйцы, з іх заробкамі ў некалькі тысячаў еўра, лічаць — не танныя. Яны прывыклі да нізкіх цэн. (За наша сурагатнае бырла з кансервантамі нам дома прыходзіцца плаціць шалёныя грошы.)

Паспытаць жа хойрыген жадаюць і госці, і самі аўстрыйцы.

Практычна, хойрыген ведаюць усе госці і турысты Аўстрыі, а вось патлумачыць, што ж гэта такое, мала ў каго атрымаецца, столькі сэнсаў, глыбокай гісторыі і значэння мае гэта свята… Некалі разумна прыдумаў імператар Франц Іосіф, прымусіўшы арыстакратаў купляць віно ў простых сялян — для іх эканамічнага падтрымання (ежу прыносілі з сабой). Гэты дальнавідны загад з часам пераўтварыўся ў нацыянальную традыцыю, культуру віннага піцця — *Heurigen*. Слова «хойрыген» азначае перш за ўсё віно дамашняй (сямейнага бізнесу!) вытворчасці, свежае — апошняга ўраджаю і толькі да адзінаццатага дня адзінаццатага месяца, дня святога Марціна, далей віно свежым лічыцца не будзе і не будзе называцца хойрыген. Законы Аўстрыі і сёння на баку простых працавітых сялян-вінаробаў; дазваляюць на некалькі месяцаў (невялікі тэрмін) на працягу года адчыняць рэстаранчыкі без звычайных для рэстараннага бізнесу вялікіх падаткаў. Вось той дамашні кабачок, тракцірчык, сялянскі дворык, рэстаран ці шацёр у полі ля вінаградніку і завецца ў перыяд адкрыцця і каштавання віна — хойрыген. Вінаробы адкупорваюць бочкі, частуюць

свежым віном суседзяў, гараджан, гасцей, праезджых аўтамабілістаў, дальнабойшчыкаў, турыстаў… Аўстрыйцы пераязджаюць ад аднаго да другога хойрыгена, частуюцца чыстым празрыстым віном ці *Spritz* — віно напалову з мінералкай, газіроўкай ці сокам. Дамовіўшыся між сабой не ствараць канкурэнцыю, калі жывуць побач, вінаробы адкрываюць хойрыген па чарзе на месяц, пачынаючы з мая і да самага адзінаццатага кастрычніка. Гэта сапраўднае свята ў Аўстрыі! А яшчэ адзін сэнс слова — менавіта сам сямейны бізнес вінароба (без вялікай колькасці наёмных работнікаў), які гадамі перадаецца ў сялянскіх сем'ях ад бацькоў дзецям, у абіходзе могуць таксама назваць хойрыген.

Вытворчасць віна гучна менаванага, з фірмовым знакам, сістэмай гандлю на працягу года праз супермаркет, гандлёвыя кропкі, альбо ў рэстаране, з пастаўкамі ў іншыя краіны ўжо ніяк не назавецца хойрыген.

Вінаробы вывешваюць «зоркі» з раслін на шост, альбо брамку, ці сасновыя вянкі, самачынна ўпрыгожваюць рэстаранчыкі, наймаюць музыкантаў. Хойрыген наведваюць усе, ад маладых людзей да старэчаў, стагадовых дзядкоў-бабуль, толькі б маглі рухацца, і ў кожнага вінароба наваколля, куды магчыма дайсці альбо даехаць, каб потым знаць, дзе лепшае ўдалося віно. Увосень, пасля збору новага ўраджаю вінаграду, як толькі паспеў забрадзіць выціснуты сок, праз два тыдні каштуюць хмельны выдатны квас — «брагу», і гэта свята называецца ў аўстрыйцаў штурм.

Пра ўсё вышэй апавяданае даведалася пасля, не па прыездзе… Адразу па прыездзе ў Шпіц, цікаўная, я заўважыла збоч вулкі, недалёка ад дома Ханны, будынак вельмі падобны на рэстаранчык, але загадка! — заўсёды зачынены, хоць нядаўна, відаць, поўніўся жыццём і весялосцю. Яго вокны выходзілі на тратуар, нічым не занавешаныя, яны дэманстравалі доказ прамінулага свята: горы перамытага і яшчэ не прыбранага ў каморы посуду ўзвышаліся на стале, некалькі лімонаў, сумна пакінутых у глінянай місачцы, ручнікі стосікам. Паблізу, на шчыце матлялася несарваная аб'ява «ад рукі», сведчыла датамі — «штосьці» адбывалася тут і нядаўна скончылася. Вакол ні чалавека… Гэта мне падалося таямніцай, запыталася ў Ханны — хойрыген скончыўся у гэтых гаспадароў, адказала яна. Я нічога не зразумела, перапытваць з маімі ведамі мовы палічыла не прыстойным. Потым сустракала такія рэстаранчыкі яшчэ і яшчэ. І вось Ханна з Хелен дачакаліся наступнага адкрыцця аднаго з бліжэйшых *Heurigen* у сям'і *Gritsch*. Мяне павялі ў двор сядзібы, паўз якую я штодзённа хадзіла на шпацыр і мела магчымасць заўважыць, як на днях зайграў вяночак з зялёных галінак і рознакаляровых стужачак над варотамі сядзібы, яшчэ шыльдачку прыгожую «ад рукі» — з такога па такое адбудзецца адкрыццё хойрыген біяпрадукта з вінаграду. Вечарам мы рушылі: Ханна, Хелен, дачка Ханны Рэнатэ, яе муж Хельмут і я. Рэстаранчык, які пустуе большую частку года дзеля таго, каб гасцінна расчыніць дзверы ў святочныя дні,

сустрэў нас па-дамашняму. Ежу тут, як і ва ўсіх іншых хойрыгенах, прапануюць на выбар, самім прыносіць, як гэта патрабавалася ад даўнейшых арыстакратаў, не прыйшлося. Мы потым каштавалі хойрыген ля Вены ў гарах, проста ў двары на лавах, за драўлянымі сталамі… Там, і ў шатры сярод вінаградніку, паўз якога праходзілі туды ды назад, шырокага выбару закусак наўрад ці маглі прапанаваць. Але абавязковую нарэзку з дамашняга вэнджання, салення, сыроў, зяляніны заказаць можна паўсюль. Што да аўстрыйскіх страў — тут загваздка. На ўвесь свет гучаць: венскі шніцаль, венскі пірог, венскі штрудзель, кава па-венску… І гэтыя прысмакі вам заўсёды пададуць у рэстаране і яшчэ смачнейшыя прапануюць. А вось што тычыцца дамашняй кухні, аўстрыйскі стол не парадуе гурмана. Да хвалёнага шніцаля камплектам ідзе салата — так красамоўна дабаўку гэту я не рызыкнула б назваць. Калі зварыць кіслую капусту з бульбай, потым павыцягваць гушчу і патрымаць яе колькі дзён у халадзільніку, дадаўшы туды цыбулі з алеем, то я б — адразу ў сметніцу. Там завецца салатай. І смачна ўжываецца. У беларускай кухні ёсць адпаведная страва — шэдэўр! Трэба ў квашаную капусту з дробна накрышаным бачкавым гурком і цыбуляй дамяшаць гарачай (!) бульбы кубікамі, пакрапіць алеем — язык праглынеш, нават шніцаль не спатрэбіцца. Без супоў і баршчоў абысціся нам цяжка. А ў іх на вадкае накудласяць штосьці накшталт беларускай заціркі, ды брыдчэйшую, сапсаваную ўлітымі праз сітца яйкамі. Напэўна, аўстрыйцы адвыклі гатаваць стравы дома, бо нашы клёцкі і дранікі елі аж вушы круціліся. Тут жа, у сям'і Грыч: муж, жонка, дзеці, зяці, нявесткі дапамагалі — закусак было! Нам паставілі па замове кожнаму па талерцы тонка напластаванага мяса рознага гатунку, штосьці з сыроў і зяляніны. Віно замаўлялі бакаламі на кожнага не менш як тры-чатыры разы рознай назвы. (У доме Грыч чамусьці не паднеслі пачастунак ад гаспадара, чаканага Ханнай і Хелен, як звычайна — для павагі шаноўных гасцей, якімі Ханна з Хелен без сумневу сябе лічылі — напэўна, занадта шмат нас прыйшло.) Вось гэты асартымент аплочаны быў усяго толькі трыццаццю дзевяццю еўра за ўсіх!

Наведвальнікі прыходзяць сем'ямі, з дзецьмі. Гаспадар з каморы вынес скрыню цацак для маленькіх гасцей, у двары, пакуль свяціла сонца, дзяцей забаўлялі арэлямі, гушкалкамі, калыханкамі. Дальнабойшчыкі (тут паблізу пралягае траса. У Аўстрыі дазволена ўжываць невялікую колькасць спіртнога кіроўцам аўтамашын) адмыслова зварочвалі ў горад. Гралі нанятыя музыкі — скрыпач з акардэаністам. Гаспадары падносілі віно да столікаў. Многія былі апранутымі ў Tracht, нацыянальны касцюм. Хтосьці прыйшоў з сабакам, сеў на вуліцы ў двары, сабака пад сталом таксама частаваўся з міскі рыслінгам. Хтосьці замовіў слоік мёду — гаспадары да таго ж мелі пчальнік. Сядзелі заўсёды доўга, да ночы, не змушана, у асалоду. Маглі спяваць, прасілі вынесці пледы, як сонца хавалася і халадок прабраўся праз расчыненыя дзверы і вокны.

У Гумпольдскірхен, дзе праходзіў фестываль хароў, у такі прыватны рэстаранчык, акрамя вялікай колькасці заўсёдных наведвальнікаў, гасцей, турыстаў, змясцілі яшчэ і два хоры, па трыццаць чалавек кожны. Пад час хойрыгена ніхто не напіваецца, ніякай лаянкі. Людзі сядзяць за столікамі, вячэраюць, адпачываюць, гамоняць…

Зараз у Аўстрыі ў перыяд каштавання свежага віна не зусім дасведчаныя турысты любы невялічкі сямейны рэстаранчык памылкова назавуць хойрыген, але праходзіць «на раз». Не стануць дамагацца тонкасцяў і самі гаспадары — пачастуюць віном…

Па справядлівасці — даўно ў Аўстрыі днём з агнём не знойдзеш таго беднага вінароба, дзеля якога завёўся закон! Закон, які так спрацаваў, так спраўдзіў…

## Das Vertrauen*

Рэнатэ, дачка Ханны, прывозіла з Вены задрымордую псінку Морыца.

Суседская далмаціначка Элін сціпла паўзком падышла да сталічнага франта з адмысловай фрызай на галаве, прапанавала сяброўства — той фыркнуў, завярнуў гузікавы нос, і далмаціначка сумна паклэпала да агароджы, на сваё звычайнае месца ў канцы газона. Колькі разоў я ні спрабавала падазваць яе, толькі падымалася з шэзлонга, Элін збягала ў свой двор. У апошнюю суботу, калі я села на тэрасе наглядзецца ў запас на зялёныя склоны гор, лес, вінаграднікі, блакітнае неба, надыхацца асаблівым водарам паветра Вахау (хор вярнуўся з Італіі — па мяне ўжо ехалі забраць у Вену), у забыцці закрыла вочы, раптам адчула: штосьці жывое дакранулася да каленяў… Перада мной стаяла Элін, паклаўшы сваю доўганькую мордачку мне на пеліну, даверліва ўглядалася ў мой твар — развітвалася… Як яна зразумела, што ад’язджаю?

Цэлы тыдзень збірала ўражанні, вышуквала ў слоўніку выразы і звароты, думала, як толькі прыедуць па мяне, па дарозе ў Вену ўсім змагу падзяліцца… смех сказаць! З кім? З тым, хто тут пражыў жыццё, ці з дачкой — дзесяць гадоў, як прыязджае рэгулярна ў Аўстрыю і паспела ўведаць яе значна глыбей і шырэй, чым я… Калейдаскоп эмоцый закружыў, нікчэмны запас слоў здрабнеў перад уражаннямі; да таго ж у вячэрнім небе высока пад аблокамі пры выездзе з Вахау (вярталіся другой дарогай) пабачыла такое, што і зусім анямела. Высокая гара, а на ёй у самым небе — горад. Старадаўні, казачны замак, проста перанесены з дзіцячых кніжак. Гэта быў Шціфт Гётвайг. Хутка схаваецца сонца, ён захінецца змрокам, у вокнах запаляць агні — і замак пад небам засвеціцца, нібы

* Давер.

свечка Богу. Мы доўга ехалі круг гары, і замак усё здаваўся побач, зусім рукой падаць. Ілюзія гор.

## Morgen in der Grotte*

Не нарадзілася я музыкантам… Трэба згадзіцца з гэтай высновай пасля пятнаццаці галоў навучання і трыццаці гадоў паспяховай прафесійнай музычнай кар'еры… Дзіўлюся на скрыпачку і разумею: «голы» прафесіяналізм не здолен наблізіцца да краёчка таго, што дадае ДАР БОЖЫ.

Змушаная несціхаючымі апладысментамі вярнуцца на сцэну, стомленая, крыху хмельная ад поспеху скрыпачка сама аб'явіла «на біс» — Ізаі, «Моргэн ін дэр гротэ». Мелодыя адным узмахам расхінула ноч. Выпрастала лёзы танюткіх промняў ранішняга сонца па соннай даліне і горных склонах. Ускалыхнула паветра. Бачныя толькі ў прасветах сонечных зайчыкаў ляцелі, перакульваліся сотні мільёнаў мікраскапічных жывых істот. Крылатыя эльфы плылі ў бязважкасці, апускаліся на велізарныя плацдармы пялёсткаў рознакаляровых кветак. Гушкаліся на павуцінні між доўгіх гнуткіх сцяблін. Запэцканыя нектарам хіхікалі, смешна чхалі ад казытання ў носе, прыслухоўваліся да пеpaзову ранішніх птахаў, гойдалі кветкі, распаўсюджваючы ў паветры густы водар мёду. Прырода заварушылася. Жук пракладаў шлях па камяністай глебе. Дбалі мурашы на будоўлі свайго каралеўства… Пасажы ўзляталі, узляталі, а падзяліць іх на гукі не падавалася магчымым. Палітра музычнага твора быццам ніколі не ведала секвенцый, паўз, інтэрвалаў; не была знаёмай з сінкопамі, рытмам, метрам, тэмпамі… У ёй напамінку не было аб працягласці нот ці вышыні гукаў. Раніца была! Змрок адступаў, уваскрасала святло. Пасажы яўлялі подых ветру, крысталы расы чаравалі стыхіялямі гор, рэк, далін, лясоў…

Скрыпачка: стройная, цемнавалосая *Jungdame*** са сціплай усмешкай на прыемна адкрытым твары, стойкі руж шчок якому найбольш надаваў прыкметнасць славянскага тыпу. Па-за межамі разумення — як яе пальцы здольныператвараць чорныя кручочкі нотных сімвалаў у такое валхванне! Умясціць невымерную колькасць недзялімых роўна трыццацьдругіх і шэсцьдзясятчацвёртых у строга абмежаваную структуру твора, жосткую рамку тактаў. Дар… Перад тым дзяўчына выканала скрыпічны канцэрт. На сцэне Венскага тэатра дырыжор з яўнымі рысамі японскага генатыпу адважна давяраў лейтматыў галоўнай партыі канцэртмайстру карэйцу. Віяланчэль вяла тужлівы спеў у руках манголкі. Моцныя далоні аўстрыйскага музыканта трымалі тубу… У сімфанічным аркестры не бракуе інструментальнага складу. Залатая зала музычнага тэатра трымала

---

* Назва музычнага твора кампазітара Ізаі «Раніца ў гроце».

** Паненка.

аншлаг. Засяроджаныя твары слухачоў рознага ўзросту, нацыянальнасцяў, веравызнання ўважліва лавілі кожны гук твора кампазітара-габрэя з Расіі. Сягоння гучаў Д. Шастаковіч.

Каб тоесным апынуцца тут, слухаць мільённавухім гуртом МУЗЫКУ, нараджаецца ХТОСЬЦІ, здольны пачуць прыроду, адчуць ЦУД і пакінуць на паперы тайнапіс; нараджаецца ХТОСЬЦІ, здольны гэты тайнапіс расшыфраваць і перадаць ЦУД праз гукі… А яшчэ мусіць нарадзіцца хтосьці, здольны СЛУХАЦЬ, чуць і адчуваць, бо музыка — тое, што зразумець мог бы кожны, незалежна ад геаграфіі, гісторыі, палітыкі; кожны, хто адораны пачуць Бога… *Grüß Gott*! Я нарадзілася музыкантам!

## Die Tracht

Аўстрыйцы любяць сваю нацыянальную адзежу і носяць яе па святах, у хойрыген асабліва, амаль кожны дзень. У крамках, кавярнях, рэстаранчыках гаспадынькі апрануты ў сукенку асобага крою, часцей клятчастай, можа быць і аднатоннай тканіны. (Беласнежка ў казцы апранута ў аўстрыйскі жаночы нацыянальны касцюм.) Гэта можа быць моцна прыталены ў ліфе сарафанчык, шырокая, прызбораная спаднічка з фартушком і кароткі рукавок крою — «фонарик» на абавязковай белай блузачцы з батысту, якая аблямоўвае шырока адкрытае дэкальтэ. Можа быць як поўны набор названых элементаў паасобку: блузка, спадніца, карсэт, так і суцэльная, падобнага крою сукенка — варыянтаў шмат, але абавязковыя адметнасці: белая блузачка пад вузкім ліфам-карсэтам, глыбокі выраз дэкальтэ, форма рукавоў і крой спадніцы — будуць нязменнымі. *Dirndl* — жаночы нацыянальны касцюм.

Трахт, альбо трахтэн, — нацыянальнае адзенне ўвогуле, для абаіх палоў, каштуе зусім не танна. Аднак тамтэйшымі паўсюль ужываецца з задавальненнем. Мужчыны нацыянальныя касцюмы апранаюць не так часта, ва ўсякім разе ў тых раёнах, дзе я была, аднак на святах сустракала. Сапраўдныя мужчынскія ўкарочаныя скураныя штаны аўстрыйскага *Tracht* — вельмі складаны па крою і выкананню элемент вопраткі.

Зноў жа, першым, хто апрануў такую адметную дэталь туалета (да той пары штаны ўкарочаныя лічыліся вопраткай сялян горных раёнаў), быў той самы дальнабачны імператар Франц Іосіф, з лёгкае рукі якога, а выходзіць, дык і з нагі таксама, Аўстрыя прыдбала столькі нацыянальнага каларыту. Дапаўняе мужчынскі трахт клятчастая сарочка шырокага крою і скураная камізэлька, альбо спецыфічны пінжак, белыя гольфы і замшавыя чаравікі, капялюш з аздабленнем, таму і па цане мужчынскія касцюмы значна даражэйшыя за жаночую сукенку (хоць гэта заўсёды залежыць ад якасці тканіны і поўнай адпаведнасці традыцыйным дэталям

строяў). Самы распаўсюджаны, але не «базарнага» гатунку, варыянт у супермаркетах каштуе ад 200 да 350 еўра. (Гэта пры тым, што ў Аўстрыі вельмі невялікія кошты ў параўнанні з нашым бясконцым алюрам цэн.)

Створаны па замове ў харошага майстра-мастака трахт, канечне, пацягне і на 2000 еўра.

А наогул аўстрыйскія жанчыны апранаюцца вельмі сціпла і зусім не маюць звычкі вопраткай і фарбаваннем твару завабіць, прыцягнуць увагу мужчын, як гэта паўсюль практыкуецца ў нас. Нашы жанчыны, па разуменню аўстрыйцаў, апранаюцца як прасталыткі: кідка, пярэста, квятаста, вульгарна.

Што здзіўляе іншаземцаў: «ні кала ні двара» — паўсюдная нішчымнасць, на самае надзённае — жыллё — няма грошай, а людзі ў нас апранаюцца, бы папугайчыкі, хто ярчэй. Так надаела ўсім нам чорна-шэрая гама савецкіх гадоў, што зараз «адрываемся», нават тыя, хто саветаў не знаў, ды і густ, спляжаны патрабаваннем ні ў якім выпадку не выдзяляцца, яшчэ не выпрацаваны!

Да таго ж аўстрыйскія жанчыны, напэўна, не маюць дэфіцыту мужчынскай увагі, таму і не выпендрываюцца адна перад адной. Я была ў Вене, у вёсцы Пандорф, гарадах: Шпіц, Мельк, Гумпольдскірхен, Трумау, Крэмс-штайн, у маленькіх горных вёсках, на свяце (адной з першых) аўстрыйскай радыё-тэлевежы ў горным цэнтры *Jaurling* (Яулінь), у элітным музычным тэатры Вены, на шырокіх нацыянальных святах горада Вены і вёсак, бачыла, як спраўлялі вяселле (вельмі нябеднага чалавека!) у элітным рэстаране. І паўсюль адно: аўстрыйскія жанчыны апранаюцца сціпла, не кідка, пры тым, што сацыяльны ўзровень жыцця ў краіне больш чым высокі. Мала хто з жанчын фарбуе валасы, яшчэ менш карыстаюцца касметыкай (у нашым вульгарным уяўленні — размалявацца).

Вяселле нямецкай маладой пары я назірала яшчэ ў тую камсамольска-пуцёвачную паездку: у рэстаранчык прыйшло чалавек дваццаць моладзі, сярод іх жаніх і нявеста ў белым строі з вэлюмам. Яны сядзелі за абсалютна пустым сталом, размаўлялі. Праз нейкі час афіцыянты вынеслі да стала па куфлю піва, моладзь працягвала сядзець: размаўлялі, смяяліся, жартавалі, выходзілі на вуліцу падыхаць паветрам, а хто — паліў. Яшчэ праз пэўны час падалі кожнаму па шніцалю. Гэта была вясельная вечарына. У аўстрыйскім шыкоўным рэстаране я ўбачыла тое ж самае. Пад прыход гасцей на сталах не было нічагуткі, акрамя пялёсткаў руж, адмыслова рассыпаных па настольніку. Потым вынеслі віно. Элітнага выгляду, немаладыя людзі, калі ўлічыць, што жаніху было 75, а нявесце 50 (адпаведна, і сябры таго ж прыблізна веку, мастакі, музыканты, навукоўцы…), сядзелі за столікамі, ціха гаманілі, жартавалі, слухалі музыку і віншаванні, віншавалі самі «маладых». Сталы ўвесь час заставаліся пустымі. Я запыталася ў тамашніх, бо цікавілася ўсім: так і будуць сядзець за пустымі сталамі?

«Заказана страва», — пачула ў адказ. Справа не ў тым, пустыя сталы ці ломяцца ад ежы, як у нас, у нашых людзей не будзе аб чым пагаварыць у такой культурнай абстаноўцы.

## Bedeutung*

Ёсць з'явы, з якімі мы звыкліся і нават не разважаем, добра гэта ці дрэнна, падабаюцца яны нам ці хацелася б зламаць звычнае. Можа быць інакш, ці нас абсалютна задавальняюць іх вынікі? Уявіце наш рэстан, занятыя столікі, у залу ланцужком заходзяць трыццаць прыгожых дзяўчат. Вы чуеце, вы бачыце, што адбываецца з мужчынамі, як іх гэта заводзіць, як круцяцца галовы, суправаджаюць уедлівыя вочы, гукі захаплення, зазывы, усмешкі, жарцікі, ацэнкі, выкрыкі? Мы прывыклі, нам нават падабаецца, станоўча прымаем гэта на свой кошт: да чаго ж мы прыгожыя, калі здольны выклікаць такую рэакцыю!

Хор часта вячэраў у рэстаранах, і калі я ўпершыню зайшла разам з дзяўчатамі ў мнагалюдную залу, адразу адчула: штосьці не так. Зусім не так, як у нас! Дачка заўважыла маю разгубленасць.

— Мама, прывыкай. Яны ідуць у рэстаран не дзеля таго, дзеля чаго ходзяць нашы.

Я мела вельмі адмоўную асацыяцыю з нашымі рэстаранамі ў сваім жыцці, таму ўвогуле рэстаран для мяне з'явіўся нейкага роду тэстам. Нашы мужчыны, што хітраваць, і жанчыны нярэдка, седзячы ў рэстаранах са сваімі сябрамі, каханымі, мужамі адкрыта страляюць вочкамі па ўсёй зале, шукаючы сустрэчнага пажадліва-гуллівага позірку. У нашых людных месцах гэтая абавязковая інтрыга палоў з'яўляецца заменай сапраўдных шчырых адносін між мужчынам і жанчынай: кураж, эйфарыя, фальшывы ўздым эмоцый, узрух здрадніцкіх пачуццяў! Нярэдка тут жа пачынаецца нават непрыхаваны «з'ём» палавых партнёраў у запас, на вачах жонкі ці мужа пасылаюцца знакі прыхільнасці: запрашэнне на танец ад суседніх столікаў, вульгарныя намёкі, перамiргванне вачмі, перашэпты, заляцанні. Вось што здзівіла мяне ў аўстрыйскіх рэстаранах — абсалютная адсутнасць увагі наведвальнікаў да чалавека, які не прыйшоў з табой разам, які не сядзіць насупраць ці побач. Калі гэта чыста мужчынская кампанія — яны занятыя размовай, не выяўляюць цікаўнасці да чужых. Калі гэта вечарынка розных палоў, напрыклад калег, аднакурснікаў, сваякоў, суседзяў, тым больш: людзі заняты прычынай, з-за якой тут знаходзяцца, альбо проста адпачываюць. А ўжо сям'я! Гэта зусім асобная гаворка. Калі ў людное месца прыйшлі муж і жонка, яны не звядуць вачэй адно з аднаго. Я назірала адмыслова. У розных населеных пунктах і месцах

* Сэнс.

адпачынку — нязменны вынік. У Аўстрыі відавочная каштоўнасць сям'і. Статыстыка жорстка асадзіць мяне: хапае і ў іх разводаў і праблем. А я пра іншае. Пра страшэннае скрыўленне нашых душ.

Мы ж таксама нараджаемся, каб быць шчаслівымі, шчырымі, любіць, давяраць, быць любімымі і шанаванымі. А потым штосьці адбываецца з намі — і пачынаем прымаць бруд за чысціню, хлусню за праўду, здраду за норму жыцця, а як вынік — крывадушнае злоснае змушанае суіснаванне за само жыццё. Там я не знайшла падмены паняццяў, значэння, сэнсу.

Двое. Ім не менш як пад сорак, у іх двое дзетак. Раніца выхаднога дня — абавязкова ў касцёле. (У Аўстрыі ўсё жыццё круціцца вакол касцёла, гэта іх культурны цэнтр.) Ідзе малебен. На лавах няма пустых месц, але яны… адзін у адным, вачэй не зводзяць, усміхаюцца. Разам да споведзі — пацалаваліся.

Двое. Гэтым каля трыццаці, таксама двое дзетак з імі разам. Сям'я прыйшла на хойрыген да суседа. Стаяць ля барнай стойкі. Гэтыя надзіва (для мяне тут) сучасна апранутыя, не ў трахтэн. Увесь вечар (сям'я доўга была ў рэстаране, да ночы) муж трымаў руку на таліі жонкі і зазіраў ласкава ў вочы. У Аўстрыі ў сям'і, мне падалося, нярэдка жанчына займае крыху вышэйшае месца. Вось на тым жа хойрыгены ў Шпіцы: сям'я гаспадара… Дзве дачкі ўзросту нявест дапамагаюць разносіць віно і закуску да столікаў. Адкрыта, не хаваючы цікаўнасці, весела і з хітрынкай адказваюць на ўвагу патэнцыйных кавалераў — ніякай двухсэнсоўнасці, ніякай сарамлівасці — няма падставы: яны годныя нявесты, шукаюць дастойных кавалераў. Маладыя людзі зацікаўлены стварыць добрую сям'ю. Гаспадар увішны, рупны, крышачку стомлены, але задаволены добрым гандлем — нейкіх сартоў віна ўжо не паспытаеш — прададзены, ідзе ў добры попыт мёд. Яго твару цяжка схаваць упэўненую радасць. Затрымаўся ля століка, за якім сядзела найшаноўная *Familie* (гэта Ханна з Хелен) — паднёс пачастунак (не за грошы) і пагаварыў пра тое-сёе хвілін дзесяць. Жонка да гэтай пары выконвала абавязак бухгалтара — падлічыць ёсць што! Змушаная замінкай мужа падхапіцца ў дапамогу дочкам крыху пазавіхалася ля столікаў, ды — стук! з фаршлагам — ключом па сталу, каб прыцягнуць увагу мужа, той імгненна азіраецца, маўляў — іду, іду. У яе строгая, але паблажліва-жаночая ўсмешка, у яго — згода вінаватасці; на тварах абаіх — разуменне і замілаванасць: як жа ўсё ў нас добра.

Пад час хойрыгена ў прыгарадзе Вены Гумпольдскірхене праходзіць сяброўскае спаборніцтва двух хароў. У мэрыі адзін насупраць другога стаяць трыццаць маладзенькіх прыгожых дзяўчат з Беларусі і сорак мужчын самага рознага ўзросту з-пад Вены, ад маладзенькіх да глыбока сталага веку — спяваюць навыперадкі па адной песні. Спяваюць мужчыны — выдатна, прафесійна, а яны не музыканты, толькі кіраўнік — наш калега. Апладысменты. Спяваюць дзяўчаты. Мужчыны ў гэты момант

уважліва-ўважліва слухаюць, суперажываюць, у такт ківаюць галовамі… Песня скончылася — вочы мужчын адразу знаходзяць іншы арыенцір, ні адзін харыст не глядзіць на дзяўчат. Нязвычнае відовішча. Пры тым, што славянскія твары аўстрыйцам падаюцца надзвычайна прыгожымі. Гэта вельмі ўласціва аўстрыйскім мужчынам — не разглядаць жанчыну адкрыта, як рэч. Потым два хоры пойдуць разам у рэстаран. Хойрыген у разгары, на вуліцу выкацілі бочку з віном. У прыватным (у Аўстрыі ўсё прыватнае) рэстаранчыку хапае месца ўсім, хоць тут ужо і так сядзела вялікая колькасць адпачываванцаў.

Знайшлі месцы, каб размясціць побач два калектывы, — хацелася пагутарыць. Аўстрыйскі мужчынскі хор прыйшоў у рэстаран з жонкамі! Адзінокія сціпла і сур'ёзна сядзелі побач з сябрамі, вялі размову, ніякай пошласці, ніякіх вольнасцяў ці распусты.

Я на працягу трох гадоў у мінскім «гасцявым доме» мела магчымасць назіраць студэнцкія складчыны, паці, тусоўкі, вяселлі. Прыязджае жаніх перад вяселлем з сябрамі і дзявулямі — толькі не кажыце маёй нявесце, што я быў тут на «мальчышніку» з сяброўкай — дзе я ўбачу тваю нявесту? — яна праз тыдзень тут будзе таксама гуляць. Праходзіць тыдзень, заязджае нявеста з сяброўкамі і хлопцамі — толькі не прагаварыцеся майму жаніху, як прыедзе па мяне, што мы былі з мужчынамі «на дзявішніку».

Ад пяці гадзін раніцы трое мужчын працуюць на вінаграднікавай плантацыі ў Шпіцы, бацька і два дарослыя сыны. Рады вінаграднай лазы без ніякай агароджы, ці хаця б умоўнага раздзялення тэрыторый, пачынаюцца ў самым дворыку Ханны, літаральна ў трох метрах ад тэрасы, на якой пасля сняданку села і я палюбавацца горнымі схіламі. Вінаградная расліна трымаецца тэхналогіяй догляду ў строга даведзеным стане: не вышэй, як па плячо сярэдняга росту чалавека, усе калівы — роўненькія, як салдацікі. Штамб (таўшчынёй з дзявочую руку доўгенькі ствол) завяршаецца вярхушкай — вялікай колькасці пераплеценых мінулагодніх парасткаў, абрэзаных пад самы ствол. (Як састарэе расліна, кожны такі «набалдашнік» можа стаць мастацкім творам, настолькі цікава пакручаста, у розныя бакі, рознай велічыні і акружнасці пераплятаюцца пакінутыя ад зрэзаў пянькі.) Вясной вінаграднік выглядае бы велізарны пляц роўна паўстаўляных у грунт булаў. Толькі летам пачынае вярхушка апранацца ў бухматую шапку-крону з ліసткоў і парасткаў, ды так хутка, на вачах голыя шэрыя калочкі ператвараюцца ў густыя зялёныя шаты. Доўгія рады мацуюцца дротам, пачэпленым на калкі-падпоры. Сягоняшні занятак мужчын — абысці ўсю плантацыю рад за радам, абвіць падрослыя пабегі кожнай расліны вакол драціны, каб не звіваліся ў кузлу між сабой. Раз-пораз, дайшоўшы да канца аддаленага краю, работнікі чаўнаком вярталіся назад, да самага дома Ханны, і мяне непакоіў факт, што выйшла з дому пазней, села на вачах і не змагла павітацца з імі (тут людзі вітаюцца з кожным незнаёмым

чалавекам). Мужчыны былі такія занятыя, што мне не ўдавалася злавіць іх вочы «ходкі» тры, нарэшце я заўпарцілася — мне вельмі перашкаджаў адпачываць незавершаны працэс. Вырашыла пры наступным іх вяртанні дамагчыся свайго — гэта, нарэшце, непрыстойна! Павярнула галаву ў іх бок і не зводжу вачэй, чакаю, калі работнікі падыдуць да самай тэрасы… Бацька на імгненне схапіў мой позірк: «Grüß Gott!» — ціха прамовіў. Яго сын, які рухаўся заднім ходам, спіной да мяне, павярнуўся: «Grüß Gott», з-за рога дома выйшаў трэці, сціпла і пачціва пакланіўся: «Grüß Gott!» І зноў заняліся справай. Гэта было так прыгожа! Так прыстойна! Як некалі ў маім дзяцінстве ў далёкай беларускай, яшчэ не спляжанай вёсцы.

Я знайшла аўстрыйцаў карэнных, не наезджых (там, як у любой іншай, добра ўладкаванай краіне, шмат прыжываецца іншаземцаў), вельмі падобнымі на беларусаў, тых, якіх застаецца ўсё менш і менш, сапраўдных. Тая ж сціпласць і павага да людзей, тая ж сарамлівасць, працавітасць… Памяркоўныя, законапаслухмяныя. І адносіны ў сем'ях беларускай вёскі я яшчэ застала ў такім выглядзе — чыстыя, прыродныя, без сурагату і прымесі. І хойрыген у сямействе *Gritsch* мне вельмі напомніў Жаніцьбу Цярэшкі — гэта найцікавейшае свята-абрад беларускай нацыянальнай культуры мне пашчасціла ў дзяцінстве пабачыць на свае вочы, — а яшчэ Валікава (стрыечны брат) з Верай вяселле ў Шыпах. Расчыненыя вокны, з вуліцы на падаконніках вісяць цікаўныя, каму месца не хапіла за сталом — чаго крыўдзіцца — хата ж не вялікая, хоць і з заможнай сям'і нявеста Вера, пчальнік не кожны гаспадар мае, як яе бацька ў Шыпах, ды і сама Вера — краўчыха, усю вёску абшывае, значыць, грошы мае! І хавацца няма чаго — добры хлопец бярэ добрую дзеўку! Няхай вісяць на падаконніках, няхай стаяць у парогах. Лішнія пеюны заўсёды ў цане. На стале — што ёсць, што Бог даў па часу: бульба вараная, гуркі, сала, скварка, яйкі смажаныя, перапечкі, булкі. Спадынька з усмешкай пaглядае на вясёлае застолле, на танцы, на жарты, на гульні, сатрэ ражком хусціны слязіну — так паложана: дачку замуж выдае… (Гэткай жа я ўбачыла і гаспадыньку Грыч з Аўстрыі.) Стамілася, прытулілася да печы, каб спачыць, згорбілася, пацёрла спіну — сярэдзіна баліць!

Зусім, здаецца, не дарэчы, але ўспомнілася. Які мілы тып беларускага характару страціў наш кінематограф з-за таго, што паважаны спадар драматург Аляксей Дудараў адмовіўся ад кар'еры артыста, хаця б зрэдку. Яго герой у кароткаметражным фільме «Госць» — такі шчымлівы беларус, такі сапраўдны, глыбінны, далікатны, нешматслоўны, прыроджана разумны, сціплы, тонкі, пры вонкавай — гэта толькі здаецца — звязанасці.

## Wir sind bereit*

У Аўстрыі з «их моралью, их нравами!» я сутыкнулася яшчэ з адным «перакосам». Аб чым бы ні заходзіла размова, хто б ні сядзеў за сталом: сталыя людзі, моладзь, простыя, адукаваныя, жанчыны, мужчыны… нейкім чынам словы рана ці позна выпадкова ўпіраліся: вайна, Гітлер, разбурэнне, фашызм… Мяне папярэдзілі харавыя: старайся абысціся без гэтых тэм. Я і не чапляла. Але чаму — пытаюся. Яны адчуваюць вялікую віну за былое, ты заўважыш сама, гэта вельмі балючая для іх тэма. (Хоць Аўстрыя ў свой час не падтрымала ідэі і не прызнала суайчынніка Гітлера…) А гаворкі, як ні круці, самі сабой заводзілі ў тупік:

— Якія старадаўнія пабудовы вам спадабаліся ў Аўстрыі?

Пералічваю…

— А ў вас, у Беларусі, шмат старадаўніх храмаў?

— Большая частка разбурана.

Мае субяседнікі занурыліся, сумна ківаюць галовамі. Далей нават непрыстойна працягваць гутарку. (Ды свае, свае пабурылі не менш за чужынцаў! — хочацца сказаць, а думаеш: вось бы нам так, хаця б перад сваім народам, перад сваёй краінай, нацыянальнай культурай, мовай навучыцца адчуваць віну.)

## Super

Аўстрыйская вандроўка праходзіла для мяне пакутліва. Не толькі таму, што я зразумела: мы не жывём, наша жыццё хтосьці зажывае, з’ядае, зануджвае, як быццам кінулі зярняткі ў каменне і здзекуюцца, назіраючы — вытрывае ці не: зусім без вады, зусім без глебы, без сонца. Вось толькі хто? Магчыма, нават, што мы самі.

І справа не ў іх выдатным высокім сацыяльным узроўні жыцця з іх магазінамі, дзе найсвяжэйшыя прадукты (рыба ў моры плавала раніцай, а жывёла на нагах стаяла), якіх у нас ні за якія грошы не купіш, прадаюць па цэнах ніжэй чым нашы даабвальныя пры іх заробках у некалькі тысяч еўра; справа не ў іх чысцюткіх куточках самых аддаленых палёў і лясоў, дзе нікому не прыйдзе ў галаву на бязлюдным гектары да ветру сесці пад куст, а не тое што плюнуць шалупіннем ці кінуць поліэтыленавую ўпакоўку пад ногі; не ў добраўпарадкаваных бальніцах і дамах для спакойнай старасці, дзе да кожнага нямоглага прыстаўлены асобны работнік па догляду і патранажу, каб вазіць у калясцы на абед у залу рэстараннага тыпу са сцэнай, раялем і арганізаваным канцэртам, не ў заможнасці, не ў магчымасці адпачываць, дзе пажадае душа на сягоняшні момант, не ў магчымасці набыць вось зараз, у гэты момант, бо хочацца: машыну,

* Мы гатовы.

батут, камп’ютар, фартэпіяна — не ведаю што яшчэ, бо прывыкла нічога не хацець. Не таму!

Я не прывыкла жыць на ўтрыманні! Мае бацькі працавалі ўсё жыццё, я працавала ўсё жыццё, не пытаючы вялікіх грошай, вельмі часта зусім дарма, а мая дзяржава пакінула мяне жабраком, якому няма за што набыць самай мізэрнай патрэбы. З пенсіёнам на дажыванне, памер якога здольны яшчэ горш, чым усё папярэдняе жыццё, абразіць чалавечы гонар.Такая паездка мне не магла і прысніцца, ды знайшліся фундатары, але невыносна шчыміла пачуццё ўласнай годнасці, калі пры кожным кроку за цябе нейкі замежны грамадзянін ці грамадзянка лезе ў сваю кішэню па пластыкавую картку ці кашалёк. Столькі прыніжанасці, сораму, усведамлення нішчымнасці, нікчэмнасці, жабрацтва, убогасці я не перажывала ніколі і нідзе, як у гэтай, казачна выбудаванай для саміх сябе стараннымі рукамі, простых, мілых, сціплых людзей, краіне.

Спадарыня Ханна ніколі не вучылася і не працавала ў сваім жыцці, яе абавязкам было толькі любіць свайго працавітага мужа, ва ўсім яго слухацца і паважаць, за гэта ён забяспечыў шчаслівую старасць Ханны да такога высокага ўзроўню, што ні аб чым не трэба хвалявацца, а сын, у сваю чаргу, лічыць неабходным, кінуўшы ўсе справы за мяжой, ірвануць на аўто туды і назад толькі дзеля таго, каб звадзіць маці на чарговую абяцаную прэм’еру ў Венскі тэатр.

Я вярнулася з Аўстрыі і, каб не ехаць дамоў у правінцыю, дзе штодзённа прыйдзецца назіраць знаёмых дзяўчатак і хлопцаў, апранутых пад самадаек, нецвярозых, бясконца вырацаючых брудную лаянку, ці адукаваных, стомленых цяжкай, не ацэненай дзяржавай працай жанчын, якія звыкла бавяць свой вольны час на гнілой косай лаве ў двары, лузаючы семкі і плюючы шалупінне сабе пад ногі, іх дзетак, якія тут жа, ля мамак, па іх жа прыкладу, раскідваюць дзе папала абгорткі ад цукерак: праз два дні заступіла на першую, пакуль знайду лепшае, прапанаваную працу — догляд хворай жанчыны.

У драўляным дамку на ўскраіне Мінска, у чыста прыбранай, жабрацкай (а па нашаму — заможнай!) каморцы сядзела Ніна Ермалаеўна, вельмі прыемнага выгляду, некалі, відаць, надзвычайна прывабная, ладная жанчына, зараз разбітая паркінсонам ды і яшчэ не адным дзясяткам спадарожных і самастойных хвароб, прыдбаных на працягу жыцця ў нечалавечых умовах.

Як на сцэне, перада мной выставіла жыццё два прыклады: нашай ЗАМОЖНАСЦІ (далёка не кожны суайчыннік мае магчымасць наняць прыватны догляд адукаванага спецыяліста з мноствам неабходных прафесийных навыкаў за немалыя грошы) і ІХ дастатку (спадарыня Ханна таксама не тыповы прадстаўнік — адна з персон эліты, удава аўстрыйскага банкіра, маці прафесара). Ханна і Ніна Ермалаеўна былі аднаго года нараджэння, прыгожымі жанчынамі, прыемнымі па сваёй прыродзе, па

выкшталцонай інтэлігентнасці, культуры, інтэлектуальна самаразвітымі, кожная на свой узровень разумення і амаль не адукаванымі. Абедзве за жыццё прыдбалі высокі дастатак, адпаведны ўзроўню сацыяльнага жыцця сваёй краіны, пашанотную старасць.

Ханна не выходзіла са свайго пакоя без выдатнай фрызы, манікюру, педыкюру, наведвала па суседніх рэстаранах святы хойрыген і штурм, піла за абедам выдатнае сухое віно, цікавілася музычнымі і тэатральнымі прэм’ерамі.

Ніна Ермалаеўна таксама… запрашала ўнукаву жонку, каб тая падрэзала ёй валасы, а ўнук невялічкімі абцужкамі паадкусваў знявечаныя хваробай рудыя пазногці. Сядзела на сваім бядняцкім ложку праз нерухомасць. У яе дэфармаваныя ад цяжкай працы і хваробы балючыя суставы, ацёчныя да фіялету ногі, жудасны трэмар прыгнечаных паркінсонам мышц, абавязковая пры тым задышка і сутаргі па бяссонных начах; успучаны пад тонкай скурай жывата мех кішэчніка (грыжа), ён выпрастаўся праз разарваную наўсцяж ад лабка да сонечнага спляцення брушыну — падняла з мужам бервяно, як будавалі дом.

Днямі Ніна Ермалаеўна, да слёз замілавання, уважліва ўслухоўвалася ў абавязкова-штодзённую гутарку сіплагалосага аратара — адзіна даступная ўцеха большасці нашых пенсіённага ўзросту суайчыннікаў. «Якое мілае дзіця! — пляскала яна ў далоні, адрасуючы камплімент плешыне ў абрамленні залакіраваных валасоў. — Сяджу царыцай! Нічога не раблю, а ЁН мне ТАКІЯ ГРОШЫ дае!» Ермалаеўна сапраўды атрымлівала пенсію вышэй сярэдняга памеру, праз інваліднасць і за выслугу адпрацаванага стажу, а яшчэ таму, што сумела дагаварыцца з начальствам і дактарамі: афармілі хваробу як вынік няшчаснага здарэння на прадпрыемстве. За суткі ў жанчыны іншы раз бывала столькі прыступаў, што жыццё для яе рабілася карай. Дактары хуткай дапамогі незадаволена абураліся, пачуўшы пра паркінсонаву хваробу: навошта выклікаць, калі дапамагчы вам ніхто не здольны! У бальніцу таксама чалавека з такім дыягназам і такога веку пакласці амаль немагчыма, ды яшчэ небяспечна. Бо там да хворага няма ніякай справы нікому, абсалютна адсутнічае дагляд — а як не зразумець санітарак? З іх заробкам! Перад Ермалаеўнай ставілі талерку і праз паўгадзіны забіралі тое, што прыносілі, — жанчына не здольна трымаць лыжкі ў руках. Каб санітарка павярнула на бок ці падторкнула коўдру, падсунула бліжэй лекі, трэба было кожны раз даць грошы — у нас жа бясплатная медыцына. Я прыходзіла да жанчыны ў палату штодзённа па два разы забяспечыць мінімальны догляд. Стан сталічнай бальніцы мяне жахнуў! У туалет зайсці без пазываў на рвоту немагчыма — бруд, смурод, нязручнасць. Медабслуга — фенаменальная! (Паставілі кропельніцу і пайшлі, праз пэўны час рука Ермалаеўны ператварылася ў сінюшную падушку — лякарства пайшло пад скуру а не ў вену, гэта вельмі распаўсюджаны

вынік медыцынскай працэдуры — патлумачылі мне хворыя. Каб не мецьпраблем з туалетам — уторкнулі катэтар на два тыдні — няхай цячэ мача пад ложак у поліэтыленавы пакет і начыста пазбаўляе старэчы арганізм ад натуральных фізіялагічных пазываў. Прыпісалі лякарства: заўважаю, маёй падапечнай з кожнай гадзінай горш і горш. Чытаю анатацыю. Пры паркінсоне забаронена ўжываць такія лекі.)

І сіплагалосы аратар, і прафесар з Аўстрыі, і сын Ермалаеўны былі прыблізна аднаго веку, ужо надта праблемнага і па гадах, і па здароўі, і шмат па чым яшчэ. Але найшчырэйшай мацярынскай любоўю, далібог, карыстаўся з іх адзін — сіплагалосы аратар, так слязліва-спачувальна шкадавалі яго суседкі маёй падапечнай, так улюбёна давяралі кожнаму слову!

У адрозненне ад прафесара з сям'і банкіра, сын Ермалаеўны не атрымаў ад сваёй маці ў спадчыну ні ржавага цвіка, усю сядзібу хворая жанчына, змушаная, нягледзячы на «вялікую» пенсіённую міласціну, існаваць на ўтрыманні сына, адпісала моцна скалечанай жыццём дачцэ-інваліду, якая тут жа, пры маці, і жыла з мужам-прымаком (праўда, параіўшыся са мной, Ермалаеўна мусіла перагледзець завяшчанне, перапісала дваццаць пяць адсоткаў маёмасці на сына, хаця б дзеля таго, каб нікому не прыйшло ў галаву пакрыўдзіць амаль што ўбогую дачку…) І ўсё ж сын Ермалаеўны, яшчэ не адораны спадчынай, якая яму толькі прыбаўляла клопату, па першай позве, дзе б ні быў, нёсся да мацеры з неабходнай дапамогай, кожны раз сустрэты відавочным халадком: «Сквапны!» — хацелася займець ад сына большай растраты.

Ніна Ермалаеўна не магла нацешыцца сваім удалым заможным жыццём — трыццаць гадоў як на пенсіі, а яе шафы і каморы яшчэ поўніліся стосамі пасцельнай бялізны, праштампаванай знакам ваеннай часці, дзе працавала кладаўшчыцай, скрынямі адубелага мыла, закамянелай соды, звяслямі паточаных моллю салдацкіх шалікаў.

Бедныя дзіцяткі, каму ў сцюжу зімовых дзён вайсковай службы выдалі зношаны, б/у шалік і не дадалі для змазкі ботаў такой неабходнай у мароз гуталіны, якой і зараз у праржавелых бляшаначках, праз трыццаць год, невядома навошта, некалькі драўляных скрынь нікчэмным друзам месцілася ў падполлі «багатага» дома.

У бессаромнай, амаральнай драпежнай дзяржаве, напэўна, нельга вінаваціць яе грамадзян за тое, што цягнулі дамоў усё дрэнна прыхаванае, але ЖАДАННЯ НЕ ЗДАВОЛЬВАЦЦА ЛЁСАМ ЗЛОДЗЕЯ, хаця б гэтага, мы не павінны страчваць, ЛЮДЗІ! Ці зразумеем мы калі, што ў выніку маем АД ЖЫЦЦЯ тое, што зарабілі. За ўвесь час патранажу хворай жанчыны, пры яе фенаменальнай, што, край, пярэчыць Паркінсону, камп'ютарнай памяці: трымала ў галаве ўсе тэлефонныя нумары сяброўак, суседак, радні і сямейных; дні іх нараджэння і святочна-памятных дат, я не здолела навучыць Ермалаеўну аднюткай малітве. Пад цыраткай жаўцелі лісточкі са

сшыткаў з акуратна выведзенымі яе вытанчана прыгожай рукой (адзінае, што не знячвечылі хваробы, — далікатнасць жаночай кісці шляхетнай пароды) старраннымі прапіснымі радочкамі каліграфічнага почырку: «Нет ничего более желанного, чем богатство, нет ничего приятнее достатка, нет вернее друга, чем деньги, нет ничего надёжнее золота». Мыючы штодзень падлогу ў яе каморачцы, я абавязкова атрымлівала па патыліцы ад самага «надзейнага сябра» маёй падапечнай — пад падушкай ляжаў невялічкі гаманец, у ім зберагаліся рэшткі колішняй прыгажосці Ермалаеўны — дваццаць сем зубных каронак з царскага чырвоннага золата, зараз іх змяніла ўстаўная сківіца, бо каронкі не засталося на што пачапіць, а «былая прыгажосць» раз-пораз бразгалася аб маю галаву перад тым, як рассыпацца па падлозе, я збірала залатыя шкарлупінкі ў скураны мяшэчак, каб, прысеўшы побач з Ермалаеўнай на ложак, у чарговы раз выслухаць гісторыю аб тым, якой прывабнай жанчынай у маладосці выглядала Ніна Ермалаеўна пры гэтых дарагіх залатых зубах.

Ні спадарыня Ханна, ні Хелен, ні, тым больш, шаноўны прафесар, якому выпала на долю адпакутаваць восем гадоў на жудасную хваробу: *Krebs* — завуць у Аўстрыі рак, не выказвалі асаблівай набожнасці, але яны ніколі б і не радаваліся долі жулля, злодзея, лізадубкі, прайдзісвета, хлуса, хабарніка, як даўно стала нормай сярод нас. Яны прывыклі жыць з павагай да сябе, без зайздрасці, бо кожны меў усё, што трэба, што пажадае, вякамі напрацаванае сваёй сям'ёй. Ад павагі да сябе прышчапляецца ў культуры народа павага да людзей.

За апошнія гады савецкай улады ў нашым народзе прывілося рабскае шанаванне тых, хто здолеў прымазацца да карыта і паглыбей зарыць у яго лыч. Тым найпаважней ставіліся да гэтага лыча іншыя, чым глыбей быў ён зарыты.

Аўстрыйцы працуюць, працуюць, працуюць, бо гэта — на сябе. Іх аберагаюць дзяржаўныя законы, пра іх клапоцяцца іх жа падаткі. Несправядліва зрабіць выснову, што там так усё добра, а ў нас дрэнна… Нас нельга параўноўваць — мы з розных паралельных светаў. Справа ў тым, што там — ЖЫЦЦЁ, а мы нават не ведаем, што гэта такое.

## Grüß Gott!

Углядаюся ў даўную кінастужку на маніторы камп'ютара: маленькі аўстрыйскі хлопчык з заможнай сям'і венскага банкіра коціць на лыжах па заснежаным склоне Альпійскіх гор. Які дзівосны Божы свет! Недзе ў гэты час у далёкай Беларусі ў беднай сялянскай сям'і падрастае дзяўчынка — дзікі ваўчок. А на карце лёсаў Богам ужо пастаўлена кропка, дзе праз паўвека гэтаму хлопчыку давядзецца паказаць той дзяўчынцы праз шчыліну прачыненых дзвярэй, што ў свеце ёсць ЖЫЦЦЁ…

## ЗМЕСТ



*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Андзілеўка** Людміла Фёдараўна

**ПАЛЯВАННЕ НА МУЗУ**

*Апавяданні*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Камп'ютарная вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 17.09.2015. Фармат 60х84 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 9,8. Ул.-выд. арк. 8,52.
Наклад 100 ас. Зак. 392.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.